# Полымя Рэволюцыі

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ



Орган
Праўлення Саюза
Совецкіх пісьменнікаў
БССР

*КНІГА АДЗІНАЦЦАТАЯ*

МЕНСК ЛІМ
ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
1 9 3 5

Якуб Колас

## ПЕСНЯ КАСТРЫЧНІКУ

Вялік разгон,
Шырок размах
Нястрымнай, гулкай хвалі.
Мы ў плынях дзён
Праводзім шлях
У сонечныя далі.
І што ні год
Гучней паток
Імкне пад сцяг чырвоны.
Смялее ўзлёт
Цвярдзее крок—
Ідуць, ідуць калоны.
Вядзе на бой
Іх наш стратэг
Маяк наш, слаўны Сталін.
Шуміць гразой
Ён наш разбег—
Імклівасць творчай хвалі.
Глядзім мы ў даль,
У шыр пуцін
Без страху, без трывогі:
Краіны—сталь,
Акорд машын,
То—песня перамогі.
А ўсцяж граніц
Стаіць скала
Байцоў Чырвонай раці.
Агні зарніц
І зрок арла—
Ахова нашай працы—
Прайшла яна
Праз громы, дым
І ворагаў скрышыла.
Вайне—вайна!
Жыві, наш Клім,
Наш маршал Варашылаў!
Вялік разгон,
Шырок размах
Імклівай творчай хвалі
У яснасць дзён
Пралажан шлях—
Вядзі-ж нас, мудры Сталін.

27.X 1935г.

Пятро Глебка

## УМОЎНЫ ЗНАК

Плывуць над палямі аблокі,
вялізныя,
як караблі...
Ёсць недзе за морам далёка
прасторы чужое зямлі.

Там ходзяць дарогамі людзі —
мае супараты й браты.
Напэўна,
няшчасная,
блудзіш
у гэтых натоўпах і ты.

Ад вечнага гора—
плечы
скаваў невядомы страх.
Не ведаю,
як пры сустрэчы
цябе і пазнаць,
сястра.

Не ведаю,
як твой голас
адрозніць ад крыкаў нямых:
усіх вас закатаваў голад
на волі і ў турмах глухіх.

Плывуць над палямі аблокі,
вялізныя,
як караблі...
Аднекуль з-за мора,
здалёку,
з прастораў чужое зямлі

ідзе і шуміць,
як вецер,
суровы й ласкавы адказ:
— Ты стрэнеш мяне увечар
пры цьмяным святле барыкад.

Між тысяч—
жывых і мёртвых—
пытаеш,
пазнаць мяне як?
Запомні-ж,
мой дружа,
цвёрда
наступны умоўны знак.

Калі перамогу зайграюць
шырокія маршы жыцця—
я першай стаяцьму ад краю,
высока ўзнімаючы сцяг.

Калі-ж не ўтрымаюць рукі
і вырве яго ў мяне смерць—
агнём на халодным бруку,
як сцяг,
будзе сэрца гарэць.

12/X—35 г.

Барыс Мікуліч

# ДРУЖБА

*Елене Маліноўскай*

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Стары Шанава памыліўся. Ён моўчкі пастаяў перад акном, нахмурыўшы сівыя бровы, павярнуўся да сына, нешта хацеў сказаць—мусіць, самае важнае, але толькі махнуў з дакорам рукой і вышаў з хаты. За загарадкай стаялі цяляты. Стары адсунуў жэрдку, ціха і працягла свіснуў, і цяляты, збіўшыся ў кучу, кінуліся да яго. Чырвоныя, рабыя, з белымі пысамі—яны лезлі да рук, як шчаняты. Стары свістаў на розныя лады і свіст яго быў зразумелы цялятам. Гэта была адмысловая мова.

Смуглявы Шэлія, сын Шанавы, застаўся ў хаце адзін. Ён сядзеў на лаве, перад сталом, на якім нечапанай стаяла вячэра: сыр, малако, зелёная цыбуля і прэсны хлеб. Шэлія адламаў кавалак сыру, але не еў яго, а так і трымаў у пальцах. Шэлія думаў.

Ён думаў пра тое, што сварка з бацькам была няўхільнай, што згоды цяпер не будзе сярод іх доўга, што ён усё адно нічога не страчвае: шлях бацькі вызначаны загадзя дзесяцігоддзямі, падобнымі адно на адно, як чырвоныя мінгрэльскія каровы, шлях маладога—незведаны. Што-ж чакае яго, калі астацца? Зіма—у мінгрэльскай балотнай нізіне, потым знаёмая з маленства дарога—у горы, на летні папас, і рэдкія вольныя гадзіны сярод аднагодкаў у сваім сяле. І ўсё. Замкнёнае, зачараванае кола. Шлях бацькі, дзеда, прадзеда. Ён стане багатым, кажа бацька.

Чалавек, у якога ён быў за пастуха, аднаго разу ўначы выехаў з свайго белага дома. Шматлікія яго пастухі кінулі жывёлу і пайшлі ў горы. Застаўся адзін толькі Шэлія. Гэткай была воля бацькі. Калі ты пастаўлены пільнаваць чужое дабро,—вучыў бацька,—пільнуй, пакуль не прыдзе гаспадар. Гаспадар заўсёды скажа дзякуй за добрую работу. Так сказаў стары Шанава.

Набліжалася лета. Зямля і паветра заіскрыліся светлякамі. У вільготным туманным паветры пачалі лётаць першыя камары. Кінутая пастухамі жывёла спалохана рыкала па лесе. Ніхто не прыходзіў па кароў, каб даўгой пугай пагнаць іх на летні папас, далей ад камароў, у горы. Трывожны рык стаяў у лесе колькі дзён узапар. Потым лес напоўніўся хрумстам і тупатам. Не знаходзячы ратунку ад хмары камароў, жывёла рынулася ў горы без пастухоў. Згаладалыя аўчаркі, пакінутыя людзьмі, працяжна вылі. Жывёла не слухалася іх. Паперадзе ішлі раз'ятраныя быкі. Пена камамі падала з роту. Шалёна блішчэлі бычыныя вочы. На рогі пачаплялася голле, лісце і кара. Услед за быкамі беглі чырвоныя каровы, абцяжараныя недоеным малаком. Зямля стагнала под поступам уцекачоў. Так цягнулася некалькі дзён.

— Толькі мы з табой, Шэлія, можам затрымаць кароў,—сказаў бацька.—Наша багацце бяжыць з рук само. У горах іх пераловяць і будзе позна.

Шэлія маўчаў. Бацька прасіў, пагражаў, заклінаў небам. Сын не кратаўся з месца. У сына быў большы клопат. Быкі захрасалі ў балотах, біліся з ваўкамі, люцелі ад плоймы камароў і мух, якія наступалі на іх з неадчэпнай зацятасцю. Бег жывёлы прыспешыўся. Яна дзічэла і была жахлівай у сваёй лютасці. Сабакі пакінулі яе. Згаладалыя, яны кідаліся на быкоў, але быкі бралі перамогу ў бойцы, і сабакі адсталі. У горы! Ішло гарачае лета. Чалавек ідзе ў горы. І жывёла ідзе ў горы.

— Так здаўна пяецца ў народнай песні.

Бацька свістаў у загарадцы. Цяляты лізалі яго рукі шурпатымі языкамі. За жэрдкамі бегалі аўчаркі і вылі ад рэўнасці: гаспадар павінен быў лашчыць іх. Яны гатовы былі пакусаць цялят.

Шэлія нарэшце ўзняўся з лавы. Ён усміхнуўся. Так усміхаюцца ўпэўненыя ў сабе. Упэўненасць была ў ім самім. Бацькі надзялілі яго ладнай постаццю, шырокімі плячыма, вузкімі бёдрамі, сухімі спрытнымі нагамі. Раз'ятранага быка ён браў рукамі за рогі і бык, матаючы галавой і б'ючы капытамі зямлю, не мог скрануцца з месца. Гэтым ён цешыў сваіх аднагодкаў.

Надыходзіў вечар. Першы святляк праляцеў за акном, мігаючы, як далёкая зорка. Бацька свістаў. Аўчаркі вылі ад рэўнасці. З лесу данасіліся першыя пярэклікі начных птахаў. Кажанова цень мільгнула па сцяне. Шэлія апрануў чорны даўгі палітон, падперазаўся шырозным шаўковым паясом і вышаў. Бацька пастараўся не заўважыць яго. Сын адвязаў ішака, паклаў на яго торбу і злёгку крануў яго кійком. Ішак лена крануўся з месца.

Змрок паглынуў самотнага падарожніка. Шлях падарожніка—у роднае сяло, у горы, у Верхнюю Мінгрэлію.

Бацька адагнаў цялят, утаропіў вочы ў дарогу і буйныя слёзы пакаціліся звілістымі сцежкамі па яго твары. Сабакі сціхлі. Яны глядзелі на гаспадара і павольна віхлялі махнатымі—у пырніку—хвастамі.

---

Каменная сцяна перад хатай была зроблена яшчэ прадзедамі: жымаласць сваім карэннем, дажджы вільгаццю, сонца гарачынёй, дзесяцігоддзі бяэлітаснасцю амаль зруйнавалі яе—калісці высокая, яна цяпер была на ўзроўні чалавечых грудзей.

Шэлія паклаў рукі на каменную сцяну і пачаў, узіраючыся ў цемру, чакаць. Вуліца была пустыннай, цішыня глухой. Ніхто не перашкаджаў яму стаяць так і чакаць. Неўзабаве дзверы хаты адчыніліся і па двары мятнулася чорная постаць. Яна была лёгкая. Яна амаль злівалася з цемрай.

— Нана!—паклікаў Шэлія і постаць падалася да яго.

— Шаліко, генацвале!—шаптала дзяўчына, абвіваючы хлапца рукамі.— Я чакала цябе аж два дні, ты забыўся на сваю дзяўчыну.

— Маці не пускала, слязьмі абліваласся, крыжам святой Ніны заклінала не пакідаць сяла. Не мог я прыйсці да цябе, мая чарнавокая. Выйдзі на вуліцу, апошняя ноч няхай будзе нашай.

Прытуліўшыся адзін да аднаго, яны пашлі за сяло. І раптам рассунулася заслона цемры, і тады яны ўбачылі, што ноч—цёмна-блакітная; тады яны ўчулі, што ноч напоўнена звонам, лёгкім стогнам і шэлестам дрэў. Ля падэшвы гары, пад велізарным раскідзістым дубам, сядзелі

яны, парушаючы цішыню словамі кахання і ласкі. Толькі-б яна магла затрымаць Шэлію ў родным сяле. Хіба з каханнем яе, чыстым, як горны ручай, як першая веснавая фіялка, маглі стаць побач і спрачацца з сілай яго бацькавы праклёны і слёзы маткі? Але яна не пярэчыла яго намерам, яна любіла яго з маленства, як слабая любіць моцнага. Што магла парадзіць дзяўчына хлапцу?—так думала юная Нана. Яна толькі ўздыхала, тулілася да яго і хавала свае слёзы.

Шэлія гаварыў. Ён гаварыў пра далёкі шлях, пра незнаёмых людзей, пра вялікія гарады—пра тое, што яму прыдзецца ўбачыць. Яна слухала і думала, што ніводная казка, чутая ёю ў маленстве, не можа паспрачацца па прыгожасці з апавяданнем Шэліі.

— І ты, Нана, прыедзеш да мяне, пакляніся. Цябе не пусціць стары, а ты зрабі, як падказвае сэрца. Табе знойдуць другога жаніха, а ты помні зарок. Помні, Нана, як ездзілі мы з табой па ваду, калі былі малымі. Помні, Нана, наш першы пацалунак і тую ноч, такую-ж блакітную, як сёняшняя. Помні, Нана, той сон, які бачыла ты напрадвесні летась. Мы стаялі з табой у царкве і нам спявалі мравалжаміе. Помні, Нана, гэты сон здзейсніцца.

Раніцай у хату старога Шанавы сабраліся суседзі-мужчыны, каб даць параду, жанчыны, каб паспачуваць старой і паплакаць разам з ёю. Але ў хаце не было самога гаспадара. У хаце была трывога.

— Не ідзі, сын, без благаслаўлення бацькі,—плакала маці, ломячы сухія маршчыністыя рукі.—Ты парушаеш звычаі бацькоў, пакідаючы хату так.

— Маці,—адказваў Шэлія.—Бацька сам парушае звычай, не адпускаючы па добрай волі мяне. Выходзіць не надта любіць стары свайго большага сына.

Вузкая сцежка вілася ў гарах, як лёс. Па гэтай сцежцы праводзілі Шэлію аднагодкі. Яны ішлі чарадой і спявалі. Песня была сумная. І адзін з таварышоў сказаў:

— Не плач, Шаліко, хіба могуць быць слёзы ў мінгрэльскага чкішы? Глянь, твая Нана вышла за сяло з закрытым тварам. Гэта адзнака: яна будзе сцерагчыся.

Аднагодкі адсталі на перавале. Яны зніклі за выступамі скал, але доўга яшчэ чулася над гарамі іх песня. Сумная і даўгая песня, як горная сцежка, як лёс.

Наўкола ўзнімаліся рудыя скалы, пакрытыя на вяршынах вечнымі снягамі. Удзень яны ззялі на сонцы, як дыяменты. Увечары яны ахутваліся густым туманам. Туман спаўзаў з іх, як пена. Здавалася чуваць, як шуміць яна.

Крыж, высечаны ў скале, адзначаў зніжэнне. Сцежка прывяла да вузкай камяністай дарогі. Снег ужо раставаў. Потым ён знік зусім і зазеляненіся лугі. Лугі былі пакрыты велізарнымі белымі кветкамі. Раптам рабілася нешта незвычайнае: кветкі рухаліся, паўзлі па адхонню скал. Гэта была баранта. Пустынная сцежка скончылася і камяністая дарога адразу-ж прывітала Шэлію сустрэчай. Па краю дарогі паўзла ўрэмі, яе цягнулі валы. Паганяты, закрыўшы вочы, спяваў. Ён так хораша спяваў, што Шэлія нават не спыніў яго, каб распытаць. Шэлія толькі стаў і прыслухаўся, аб чым спявае паганяты валоў.

Гэта было нараджэнне песні. Рыпелі велізарныя колы ўрэмі. Валы мерна цягнулі іх. Сабака, што сядзеў побач з гаспадаром, вываліў велізарны язык і, аддаляючыся, сачыў за Шэліяй. Наўкола ўрэмі цягнуліся

лугі, баранта, скалы, цясніны. Угары было сонца. Далёка ўнізе шумела горная рака. З гэтага і складалася песня:

Як хораша ідуць валы.
Як хораша ззяе сонца.
Як хораша стаіць гара.
Як хораша блішчыць снег.
Як хораша вхоўвае сон свайго
гаспадара сабака.

Нараджаючыся, гэтая песня знікала, памірала адразу-ж. Яе не трэба было запамінаць. Паганяты валоў аб гэтым не клапаціўся. Дарога была даўгой і невялікая бяда, калі словы паўтараліся ці на іх месца паяўляліся новыя. Песня была як навакольнае. Нязменнай была дарога, па якой каціліся колы ўрмі, і таму нязменнай была мелодыя песні. Цягучая гэта мелодыя, але цягавітая, як валы. Так на горных дарогах Сакартвело складаюцца песні, мудрыя і простыя песні.

Рэчка, што шумела недзе ўнізе, раптам узнікла побач, зрабілася шумлівым спадарожнікам Шэліі. Горы засталіся за ім, разам з песняй паганятага. Неўзабаве зніклі ўзгоркі, укрытыя дзікім вінаградам, і наўкола зазелянела даліна. Шырэйшай зрабілася дарога, шырэйшым зрабілася рэчышча. Дагледжаныя вінаграднікі, купаўе шыпшынніка, дубы і грабы, кукурузныя і пшанічныя палі,—усё гэта бачыў Шэлія ўпяршыню. Усё цешыла яго вока і прыкрасць, народжаная развітаннем з чорнавокай Нана, з бацькамі, з аднагодкамі, гэтая прыкрасць страціла спакваля пякучую вастрыню.

---

Усё вышай і вышай, да вечных снягоў, да голых скал, дзе рэдка ўбачыш арла, ідзе Ваенна-Грузінская дарога. Вострыя выступы скал, цясніны, мутныя вадапады, глыбокія праймы і стромкія кручы. Крыж, нібы скамянелы спадарожнік, што раскінуў на вечныя вякі рукі свае, нарэшце адзначыць найвышэйшы пункт крыжовага перавала. Адсюль дарога пачынае падаць уніз, як падае ў бязвыходным горы легендарная маці, страціўшая адзінаццаць сваіх сыноў. Кожны камень тоіць казку, кожны паварот—легенду, кожная скала апета песняй. Цяжка чалавечым нагам ступаць па гісторыі.

Цяжка чалавеку ісці гэткай-жа дарогай жыцця. Ногі баляць. Каменне жорсткае. Холад бязлітасны. Торба мулкая. Хутчэй-бы крыж, хутчэй-бы перавал! Нізка плывуць цяжкія, наканаваныя ліхалеццем, хмары. Густы туман спаўзае з гор, як пошасць. Хутчэй-бы перавал!

... Бацька прыходзіць з поля. Полем завецца маленькі кавалак урадлівай зямлі на спадзе гары. Бацька кладзе матыку каля парога і апускаецца побач. Ён цяжка дыхае, хударлявыя грудзі ўздымаюцца часта. На валасатым твары халодны пот. Хоць-бы дайсці да ложка! „Нана!"— кліча стары. Хрыплае рэха адказвае яму. Ён маўчыць, прыслухоўваючыся да ўласнага хрыпення. Хутчэй-бы перавал! Ён збірае ўсе свае сілы ў тугі камяк. Узнімаецца і, трымаючыся рукамі за сцяну, цягнецца ў хату. Ён нават запальвае газоўку, але ўправіць кнот у яго не хапае сілы. Газоўка чадзіць і рагаты агенчык кратаецца. Стары паўзе да ложка, кладзецца на яго і выцягвае рукі ўздоўж цела.

Леташняй вясной строма вады прынесла з гор вялікае дрэва. Маладое лісце было светла-зялёнае. Дрэва заваліла дарогу, зачапіўшыся махнатым карэннем за каменную сцяну. Прашлі дні, падсохла. Светла-зялёнае лісце пажоўкла, потым зрабілася сухім і напалову абсыпалася.

Парадзіўшыся, суседзі распілавалі дрэва. Толькі застаўся корч. Ён так і ляжаў пад каменнай сцяной, нібы касцяк дзівоснай істоты.

Газоўка чадзіць і рагаты агенчык кратаецца. Анямелая Нана стаіць перад ложкам. Ложак вялікі. Цела старога займае палову яго. Па ашчэраным твары паўзе цяжкая муха. Спакойна пасоўваецца яна, нібы гаспадар на сваім палетку. „Шаліко“!—крычыць Нана імя любімага хлапца. Імя бацькі—Ной.

---

Чалавек стаяў на камені. Камень ляжаў на беразе мора. Хвалі разбіваліся аб камень у пырскі. Заходзіла сонца. Пырскі вады былі крывавыя. Чалавек не кратаўся і ўспамінаў.

Пятнаццаць гадоў назад у такі-ж самы вечар ён стаяў на беразе. Гэта быў Каспій, цяпер—Чорнае. На беразе Каспія, каля Махач-Калы, ён думаў у той вечар аб будучым. Будучае залежала ад яго кішэні. Маладосць і пятнаццаць тысяч, нажытыя бацькам, надавалі яму ўпэўненасці. Куды-ж ішоў гэты палкаводзец без арміі пятнаццаць год назад? Ён ішоў у Грузію.

Некалькі гадоў работы і імя маладога армяніна зрабілася вядомым у Імерэціі. Ён скупліваў сялянскія вінаграднікі, ён будаваў падвалы. З Амерыкі былі выпісаны спецыялісты па барацьбе з філаксерай. Так арганізаваліся вінныя падвалы Ананяна.

Ён быў чалавекам тонкага розуму. Амерыканскія спецыялісты параілі пабудаваць даследчую станцыю. Ён пабудаваў белую камяніцу з светлымі пакоямі для лабараторый. Садоўнікі абсадзілі камяніцу магноліямі. Белыя буйныя магноліі, як чашы, узнімаліся ўгору. Станцыя зрабілася яго любімым месцам. Штогод, у жніўні, перад зборам вінаграда, ён прыязджаў сюды адпачываць. Адпачываў ён дзіўна. Праз цэлыя дні ішлі гутаркі з спецыялістамі. На ўсё жыццё запаміналася:

... калій і асабліва фосфар надаюць мяккасць віну, кальцый спрыяе тонкасці яго, жалеза і марганец робяць уплыў на афарбоўку і колер чырвоных він...

Параходы прыходзілі ў Батумскі порт, каб нагрузіцца нафтай бакінскай кампаніі, цытрусамі Аджарыстана, авечай воўнай Хеві, вінамі вінаграднікаў Ананяна. Персідскі і турэцкі пасланнікі прыязджалі ў госці як да свайго. Рускі імператар узнагародзіў істужкай. Потым зямля пахіснулася. Не дапамог і „народны ўрад“.

Чалавек пашавяліўся і адступіў крок назад: велізарная хваля налящела на камень і з шумам падалася назад. Ананян выцер твар. „Настрой рабочага класа большэвіцкі, нават меншавікі-рабочыя заражаны большэвізмам!“—звінеў у вушшу ўсхвалёваны голас Ноя Жорданія. Ананян выплюнуў з рота салёную марскую ваду.

Сонца зашло. Марская гладзь паблісквала цмяным срэбрам пены. На рэйдзе заззялі агні. Промень маяка бліснуў і знік. За спіной Ананяна прашоў таварны цягнік. Ананян павярнуўся.

З гораду ішоў чалавек у марской форме. Ананян захваляваўся, але стрымаў сябе: не памыліцца.

— Тры тысячы, кацо, на меншую суму ніхто не згаджаецца,—сказаў па-грузінску чалавек у форме нямецкага марскога афіцэра.

— Набаўляю пяцьсот,—сказаў суха Ананян,—прышліце за бочкамі.

Чалавек у марской форме ўзяў Ананяна пад локаць.

— Віно?

Ананян не адказаў.

Гэта было ўвосень 1920 года. Праз пяць месяцаў па слядах Ананяна беглі міністры „народнага ўрада“.

Белы дом, абсаджаны магноліямі, застаўся без гаспадароў. Наступнай вясной зноў цвілі магноліі, напаўняючы паветра мядовым водырам.

---

Можа ў той-жа самы час, надвячоркам, дзе-небудзь на чорнаморскім узбярэжжы стаяў самотны чалавек у пашарпаным шынялі салдата рускай арміі. Яму было гадоў трыццаць пяць. Сівізна злёгку кранула яго скроні і клін барады. Сумятня дзевятнаццатага года закінула гэтага чалавека на батумскае ўзбярэжжа. Радзіма-ж была далёка: Карс.

У чалавека з імём Нікалай Авраамідзі была прафесія: ён вырашыў, што віно робіцца не толькі на яго радзіме. Вырашыў і ўзрадваўся. Якніяк гэта адкрывала некаторую перспектыву.

Паліто было заменена пашарпаным шынялём па прапанове кантрабандыста, які даставіў Авраамідзі ў Батум. Хітры, з пысай нерпы, гэты кантрабандыст сказаў: „У такім паліто вас прымуць за шпіона. Самае лепшае—стары шынель салдата рускай арміі. Чаму грэк не можа быць салдатам рускага цара? Нічога падазронага“. Авраамідзі аддаў паліто і потым шкадаваў аб гэтым.

Чалавек, у якога была не вельмі хлебная прафесія і пашарпаны шынель, не чакаў нікога на беразе мора. Ён хацеў есці. Ён пашоў у апусцелы горад з моцнай упэўненасцю, што хлеб будзе. Не маючы грошай, каб трапіць на радзіму, ён спадзяваўся на свае рукі. Уласна кажучы, гэтыя рукі маглі грузіць вугаль, трымаць газеты, разбіваць матыкай зямлю, і ў лепшым выпадку—узрошчваць вінаградныя лозы. Абы быў хлеб.

Радзіма не вабіла. Там нічога не было. Бацька выехаў з роднага горада і лісты сына знікалі ў невядомасці адзін за адным. Абы быў хлеб. Чалавек мог знайсці сабе іншую радзіму.

Колькі гадоў хадзіў чалавек з месца на месца, робячы тое, што прыносіла яму хлеб. Нарэшце дарогі прывялі ў Імерэцію. Рымам для Авраамідзі быў белы дом даследчай станцыі, пабудаваны армянінам Ананянам. Адзін пакінуў яго, другі ўвайшоў. Што-ж змянілася?

---

Як чашы, узнімаюцца кветкі магнолій. Сонца на захадзе. Лёгкі вецер прыходзіць разам з змяркannем. Пахне свежым вінаградным лісцем. Лозы роўнымі радамі спускаюцца па адхонні ўзгоркаў. Вёска, што раскінулася на гары, амаль уся патанула ў цемры. Толькі старая царква бялее сярод цёмных абрысаў дрэў.

У гэткі час паважны вінароб Авраамідзі выходзіць пагутарыць са сваім прыяцелем. Гэта Шэлія. Яны садзяцца на лавачцы пад магноліямі.

— Калісці тут сядзеў Ананян, гаспадар усіх узгоркаў, вёскі і даследчай станцыі,—кажа павольна Авраамідзі.—Гэтую царкву ён пабудаваў на свае грошы. У царкве цяпер кааперацыя, а тут сядзім мы.

Шэлія маўчыць. Ён ведае, што Авраамідзі будзе гаварыць цэлы вечар, успамінаць сваё юнацтва і з кожнай прыгоды рабіць філасофскі вынік. Слухаць Авраамідзі цікава, і Шэлія ахвотна маўчыць. Але вінароб раптам кажа нешта зусім іншае:

— У цябе строгі бацька, Шэлія, але ты не бядуй. Табе трэба больш зарабляць, каб дапамагаць старым. Яны зменяць тады гнеў на міласць.

Шэлія непакоіцца:

— Для мяне добрае работы тут няма. Рабіць прыходзіцца абы якую, лёгкую.—І зусім нелагічна:—Я ліст атрымаў ад нявесты маёй. Хоча прыехаць. Да яе ўсё прыстаюць, каб замуж ішла. У яе памёр бацька, я толькі цяпер аб гэтым дазнаўся.

Ён гэта сказаў, каб пачуць параду. Авраамідзі павінен парадзіць. Авраамідзі адказвае не скора, ён узважвае словы парады.

— Колькі табе гадоў?—пытаецца ён, каб хоць што запытаць, бо даўно ведае, што Шэлію мінула дваццаць пяць.—Гады ў цябе зайздросныя. І сілы ў цябе багата!—Дзівіцца.

Шэлія чакае. Ён верыць грэку і загадзя ведае, што парада будзе не пустой. Ён глядзіць на Авраамідзі, як вучань на настаўніка. Старэйшы гэта адчувае і з гонарам кажа так:

— Ты, Шэлія, кінуў сваю гаспадарку, каб убачыць свет і зрабіцца іншым чалавекам, чым ты быў. Нічога не скажаш супроць гэтага. Калі я быў маладым—мне хацелася ўвесь свет убачыць. І я ўбачыў многае.— Тут грэк уздыхае і бярэцца рукой за падбародак, нібы забываецца, што бараду ён пагаліў.—Ты трапіў да нас. Цябе не цікавілі твае і чужыя каровы, цябе не цікавіць вінаград. Але тваю нявесту вінаград можа цікавіць. Забяры яе сюды, Шэлія.—Ён сумна ўздыхае зноў.—І ў мяне была калісці нявеста. Там!—Ён махае рукой у той бок, дзе павінен быў быць найлепшы ў свеце горад Карс.—А ты, Шаліко, ідзі на прадпрыемствы. У цябе дужыя рукі і светлая галава. Можа і інжынерам станеш.

І Авраамідзі сціхае. І яны слухаюць, як ціха шчабечуць птушкі ў гнёздах, як гудзе велізарны чорны жук над іх галовамі, як спяваюць недзе далёка жанчыны. Так яны слухаюць вячэрнюю зямлю і думаюць кожны пра сваё. Авраамідзі ўспамінае мінулае. Потым думка пераходзіць на вінаград. Вінаград наліваецца, спее. Будзе багаты ўраджай. У грэка работа ёсць і сумныя думкі аб мінулым знікаюць.

Шэлія думае аб парадах Авраамідзі. Вочы Шэліі пад нахмуранымі брывамі ўтароплены ў адзін пункт. Гэты пункт—ледзь прыкметныя абрысы сельскай царквы на гары.

— Пайду на шахты,—кажа нарэшце малады.—Нана будзе працаваць покуль тут, а потым, як зараблю больш, ажэнімся.

Робіцца зусім цёмна. Толькі бліскаюць светлякі і зоры. У прыцішаны шчэбет птушак раптам ўрываецца голас салаўя. Любоўны спеў яго запаўняе зямлю. Сціхла песня жанчын, сціх чорны жук. Шырыцца салаўіная песня. Сэрца ў Шэліі б'ецца мацней. Горы, узгоркі, вінаграднікі, палі, рэчка заслухаліся песняй. Яна ўжо грыміць. Яна дужэе. Яна так напаўняе прасторы сабой, што яе напэўна чуе і Нана ў далёкай вёсцы Верхняй Мінгрэліі. Вецер робіцца бясшумным. Здаецца, спыняюцца празрыстыя воблакі. Ціха падае зорка, так ціха, нібы баіцца парушыць гармонію надыходзячай ночы. Уся зямля заслухалася салаўём. Так сярод узгоркаў Імерэціі спяваюць салаўі свае любоўныя песні.

---

Наверсе зеляянеюць дрэвы, квітнеюць лугі, зззяе сонца, плывуць празрыстыя воблакі, у рэчцы ляжаць валы, паклаўшы на ваду свае мускулістыя морды. Крычыць ішак. Праходзяць гружаныя рудой электрычныя паязды. Электравозы сігналяць сваёй сірэнай. Яны—як жывыя істоты. Плаўна соўваюцца на ўзнятых высока тросах ваганеткі. Хлопчыкі з вялікімі збанамі снуюць паміж людзьмі і крычаць:—Цхалі! Цхалі!—яны прадаюць сцюдзёную—мусіць з горнай крыніцы—ваду. На

рынку гандлююць зелянінай, сырам, хлебам і віном. Жанчыны ў чорных нацыянальных вопратках, мужчыны ў чэркесках лёгка ходзяць каля арб. Тлумнае стракатае ідзе жыццё на гарачай зямлі.

Шэлія ідзе ў шахту. Спачатку ісці добра і вольна. Але спакваля тунэль звужаецца, паветра робіцца вільготным і халодным. З гары падаюць кроплі, пад нагамі хлюпаюць лужыны. У поле ліхтарыка трапляюць ваганеткі, на перакрыжаваннях раздаюцца раз-по-раз свісткі. Электрычнае святло цмянае, грунт слізкі, скляпенне нізкае. Вільготная ноч пануе наўкола Шэліі.

Нарэшце забой. Гудзе, як велізарны жук, врубавая машына. Нагружаныя ваганеткі знікаюць у даўгім калідоры. Велізарная электрычная лямпа кідае наўкола сябе іскрыстае святло. Людзі з рыдлёўкамі і кіркамі працуюць метадычна і спакойна. Яны як-бы зрасліся з шахтай, з тунэлем, з ваганеткамі, з кіркай. Заспакоенасць прыходзіць да Шэліі. „Я мацнейшы за многіх тут“,—робіць ён вывад, прасачыўшы работу шахцёра.

Потым ён спыняецца ў невялікай нішы каля сігнальшчыка. Яны закурваюць і сігнальшчык пытаецца па-мінгрэльску:

— Адкуль, кацо?

Гэтае запытанне на роднай мове канчаткова прыводзіць Шэлію ў роўнавагу. Завязваецца гутарка. У ёй Шэлія высвятляе ўсё, што яго цікавіць: сталоўка, заробак, кватэра. Сігнальшчык падрабязна расказвае аб жыцці шахцёраў, дае парады. З гэтымі парадамі і пакідае Шэлія першы раз шахту, каб заўтра вярнуцца ў яе рабочым.

Ён заходзіць у барак, каб знайсці сваё месца. У яго руках—паперка з кіраўніцтва руднікамі. Гэтую паперку бярэ з яго рук маўклівы „старажыл“. У „старажыла“—рудыя валасы, рудыя вусы і стракатая—у рабацінні—скура. Ён пазяхае, скрабе правай нагой левую вышэй калена. Ногі закарэлі ад бруду.

— Паглядзім,—індыферэнтна кажа руды і з выразна падкрэсленай нудой чытае запіску:—Вам кватэрку з трох ці з пяці пакояў?

І толькі цяпер Шэлія заўважае, што да іх размовы прыслухоўваюцца ўсе насельнікі барака. Іх шмат. Адны ляжаць на ложках, другія сядзяць на табурэтках, заняўшыся справамі. У бараку не падмецена, выбітая шыба застаўлена фанеркай. „Ці сюды я трапіў?“—думае Шэлія, але запытацца ў яго не хапае смеласці. Ён дрэнна разумее па-руску, але тое, што руды кпіць з яго, ён разумее добра.

— Вам з душам ці з ваннай?—даўжыць руды свае апытанне і ў бараку ўзнікаюць першыя смяшынкі.—Што-ж вы маўчыце, пане?

Шэлія густа чырванее. Ён зноў спрабуе пытаецца па-мінгрэльску, ці ў гэты барак ён трапіў і чаму з яго кпяць.

— Што ён пытаецца?—звяртаецца руды да барака.—Вы пытаецеся, ці ёсць у нас цёплы ватэр-клазет? Бязумоўна, бязумоўна, пане—і руды камічна кланяецца Шэлію, віхляючы задам.

Рогат стаіць у бараку. Пазетра калыша плойму цыгаркавага дыму. Шэлія пацее ад натугі. Ён вырывае паперку з рук рудага і, усхваляваны, выбягае з барака. Па дарозе ідуць людзі. Адны спяшаюцца і не звяртаюць на Шэлію ўвагі. Другія ідуць павольна—кураць альбо чытаюць газету. Хлопчыкі з крыкам—Цхалі!—цягнуць свае велізарныя жоўтыя і чырвоныя збаны. Яны і чысцільшчыкі ботаў налятаюць на праходжых, як саранча. У маленькім скверчыку б'е фантан. Наўкола яго гуляюць дзеці. Іх смех звініць няспынна.

Шэлія не ведае, у каго распытаць, пра што напісана ў запісцы. Ён

колькі разоў наважваецца падыйсці да праходжых, але яму ўсё здаецца, што яны падобны да рудага. І адпо гэта наганяе чырвань на твар. Але раптам ён бачыць хлапца і прыязнь цепліцца ў сэрцы Шэліі.

Хлапец ідзе павольна і па ўсім відаць, што ён не заняты справай. Ён проста гуляе і паглядае наўкола. Ён стройны, загарэлы, у яго залацістыя валасы ў буйных кольцах. На хлапцу—белыя штаны, сіняя майка, рукавы якой закасаны вышэй локцяў. Рукі загарэлыя і мускулістыя. На правай—татуіроўка: нейкія літары. Русявы ідзе нядбайным крокам і ўсміхаецца. Ён усміхаецца дзецям на скверыку, прадаўцу мацоні, які падганяе ішака даўгім кійком, хлапчукам з велізарнымі збанамі, сустрэчным дзяўчатам. На грудзях хлапца, на сіняй майцы, злёгку кратаецца значок „Гатоў да працы і абароны“.

Шэлія робіць крок да русявага і спыняецца. Але той ужо заўважыў паперку ў руках Шэліі і ўзяў яе.

— Да нас на работу?—пытаецца ён па-руску.—Ніколі не працаваў у шахтах?

Шэлія чамусці смяецца і кажа:

— Нее, я з Мінгрэліі, пастух...

— З Мінгрэліі?—і русявы пачынае гаварыць па-грузінску:—Ты заходзіў у барак? Кпяць? Ааа! Ты, мусіць, быў вось у тым. Там былыя соцврэды жывуць, яны добра працуюць, але пажартаваць праз меру яны любяць. Ты не звяртай на гэта ўвагі. Давай пойдзем, памесцішся ў нашым інтэрнаце.

Напоўнены ўдзячнасцю, Шэлія пашоў за хлапцом у сіняй майцы. Цяпер ён таксама ўсміхаўся навакольнаму.

Інтэрнат змяшчаецца ў белай трохпавярховай камяніцы. Другі і трэці паверхі займаюцца кватэрамі сямейных, на першым—узорны маладзёжны інтэрнат. Шум крокаў тоне ў мяккіх дыванах, люстры ўздоўж калідора пільнуюць чалавечыя постаці. Дзверы ў калідор адчыняюцца і прасторны пакой увесь блішчыць паліраванымі рэчамі, нікелем ложкаў, сонцам вялікіх вакон. Перад кожным ложкам—столік, засланы сурвэткай, на століку матавыя гладышы з вадой і шклянкі, на некаторых—кніжкі. Велізарны гадзіннік мерна адлічвае хвіліны. Прастор, чыстата і ўтульнасць уражаюць Шэлію.

Яму раптам робіцца няёмка, гэтак-жа, як у шахце. Русявы спадарожнік яго некуды знік і Шэлія ўзіраецца ў лакіраваную паверхню шафы і бачыць сябе. Ен нібы гаворыць з сваім уласным адлюстроўкам:

— У хлапца таксама рудыя валасы, як у таго соцврэда. Што такое соцврэд? Трэба спытацца. І чаму яны кпілі? Сярод рускіх—розныя людзі, як і сярод мінгрэлаў. Каб хаця не выгналі з гэтай чыстай хаты, у мяне запыленая вопратка, чорны куфэрчык і яго неяк няёмка ставіць на такую бліскучую падлогу.

Ён старанна аглядае пакой. Пад адным ложкам стаяць боты, як салдаты на варце. Від ботаў крыху заспакойвае Шэлію. У матавай попельніцы ён заўважае акурак. На ложку каля дзвярэй ляжыць раскрытая кніга. Гэта ўсё сляды насельнікаў.

Хлапец у сіняй майцы ўсміхаецца ў канцы калідора. Ён ідзе побач з старой жанчынай у шэрым халаце. Хлапец нясе махнаты ручнік, старая жанчына—белую падушку. Вось яны ўваходзяць у пакой і русявы кажа:

— Сцяпанаўна, мы перш за ўсё памыцца хочам.—І потым кідае Шэліі ручнік.—Трымай. Памыцца з дарогі не шкодзіць. Вось тут сплю я, а побач памесцяць цябе, не пасварымся. Тваё імя я прачытаў у ад-

носіне кіраўніцтва, мяне-ж завуць—Жоржык. Прозвішча ёсць таксама—калі запомніш яго: Белы. Чысценькае такое прозвішча, ёсць у нас мора Белае, прыкладам. Рэчы з сундучка пакладзі вось у гэтую шафу, ключ насі пры сабе, а сундучок аддасі Сцяпанаўне. Пойдзем мыцца.

Распранутыя яны стаяць пад пякучымі струменямі вады. Жоржык мыецца за кампанію халоднай вадой. Шэлія пытаецца ці не займае ён яго час, але Жоржык запэўняе, што работы ў яго ніякай няма і яму прыемна ўвесці новага таварыша ў парадкі інтэрната. Ледзь кранутае сонцам, залацістае цела Жоржыка блішчыць ад вады. Шэлію ён прымушае намыльвацца некалькі разоў. Шэлія слухаецца і густая мыльная пена сцякае наўкола яго на кафляную падлогу. Знікае ніякаватасць, яму робіцца лёгка і хораша. Шэлія асмялеў і нават пачаў жартаваць. Яны фыркаюць, смяюцца, шумна б'юць сябе далонямі па грудзях. Целы чырванеюць ад вады і здароўя. Кроплі ляцяць ад іх і раптам у акно ўрываецца сонечны прамень і ў кроплях запальваюцца вясёлкі.

Пасля душа Шэлія ўваходзіць у інтэрнацкі пакой, як старажыл. Па-сутнасці, нічога не змянілася, але ён адчувае, што ён тут не будзе лішнім. Жоржык згартае коўдру і кладзецца на ложак. Шэлія робіць тое-ж самае. З гучнагаварыцеля прыцішана льецца лёгкая музыка. Яна напаўняе пакой адчуваннем спакою. Шэлія ўспамінае імерэцінскага салаўя і філасофа-грэка. Што робіць цяпер Авраамідзі? Ён, напэўна, адпачывае пад магноліямі і думае пра тое, які плённы ўраджай дадуць вінаграднікі.

— Лішнія тры тоны руды, Жоржык,—кажа да Белага прышоўшы з работы хлапец.—Ніводная брыгада не дала столькі, у наш забой прыцягнулі сцяг.—І чумазы ідзе з махнатым рушніком пад душ.

Лёгкая музыка напаўняе пакой. На ўсе лады свішча, звініць, грыміць імерэцінскі салавей. Густа пахнуць магноліі. Стройная Нана прыбліжаецца да Шэліі і абвівае яго шыю белымі рукамі. Яе чорныя вочы глядзяць на Шэлію і ў іх ён бачыць свой адлюстровак. Ля падэшвы гары, пад велізарным раскідзістым дубам, сядзяць Нана і Шэлія. Яна кажа: „Шаліко, бацька памёр даўно, я не хацела трывожыць цябе. Але цяпер ты гэта ведаеш.“ Шэлія ўздыхае.

— Здарожыўся хлапец,—кажа чорнамазаму Жоржык, прыслухоўваючыся, як цяжка дыхае ў сне Шэлія.

---

Мінгрэл пасябраваў з рускім. І як другу—Жоржык расказваў Шэліі пра сваё жыццё.

Тры пакаленні Белых працавалі на шахтах. Дзеда Жоржык не помніць. Сутулая цень яго стаяла над дзяцінствам Жоржыка, як скрыжалі. Бацька заўсёды казаў сыну: „Калі ты будзеш такім, як мой бацька, мне нічога больш не патрэбна“. Успамін аб дзеду быў сямейнай мараллю: працавітасць, чэснасць, сіла і сумленне—вось сума якасцей дзеда. Бацька не радзіў браць сыну прыклад з яго. У яго была цяжкая хвароба, якая зацямніла ў ім усе дадатныя якасці: бацька піў. Жоржык не любіў яго, баяўся вечна чорных рук, твару і вопраткі бацькі. Шабашы перад нядзеляй былі цяжкімі іспытамі для дзіцяці.

Шумна расчыняліся дзверы і хісткі цень ад бацькавай постаці клаўся на падлогу, на сцены, на столь. Вялікі—ён займаў усю хату, ціснуў сваёй велічынёй усё чыста. Буянства пачыналася моўчкі. Бутэлька, гладыш, або талерка падалі на падлогу. Звон чарапкоў заахвоч-

ваў. Жоржык баяўся трапіць на бацькавы вочы і залазіў пад ложак. Адтуль ён сачыў за пагромам і сэрца яго сціскалася.

І тут ва ўспамінах паяўляецца маці.

Маленькая, чысценькая, з гладка прычасанымі белымі валасамі, яна моўчкі прыбірала з-пад бацькавых рук рэчы, якія не зрабіліся яшчэ ахвярай п'янага. Гэта канчаткова злавала бацьку і ён пачынаў лаяцца. Высвятлялася, што прычынай яго хваробы з'яўляецца яна, шлюб іх быў самай страшнай памылкай яго жыцця і што гэта бадай адзін промах мудрага дзеда: ён прымусіў Жоржыкавага бацьку ажаніцца.

Маці маўчала і строгі твар яе не выяўляў нецярплівасці, абразы альбо абурэння. І калі бацька засыпаў за сталом, сярод разбітай пасуды і паламаных рэчаў,—маленькая жанчына цягнула велізарнага п'янага мужыка на ложак, распранала яго, сцягвала боты. Прыбраўшы ў хаце, яна садзілася на лаве і ўтаропліваła вочы ў прастору. Жоржык вылазіў з засады і бег да яе, клаў галаву на калені. Маці механічна гладзіла яго русую галоўку рукой і слёзы каціліся па сухенькім яе твары.

У восем гадоў хлапчука адвялі ў школу. Ён быў ціхі і яго крыўдзілі школьныя галаварэзы. І тады ў ім узнікла крыўда. Крыўда прымусіла яго зрабіцца найбольшым галаварэзам. Ён захацеў стаць самым адважным сярод аднагодкаў і стаў такім. У дванаццаць гадоў у яго абудзілася сіла і на ўскраіне шахцёрскага гарадка ён набыў славу забіякі, зброднікa і завадатара. У чатырнаццаць ён кінуў школу і ўпяршыню спусціўся ў шахту.

Спека сушыць вазёры і рэкі. Мароз агаляе дрэвы. Лясны пажар гоніць звярыну. Пакідаючы лагавішчы, аблізваючы абгарэлыя бакі, звярына бяжыць ад пажару, без дарогі, без кірунку, без памяці. І вось у разорах мядзведзіца ўспамінае пра сваіх медзвяжат, што засталіся ў бярлозе. Агонь падпоўз па траве і голлю да бярлогі і медзвяжаты загінулі. Мядзведзіца ўзнімае морду ўгару, драпае лапай зямлю і вые. Стогн звярыны не змаўкае. Медзведзі, ваўкі, барсы, лісіцы лемантуюць аб страчаным. І потым яны бягуць зноў далей ад пажарышча, на новыя месцы.

Спека сушыць вазёры і рэкі. Мароз агаляе дрэвы. Лясны пажар гоніць звярыну. Голад і пошасці гоняць людзей. Гэта—як на бойцы. Адступаючыя страчваюць таварышоў. Уцекачы страчваюць сваякоў. Недзе ў стэпу, пад Мінеральнымі Водамі, Жоржык страціў бацькоў. Бацька напіўся спірту, заснуў і болей не прачынаўся. Маленькая маці распухла ад голаду—таўстая, яна не магла скрануцца з месца. Але ў яе хапіла сіл благаславіць сына. „Я тут памру, сынок, а ты ідзі шукай шчасця. Мяне не адратуеш, не трымаю. Ты-ж не маленькі..." Жоржыку ішоў пятнаццаты год.

Буфер зрабіўся найлепшым сродкам падарожжа, сонца і вецер—альбо таварышом альбо ворагам, зорнае неба—найпрыгажэйшым дахам. У тыя гады ён вызнаў смак хлеба, скрадзенага ў гандляркі, сілу рукі паязной брыгады, вернасць таварышавання з выкінутымі за борт грамадства.

Яшчэ ў Тыфлісе ён стаяў на ганку Оперы з працягнутай рукой, сланяўся па крывых завулках армянскага рынка, Нахалаўкі і Авлабара, зайздросціў жабраку-музыканту каля Сіонскага сабора: як-ніяк, а жабраку кідалі медзякі ў шапку на каменным тратуары.

Гадзінамі ён прастойваў на панелі праспекта Руставелі, сочачы за шпаркім бегам аўто, трамваяў і фаэтонаў. Шумны натоўп заліваў вечарамі шырокія тратуары праспекта, і кожны з праходжых з небяспекай

пазіраў на здаровага падлетка з брудным тварам, у рыззі, з злодзейскім бляскам вачэй. Прычынай бляску быў голад. Жанчыны шарахаліся ад яго, міліцыянеры свісталі, мужчыны адварочваліся, а калі ён прасіў— дакаралі яго маладосцю і дужасцю. І ён зайздросціў малому калеку: калека ляжаў на жываце, падабраўшы пад сябе ногі, паклаўшы чорную галоўку на асфальт. Перад ім стаяла бляшанка і манеты падалі ў яе з глухім стукам. У Жоржыка нават з'явілася думка ўкрасці ў калекі яго заробак і гэтая думка была ганебнай. Галодны, злы і разгублены ён пакідаў праспект і праз Эрыванскі пляц валок свае стомленыя ногі да лазні Арбеліяні, каб знайсці начлег.

І надоўга ў памяці застануцца: маўрытанская лепка оперы, строгая каланада тэатра Руставелі, сляпы музыкант ля Сіонскага сабора, смурод серы ў раёне лазні, танны бляск купала мечэці Шах Абаса, недасяжная асалода пад'ёму на фанікулёры, пыльныя пальмы на белым вакзале, змрочная вежа Метэхі і хвалі бруднай Куры, якія зычаць заспакаенне.

Аднак былі людзі, што клапаціліся аб бяздомным юнаку, але ён дазнаўся пра гэта пазней. Цяжкі сон на беразе Куры быў спынены настойлівым штурханнем у плячо. Ён прачнуўся і ўбачыў над сабою твар жанчыны. Сон пераходзіў у казку, але казка была ўжо рэчаіснасцю: жанчына ў белым усміхалася юнаку. „Добрае раніцы“,—сказала яна, і ён заўважыў на белай вопратцы маленькі эмалевы кружочак: на значку быў сілуэт з вострай барадой і польскім профілем. Пазней Жоржык дазнаўся: на значку профіль Дзяржынскага.

У адборачнай камісіі ў яго спыталіся:

— Што-ж рабіў твой бацька?—І калі Жоржык расказаў пра сваіх бацькоў, чалавек з шырокім адкрытым тварам сказаў:—Ну, калі твой дзед і твой бацька былі шахцёрамі, ці не зрабіцца шахцёрам табе? Мы адвязем цябе на марганцавыя шахты, там куды лепш працаваць чым у вугальных.

З той жа жанчынай у беласнежнай вопратцы паехаў Жоржык на чыатурскія марганцавыя распрацоўкі і тут скончылася бяздомнае жыццё яго, скончылася назаўсёды.

Калі душ асвяжае цела пасля работы, Жоржык надзяе белыя штаны і сінюю майку і адчувае сябе шчаслівым: брыгада працавала на славу, адпачынак прыходзіць, як узнагарода.

У юнаку раскрываюцца інтэлектуальныя крыніцы яго істоты: прачытанае ў „Комсамолцы“ аб вобразе маладога чалавека эпохі родзіць у ім жаданне стаць гэткім. І вось у яго жыццё ўваходзяць і робяцца часцінай яго існавання праблемы мастацтва, тэхнікі, этыкі, і сокі эпохі праходзяць праз яго, як электрычны ток праз правады, запальваючы зыркім святлом шматлікія лямпачкі.

Ён смяецца ад апавяданняў Зошчанкі, поўным голасам крычыць песні ў кампаніі аднагодкаў, змагаецца ў шахматы, выбівае кіркай славу сваёй брыгадзе, лётае з футбольным мячом, чытае Фрэйда і Дэкарта, гаворыць задушэўныя словы дзяўчатам і ўсміхаецца, як алімпіец. Мозг працуе—дапытлівы і ненатольны. Шофер расказвае яму пра вялікага Шота. Шофер чытае на-памяць строфы. Чужы геній будзіць у ім адчуванне манументальнага характва. І комсамолец Белы бярэ фаліант Руставелі. Неўзабаве ён перасыпае сваю гаворку крылатымі цытатамі з Шота, а Вертэр, Мітрафанушка, Хлестакоў робяцца для яго зброяй пазнання.





У Жоржыка—чысты лоб з маленькімі бугаркамі, ясныя шэрыя вочы з смяшынкамі, залацістыя валасы і запас жартаў, песень, забаў і весялосці Цытаты з вялікіх адчуваюць сябе ў яго мазгу не вельмі спакойна.

---

Праходзяць месяцы. Навокал даследчай станцыі паспеў вінаград. Цяжкія ягады звісаюць да зямлі. Нагружаныя вінаградам арбы цягнуцца да давільні. З-пад камення давільняў цячэ густы салодкі сок. Усё прасякнута густым вінным пахам. Людзям радасна спажываць плён тлустай багатай зямлі.

Грэк Авраамідзі ў гэткія дні падобен да заклапочанага патрыярха вялікай сям'і. Толькі позна ўвечары ён выходзіць пасядзець на лавачцы пад магноліямі. Магноліі цвітуць сёлета круглы год. На купаўі барбарыса ружавеюць ягады. Яны—як кроплі крыві. Грэк садзіцца і выцягвае ногі. Ён уздыхае. Мускулы цела паслаблены і грэк адчувае, як яны набіраюць дужасці. Велічная цішыня наўкола. Сузор'і рассыпаліся па небе, як залацісты вінаград. Сілуэты чынар ля вясковай царквы ўзіраюцца ў неба, зачараваныя густой сінявой яго. Цвірчаць у траве цыкады. Ноч напоўнена спакоем і плённасцю.

Да Авраамідзі падсаджваюцца рабочыя. І Авраамідзі расказвае:

— Мая радзіма далёка. Ці жыве мой бацька—я не ведаю. Я пісаў туды, але лісты гінулі, як з рук чырвонцы. І вось я—стары чалавек... У мяне была нявеста, нераўня вашым жанчынам. Хіба толькі чэчэнкі паспрачаюцца з ёю па стройнасці і дасціпнасці. Вочы—як зоры, валасы—як цені чынар. У бацькі была нейкая камерцыя ў Расіі і ён паслаў мяне па справах. Але справы лопнулі і я сеў на мель. Потым было ўсяго, лепш не ўспамінаць. Дык хіба я шкадую, што я з вамі?

Так канчае запытаннем сваё слова вінароб Авраамідзі і ціха заводзіць незнаёмую песню. Ціхая, як несмелы стук у дзверы, песня пранікае ў сэрцы. У часе яе падыходзіць дырэктар станцыі. Ён курыць трубку і сплёўвае. Дырэктар кажа да Авраамідзі:

— Сумуеце, Нікалай Ільіч?

— Аб чым мне сумаваць, Сімон Пічыевіч!—адказвае з лёгкай журбой у голасе грэк.—Я вельмі вам дзякую за добрае слова. Што трэба мне? Сацыві смачнае, шклянка віна ёсць. Вы можа ўзрадуеце мяне, Сімон Пічыевіч, новым падвалам? Я вам зраблю тады такое віно, што слава станцыі яшчэ пашырыцца.

Дырэктар зноў набівае трубку. Адзін з рабочых бярэ ў яго тытун. Цыгарка ўспыхвае, як святляк.

— Падвал будзем пашыраць, трэст адпусціў грошы. Яшчэ адзін гатунак віна для імерэцінскага вінаробства—гэта ваш доўг, Нікалай Ільіч. І яшчэ адно. Узялі-б вы сабе вучня, прывучылі да свайго мастацтва.

— Э, што вы, мастацтва!—скромнічае стары вінароб.—Вось калі ахвота ёсць, скажам, у маладога чалавека,—ён хлопае суседа па плячы,—няхай папрацуе са мной.—Словы стасуюцца да маладога рабочага, Міцькі Савіна, кубанца.—Ён у мяне самы старанны слухач, а я, стары грэшнік, люблю пагутарыць.

І потым яны маўчаць. У адным з вакон запальваецца святло. Міцька Савін узнімаецца з месца, непрыкметна падыходзіць да акна. І нямее: у акне ён бачыць чорнавокую стройную грузінку. Яна схіляецца над іголкай і на твары кратаюцца цені ад даўгіх расніц. „Якая!"—і думка знікае. Міцька Савін стаіць, як перад карцінай. І павольна ўзнікае ў мазгу: „Якая к чорту Кубань! Ты абалдзеў, Міцяй!"

— Савін!—кліча грэк.—Дык Сімон Пічыевіч цябе маім вучнем зрабіць хоча. А ці не думаеш ты на Кубаць ехаць?

— Якая к чорту Кубань!—вылліваецца думка ў словы.—Ты абалдзеў, Нікалай Ільіч!..—і ён адчувае, як буйны пот выступіў на твары.

Ідучы спаць, Авраамідзі кажа Савіну:

— І будзеш ты, кубанец, на славу Імерэціі віно рабіць... У новым падвале. З заўтрашняга дня прыходзь на работу да мяне. Я прыглядаўся, ты хлопец з галавой.

І потым:

— Дзяўчына? Мінгрэлка яна, у яе жаніх на шахтах, перад табой тут працаваў. Дужы хлапец, дасціпны. Кладзіся спаць, позна.

Міцька Савін выходзіць. Позна! А спаць не хочацца. Ён ідзе ў парк, расцілае піджак пад дрэва і кладзецца на спіну. Расшытае зоркамі неба набліжаецца да твару хлапца. Цёплы вецер абвявае яго. Начны матыль праплывае перад вачыма. Ціха шуршыць трава. „Заела, дурань...“ Ён смяецца. Не зоры глядзяць у яго твар, а вочы грузінкі. Яна нахіляецца над ім. Шчаку кранаюць губы. Шчасцем напаўняецца цела. Кубанец спіць і ўсміхаецца ўявам.

---

Праходзяць месяцы. Шэлія сядзіць за кнігай. Вечар. У расчыненыя вокны залётаюць шэрыя матылі, кружацца каля лямпы, садзяцца на стол, заміраюць, каб умомант сарвацца зноў. Шэлія адрывае вочы ад кнігі. На некалькіх ложках ужо спяць таварышы. Вось ля самых дзвярэй спіць татарын Файзула. У яго даўгія расніцы, трохі прыўзняты нос, з вялікімі ноздрамі, глянцавітыя скулы. Ён спіць на спіне. Сон у яго спакойны. Праз ложак—Панас Панчэнка, з Адэсчыны. Наіўны пухлы рот прачынены. Такі рот бывае ў капрысных дзяцей. Панаса шчодра апаліла сонца. Твар у яго карычнева-чырвоны, а каля валасоў—скура белая: ён толькі сёння зрабіў прычоску „бокс“. Хлапцу горача пад прасцынёй і ў сне ён скінуў яе. Побач з ім спіць яго найбліжэйшы друг, маленькі каржакаваты Пінька, яўрэй з Кіеўшчыны. Ён усё нешта гаворыць у сне, незразумелае для Шэліі, мусіць—на сваёй мове. Але адно слова ён паўтарае часта і яго Шэлія разумее, гэтае слова—„кацо“. Побач з ложкам Жоржыка спіць арловец, Ваня Яншын. Яго клічуць „чумазым“. У яго чорныя густыя валасы, як у Шэліі, шырокі нос, высокі лоб і вялікі рот дабрадушнага чалавека. Чумазы спіць, падабраўшы пад сябе ногі. Галава спаўзла з падушкі. Прымятую падушку можна прыняць за жывую істоту.

Шэлія падыходзіць да чумазага, бярэ яго за плечы і кладзе на падушку. Чумазы адкрывае вочы, хвіліну глядзіць тупаватым позіркам на мінгрэла, потым вяла ўсміхаецца і засынае зноў. Шэлія сцеліць ложак і пачынае разувацца. Але знаходзіць сабе яшчэ адзін клопат: сцеліць ложак і Жоржыкаў. Друг загуляўся недзе. Няхай ведае, што Шэлія чакаў яго.

Прачынаючыся, Шэлія чуе ўзбуджаны голас Жоржыка. З ім спрачаецца растовец з дзіўным прозвішчам: Малютка. У растоўца—гіганцкая постаць, шырокія плечы і вялікія мускулістыя рукі грузчыка. Мускулам заўсёды цесна ў кашулі. Хлопцы клічуць растоўца не Малюткай, а Малютачкай.

— Джандгжава прапанаваў, і нам трэба згадзіцца, ты памяркуй,—кажа Белы.

— Ты растлумач, а не крычы, хвалюецца Малютка.—Толькі арганізавалі брыгаду, а ты ўжо хочаш разваліць работу. Цяжкі фронт! А мар-

ганец—гэта не цяжкі фронт? Няхай бяруць з другой брыгады, а не з нашай.

Шэлія ўзнімаецца на локцях і прыслухоўваецца ўважліва. Друг хоча кідаць шахту?—гэтая думка непакоіць яго.

— Для шахт гэта робіцца,—доўжыць Жоржык.—Вялікая гідрастанцыя канчаткова перакроіць іх. Электрыфікацыя шахты—гэта табе нешта большае за гонар маладзёжнай брыгады. Будзе на наша месца новая. Трэба думаць маштабамі.—Тут Жоржык заўважае, што Шэлія не спіць. І тады ён пытаецца ў мінгрэла з ласкавай усмешкай:—Правільна я кажу пра маштабы? Ну, вось, бачыш, Малютачка!

На гэтым спрэчка канчаецца. Растовец, распранаючыся, нешта мармоча нездаволена, але Жоржык толькі пасміхаецца. „Распытаю заўтра“,—думае Шэлія і кладзецца зноў.

Спакойна спіць на спіне Файзула. Панас з „боксам“ зусім скінуў з сябе прастыню. Пінька пранікнёна шэпча: кацо. Галава чумазага паранейшаму спаўзае з падушкі. Некаторыя ложкі так і не заняты. Гаспадары іх—на начной змене. Сігналяць электравозы. Яны—як жывыя істоты. Верашчыць гудок рудапрамывачнай. Паскрыпваюць тросы эстакады. Жыццё не спыняецца.

---

... і няхай будзе двойчы ўслаўлена яна, успетая вялікім Шота!..

... аднойчы ў Кахеціі надвячоркавае неба явіла вачам дзіва: стаялі скалістыя чорныя горы, з гары на гару быў перакінуты мост над круцізнай, па мосце ішоў гігант; у гіганта быў сярэдневяковы камзол, капелюш з пер‘ем, наўкола шыі—жабо, у руцэ—шпага; дамініравалі—светла-ружовы, апельсінавы, лёгка-ліловы колеры; горы, мост, гігант і яго адзенне былі чорныя, змрочныя; гігант рабіў вялікія крокі, ён бег ад гары, а гара за гігантам насоўвалася на яго; было велічна, таямніча і падзіцячаму страшна; гара насунулася, нарэшце праглынула гіганта, мост абваліўся, колеры неба пабляклі і новы прывід нарадзіўся ў чорных воблаках кахецінскага вечара...

... і мы сказалі сабе: Гулівер!—над Кахеціяй ходзіць Гулівер!—неспакойны, здзіўлены, дапытлівы спадарожнік нашага юнацтва; і гэта была памылка: то мірсціліся ў вечаровай цішыні не персанажы англійскага эпаса, а толькі-толькі ўвашоўшыя ў нашу свядомасць абрысы рамантычных вобразаў вялікага Шота!..

... і новы прывід нарадзіўся ў чорных воблаках кахецінскага вечара: гэта быў тыгр, непамерна вялікі, непараўнальна прыгожай афарбоўкі; потым зашло сонца і ўсё знікла, як уявы трызні, як хвілінная даніна рамантыцы...

... і мы сказалі сабе: якое прыгожае неба ў Кахеціі, перад надыходам ночы!—і толькі ў гэты вечар па-сапраўднаму была асэнсавана веліч Шота Руставелі!—і былі глыбока перажыты матывы ўсіх грузінскіх мастакоў. ... тут прыгожае паэзіі неад‘емна ад прыгожага ў жыцці, бо першае—ёсць прадукт другога, бо адчуванне найпрыгажэйшага жыве ў самых глыбінных асновах асноў народа...

... Шофер расказваў пра жыццё Руставелі, шофер чытаў на-памяць строфы яго эпапеі, гэта быў адзін з найустойлівейшых законаў мастацтва—гэта быў кантраст: на новай шасейнай дарозе, едучы ў цытрусавы соўгас з трохгадовай гісторыяй існавання, слухалі з вуснаў шофера строфы Руставелеўскай эпапеі, данесеныя да нас семісотпяцідзесяцігадовым шляхам велічы, падзення, рабства і росквіту...

... і няхай будзе тройчы ўслаўлена яна—

---

На карце запальвалася новая электрастанцыя. Шэлія пра гэта даведаўся назаўтра. Жоржык быў за тое, каб частка кваліфікаваных шахцёраў пашла на будаўніцтва раённай гідрастанцыі. Шэлія згаджаўся з ім. Растовец супярэчыў.

Сакратар райкома, Джанджгава, прасіў комсамольскую арганізацыю марганцавых распрацовак вылучыць брыгаду моладзі для работы на будаўніцтве. Гэта была складаная задача. Рабочых мала і на шахтах. Але яшчэ менш іх—сярод неарганізаванай масы навічкоў, прышоўшых на будаўніцтва гідрастанцыі. Жоржык бунтаваў і агітаваў. Растовец не згаджаўся. Шэлія паехаў з Жоржыкам паглядзець на месца, дзе павінна была вырасці новая будоўля.

І яны ўбачылі:

Бурлівая рэчка нясе свае воды па вузкім горным ушчэллі. Скалістыя цясніны, укрытыя жымаласцю, цішыня, вільгаць. Безліч ручаін точыць скалістыя адхонні берагоў. Вада ў іх халодная і празрыстая, як дзень. А наверсе—густая жымаласць, калючыя белыя кветкі, пад якімі хаваюцца зялёныя і рыжыя яшчаркі, залацістыя гадзюкі і плойма маленькіх шэрых птушак. Тут здаўна не ступала чалавечая нага, і толькі ў адным месцы віецца вузкі горны троп, па якім можна спусціцца да ракі і ўбачыць: праз раку перакінуты вузкай аркай каменны мост, укрыты імшаннікам.

Шэлія і Жоржык стаялі моўчкі над круцізнай і глядзелі ў пеністыя хвалі. Каменне і голле неслася на хвалях з шалёнай хуткасцю. Усё было дзіка і глуха наўкола.

— Я пайду працаваць,—парушыў маўчанне Жоржык.—Гэткую глухамань сваімі рукамі скруціць, га? Здорава!—І памаўчаўшы:—На шахтах усё вызначана загадзя—новы забой новы пласт, там чалавек сваё ўзяў, а тут—краніl Здорава!—гэта ён паўтарыў са смакам.

— Пайду развітаюся заўтра з нявестай, адсюль цяжэй выбрацца будзе, далекавата.—Так сказаў Шэлія і словы гэтыя былі згодай.

Жоржык абняў яго, і маладыя людзі пашлі да чыгуначнай станцыі, каб паехаць на шахты. Кожны з іх быў задаволены паездкай, былі задаволены маўклівай дружбай.

Сонца пякло. Спявала птаства. Пыл узнімаўся пад энергічнымі нагамі. І доўга яны ішлі абняўшыся, аж пакуль не паказаліся будынкі станцыі.

---

Шэлію сустракае грэк. Ён загарэлы, няголены і шчаслівы. У яго багата работы. Нагружаныя вінаградам арбы няспынна цягнуцца да падвала. Давільні працуюць на ўсе сто. Пахне жніўнем і віном. Шэлія і Аўраамідзі цалуюцца.

— Надоўга? Толькі да вечара? А ў нас тут—любата!—і грэк разводзіць рукамі так, нібы гаспадар хоча пахваліцца сваім дабром.

Сярод вінаградных кустоў мільгаюць жаночыя хусткі, белыя капелюшы мужчын, чорныя галоўкі дзятвы. На дарогах стаяць упрэжаныя ў арбы валы, яны ленавата пражоўваюць траву. Валам вызначан шлях—ад вінаградніка да давільняў.

— Твая на вінаградніку, ты ідзі ў сад, я паклічу яе.

Шэлія садзіцца пад дуб. Ён вялікі, прысадзісты, з густым голлем, такі самы, як у родным сяле. Шэлію робіцца чамусьці маркотна. У парку ціха. Кара дуба халодная і да яе прыемна прытуліцца спіной.

— Ты? Генацвале! Так неспадзявана!..

Нана застыла на месцы з запытаннем на вуснах. І не зразумець—

рада яна спатканню, ці не. Рукі і шыя яе загарэлі, а твар—гэткі-ж матава-белы, як і раней, і горачаззяюць чорныя вочы пад тонкімі брывамі. Шэлія абнімае яе, а яна—мусіць, здэтанаваная нечаканай сустрэчай—не варухнецца.

— Ну што, мая чорнавокая!

— Шаліко!—раптам шэпча Нана і хавае твар у яго на грудзях.

Яна плача. Гэта слёзы радасці? Шэлія думае іменна так і яму радасна. Скора яны будуць разам, яна прыедзе да яго на электрастанцыю, каб ніколі не раставацца. Ён суцішае яе, дзяўчына плача. Лёгкая трывога ўзнікае ў Шэліі, але ён не паддаецца ёй. І хлапец пачынае гаварыць.

Ён гаворыць пра пабудову электрастанцыі, пра свайго друга залатакудрага Жоржыка Белага, пра таварышоў на шахтах, з якімі прыходзіцца яму развітацца, аб тым, як многа незвычайнага прачытаў ён за гэты час ў кнігах.

Тады прыходзіць Аўраамідзі, запрашае Шэлію да сябе. Утраіх яны садзяцца за стол. Грэк разлівае віно ў пасярэбраныя чынчылы. Ён жадае поспехаў Шэліі на новай рабоце. Неўзабаве ў пакоі паяўляюцца: дырэктар станцыі, маленькі чорненькі, падобны да жучка аграном і Міцька Савін.

— За здароўе гасцей! Алаверды да вас, Сімон Пічыевіч!—грэк працягвае дырэктару чынчылу, напоўненую пахкім вінаградным сокам.

Усім весела. Шэлію прыемна адчуваць гарачую руку чорнавокай у сваёй руцэ. Грэк расказвае нейкую гісторыю з свайго жыцця. Аграном бярэцца за гітару. Дырэктар уважліва слухае грэка. А Міцька хмурыцца, апусціўшы ўскудлачаную галаву. Ён ваўчанём употайку кідае позіркі на Шэлію. Шэлія гэта заўважае і смяецца: маладому вучню грэка зайдросна! Ну і няхай!.

Потым, узяўшыся за рукі, Шэлія ідзе з Нанай да вакзала. Дзяўчына маўчыць, апусціўшы вочы. Шэлію то радасна, то сумна. Ён не змаўкае ўсю дарогу. Каля самага вакзала ён абнімае нявесту, цалуе яе тройчы. Сэрца ў яго б'ецца шпарка. Яны развітваюцца. Шэлія, стоячы на чыгуначным палатне, праводзіць вачыма дзяўчыну. І раптам ён бляднее: з прыдарожнага купаўя выходзіць да дзяўчыны Міцька Савін і ідзе побач з чорнавокай. Не, гэта сок вінаградны бурліць у крыві мінгрэла! Міцька бярэ Нану за руку і так яны знікаюць за паваротам дарогі. Шэлія хапаецца рукой за лоб. За спіной сігналіць электравоз. Трэба хутчэй бегчы да вакзала, ён можа спазніцца на поезд. На шахтах яго чакаюць таварышы, з якімі заўтра трэба ехаць на новае будаўніцтва. Шэлія бяжыць за поездам. Зялёныя вагоны мільгаюць у вачах. Калі-б што было—стары друг Аўраамідзі сказаў-бы яму. Нана! Кроў бурліць. Пот выступае на твары. Электравоз сігналіць. Натоўп пасажыраў хвалюецца перад вагонамі. Раздаецца першы званок. Хутчэй! Хутчэй!

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

У Джанджгавы тонкі касцісты нос, глыбокая зморшчына нібы падзяляе лоб напалову, сівыя бровы і маладыя вочы пад імі. Джанджгава смяецца і твар яго ўвесь пакрываецца дробнымі зморшчынамі. Элісбар Рамбашыдзе, трыццацігадовы начальнік будаўніцтва, канчае апавяданне:

— Табе дзякаваць трэба за дапамогу, хлопцы з шахт—у нас вялікая сіла. Мы іх усіх брыгадзірамі паставілі і яны такімі камандзірамі зрабіліся, што радавацца трэба.

— Няхай камандуюць,—смяецца сакратар,—гэта будзе гонар ком-

самолу, калі ў тэрмін пойдзе першая чарга. А тэрмін жорсткі. Рамбашыдзе, не забывай гэтага. У Германіі, бадай, і не чуў пра такія тэрміны?

— Некаторыя прадпрыемствы там будуюць хутчэй, прыкладам—хімічныя заводы,—заўважае галоўны інжынер будаўніцтва, сухарлявы і экспансіўны велікан у замежным гарнітуры і з жоўтымі крагамі на сухіх ікрах.

— Таварыш Масхарашвілі кажа праўду,—сцвярджае Рымбашыдзе.— Мы гэта бачылі.

Утрох яны ідуць да скал, дзе кіпіць работа. Тут пачата праводка тунеля. Тунель робіцца з двух бакоў. На пяцьсот дзевятым метры два атрады рабочых павінны сустрэцца.

— Адхіленняў не можа быць?—пытаецца Джанджгава, даючы дарогу ваганеткам, нагружаным пяском і каменнем.

Масхарашвілі ўраз успыхвае:

— Вы ставіце пад сумненне гэты праект?

Джанжгава ўсміхаецца і перапрашальна глядзіць на інжынера.

— Я-ж не спецыяліст, я проста цікаўлюся...

На дапамогу прыходзіць начальнік будаўніцтва. З упэўненасцю, уласцівай толькі спецыялістам, ён сцвярджае:

— Таварыш Масхарашвілі зрабіў дакладны разлік. Тунель павінен быць максімальна роўны, як струна. Любы паварот будзе змяншаць напор рэчкі, якой прыдзецца змяніць рэчышча і праз тунель даць ваду нашым турбінам. Мы так хочам.

Чуецца сігнал. Тройка спыняецца. Людзі выбягаюць з тунеля. Раздаецца глухі выбух і пыл вылятае з зева тунеля. Вентылятары пачынаюць барабаніць.

— Белы!—кліча Рамбашыдзе.—Колькі рабілі закладак дынаміта?

— Трэцяя за сёняшні дзень,—кажа Жоржык, падыходзячы да начальніка.—Чортава парода, прыходзіцца па дробненькіх кавалках ламаць. Затое тунель будзе стаяць стагоддзі.

— Знаёмцеся,—кажа Рамбашыдзе да сакратара.—Гэта адзін з мабілізаваных шахцёраў. Яны досыць добра перакваліфікаваліся з кіркі на дынаміт. Брыгадзір нашай маладзёжнай.

Сакратар райкома вітаецца з Жоржыкам. У Жоржыка брудныя рукі і яму сорамна вітацца, але сакратар першы працягвае руку.

— Вы толькі галавы дынамітам не адарвіце,—жартуе Джганджгава.— Малады ты вельмі...

І калі Жоржык пакідае іх, Рамбашыдзе кажа:

— Агонь, а не хлопец. У нас такіх двое, абодва брыгадзіры. Гэты— комсамолец, той—беспартыйны, мінгрэл, яшчэ нядаўна пастухом быў.

— Такія—наша сумленне,—дадае Масхарашвілі. Ён любіць патэтыку, гэты нервовы немалады чалавек.—Цяпер паедзем на будаўніцтва плаціны. Калі гэты канал—галоўная артэрыя, плаціна для нас своеасаблівы сардэчны клапан.

Аўто забірае іх. Яны едуць уздоўж будаўніцтва. Высока ўзняліся ўжо сцены электрастанцыі, закрыўшы сабою рудую—з чырвонымі жыламі—скалу. Сярод соснаў будуецца рабочы пасёлак. Белыя двухпавярховыя камяніцы пастануць у стройныя шэрагі вуліц. З тунеля чуюцца выбухі. Скрыпяць тросы эстакад. Цэгла паўзе на рыштаванні. Гул, гоман, звон. У Джанджгавы не знікае ўсмешка. Яму выгодна на скураным сядзенні аўто.

— Якая была глуш!..—вось і ўся даніна лірыцы ад гэтага чалавека з сівымі брывямі і маладымі калючымі вачыма.

---

Праходзяць дні. Далёка ў скале працуе брыгада Шэліі. Ваганеткі робяць няспынны свой эліпс у тысячны раз. Выступы скал тырчаць наўкола, як клыкі параненага звера. З трэскам адкалваюцца яны пад рукамі чалавека. Пыльна, душна і цесна працаваць пракладчыкам. Толькі што выбух адваяваў ад скалы яшчэ колькі метраў тунеля. Частка рабочых нагружае каменнем ваганеткі, адкатчыцы падганяюць усё новыя і новыя. Другая частка кіркамі выраўноўваюць сцены і столь тунеля. Гэта найбольш марудная і цяжкая справа. Шахцёр усім цяжарам свайго цяглічнага цела налягае на кірку, а выступ пароды, падобны да клыка дагістарычнага звера, не паддаецца. Кірка зрываецца і адскаквае ад пароды, як гумавая. Важкі ўдар з нязменным „гээх!“ з самых лёгкіх і гострык канец кіркі ўядаецца ў пароду зноў. А за спіной шахцёра ўжо ставяцца часовыя ўмацаванні. Пыльна, шумна і потна.

Ні на хвіліну не спыняе ні з чым непараўнальны па сваёй павольнасці і цяжкасці наступ брыгада Шэліі. Метр наперад—і гэта ўжо здабытак. А недзе там, наперадзе, за таўшчэзнымі напластаваннямі пароды, прабіраецца да іх брыгада Белага. Гэта надае ўпартасці. Не зрабіць менш!—помніць закон.

Вось адкатчыца ў сіняй сукенцы. У яе пяшчотныя вочы газелі і магутныя рукі тверскага землякопа. Сукенка намокла ад поту. Кудзер выбіўся з-пад хусткі і прыліп да пачырванелага твару. Адкатчыца на хвіліну апускаецца на борт ваганеткі і гэтага нязначнага моманту хапае, каб сабраць сілы. А Шэлія прабягае міма яе і адкадчыца бачыць толькі бліскучыя зубы яго.

— Весялей, Леначка, не падкачай!—на смешным сваім жаргоне крычыць брыгадзір.

І раптам пад скляпеннем тунеля хлопцы, што ўмацоўваюць свежа-абгабляваныя слупы, пачынаюць спяваць. Песня—як збавенне. Рознагалоса падхопліваюць яе ўсе. І праходчыкі, і шахцёры, і адкадчыцы, і цесляры, і тройка, якая носіць гордае імя—баевікі: яны маюць справу з дынамітам. Скрыпяць ваганеткі, стукае каменне аб жалезныя барты іх, абсыпаецца парода, тупое бярвенне ўпіраецца ў столь і застывае так на месцы. А песня гудзе, як гімн.

На адной з ваганетак прыязджае хлапец у пашарпаным чырвонаармейскім шлёме. У руках у яго—чырвоны сцяг. Ваганетка крута спыняецца і хлапец абапіраецца на дрэўка сцягу, каб не зваліцца.

— Наш!—крычыць хлапец, перакрываючы сваім голасам крык.—Наш пераходны сцяг!—Ваганетка рухаецца і хлапец саскаквае на зямлю.

Яго абступаюць. Яго хапаюць дзесяткі дужых рук і падкідаюць пад столь. Хлапец трымае рукамі шлём. У шматгалосым „гурра“! чуецца голас Шэліі:

— Перапынак! У сталоўку пашлі,—крычыць і спыняецца ў здзіўленні.

Хлапец у шлёме ўзяў сцяг, а астатнія выстраіліся па два чалавекі і так—строем—выходзяць з тунеля.

У Шэліі сэрца пачынае біцца мацней. Ён абганяе калону і становіцца побач з хлапцом у шлёме. Гэта—адзін з лепшых з брыгады абляморўшчыкаў. І Шэліі ўжо здаецца, што так і павінны яны выходзіць з тунеля, як чырвонаармейцы пры ўваходзе ў адваяваны ў ворага горад, з чырвоным сцягам наперадзе, у калоне, з песняй. Яны ідуць з пераходным сцягам праз будаўніцтва і іх вітаюць—муляры, бетоншчыкі, цесляры, грабары, паганятыя валоў і вадзіцелі аўтагігантаў. І свеціць сонца над імі, пякучае сонца Заходняй Грузіі.

Шэлія ідзе побач з хлапцом з гонарам. На ім апэцканая спецоўка, колісці сіняя—цяпер у чорных і жоўтых плямах, у растаптаных чувяках, у круглым палатняным капелюшы з загнутым краем наперадзе. А твар выяўляе гордасць, задор, шчасце. Вочы гараць. Шэлія іх адводзіць ад заваяванага сцяга і сустракаецца з вачыма Жоржыка, які ідзе насустрач, смяецца і махае рукамі.

— Сталы займаць, ударнікі!—крычыць Жоржык і брыгада Шэліі змяняе свой крок на бег.

Шумна, весела праходзіць кароткі адпачынак.

Аднаго разу пасля работы Шэлія і Жоржык ідуць да ракі, купацца. Жоржык кажа:

— Праз год на гэтым месцы будзе новы горад. Мы будзем мыцца пад душам, як на шахтах. Ці думаў ты, Шэлія, калі-небудзь над тым, дзе ты будзеш праз год? Мне хочацца зноў на новае будаўніцтва, такое-ж, як тут. Так і хадзіць вечна, ведаючы, што на зробленым табою месцы вырастаюць станцыі, гарады, заводы!..—У Жоржыка патэтычны настрой.

Шэлія апускаецца ў ваду. Рака бурліць вакол яго, як вар, хвалі падымаюць яго цела, аж цяжка ўтрымацца.

— Закруціліааа!—ужо здалёк крычыць Жоржык і пацямнеўшая ад вады яго галава знікае ў хвалях.

Трымаючыся за камень, Шэлія чакае, калі друг падплыве да яго. Праходзяць секунды. Жоржык вынырае яшчэ далей. Рака нясе яго цела, вырабляючы з ім дзівоснае сальто. Шэлія спыняецца.

— Закруціііі...ааа!—далятае зноў да яго.

Смех знікае. Шэлія кідаецца на сярэдзіну ракі і кладзецца на спіну. Строма нясе яго. Вось і варонка. Вада бурліць і цягне цела ўніз. Шэлія змагаецца.

— Віір!—даносіцца абрывак Жоржыкавай фразы і Шэлія, напружыўшы сілы, падплывае да таварыша.

— Кладзіся на спіну, кацо!—камандуе ён, падтрымліваючы рукой друга.

Вада выносіць іх з варонкі. Змораныя яны выбіваюцца на бераг. Жоржык адфыркваецца:

— Чортава рака! Ты зразумеў, што крута мне?

Шэлія цяжка дыхае. Шырокія грудзі яго ўздымаюцца высока. Але жарт паяўляецца раней іншага:

— А з кім-жа мне спаборнічаць, калі ты вады нап'ешся? Не, кацо, мы з табой на пяцьсот дзевятым пад гарой сустрэцца павінны.

Яны бягуць берагам да таго месца, дзе засталася вопратка. Заходзіць сонца, афарбоўваючы постаці хлапцоў у чырвоную медзь. На гарызонце ляжаць як далёкія чорныя ланцугі цяжкія хмары. Недзе над Тыфлісам праносіцца навальніца.

— Хутчэй бяжым,—кажа Жоржык,—спознімся на партшколу.

---

Навальніца праходзіць вокамгненна. Вецер урываецца ў акно, лямпа гасне, безапеляцыйна спыняючы заняткі. Барак напаўняецца гамам. Шукаюць запалкі. Няпэўныя агеньчыкі гаснуць. Вырашаюць разыйсціся і шумны грудок моладзі валіць да дзвярэй. Маланка разразае хмару ліловай расселінай, б'е гром. Людзі разыходзяцца па бараках. Шэлія і Жоржык бягуць да тунеля. Праз гадзіну іхнія брыгады заступаюць на начную змену. Ля ўвахода ў тунель яны спыняюцца. Жоржык чакае ваганеткі, каб паехаць у свой канец.

— Цябе заспее дождж, кацо,—кажа Шэлія.

— Але быць на месцы я абавязан. Пад раніцу мы павінны сустрэцца пад зямлёй. Не падкачайце!

Падыходзяць парожныя ваганеткі і Жоржык чапляецца на борт адной з іх. Неўзабаве ён знікае ў цемры і, калі бліскае маланка, яго ўжо не відаць. Шэлія ідзе ў тунель.

Змена канчае работу. Шэлія падыходзіць да брыгадзіра і вітаецца. Брыгадзір зморавы, злы.

— Папацееце,—крычыць ён, дадаючы моцнае слаўцо.—Там не камень, а жалеза! Шчыт прышлося кінуць—камень. Кірка не бярэ, чорт!

Шэлія слухае яго і палахлівая думка—„Не зробім сёння і не выканаем абавязацельства. Можа і не трэба траціць сілы?"—злуе яго. Ён бярэ кірку і ліхтар і ідзе ў глыбіню забоя. Ля вуха верашчыць пнеўматычнае свідра. Кірка не бярэ пароды. Тэхнік дае сігнал і баевікі закладаюць дынаміт.

Ліловыя маланкі лётаюць па небе. Гром грыміць няспынна—то выбухамі, то перакатамі, як басавая струна гіганцкіх памераў. Рака робіцца чорнай. Горныя ручаіны разбухаюць і падаюць долу вадаспадамі. Гуд стаіць над гарамі. Дождж падае, як шрот. Вецер вар'яцее. Валяцца сосны, дубы. Дарогі ператвараюцца ў рэчкі.

Выбух халасты. Сцяна застаецца нязменнай. Акамянелае карчэўе дагістарычных дрэў паплялося ў сталёвыя жмуты. Тэхнік сігналіць аварыйны. Людзі адбягаюць ад сцяны далей звычайнага. „Усё загінула, дынаміт не дапамагае, мы не выканаем!"—свідруе думка мазгі мінгрэльскага пастуха і Шэлія люцее. Выбух аглушае яго.

На будаўніцтве плаціны хвалююцца ліхтары. Рака вые, лемантуе і грыміць. Падаюць рыштаванні. Чуецца стогн, нібы крычыць чалавек:

—...аааа!..

Тонкія сухія пальцы Масхарашвілі ўядаюцца ў плечы шофера, як клешчы.

— Сто, дзвесце, трыста!—крычыць у вуха раззлаванага шофера ўсхваляваны інжынер.—Ганіце, чорт вас разарві! Трыста рублёў прэміі!

За спіной Масхарашвілі чуецца спакойны голас Рамбашыдзе:

— Вы не ў Амерыцы, кацо. Не тармашыце шофера. Паверце, ён мала вінаваты, што разгулялася навальніца і дарогі ператварыліся ў рэкі.—Так кажа інжынер Элісбар Рамбашыдзе, а думкі зусім іншыя: „Каб хутчэй даехаць! Што з плацінай?..."—Ён кіпіць, але стрымлівае сябе.

Колы аўто буксуюць. Вада залівае фары. Шофер крые ў бога. Масхарашвілі ліхаманкава абцірае пальцамі твар. Грыміць гром. Вар'юецца вецер. Са стогнам падаюць дрэвы. Маланкі б'юць у зямлю. Зямля дрыжыць.

— Чатырыста дзевятнаццаты, чатырыста дваццаты, чатырыста дваццаць першы!—адлічвае ў паўзах тэхнік адваяваныя ў гары метры тунеля.

— Памыляецца!—думае Жоржык.

Ён павісае на выступе пароды і рука, у якой заціснуты канец кіркі, напружваецца, як трос. „Сіла соцыялістычнага прыкладу... соцыялістычнага прыкладу..."—хвалююцца абрыўкі думак: ага! якраз гэтым скончыліся заняткі партшколы. Выступ паддаецца пад напорам кіркі, Жоржык адскаквае і, размахваючыся, ударае ў выступ зноў. Глыба падае ўніз, у лужыну. „Адкуль вада?"—але голас тэхніка спыняе разважанні.

— Чатырыста трыццаць другі! Закладай падвойны. Сігналю аварыйны!

У хваляванні Масхарашвілі не заўважае, як аўто спыняецца ля плаціны. Ён зрываецца з месца ўжо тады, калі Рамбашыдзе бяжыць па хісткіх дошках на бетаніраваныя адводныя рэзервуары. Вада ў рэзервуарах на метр не даходзіць да краёў.

— Няшчасных выпадкаў няма?—Рамбашыдзе паднімаецца на плаціну да дзяжурнага інжынера.—З якой хуткасцю прыбывае вада? Шчыты яшчэ не ўмацоўвалі?

— Тады-б не ўтрымаць іх, таварыш начальнік,—кажа адзін з варты.— Глядзі, цэлы дзень умацоўваць шчыты трэба, не распачыналі.

„Гэты армеец разважае, як інжынер“,—злуе Масхарашвілі і хапаецца за галаву: яна баліць, так бывае заўсёды пасля нервовага ўзрушэння.— А чаму ў вас, малады чалавек, пражэктары не гараць?—накідваецца ён на дзяжурнага інжынера.—Правады парваліся? Трэба манцёра паклікаць!

— Што з вамі?—заўважае Рамбашыдзе, як крывіцца Масхарашвілі.— Галава баліць? Паспрабуйце мятную ляпёшку.—Начальнік выцягвае з кішэні бляшаны карабок з мятнымі цукеркамі.

У гэтую хвіліну да Масхарашвілі падбягае хлапец у скураным плашчы з капюшонам. Вырасшы з цемры, ён падобен да сярэдневяковага манаха.

— Брыгада Белага прайшла пяцісоты метр. Мы поўгадзіны стаім.

— Якіх поўгадзіны?—траха што не давіцца інжынер. Потым ён хапаецца за скроні і пачынае хістацца.—Не сустрэліся? Не можа быць! Гэта не можа быць!

Маланкі рэжуць хмары. Перакатамі грыміць гром. Вые рака. Дождж падае, як шрот. Усе навокал маўчаць. Здэтанаваны армеец трымае ліхтар перад тварам Масхарашвілі.

— Не трэба хвалявацца,—стрымлівае сябе Рамбашыдзе.

Масхарашвілі вырываецца з яго рук і бяжыць да аўто. Пырскі ляцяць з-пад яго ног, ён натыкаецца на дошкі, на каменне, аўто імчыць яго да тунеля. Рамбашыдзе робіць незробленыя інжынерам загады і спяшаецца за ім.

У брыгазе Белага работа спынілася, галасы нездаволення чуюцца сярод рабочых.—Пяцісоты метр пройдзены. Тэхнік упэўнен, што атрымалася памылка і два канцы тунеля разышліся. Але дзе няправільны разлік? Хто недагледзіў? І тэхнік ходзіць уздоўж тунеля з кіркай, бессэнсоўна стукае ў сценкі і прыслухоўваецца да цішыні. Жоржык прыехаў на вагачетцы да ўвахода, чакаючы інжынера. Ён хвалюецца і ўпэўнен, што Шэлія хвалюецца таксама.

— Вы ставіце пад сумненне маю работу! Гэтага не можа быць!— чуе ён з цемры голас Масхарашвілі. Яму парыруе Рамбашыдзе. З цемры, напоўненай дажджом, ветрам, громам і маланкамі, яны вырастаюць перад Белым, як чарадзеі сярэдневяковых казак. Вада абцякае іх дажджавікі, нібы іх постаці з бронзы або чыгуну.

— Памылкі не можа быць. Галавой адказваю! Галавой!

— Не спяшайцеся, таварыш Масхарашвілі!

Белага ён засыпае пытаннямі, частымі, як дождж. Брыгадзір адказвае дакладна і Масхарашвілі пачынае яму верыць. Інжынер змаўкае і неяк гасне. Ціхім галасам ён просіць начальніка паехаць у брыгаду мінгрэла. Ён кажа:

— Я трыццаць гадоў, малады чалавек, будую і ў мяне не было памылак. Тут прычынай грузінскія горы, а не інжынерыя. Я застаюся тут, таварыш Рамбашыдзе, да таго часу, пакуль „перамычка“ не будзе прабіта.—І раптам чуецца глухі выбух.

Рамбашыдзе садзіцца ў аўто. Дождж б'е ў шкло з той-жа сілай. Фары пагаслі. Матор страляе, як кулямёт. Колы буксуюць. І армянін-шофер памінае багоў. Аўто ідзе скрозь па вадзе, робячы скачкі. Маланкі б'юць у зямлю і зямля гудзіць. Маланкі на момант асвятляюць навакольнае і яно паўстае, як паталочышча волатаў. Рака вышла з берагоў і хвалі б'юць аб каменні як у шторм на моры.

Мокрыя ад поту шахцёры, баявікі, праходчыкі і адкадчыцы брыгады Шэліі працуюць упарта. Электрычнасць пагасла і толькі ручныя ліхтары мітусяцца ў тунелі, як велізарныя светлякі. Прасоўвацца наперад непамерна цяжка: крэмень, паплецены акамянелым карчэўем, базальт, граніт і цёмнашэры гнейс туга паддаюцца чалавечай руцэ. Адсутнасць электрычнасці спыніла работу пнеўматычнага свідра. Ваганеткі прыходзіцца каціць рукамі. Усе механізмы адмовіліся служыць чалавеку і ў чалавека засталося адно—воля і рукі. Сотні супярэчлівых думак узнікаюць і знікаюць у Шэліі. Ён-бы даўно кінуў работу, але злосць, сорам і ўпартасць кіруюць ім.

— Закладзі патроны!—крычыць ён другі раз тэхніку, але тэхнік адмаўляецца катэгарычна.

Шэлія зноў кідаецца з кіркай на сцяну, як на ворага. Зубы сціснуты, сэрца вось-вось разарве грудзі, скроні баляць, набрыняўшая потам кашуля пячэ цела. Ад ліхтароў мітусяцца густыя цені. Рухі памножаны светлавым капіраваннем. Чуюцца няспынныя ўдары кіркі, шум абвалаў і чалавечае „гээх!"—з самых лёгкіх. Сцяна не паддаецца.

— Выбух можа атрымацца такой сілы, што прападзе ўся наша работа!—крычыць тэхнік і баявікі сварацца паміж сабою.

У тунелі паяўляецца Рамбашыдзе. Вада сцякае з яго парыжэлага плашча. „На дварэ дождж,"—мільгае у Шэліі. Ён хвіліну глядзіць на Рамбашыдзе і ўспамінае: твар яго падобны да твару... дырэктара вінаграднай станцыі! Там, працуе там, працуе... Нана!

— Дазвольце закласці патронны зарад дынаміта, таварыш начальнік,—крычыць у твар Рамбашыдзе Шэлія.—Адхілення ў нас няма, але парода не паддаецца.

І тут пачынаюць сварыцца баявікі, тэхнік пратэстуе і крычыць, што не адказвае за вынікі. Шэлія злуе. Адкатчыца з вачыма газелі і рукамі тверскога землякопа, маўклівая дзяўчына, якая звычайна толькі ўсміхалася на заўвагі таварышоў, раптам спыніла сваю ваганетку і сказала:

— Не крычыце, таварышы... Трэба зрабіць выбух.—На яе закрычалі, але яна настойвала.

Спытаўшыся, на якім метры знаходзіцца брыгада, Рамбашыдзе загадаў зрабіць ардынарны выбух. Ён атрымаўся ў халастую. І тады начальнік рызыкнуў. Засвісталі аварыйныя. Засвірашчэў назойліва, як велізарная муха, перфаратар. Людзі адбегліся на поўкілометра. Успыхнула электрычная іскра. І ў грознай цішыні, як няўхільнасць, ударыў гром. Шэліі здалося, што тунель рухнуў. Дым, пыл і цемра заклубіліся каля яго. Гарачае паветра ўдарыла ў твар, як шрот. Шэлія нечакана ўчарэпіўся за нейчую руку і сціснуў яе. Напорам ветра пагасіла ліхтары. Пыл не сунімаўся доўга, бо не было электрычнасці і вентылятары бяздзейнічалі, і ліхтары засвяціліся ў пыле цмянымі плямамі. Тады Шэлія апамятаўся: ён сціскаў руку начальніка і разам з ім ён рвануўся наперад. Ваганеткі скрануліся з месца, людзі накінуліся на пераможаную пароду, як на ворага.

Пралівень не сціх. Наадварот—ён зрабіўся больш моцным. Толькі суняўся вецер. Раскаты грома зрабіліся больш павольныя, мяккія. Вада

ў рэзервуарах плаціны не даходзіць да краёў на поўметра. У цемры запальваецца пражэктар. У паласе святла дождж падае, як дыяменты. А золак прыходзіць—няпэўны, мутны і слізотны.

А восьмай гадзіне раніцы, працуючы адзіннаццатую гадзіну без перапынку, брыгады Жоржыка і Шэліі нарэшце сустрэліся. Крычалі „гура", падкідалі на руках Жоржыка, Шэлію і Масхарашвілі. Мінгрэл успомніў, што яшчэ гадзіны дзве назад ён не верыў у сустрэчу і ён пастараўся забыць свае сумненні!

*(Канец у наступным нумары)*

Уладзімер Хадыка

## РАДЗІМЕ

Вякоў атуленая багнамі,
Гуляла лютая навала,
Гарэла даль вачамі прагнымі,
Цябе ў пакутах нараджала.

Праз пошчак куль, праз пушчы шыбеніц
Была у свет твая дарога.
Складалі аб тваёй пагібелі
Малітвы шчырыя да бога.

Стаяў жандар з паставай браваю,
Рыкаў пад лад ўрачыстай стрэчы:
Хрысцілі царскаю дзяржаваю
Твае натруджаныя плечы.

Ў знямозе, як вадой крынічнаю,
Ты абмывалася слязою.
А выйшла ў дую навальнічную
Суровай грознаю хадою.

Ты з голадам жыла—любілася
У цярновым цераме пад плотам.
А грымнуў бой—на смерць ты білася,
На смерць варожым дням і ротам.

Цябе адлюдкі звалі дзікаю,
Ты-ж наша моц, на роспач злую—
Ўзрасла адзінаю, вялікаю,
І не знайсці нідзе другую.

Краямі спосаб твой паўтораны.
Падхоплен спеў, жывы і складны.
Згуртованы народ, катораму
Зямля і неба падуладны,

Які цярэбіць зор расхрыстаных
Гушчарні, збруджаныя богам,—
Ён дальнія збудуе прыстані
Тваім нябачаным дарогам.

І хай на постаць тваю гордую—
З прыстанішч выбітая зграя
Плюе белагвардзейскай мордаю,
Абцятых лап кулак збірае.

Няхай мяцеліца сусветная
Закруціць віхрам белых крылляў...
Няхай іх гоніць апраметная
Трухлець трупамі ў чорнабыллі.

Няхай там хмары дзён-аборвышаў
Імжаць жудой вачэй галодных,—
Усміхнуўся свету дзень твой хараша,
Дзень светлы, сын твой першародны.

У пешчах матчыных ён вырасце,
Ён стане там, дзе смерць і голад,—
Няснёных праўд, нязнанай шчырасці,
Тваіх пякнот вястун і волат.

Яму табою права дадзена
Тварыць з зладзеямі расплату—
Кім чалавецтва ўсё абкрадзена,
Кім ўся зямля была распята.

Тваёй душы высокай сокалам
Твой лёс, твой гонар пранясе ён
Праз меж гушчарнік, што навокала
Вачамі воўчымі усеян.

Праз язвы ран зямлі балючыя,
Над пушчамі вякоў распусных,—
З высокім імем—Рэволюцыя,
І з іменем тваім на вуснах.

Ц. Гартны

# ПЕРАГУДЫ

**Раман** *)

— Давай абмяркуем!
— Раскажы, каб усе ведалі!
— Гэта датычыць нас усіх.

Выгукі ўсё ўзмацняліся, пераходзячы ў гулкі гоман.

Сніпіч перачакаў, пакуль калгаснікі крыху ўтаймуюцца і спакойна загаварыў:

— Таварышы навартаўцы! Што вам на гэты конт сказаць...
— Усё кажы!
— Мы хочам ведаць!
— Ты нам дораг!

Новы выбух галасоў перарваў Юстынаў сказ.

— Я рад, дзядзькі і цёткі,—працягнуў ён далей:— я рад таму, што вы клапоціцеся аба мне. Дзякую за ўвагу і спачуванне... Толькі памятайце адно: справа тут, даражэнькія, не ў маёй асобе. Што, сапраўды, Юстын Сніпіч без калгаса? Я адчуваю ў вашых словах трывогу за наш калгас. Іначай і быць не можа, таварышы. Мы агульным самаадданым стараннем арганізуем сваю супольную гаспадарку... Якім партыя паказала, шляхам—будуем сваё новае жыццё... Гэта верны шлях, дзядзькі і цёткі,—адзіна праўдзівы, шчаслівы шлях; мы ўжо бачылі гэта з практыкі, з нашага калгаса... І таму што ворагі нашы, кулаччо, бачаць гэта таксама, яны са скуры вылазяць, каб памяшаць нам...

Натоўп закалыхаўся. Напруджанасць узрокаў, здавалася, пранізвала мураваныя сцены калгаснае канцылярыі.

Юстын казаў далей:

„ ... Памятаеце, таварышы, колькі вас папаадгаварвалі, папазбівалі з панталыку розныя Каніцы, Будзіловічы, Арэшкі, каб вы не ішлі ў калгас? Думаю, што не забыліся. А чаму? Ды таму, што ім выгадна бачыць вас беднякамі, здзекавацца з вас, як было дагэтуль, трымаць вас у сваёй кабале. Яшчэ многія з вас памятаюць ёрмы іх кабальных пазычак, што омегам кожнаму даваліся пасля... Калгас усё гэта выбіў з рук кулакоў... Выбіў, дзядзькі і цёткі. Вось чаму яны і помсцяцца вам... Вам, таварышы, хоць замахваюцца на мяне... Бо сёння на мяне а заўтра на Тараса ці Ігната, каму вы прыпаручыце весці вашу калгасную гаспадарку... Кулак не мае іншага выйсця, як ісці на гэткія авантуры... Але памятайце, што ў вашых руках яго лёс... У вашым яднанні адпор класаваму ворагу... На гэты раз зламыснік прамахнуўся. Мыне ўпэўнены, вядома, што ён не паўторыць свайго дзікага злоўчынку... Беражыце свой калгас...

---

*) Канец. Гл. „П. Р.“ №№ 8, 9, 10.

Вось заўтра вы ідзеце здымаць новы ўраджай—ён у нас сёлета багаты, а вораг, гледзячы на тое, як вы радасна і старанна пачнеце яго збіраць, будзе снаваць намеры ці згнаіць ці спаліць... Адным словам—зрабіць так, каб вам нашкодзіць, пасля ўзваліць віну на калгас...

Гэткія „прыяцелі", магчыма, ёсць і сярод нас, у нашай сям'і навартаўцаў... Скрытных ворагаў трэба пільней вартаваць. (Сход заварушыўся, зашаптаўся. К плоту палісадніка, направа ад ганку, з якога гаварыў Сніпіч да калгаснікаў, павярнулася некалькі цікаўлівых чалавек).

Там моўчкі, тулячыся да шэрых калоў агароджы, стаяў Васіль Лагода. Ён з'явіўся на сход адным з першых і трымаў сябе смела ды развязна, пакуль ішла гутарка аб заўтрашнім жніве. Падахвочваў стаяўшых каля яго калгаснікаў выкрыкваць аб недахопах, думаючы, што гэтыя выкрыкі абернуцца ва ўзрушэнне і прывядуць сход да зрыву. Яхідна пасмейваўся тады, калі лавіў насцярожаным вухам рэзкія ноты ў голасе больш языкастых дзядзькоў. Але прымоўк і нахмурыўся, убачыўшы, што агульны настрой калгаснікаў абмануў яго дапусканні. Прыгнечаны Лагода памкнуўся ўжо быў пакідаць калгасны дзядзінец, злосна паглядзеўшы ў бок Сніпіча, як узнятае калгаснікамі пытанне аб замаху вярнула яго на месца.

Васіль падазрона абярнуўся да жанчын, адкуль пачуўся выгук, накіраваны да Юстына, аб нядаўнім усхваляваўшым усіх здарэнні. Мігнула ў яго галаве палахліва: „Ці не ўспомняць толькі майго імя. Што я тады буду рабіць".

Сніпіч ізноў прыкаваў да сябе яго ўвагу. Кожнае яго слова балюча стукала ў Лагодава нутро. Ён перастаўляў ногі, уздрыгваў, нервова вадзіў галавою. Яму здавалася, што Юстын не спускае з яго вачэй і гэта прымушала яго ўгінацца, заступаць за спіны пярэдніх. Яму хацелася бачыць каля сябе Вольку, якая-б сумела ўраўнаважыць яго настрой. Злаваўся, што яна, знаходзячыся на сходзе, нібы знарок ігнаруе мужа, дзесці хаваецца ад яго. І пільна шукаў узрокамі сярод натоўпа. Шукаў і чуў, як на сэрцы асядала вострая злосць на раўнадушную жонку, але веяўшы сполах ад Сніпічавых слоў разганяў усе іншыя думкі, асядаючы на душу калючым лёдам.

Лагода чуць не прысеў на зямлю, калі Сніпіч крануў „прыяцеляў" з асяроддзя калгаснікаў. Кінутыя ў яго бок позіркі некалькіх чалавек, як нажом разанулі ўнутры. Захацелася сарвацца з месца і ўкрадкаю выйсці за плот, схавацца, каб ніхто не ведаў, дзе ён дзеўся, але адначасна жаданне паслухаць да канца трымала яго прыкаваным к агароджы.

„Кулак, як гадзюка, пралазіць ва ўсе шчылінкі і, як шашаль, падточвае дрэва, імкнецца разбурыць нашу гаспадарку. Мы, бывае, не звяртаем увагі, а ў нас перад носам адбываецца шкодніцтва. Хто з вас, дзядзькі і цёткі, не чуў розных здавалася-б, зусім нявінных парадаў, намоў з боку кулацкіх агентаў? Адзін парадзіць не выйсці на работу, другі настроіць дамагацца таго, чаго яшчэ наш калгас не ў сіле даць. Трэці знарок упусціць у канюшыну гавяду... (Васіль прыгнуўся). Усё гэта робіцца з намерам разладзіць нашу работу, нашу калгасную гаспадарку... Так што, пераказваю ўслых, таварышы, трэба быць заўсёды ў насцярозе і гнаць ад сябе падобных „прыяцеляў"... Я пэўна вам сказаць не магу, але мне здаецца, даражэнькія, што і замах на мяне тэй ноччу—бадай, справа зусім недалёкага чалавека;

можа нават ён і зараз тут, сярод нас... Гэта выкрыецца, зразумела не сёння, яшчэ праз некалькі дзён... Ужо сёе-тое робіцца вядомым... Будзьма-ж спакойны. Адкажам на гэты выбрык класавага ворага дружнай старannай працай.

Сніпіч абарваў словы. Акінуў вокам узбуджаны натоўп калгаснікаў і праз пару хвілін паведаміў:

— На гэтым, давайце, таварышы, наш сход зачынім.—Яго прапазіцыя патанула ў раз'юшаным гомане. Нечакана для ўсіх хтосці выгукнуў:

— А кажуць, што злачынец быў з сабакам і пабег напрамкам да Лагодавага хутара?

На момант ізноў запачавала ціша. Але запыт астаўся без адказу і калгаснікі, каментуючы гэта кожны па-свойму, сталі пакідаць калгасны дзядзінец.

Лагода цішком, прыгінаючыся, вьслізнуў амаль не першым. За весніцамі пачакаў, пакуль Юстын не схаваецца ў дзвярах канцылярыі, пасля, успомніўшы пра Вольку, накіраваўся дадому.

Каля самага гасцінца, калі аддаліліся гутарка калгаснікаў і гоман на калгасным двары, ён асцярожна прагукаў:

— Волька-а!..

З гушчыні вячэрняга змроку зусім недалёка ціхае:

— Хто-а там?

— Я, Вассі-ыль... Чакай!

Лагода сказаў гэта спакойна, але, вызіраючы ў цемры жонку і не знаходзячы яе, уміг запаліўся вострым нездаваленнем. З глыбіні нутра выступіў камяк даўкае злосці, запаўшае ў сэрца яшчэ на сходзе, і тут ён нервова затрос кулаком. Паладзіся-б у гэты момант пад рукі жонка, ён не спыніўся-б апусціць на яе. Але на шчасце не падышла.

Васіль паўтарыў запытанне:

— Дзе-ж ты, ліха цябе ведае!

Скрыпнулі вешніцы, і Лагода ў подскак кінуўся на скрып. На адгоне не больш двух крокаў угледзеў іх цёмны сілуэт і працягнуў руку між верхніх двух ператочак.

— Адчынены, уваходзь!—пачуў над самым вухам, з-за шула.

І пэўна гэта нечаканая блізасць жонкі або яе спакойны голас на момант разброілі Васіля. Ён раптам апусціўся злосцю да таго, што гатоў быў папрасіць выбачэння, ды Волька перашкодзіла знянацкім ашаламіўшым яго запытам.

— Ці не на цябе толькі намякаў Сніпіч?

Васіль ледзве пераступіў у двор. Вольчыны словы, як нажом, разанулі яму па сэрцы.

— Чаму?—запытаў ён праз пару доўгіх секунд дрыгатлівым голасам.

— Каму-ж было незразумела?.. Няўжо ён усё за стычку на поплаве спаганяе злосць?

— Сволач! Ён, відаць, збіраецца са мною нешта рабіць,—кінуў Васіль дапусканне, незразумелае ў сваёй сутнасці для Волькі.

Ён пільна хаваў ад яе тайну замаху на Сніпіча. Адчуваючы патрэбу ў жончынай маральнай падтрымцы, больш, як калі дагэтуль, аднак не асмельваўся ёй прызнацца ва ўсім.

У колкай роспачы, толькі Волька зачыніла сенешныя дзверы, ён праказаў:

— На ўсякі выпадак трэба закалоць свінню. Навошта, каб яна даставалася гэтым нягодным Сніпічам.. Як па твойму, Волька?..

Каб не густая цемра, ён-бы ўгледзеў на Вольчыным твары здзіўленне. Яна прамаўчала. І толькі ў хаце праз натугу адмовіла:

— Няўжо ён цябе так запалохаў, Васіль?

— Я чую нядобрае, Волька...

Волька нервова затупала па хаце. Абое думалі пра святло: кожнаму хацелася паглядзець другому ў вочы. Але яны адчувалі ў ім якуюсці перашкоду, быццам-бы баяліся выдаць сябе на суд хатніх рэчаў. Нібы ў цемнаце было ямчэй і смялей абмяркоўваць надзвычайнасць усплыўшага пытання.

— Пайду закалю!—рашуча сказаў Васіль.

Волька не паспела заступіць мужу дарогі, як ён бразнуў за сабою перш хатнімі, пасля сенешнімі дзвярыма, потым адазваўся гулкімі крокамі па дарозе да хлява.

— Што яму ўздумалася?..—пацiснула плячыма Волька, паглядзела на дзверы і рэзка рванулася бегчы за мужам.

У двары яе пераняў рэзкі смяротэльны піск жывёліны. Здавалася, гэты піск абудзіць усю ваколіцу. Волька мімвольна закрыла рукамі вушы, жахліва падалася к сцяне будынка. Потым усё сціхла. Яна кінулася к хляўцу і знянацку наткнулася ў дзверцах на Васіля.

— Уваходзь! Я прынясу з гумна крыху саломы.

Волька пераступіла ў хлявец. Дыхнула вострым салодкім пахам свежае крыві. Пярэстая худаватая свіння ляжала з выцягнутым да яе лычам. Волька павяла рукою па густой шчэці на хібе і праказала:

— Што ён уздумаў з табою зрабіць, рабуха?..

Га-а?—зліўся яе запыт з мужавым выгукам.

Васіль увайшоў у хляўчук з вязкаю саломы.

Наўскос паглядзеў жонцы ў вочы, пажартаваў:

— Ты плачаш, ці што?

Праз натугу яна засмяялася.

— Мне дзіва, што ўсё так раптам у цябе...

— Як раптам?—не зразумеў Лагода, шукаючы ў кожным жончыным слове падазронага недавер'я.

— Усёроўна, плач ці не плач—свіння не ўстане.—А табе шкода.

— Дзе-ж ты надумаўся смаліць?... Ах, толькі клопат непатрэбны. Яшчэ хто наскочыць...

Васіль схамянуўся. Потым рыўком махнуў рукою і сярдзіта:

— То ідзі, спі, калі я патурбаваў імасць...

І глянуў на жонку да таго выразна, што Волька не магла ўстаяць, каб не адвярнуцца.

У той момант Васіль вышаў. Зацішаныя, шарохкія яго крокі пацягнуліся ў бок вешніц. Можна было дагадвацца, што ён шукае на чым падняць і вынесці на смаліва свінню. „Ці падужаем удваіх, калі прыдзецца ў лагчынку за горкаю?"—усумнілася Волька, прыміраючыся з фактам. Ёй хацелася—няхай-бы ўжо хутчэй—перад выхадам на жніво лішнюю гадзіну паспаць. Пазяхнула і не заўважыла Васіля, які, вярнуўся.

— Давай паспрабуем занесці ў лагчынку.

На хаду Васіля разварушыла нездаровая руплівасць. Ён не пакладаўся ні на водзін кут, на ціхія, заварожаныя бязветрыем дрэўцы ў саду. Тугія, непадатлівыя думкі снавалі ў галаве. Аднае шчаціны не пакіну... Няхай толькі муха-заваруха—з кублам у калодзезь.

— Спыніся—вешніцы!—папярэдзіла Волька.

## XXXVI

Праз дробныя вакенцы непрыкметна ўплыла ў старую Перагудаву хатку шэрая гадзіна. Засела ў кут густым санлівым змрокам. Сцёрла контуры хатніх рэчаў і заварушыла сілуэтамі людзей. Трое моўчкі займалі кожны сваё месца. Лявон не выпускаў з рота даўно патухшае люлькі. Не стукала, а толькі шоргала, як мыш у запеку, Домна бляшаной цадзілкаю. Свежае, толькі што выдаенае малако разносіла востры пах. Пятрусь нешта сам сабе думаў і разам з тым пазіраў у вакно, паварочаючы галаву так, каб можна было лавіць узрокамі кожнага, хто прайдзе ці праедзе вуліцаю.

Усе знаходзіліся пад уражаннем нядаўных падзей у сябе на двары.

Здарэнне з Каніцаю было падобна на раптоўную навальніцу, з громам ды бляскам маланкі, шугнуўшай над іх сядзібай. Доўгі час пасля таго, як Павал пайшоў з дому, старыя з Пятрусём абмяркоўвалі ўтворанае становішча. Папракалі адзін другога ў залішняй нецярплівасці, гарачнасці, бестактоўнасці. Абменьваліся зусім нелісілівымі словамі, узвышалі голас да пагроз. І ў гэтым прайшла добрая палавіна доўгага летняга дня. Да ўваходу ў хату Пятрусь нават ні словам не перакінуўся ні з кім. Ён мо' з гадзіну шаломна тупаў па двары, не хочучы кінуць вокам на бацьку з маткай, якія перш сядзелі побач на парозе сенешніх дзвярэй, потым задумёна пахаджвалі, то з двара ў хату, то з хаты на двор. Толькі калі яму абрыдла мерыць каторы раз адлегласць двара, ён вярнуўся ў хату. Праз мінуту за ім увайшлі абое старых. Нядаўнае ўзрушэнне астывала. Адлягала Петрусёва сэрца на Паўла, ці пэўней, злосць на Люцю перакрывала крыўду на брата.

Чым глыбей Пятрусь уваходзіў думкамі ў дробязі здарэння, тым ясней перад ім вырысоўвалася сумысная згаворанасць Каніцаў. Паступова ён нават баязліва прызнаў Паўлаву правату. Але спыняцца доўга на гэтым яму не дазваляла якаясьць дзікая, муляўшая ўнутры амбітнасць, якая нават прыкрыла самому сабе.

Поўдня, адвячорак, вечар—Люця не прыходзіла.

Старыя чакалі Паўла, пыталі адно ў другога, разгадваючы пры тым, дзе ён мог быць, куды пайшоў.

Спыняліся позіркам на Петрусю. Відаць было па ўсяму ходу падзей, што вось гэту, во, балючую нервовасць, уткнуўшую яго ў вакно, нагнаў ні хто іншы, як Люця сваімі паводзінамі. З-за яе чалавек псуе вочы і сэрца, чакаючы. Старыя Перагуды нутром разумелі адно другога, згодныя ў думках. Іх вывад: Люця круціць сынам. Праўду казаў Павал, што Каніцы заблыталі Пятруся ў сваю сетку. А яны старыя нічым не пярэчылі. І каб не Павал—гэты хітры мужык гатоў-бы іх таксама запрэгчы ў ярмо. Павал не паддаўся і абараніў старых. Добра зрабіў. „Каб-жа яшчэ ды Пятруся-а."—заключыў Лявон.

„Тыдзень, два, ну, хоць, і тры... І кулі будуць свае, можа купленыя, але не падачка. Возам кулёў не возмеш, браце. Хітры—і..."

Старыя ўсё-ж не адобрывалі Петруся, які так моцна заклапаціўся Люцінымі выбрыкамі. „Хоць-бы не вярнулася",—заключаў Лявон.

Яны час ад часу паглядалі ў шэры квадрацік вакна, у якім цямнела сынава галава. Абодвым старым хацелася бацькаўскай развагаю вызваліць яго з задумёнасці, ды кожнае баялася ўразіць раз'юшанае сэрца. Раптам Пятрусь сам адхіліўся ад вакна, і папярэдзіў бацькоў:

— Я зараз вярнуся.

Стукнуў дзярыма.

— Павячэрай раней.

Пятрусь якраз зачыніў дзверы.

— Па яе,—ціха падаў думку да старое Лявон.

— Дзіўны...—Домна разняла рукі і ўціснула голаў у плечукі.

Вось скрыпнулі вешніцы і цемра праглынула Петрусёву пастаць.

У вокнах Каніцавай хаты не было святла. Быццам прытуліўшыся да зямлі, яна хавала цёмныя вокны за гушчынёю кустоў. Петруся скаланула: „Гэ—э, сволач. Начавацьме." Думкі выліліся ў гучны шэпт, але Пятрусь не сумеўся.

Наадварот: ён гатоў быў выгукнуць на ўсю вуліцу вострую лаянку па яе адрасу—цвёрдым камяком лаянка падступала к горлу. Але чым бліжэй падыходзіў да брамы, тым выразней адзнаваў недарэчнасць гэтага. „Навошта... лішні сорам" прабегла ў галаве думка. Ён спакойна, нават асцярожна абмацаў рукою клямку ў варотцах, пацісну—варотцы былі замкнёны. Тады прыслухаўся: у двары тупалі; чуўся апетытны конскі грумз. Яго заінтрыгавала. Напружыўшы ўзрокі, ён прыкмеціў вузкую шчыліну між шулам і краем варотцаў. З густое цемры выступілі абрысы воза, каня. Вось мігнула цераз парог чыясьці фігура з няўмёру тоўстаю галавою і калі апынулася пры возе—з сянец выбліснула няяркае святло. Яго, аднак, хапіла на тое, каб разглядзець груды мяшкоў ва возе. Каніца ўвішліва парадкаваў іх, акрываючы якоюсь дзяругаю. Раптам пачуў ціхае: „Едзем, Люця. Гатова. Ідзі адчыняй вешніцы".

Пятруся затрэсла ад набегшай злосці, у галаве завярцеліся розныя думкі, з якімі адразу нельга было саўладаць. Намерыўся—прасачыць.

„Прасачу"—і пагразіў кулаком у напрамку Каніцавага гумна, у наступны момант ужо падагнаны вострай цікавасцю, ён пераляцеў цераз вешніцы ў суседнім з каніцавым двары. Рэзкі скрып сухіх перакладзін, потым лопат нескрадлівых шагоў вызначалі яго рухавы прабег дваром на загуменні.

Управа праходзіла вялікая сценка. Спыніўся, насцярогся і рыўком паглядзеў туды, дзе чуліся глухаватыя стукі калёс. Цемра перашкаджала разлічыць іх адлегласць. Разразаючы пільнымі ўзрокамі гушчыню змроку, лавіруючы між платоў і гумен, ён выбег у палеткі. Сценка павінна быць увесь час недалёка, каб з'арыентавацца. На паўгоней—хоць-бы.

Пятрусь павярнуў крыху ўлева. Густы змрок свідравалі дзве яркія кропкі святла. Ён пашоў проста на іх і хутка, зусім нечакана, наткнуўся на здаровую, абведзеную па версе калючым дротам, загарадзь. Над высокімі дубовымі каламі звісалі густыя ралы дрэў. Адгэтуль святло быццам памутнела, рассеялася ў змроку.

З хвіліну ён пастаяў у нерашучасці, забыўшыся нават прыслухоўвацца. Каніцы якраз пастараліся дапомніць аб сваім месцызнаходжання. Пятрусь пачуў: „Сто-ай",— а пасля: „Пабудзь пры возе, а я падыду к двару". Гэта было Петрусю сігналам, каб ёмка ўзняцца на агароджу, і цішком, сагнуўшыся перапаўзці досыць шырокі сад ды стаць за тоўстым камлём ясеня, супроць сенешніх дзвярэй. Вось пара дваровых вокан, завешаных белымі, парудзеўшымі ад святла фіранкамі. Паўз блізшае мігнуў цёмны сілуэт, на першы момант здаўшыся жаночым; уздагон разлягося здаўленае, шарохкае:

— Васіль?

І тут у адказ:

— Гэта вы, дзядзька Адам?

— Так, я... Прыехаў, нябожа... Чаму-ж гэта так позна не кладзецеся? Мо здарылася што-а?

Пятрусь стараўся не дыхаць.

— Прыгода, дзядзька,—паскардзіўся Лагода тонам, у якім чулася няўпэўненасць.

— А што такое?—панізіў насцярожлівы голас Каніца.

— Без пары мусіў свінню зарэзаць... Вось да чаго дажылі...

— Свінню .. зарэзаць?. Та-ак... Няўчас, нябог... Та-ак... Вунь яно што-а... Час, сыне, незавідны. . Гм-м...

Каніца яшчэ мо' з хвіліну гмыкаў, быццам збіраючыся выказаць нешта цікавае і значнае, але не адважваўся.

У Васіля не хапіла сцерпу.

— Ну гэта ўсё нічога... Вы мо' хацелі чаго?... Зойдзем у хату... папрасіў ён, стукнуўшы затычкаю па пеpакладзіне вешніц.

— У мяне конь вунь там...—паказаў рукою назад.

Голас з'ехаў на шэпт.

— Я, ведаеш, Васільку, прывёз... збожжа... Памятаеш,—мы адзін раз з табою гаварылі?... Мусіў.. Больш недзе схаваць, а папусціцца каб дасталося ім—н-нік..

Апошняе слова сказана было на цэлую ноту вышэй і з пачуццём, у якім закіпеў гнеў. Лагода спужаўся, дазволіўшы сабе—чаго ніколі не было—суцішыць Каніцу.

— Ш-ш, дзядзька... Каб ніхто...

— Ды ўжо-а адзін чорт—задзёрыста выказаў Адам.

Васіль на гэты раз прылаўчыўся стукам вешніц заглушыць яго словы.

— Зайдзіце-ж, на двары ніякавата,—пазваў ізноў.

Яны прайшлі ў двор і спыніліся каля дзвярэй. Не дачакаўшыся Лагодавага адказу, Каніца паўтарыў запыт:

— Ну, што ты мне скажаш, сыне?

Відаць, Лагоду цяжка было проста адказаць: ён замяўся і разгублена вымавіў:

— Трудна, дзядзька, выгадаць як лепш. А ў мяне, думаеце бяспечна? Я не шкадую гумна, ні хлява. Але і гумно і хлеў кожны дзень гатоў Сніпіч забраць пад калгас... Каб вы ведалі, што сёння ,было ў калгасе на сходзе?

З пераскокамі, наспех, крыху блытаючыся ў парадку, Васіль перадаў Каніцу ў скажоным выглядзе гісторыю з замахам на Сніпіча і, як скутак таго, сёнешні мітынг. Каніца ўважліва слухаў, устаўляючы словы здзіўлення і сполаху. Калі Васіль скончыў, ён спагадліва заўважыў:

—А-а-а-э. . Вось яно як... дык ты думаеш, што не варта-а?

— Я не шкадую, дзядзька,—выбачыўся Лагода.

Каніца з адценнем недавер'я і затоенага нездаваленьня праказаў:

— Можа, часамі, Волька тут ці... яе брацік .. Такая пшаніца-а.

Петруся кальнула пад сэрца: ён мігам сабраўся ўвесь у адзін напружаны камок, які адтуліўся ад дзерава і вось-вось гатоў быў разрадзіцца гучным, грамавым, шаломячым выгукам. Але ў рашучы момант, быццам адчуваючы гэта, Лагода пераняў яго ўпічлівай развагай да Адама.

— Што вы, даражэнькі дзядзька, вы мяне моцна крыўдзіце. Хіба-ж я не гаспадар у сябе дома а?..

Каніца хвіліну пастаяў моўчкі, пасля хісткай хадою моўчкі накіраваўся да вешніц. Васіль ішоў у яго па пятах, несціханна перапрошваючы:

— Калі хочаце—то будзьце ласкавы... Я гумна не шкадую... Я нічога вам не пашкадую, дзядзечка... Заязджайце—ды вось здымем усё, зложым... Га-га? Я гумна не шкадую... кажу-ж... Прыхаваем так што... Пад сенам, якое вы мне далі...

Адчынілася адно з вокан і ў фортку высунулася Вольчына галава. Волька бачыла, як ля вешніц абодва мужчыны замяліся ў маўчанцы. Пасля разам з Петрусём пачула, як Люця запытала:

— Калі нельга, дык чаго вы так доўга бавіцеся, тата? Зараз пачне днець...

— Едзем, дачушка... Заварочвай каня,—суха распарадзіўся Каніца. Лагода нерваваўся—просьба не ўзяла Адама.

— Дзядзька Адам, ну, чаго-ж вы так зазлавалі?—не збаяўся гукнуць. У адказ грукацелі калёсы і толькі.

Пад іх стук Волька абярнулася да мужа:

— Ты не захацеў, ці што?

— Ай, лепш маўчы!—адмахнуўся Лагода на акно, якое тут-жа зачынілася...

Пятрусь бачыў, як швагер у глыбокім душэўным разладзе бязмоўна павіс на перакладзіне вешніц.

Каніцы аддаляліся ўправа ад Лагодавай сядзібы—магчыма ў аб'езд паплавоў; зразумела: каб даць выгляд, што едуць з мястэчка з патрэбнаю купляй... А можа?..

І тым болей карцела Петрусю давесці нагляд да канца. „Раз вышаў— ідзі" падахвоціў себе, калі шорпат калёс па пяску раптам растаў у цішы. Паплавы.

Так і ёсць—у аб'езд. Яго вабіла штосьці пільна ўглядацца ў асвойтаную вачыма адлегласць. Наперадзе шмат цямней. Ліпкі алешнік цярнуў па шчаках, спыніў.

У цені выразна відаць былі: конь у запражцы і двое Каніц.

„Прыпыніліся" пазларадcaptчаў Пятрусь. Зашуршала, як быццам. Так. Мацней. Прыцішаныя гукі гаворкі.

Праз густое лісцё Пятрусь высунуў галаву наперад, відаць: вось матнулася крылом адкінутая посцілка; шмарганула па біле вяроўка.

— Паддавай.

З новым шэптам лістоў моцна плюхнула ў Войне вада. І адразу ў мятуслівай беганіне ад рэчкі да воза, ад воза да рэчкі завіліся дзве юркія постаці. Мех за мехам мяняліся месцам. Булькацела вада, як пад ставам. Потым раптам зрабілася ціха, і ўжо толькі чулася—ліўся струмень з-пад кустоў: спаражняўся апошні мяшок.

Пятрусь разгарнуў рукамі алешнік.

— Гэй, вы і!—не стрымаўся.

Затрашчалі галінкі кустоў і ў той момант, калі постаць памкнулася рушыцца з месца—некалькі стукаў дашчок па вазку, чуць данёсшыся свіст дратаванкі над задам каня і лёгкае тархаценне калёс.

Пятрусь крута павярнуў к Войне. Спыніўся, дзе была памята трава.

— Э-эх! п-паганцы-і! І чаму-ж я дазволіў зрабіцца гэтаму злачынству!—хапіўся ён аберуч за галаву, якая апала чуць не к самай вадзе.

Пятрусь павольна адвярнуўся ад Войны.

Праз пяць мінут ён рушыў ісці. Некалькі крокаў зрабіў у глыбокім раздуме, потым паскорыў хаду, вагаючыся ў рашэнні, ці не пусціцца ўздагон за Каніцамі. Аде ўжо было позна і недарэчна. Ды ў Петруся не было яснае думкі, што-б ён стаў рабіць з цесцем і жонкай, каб выпадкам нагнаў іх. Прасочанае злачынства настолькі ўразіла яго, што ён губіўся ў рашэннях і планах. Абурэнне пераходзіла ўсе межы, хоць яшчэ не ў моцы было загасіць праблескі затоеных надзей на прымірэнне з Люцяй.

Чым далей ён адыходзіў ад рэчкі, тым спакайней рабілася ў яго душы. Нядаўна кіпеўшы ў справядлівым гневе, ён з кожным крокам астываў, аддаваўся ўступчывым развагам.

„Усё-ж такі Люця!“—схамянуўся ён, калі прышла думка расказаць пра гэта Яніне.—Не вернецца, шкода!

І, як знойдзеную выпадкам каштоўную рэч, —прыхаваў гісторыю з пшаніцай ва ўтульны куток, у нутро.

Ля гасцінца, ён неўпрыкмет крануў у думках швагра Лагоду. „Васіль, відаць па ўсім, меў нешта агульнае з намерам Каніцы“.

Але незразумелым рабілася Петрусю выразнае адмаўленне Лагоды прыняць Каніцава збожжа. Петруся дзівілі швагравы паводзіны, тон Васілёвай гутаркі, яго спешка з свіннёй,—усё намякала на штосьць нядобрае... Праўда, яно, гэта нядобрае, выразна выступала з сэнсу пераказанага Васілём мітынгу. Швагер перадаваў аб ім Каніцу ў тоне разгубленасці, скрытна. Можна было ясна зразумець, што Васіль адчувае на сабе нейкую віну, але хоча яе змазаць, утаіць, хоць гэта яму зусім не ўдаецца.

У выніку гэтага Пятрусь дапусціў, мо' упершыню за час сваяцтва з Лагодам, ацэнку швагра ў досыць нелісьлівых словах. Азірнуўшыся ў той бок, дзе меўся стаяць „Кудравы Ясень“, ён праказаў услых па адрысу яго ўласніка: „Ну, і чалавек! Папалася бедная Волька!..“

Ён не дасказаў думкі, як на завароце на гасцінец пачуў глухі тупат босых ног па жвырыстаму пяску. Стаў. Насцярогся. Нехта бег, моцна засопшыся.

Азірнуўся. У некалькіх кроках мігнуўся сілуэт. Штосьці падказала Петрусю аклікнуць невядомага.

— Хто ідзе?

Яго пазналі.

— Пятрусь?! Адкуль ты?

Разгубіўся, збянтэжыўся.

— Я думаў алешніку насеч на падсціл,—схлусіў.

— Ноччу? Чаму-ж?

Праз момант яны стаялі побач з Волькай. Жанчына рыдма рыдала.

— Што з табой, Волька, кажы?—спалохана і разгублена пытаў Пятрусь.

Ведучы Вольку пад руку, Пятрусь выслухваў наступную скаргу сястры:

— Невядома за што, як шалёны,—у горнасці казала яна: з кулакамі накінуўся на мяне і бязлітасна, як звер пачаў біць, па чым папала... Парваў на мне кашулю, нагнаў сінякоў. „Гэта ўсё праз вас, паганае перагудаўскае котла, я дажыўся да таго, каб мяне пакінулі лепшыя прыяцелі мае...“ Крычыць, як вар'ят... Прыязджаў, ведаеш, Каніца з дачкой, хацеў пшаніцу схаваць у нас і, я не ведаю чаму, адказаў яму, ці якое ліха, той загарэўся і вярнуўся з пшаніцаю назад.. Гэта майго зусім разладзіла: мо' з гадзіну ён непрытомным тоўкся сярод ночы ў двары... А перад гэтым уздумалася яшчэ закалоць свінню.. Я ўходжвалася каля свінні, калі ён, адпусціўшы Каніцу, вар'ятам уварваўся ў хату і, нічога не кажучы, давай мяне біць... Збіў, як хацеў і нарэшце выпхнуў з хаты... Бяжы да сваіх... Брыдка пераказаць, чым толькі ён мяне не абзываў... Братка мой... куды я папала... Выратуйце вы мяне з гэтага пекла!..

Волька з адчаю хісталася на нагах. Пятрусь, паспеўшы на некаторы час ураўнаважыцца, ізноў вышаў з сябе, на гэты раз распаліўшыся да рэшты.

— Ціха-а!.. Волька... не плач... Годзе!.. гэта яму так не пройдзе... Паганец, гнюс... Сціхні... Трэба было гаду, вочы выдраць... Няўжо ты яму маўчала?..

Ён пагрозліва трос рукою ў паветры, азіраючыся назад, а сам дрыжэў у ахапіўшай яго злосці. Каб прымеў, ён мігам сарваўся-б з месца і паімчаўся-б на ўсю моц помсціць Лагоду за сястру. Некалі было разбірацца ў дэталях пачутага ад Волькі—абстаноўка была яму знаёма... Яе падгатаваў часткова Каніца.

Пятрусь успомніў ліхамысны закід цесця пра сястру ў гутарцы з Лагодаю, і здарэнне з пшаніцаю прыняло ў Петрусёвым уяўленні зусім іншае, рэзкае і пагрознае адценне. Мігнула, як бліскавіца, яркая думка, нядаўна прапушчаная без сур'ёзнай увагі:

„Н-ну, вы ў мяне... адкажаце за ўсё!..“

Яны параўняліся з бацькаўскай хатай.

Пятрусь рыўком адчыніў вешніцы і прапусціў наперад сябе сястру.

— Ідзі, Волька, прыляж адпачнуць... Супакойся, годзе!

— Скора-ж раніца, я мушу ісці ў калгас... У нас сёння пачынаецца жніво.

— Кінь, ты сёння нікуды не пойдзеш з дому...

— Ой, Пятруська, што ты кажаш-ш... Я павінна выйсці разам з усімі на зажынкі... Няможна не ісці... Што ён нарабіў!..

Гутарка паціху адвяла іх думкі ад гнусных выбрыкаў Лагоды. Волька перастала ўсхліпваць, занядбаўшы на некі момант усю перажытую крыўду. Але хутка яе ізноў вярнуді да гэтага разбуджаныя іх гутаркаю бацькі. Пачуўшы гутарку ў двары, Лявон выбег у сені і яшчэ праз зачыненыя дзверы, гукнуў:

— Гэта ты, Волька? Што здарылася з табою, дачушка?.. Пятрусь?

— Так, здарэнне! Сволач Лагода...—скрозь зубы праказаў ён за сястру.

У хаце ўжо Домна засвяціла агонь і, напалоханая, тупала з газоўкаю ў руках каля парога. Угледзеўшы дачку—Домна жахнулася і газоўка толькі-толькі не паляцела на зямлю. Лявон далікатна ўзяў Вольку за руку і асцярожліва адвеў да прыпяка. Яна прысела.

— Кажы, дачушка, што ён з табою зрабіў?—у адзін голас праказалі старыя, не спускаючы з дачкі вачэй.

Праз плач Волька пераказала бацькам тое, што паведаміла Петрусю.

Лявон, абураны, затупаў па хаце... Заківаў пальцам:

— Нават ужо вунь да чаго дайшоў! Ах, праклятты-і!—выгукнуў ён на ўсю хату.

Яго выгук падняў Паўла.

— Што такое?—запытаў ён.

І, не дачакаўшыся адказу, саскочыў з ложка. Угледзеўшы Вольку, зразумеў, у чым справа.

— Ён на цябе падняў руку?—углядаючыся ў сястрын твар, абурана запытаў Павал.

У яго вачах заблішчэлі аганькі глыбокага гневу.

— Бандыт!—сказаў ён, не адыходзячы ад Волькі.

— Палажы яе спаць!—запрапанаваў Лявон жонцы, якая анямела стаяла перад дачкою.

Домна разгублена адышлася к палку, перакінула некалькі рэчаў з месца на месца і пазвала Вольку.

— Лажыся, мая дачушка, на маёй пасцелі... Я ўсёроўна ўжо не засну...

Калі Волька ўтаймавалася, Пятрусь вышаў у сенцы. Праз адчыненыя дзверы падаў:

— Як узыдзе сонца—разбудзіце...

— Добра!—адказаў Лявон.

Стары трымаў у руках люльку і быццам забыўся, што з ёю трэба рабіць, каб запаліць, увага адводзіла яго вочы на дачку.

— Гэ-э! Ці ты тое, адно, бачыў! Вот прахвост... Гэ-э! Ці ты тое, адно, бачыў!

Домна шаптала нешта падобнае. Шаптала, асцерагаючыся, каб не парушаць надыходзячага ў хаце супакою.

Павал вярнуўся ў пасцель.

У вокны непрыкметна ўлівалася ўсё болей святла.

На двары разварушвалася жыццё.

Лявон вышаў паглядзець, як яно на вуліцы. Пакінула хату і Домна—яна быццам адчула мужаў настрой.

З двара, праз вешніцы, палажыўшы рукі казыркамі на лоб, старыя Перагуды пільна ўзіраліся ў праясненыя далі. Злева, за ўзвышшам выступала цёмная купка будынкаў у абрамленні густых карон кудравых ясеняў. Але па жоўтай істужцы гасцінца і ўправа ад яго—нікога не прыкмячалася. Далі ўрачыста маўчалі, заварожаныя пераддзенным спакоем. Ды нядоўга... Перагуды яшчэ не аднялі рук ад ілбоў, як у калгасным цэнтры рэзка шыбанулі гукі рэльсавага „гонга". Пачуліся звонкія галасы людзей. На вёсцы радасна рыкалі выпушчаныя з хлявоў каровы. Яшчэ праз момант і ўспыхнула зарніцаю вясёлая, бадзёрая жніўная песня. Высокія мінорныя мелёдыі расплываліся ў азалочаным праменні ўзыходзячага сонца, луналі на шырокіх галах калгасных палеткаў.

— Дзень добры, дзядзькі! Чулі, га-а?

То казаў Ігнат Перапёлка, які ўжо ехаў на поле. Ён хітра ўхмыляўся.

Перагуды абярнуліся на вокліч.

— І ты жаць?

— Пагляджу. Можа на грудку... Што-а, ваша дачка-а... дома-а?

Перапёлка ткнуў пугаю ў бок сенешніх дзвярэй. Перагуды нашарохана азірнуліся: у парозе стаяла разнерваваная Волька.

— Чаму-ж вы мяне на пабудзілі!..—папікнула бацькоў і следам да мацеры.

— Я вазьму вашу хустку, мама!—Сарвалася з месца і пашла ў бок прыгумення.

— Куд-да-а ты, Волька?—працягнула ў яе бок рукі Домна:—Ты-ж мо' нічога ня ела?

Лявон забыў пра суседа: кінуўся ўбяжкі дваром.

— Пачакай!—махаў рукою.

— Я ўзяла хлеба. . Нічога...—данеслася з-за зруба новае хаты.

Бацькі прыпыніліся супроць дзвярэй з разнятымі рукамі і нездаволена глядзелі ўслед Вольцы.

— Дзівачка якая!.. сказала Домна.

— Калі бо гэты шабалда Перапёлка—трэба было яму як раз наехаць!—вылаяўся Лявон:—А там яшчэ дзе-небудзь гатова наткнуцца на свайго... Што-а ты з ёю парадзіш!

— Пайшла жаць?—выткнуў заспаную галаву ў дзверы абуджаны бацькаўскаю гутаркаю Пятрусь: — Чаму-ж вы пусцілі?—удакорыў старых.

— Зламі яе...—нездаволена адказаў Лявон:—А ты-ж дзе быў?

— Спаў!.

Пятрусь схаваўся за дзвярыма.

— Можа і нам выйсці паглядзець жыта? Перапёлка паехаў жаць,— пусціў услед сыну Лявон.

— Давайце!..—данеслася з сянец.

Старыя рухліва накіраваліся ў хату. Там ужо тупаў, устаўшы з пасцелі, Павал.

— І ты ўстаў? Не далі паспаць і табе... Эх-х—Лявон махнуў рукою:— Усё яно неяк... Чуў?—Волька-ж пабегла ў калгас. Варочалі, а ні рады...

Павал азірнуўся ў запечак, дзе сястра мелася спаць, і ў яго на твары выступіла здзіўленне: ён чамусці не прыкмеціў дагэтуль Вольчынай адсутнасці, перанёсшыся думкамі на завод.

— Збіраецеся ісці жаць?—паглядзеў ён на бацьку.

— Людзі ідуць... Можа і пара... У снапах даспее, калі яшчэ зусім не гатова... Кулі, бачыш, патрэбны: ды і хлеб выходзіць ізноў... Дзе-ж напазычаешся?

Лявон кідаў адрыўныя сказы, а сам не ведаў, што рабіць; заглядаў у сынавы вочы, чакаючы разумнай парады.

Домна не знаходзіла адпаведнай парады на ўзнятыя мужам пытанні, і ёй таксама быў цікавы сынаў адказ.

Павал крыху памаўчаў, чакаючы слушнага моманту. І раптам:

— Кулі, бацькі, будуць...

Старыя здзіўлена пераглянуліся: яны адразу не ўтлумілі сабе Паўлавага паведамлення.

— Так... Юстын Сніпіч дакляраваў даць з калгаса... Ад першае малацьбы...

— Было-б вельмі добра... Каб-жа ды ён спраўдзіў,—выказаўся Лявон.

І яшчэ раз паглядзеў на жонку.

— То-та-ж!... Табе паабяцаў, а паедзеш—і забудзе.

— Не думаю, мама... Юстын чалавек сур'ёзны... Ды тут не яго аднаго справа... Дасць—раз абяцаў...

Сынава упэўненасць падбадзёрыла старых.

— Тады можна са жнівом некалькі дзён пачакаць?.. А то сажнеш зялёнае—які толк з таго...

Тае думкі трымалася і Домна.

— То-та-ж!..

У хату ўвайшоў Пятрусь. Паглядзеў на насцярожаных бацькоў і запытаў:

— Не збіраецеся на поле?

— Думаем пачакаць... Сніпіч абяцаў кулі.

Пятрусь вытарышчыў вочы.

— Табе... Павал?..

— Мне.

— Гм... цікава... Каб-жа ды ў шчаслівую хвіліну...

Усе ўчацьвярых задаволена ўсміхнуліся.

— Ну, вось тады ўжо закончым з хатаю і... пляваць на Лагоду...

Лявон узяў у зубы люльку. Але не паспеў запаліць, як пачуў ад Паўла:

— На гэтым не будзе кончана. Я пайду запытаю ў яго адказу...

## XXXVIII

Навёўшы зверскую расправу з жонкаю, Лагода астаўся адзін у хаце. У лямпе выгарала газа. Гусціўся змрок; асядаў у кутках ды шчылінках, навяваючы цяжкі сум. За вакном было ціха. Да Лагоды падкраліся няўпэўненасць і сполах. Яго настрой, узбуджаны ды каразлівы, пераходзіў у нервовую трасучку. Перад вачыма мігаліся здані: быццам-бы нехта за дзвярыма ў сенях настойліва драпаўся; па двары нібы сноўдалася жывая істота, у якой Васіль западозрываў Вольку. Бач ён, як выпхнуў яе з хаты, дык і не пацікавіўся, куды яна дзелася. А мо' Волька затрымалася ў сенях і чакае, пакуль у яго адыдзе злосць? Лагода ўсумніўся: праверыць? Некі час вагаўся, прыпамінаючы, як праз сон, апошні бразг сенешніх дзвярэй за Волькай. Пасля ён—ці мо' то было раней?—выходзіў засовацць дзверы. У сенях было ціха... Не-э, лепш праверыць—пэўней.

Крута павярнуў к парогу; на хаду наткнуўся на кубел. Стук гулка ўзарваў цішыню. Спевак за сцяною вывёў трывожны сквіл. „К-ка-б ты згарэла, к-ка-б-б ты!“ вылаяўся: „Трэба быў мне гэты клопат з свіннёю. На які д'ябал мне гэта сала!.. Усё-роўна большэвікі забяруць... Большэвікі... Сніпіч, Крэмень і, пэўна-а... швагер! Шва-а-гер-р!.. пастаяў з момант, узіраючыся ў цемнату. Спевак пачуў блізкую прысутнасць гаспадара, заскавытаў здалося Васілю, над самым вухам. Гэта перш непрыемна ўразіла яго, а потым падбадзёрыла. Лагода неспадзеўкі адчыніў дзверы, і побач з сабакам прайшоў у канец двара.

Вярнуўся са Спеваком у хату. У хаце пахла газаю, куравам, свежынаю. Бегалі вычварныя цені; нібы якаясці сіла варочала ўсе хатнія рэчы дубам. Спевак адразу натрапіў на свежыну: пад лаваю, прасунуўшы галаў у кашэль—апетытна хрустаў ногі, галавізну. Лагода нейкі час не заўважаў гэтага, потым раптам, як ужалены, кінуўся праганяць. Матнуў нагою, і не данёс: адставіў, прыгнуўся і паглядзеў на Спевака.

— Е-эш, галубчык. Лепш ты, чымсь... Перагуды...

І доўга, доўга, мо' з поўгадзіны, цешыўся з сабачага пачастунка.

Гэтым часам нечакана стухла лямпа. Праз вокны ўлілося ў хату пераддзённае святло. Дрэвы за вокнамі прынялі зелянцаваты колер. Азірнуўшыся па хаце, Лагода адчуў цяжкую адзінотнасць, закінутасць. Усе рэчы, здавалася, упікалі яго. На непрыбраным ложку ляжалі Вольчыны ўбёры, тыя, у якіх яна была, калі... „У чым яна пабегла? і куды-і?“

Патупаўшы яшчэ некалькі доўгіх хвілін па хаце, ён бязмэтна вышаў на двор. На сенешніх дзвярах павесіў замок, зверыў, ці замкнулася...

З-за гумна данесліся жніўныя песні калгасных жней. „Ды ўжо-а жы-і-т-та-а ў по'а-лі спе-э-я-а!“

„Сённі зажынкі-ы?.. Не пайду!“ адмахнуўся рукой. Думкі адцягнуў на сябе Каніца. З ім столькі ёсць гутаркі! „Ды ці захоча дзядзька пасля ўчарашняга гаварыць? Так вышла недарэчна!“

Павеяла халадком боязні. І яшчэ вастрэй жадалася ўгледзець Адама.

Лагода няўпэўненымі крокамі вышаў з двара: вочы смутным паглядам змерылі жытнія палеткі аднаасобнікаў,—у нутры зашавялілася думка аб нядаўным мінулым... Перад ім адгароджвала вузкую дарожку высокая сцяна ядранага жыта. Тут межавала хутарская сядзіба. А цяпер...—цяжка ўздыхнуў.

Наперадзе праехала падвода; чырвоны конь Ігната Перапёлкі кіўнуў яму лысаю мызаю, пасля крута заламаў на папярочную сценку, схаваўся. „І яны збіраюцца жаць?“

Пад словам „яны“ Лагода разумеў аднаасобнікаў. Праверыў жытнюю спеласць—бадай пара. Заключыў: выедзе ў палетак і дзядзька Адам. Гэты не прапусціць тэрміну.

З-пад калгаса даносілася рэзвая гутарка. Здавалася, што чуцён нават і посвіст сярпоў. Траскацелі наперабой жняяркі. Сухія пераліўчатыя гукі разбягаліся ва ўсе канцы палявых прастораў. Лагоду стала млосна. Запэўняючы сябе, што нават не азірнецца ў той бок, дзе самому належала быць, ён раптам не вытрымаў. І не адзін, а некалькі засаб сарамлівых узрокаў кінуў налева; пасля кожнага галава апускалася ўсё ніжэй; быццам імкнулася лёгчы ў роўных глыбокіх каляінах сценкі.

Неспадзеўкі сухі мізэрны лазовы кусцік дапомніў яму аб Каніцавай паласе. Лагода спыніўся і паглядзеў усцяж роўнага, колас у колас, дзядзькавага жыта. Няпрыкметна было жывое душы, у той час, як на ніжэйшых месцах пачыналася жніво. „Нешта здарылася, напэўна, што іх няма ў палетку“,—заключыў Васіль, умомант рушыўшы ісці да Каніцы дамоў.

Мешаніна пачуццяў—цікавасць з падазронасцю—гналі яго паскоранай хадою. Не сыходзячы з сценкі, ён хутка параўняўся з Каніцавым гумном і рашуча падняўся на пералаз. Пранізаў вострым узрокам да самага двара—жахнуўся; засеў на пералазе ў нерашучасці—як быць? З адчыненых варот Каніцавага хлявя адзін за другім вышла некалькі чалавек. Сярод іх Лагода пазнаў па адзенні міліцыянера, а па росту—Яніну Крэмень. Апошнім быў дзядзька Адам. Каніца ішоў па слядах міліцыянера, разводзіў рукамі, як бусел крыллямі, відно было—пераправшаў, угаварваў. Але Лагода прыкмячаў—ягоная гутарка, напэўна, не мела ніякага ўдзеяння на прысутных. Вось тыя прайшлі да брамы, якую ветліва адчыніла ім Люця і на выхадзе з двара папярэдзілі: „На ўсё даецца пяцідзённы тэрмін. Не выканаеце—будзеце адказваць!“

Глыбокі ўздым спачування зняў Лагоду з пералаза. „Прыпіраюць дзядзьку! Бе-э-дны!“

Ён намерыўся ісці ў двор, але ўспомніў учарашняе—сумеўся. І ўраз адчуў грузную цяжар віны за тое, што не прыняў дзядзькавага збожжа. „А цяпер вось, знайшлі, вядома, і апісалі...“

Гатовы прыняць найвастрэйшы Каніцаў дакор, Лагода аднак не адважыўся з'ўляцца перад ім на гарачым учынку. Вярнуўся з прыгумення і некалькі разоў у глыбокім раздуме прайшоў па сцяцы. Нарэшце, ураўнаважыўся і, быццам нічога не ведаючы, вышаў на Каніцаў двор. Брама хавала яго ад вуліцы, дзе, дарэчы, непрыкметна было нікога, хто-б цікавіўся ім, або Каніцаваю хатаю, ці нядаўна наведваўшымі яе людзьмі.

Лагода заспакоены падышоў да дзвярэй і тут-жа ўбачыў, што дзверы замкнёны. Ён паглядзеў праз вакно ў хату—нікога. Загадкава азірнуўся на садок—і там пуста. Апынуўшыся ў ніякаватым становішчы, Лагода ўкрадкаю, паміж платоў, рухава вярнуўся на сценку. „Дзе-ж падзеліся дзядзька Каніца з Люцяй?“ Пацісиуў плячыма. Ізноў усе планы пераблыталіса да рэшты. Пуста ўнутры, пуста навакола: няма ахвоты нікуды ісці, але і стаяць пад гумном няёмка. Рабочы дзень; жніво ў калгасе, і аднаасобнікі жнуць... А ён...

Надаўшы выгляд заклапочанага чалавека, Васіль зашагаў у той бок, адкуль прышоў.

Яшчэ была раніца, каля дзесятае гадзіны. Па гасцінцы снаваў статак на ранкі. Пастушкі выцінали на жалейках цягучыя мелодыі. З жытніх палеткаў дыхала бадзёрасцю прыпаранае пары, жніва. Калгаснае поле

жыло галасамі жней, траскаценнем жняярак. Пахла водырным прасторам... Але Лагоду дыхалася цяжка. Каб прымеў, ён пагнаў-бы час к вечару.

„А вечарам?.. дамоў? Ну, а дома?.. адзін? Ці мо‘... з‘явяцца госці, што пакінулі Каніцаў... Можа ўжо нават і там...“

У трывожлівыя дапусканні раптам уварвалася думка пра Вольку, ішоў да Каніцы—быццам яе не існавала ў свеце.

А гэта... зарупела: „А вось у маю адсутнасць гаспадарыла ў хаце... А за гэты час—чаго нельга зрабіць!“

Дом сканцэнтраваў на сабе Лагодаву ўвагу: ён сягнуў думкамі да „Кудравага ясеня“. Хутар стаяў у вачах цёмнаю купкаю зелені. Ці-ж мала каго можа гэта зелень захаваць! Вось ён накіроўваецца да сябе, а прыдзе: на дзвярах няма замка, у хаце—хлеба. Нават голад пера-кусіць не ўдасца. Аднак, упэўненасць і надзея на сабаку да таго су-пакоілі Васіля, што ён намомант расстаўся з усякай падазронасцю і трывогай. Абег узрокамі некалькі разоў навакольныя палеткі. Раптам насцярогся: здалося, нібы на хутары забрахаў сабака. „Няўжо такі?..“

Натапырыўшы вушы, Васіль ссутуліў плечы, уцягнуў у прыўзнятыя плячукі галаву, прыслухаўся: ніякага брэху.

— Чаго я так...

Хутар быў параўнаўча далёка. Можа поўгадзіны хады. Сонца па-плыло на поўдзень.

— Сто-ай!

Немы голас прасвідраваў спакойнае паветра. Васіль знянацку калых-нуўся на нагах, потым, астояўшыся, паглядзеў усцяж сценкі. Угледзеў: паскоранай хадою, азіраючыся, перасекла сценку жанчына; на паўгоней ад яе, махаючы ў паветры рукою, падбягаў мужчына. Хутка наперарэз жанчыне вырас з жыта яшчэ чалавек. То сям, то там, павыпростваліся, кінуўшыя жніво, людскія постаці.

Лагода прыбавіў кроку, увагнуў галаву. Ён зліўся з грамадкай ру-жанаўцаў у момант, калі тыя ветрам расступіліся ва ўсе бакі, прапу-скаючы выбегшую з асяродку натоўпа раз‘юшаную Люцю. За ёй рва-нуўся Пятрусь.

—Люця-а!—прагучэў яго роспачны голас і раптам абарваўся, яго заглушыў больш высокага тэмбра выкрык:

— Н-не-э пуш-чу-у!

То крычаў Каніца.

— Мужчыны,—кіньце-э!

Ігнат Перапёлка раздзяліў іх сваёю постаццю.

Лагода мігам апынуўся каля дзядзькі Адама. Адначасна з Перапёл-кам, які адводзіў у бок Пятруся Перагуда, ён павярнуў Каніцу ад на-таўпу і пачаў угаварваць яго супакоіцца.

— І я-а-ям-му пак-кажу-у, як замахвацца,—грэзіў Каніца, вырываю-чыся з Лагодавых рук.

Але было ясна, што ім не дазволяць схапіцца паўторна.

Ружанаўцы, абгаварваючы здарэнне, разыходзіліся да сваіх палосак. Каніцу ўзялі пад рукі: з аднаго боку—Лагода, з другога—Люця і ад-вялі ў глыб жыта.

Яны былі далёка на адгоне, калі Перапёлка пакінуў Петруся.

— Папомніце-э мяне, сволаччы!—кінуў ён убок цесця з жонкаю ды шваграм. Ён накіраваўся да падводы, ад якой насустрач яму ішоў бацька.

— Кінь, Пятрусь, сарамаціць людзей. Няхай іх ліха. Няўжо ты не абый-дзешся без крыку?

Пятрусь маўчаў глыбока затаіўшы пачуццё вострае помсты. Едучы з бацькам да свае палоскі, ён на завароце яшчэ раз азірнуўся туды, дзе стаялі на мяжы Каніца з Лагодай ды Люцяй. Карцела пусціць новую лаянку, але Лявон своечасова перашкодзіў заўвагаю:

— Не глядзі ў іх бок!..—Адна сямейка—на адну шыбеніцу...

Ужо конь стаў пры палосцы, калі Пятрусь, крыху адышоўшы ад гневу, запытаў:

— А Павал дзе?

— Пайшоў у калгас.

— Яму сваё,—удакорыў Пятрусь брата: каб тут забіліся дзе, дык некаму абараніць.

— А хто мог ведаць, дзе ты з кім стрэнешся...

Лявон хутка распрог каня, узяў на прыпон каля сценкі.

— Давай з паўганей зрэжам ад гэтага боку... Зараз маці падыдзе...

Пятрусь адмерыў пару разгоністых крокаў і згроб у руку першы зажын.

Далей Перагуды старанна жалі, заглушаючы посвістам сярпоў пераҗытыя хваляванні.

А гэтым часам на выжатай прагаліне у Каніцавай палосе праца не рухалася з месца. Каля жыта ляжалі два сярпы, нядбайна выпушчаныя з рук. Над імі стаялі Каніца з дачкою, Лагода. Адам безнадзейна махнуў рукой, сумна і зайздросна пазіраючы на ядранае збожжа.

— Нам астаецца адно, небажаты ..

Каніца адразу не знайшоў мужнасці вытлумачыць—што. Страшны сэнс слова—„уцякаць“ не мог трапіць на вусны.

—Што-а?!—шэптам запыталі ў адно слова Люця з Лагодай.

— Самае горшае .. ты мо' не ведаеш, Васіль, што мне дадзен тэрмін да пятніцы. Сёння наведвала з сельсовета цэлая камісія...

Васіль не адважыўся прызнацца, што ведае, бачыў.

— Хацелі сёння рэквізаваць, ды я адпрасіўся...

Падумаўшы момант, дадаў:

— А ты думаеш—Перагудаўскія выбрыкі не маюць агульнага з... Хах-ха-ха...

— Няма ў мяне, дзядзька, больш швграў з Перагудавага котла... Скончана... Вось... Учора вытурыў „сваю“ з хаты, каб і не смярдзела на маёй „бацькаўшчыне“...

Лагода зрабіў выгляд, нібы ён зрабіў вялікую справу.

Каніца з дачкою пранізалі яго пытальнымі ўзрокамі.

— Жонку прагнаў... к чорту... надаела мне. . не магу...

Яхідная, робленая ўсмешка заліла чэрствы і хмуры Каніцаў твар.

Люця таксама была рада гэткаму павароту справы.

— Няхай цяпер ходзіць у калгас,—засмяялася яна:—па крайней меры ніхто не перашкаджацьме...

— Ніхто...—выпала міжвольна з Васілёвых вуснаў.

Каніца паглядзеў Лагоду ў вочы.

— Учора ўсё роўна, што выкінулі мяне...

— У чым справа?!

— Хтосці, напэўна, падказаў, нібы я... мо'ж памятаеце... хацеў Снігічу... таго... нажом упароць...

Падазроны возірк ва ўсе бакі.

— Нядобра... нябожа,—і праз адзін толькі момант...

— А мо'... і лепш...

Каніца кіўнуў галавою і нагнуўся падняць серп.

— Будзем жаць, дачка.

— Што-ж будзем, дзядзька, рабіць далей?—распачліва развёў Лагода рукі.

— У дарогу...

Адрыўнае слова, рашуча выпаўшае з Каніцавых вуснаў, быццам спаралюшавала на момант Лагоду і Люцю.

— У дарогу-у? паўтарыў праз некі час Лагода і міжвольна рушыў з месца. На плячах лягла цяжкая ноша, якая здавіла горла і не дала праказаць развітання. Ён хістка дайшоў да мяжы з апушчанай галавою, а потым моўчкі хаваўся за жытам.

## XXXIX

Яшчэ мо' на гоні ад хутара, прагна ўзіраючыся ў асветлены сонцам шчыток у хаце, Васіль Лагода аблізаў сасмагшыя вусны і гучна свіснуў Спеваку. Сабака не адазваўся.

„Спіць недзе, каб ён здох",—вылаяўся ўслых. Паўставала злосць, а разам і падазронасць. Васіль кінуўся ўподбежкі, у думках лаючы сабаку. Вось і вешніцы ў двор: заткнуты, як і пакінуў. З разгону пераляцеў: з платоў спырхнула куча вераб'ёў.

— Спевак, на, на!—кінуў ён у канец двара.

Гучна бразнулі дзверы і з сянец, скавычучы, выкаціўся Спевак. Лагода разняў рукі, падаўся да Спевака, пачаў гасцінна лашчыць. І толькі тады, як падняў вочы на дзверы, угледзеў, што яны не толькі не замкнёны, а і не прычынены. З перапуду ён рвануўся к невысокаму ганачку, але апарэдзіўшы яго Спевак замяўся на парозе і збіў з ног: Лагода ледзь устаяў на нагах.

— Хто-а там?—дзіка гукнуў ён у сенцы, паспеўшы выпрастацца і таўхануць ад сябе дзверы.

Спевак з віскам ўскочыў у сенцы.

— Ні з месца, а то!..

Лагода абарваў сказ; ногі ўраслі ў зямлю, а спіна знайшла апору ў сцяне. Ён жахліва глядзеў на Паўла Перагуда, які спакойна пераціскаў вяроўкаю складзеныя на ложку падушкі. Побач з ім Волька згортала пасцілку. Васіля быццам бы не прыкмячалі: ні Павал, ні Волька не адвярнуліся. Лагода не заўважыў, каб швагер хоць кінуў на яго хоць абыякі позірк, наадварот—Павал нібы назнарок ажно прыгнуўся, націскаючы на шэры, падаўшыся пад ім клунак.

— К-кінце-э—прарэзлівым голасам выгукнуў Лагода.

Адначасна адарваўся ад сцяны і падскочыў да Паўла. Вось-вось яго працягнутыя рукі гатовы былі дзіка ўчапіцца ў швагравы плечукі, скалануць яго ў распаленай злосці і распправіцца з усёй звярынай жорсткасцю. Але Лагода пралічыўся: Павал не быў захоплены знянацку—ён насцярожана чакаў таго, або іншага манеўра з боку Лагоды, і ёмка стукнуў па працягнутых руках. Лагода хістануўся назад, непрытомна зірнуў у бок, шукаючы падмогі ад Спевака; гнеўна гукнуў на сабаку:

— Спевак, кус-сіы!

Сабака толькі паглядзеў на Паўла і замахаў хвастом.

— Спевак! кус...—паўтарыў Лагода з адчаю і ў гэты момант угледзеў перад сабой смяючыся твар Волькі; яна адведзенай рукою перагараджала дарогу Спеваку.

— Узломшчыкі-ы!—вырвалася з Лагодавых грудзей, перапоўненых абурэннем.

Міжвольна ён падаўся к Паўлу: цяпер яму ўдалося схапіць швагра за грудкі, моцна скалануць, падпёршы кулакі к падбародку. Здавалася ў гарачцы: яшчэ імгненне і ён бразне „ўзломшчыка“ на падлогу, наляжа цяжкім брусам і...—што-а таккое-е хістануўся сам: рэзка апусціў рукі.

— Ж-жарту-у-еш, бра-ат!—пачуў над вухам.

Васіль завагаўся, пачаў адступаць, адхіляючы галаву ад магчымых udараў; у злосці не соп, а стагнаў.

— Ты мне адкажаш цяпер за Вольку таксама.

— Вво-ан!—нема гукнуў Васіль.

Павал падступіўся да Лагоды і, калі той павярнуўся к дзвярам, ёмкім штуршком пад зад памог яму лягчэй пераступіць парог.

Васіль ледзве астояўся паза ганкам. Ён адчуваў сябе ў стане пабітага сабакі. Сударгі перакошвалі твар, вочы засцілаліся некім ліпкім туманам.

Ён нібы праз сон пачуў з сянец:

— Паддай мне, Павал!—казала Волька.

— Глядзі, ці не забылася яшчэ чаго?—пытаў Павал.

— Ты вазьмі, калі ласка, вось гэты пакунак,—прасіла Волька.

— Куфар няхай пастаіць пад замком... Пад яго адказнасць,—радзіў Павал.

У гутарку раптам уварваўся бразг жалеза, знаёмы шорпат ключа ў замку. А яшчэ праз хвіліну Васіль ужо пачуў цвёрды тупат, скрып дзвярэй за нагружанымі ношаю Паўлам і Волькаю.

— Зладзеі-і ы!..

Лагода намерыўся выгукнуць на ўсю сілу, каб яго пачулі ў палетку, у вёсцы, хоць бы дзядзька Адам,—але гукі выплылі з вуснаў ціхія і слабыя. У горле камяком сабралася клейкая пляга—звязала голас. Здрыгануўшыся ўсёй постаццю, нібы сабака, атрасаючы ваду, ён рызыкнуў яшчэ раз: крута сарваўся з месца, даскочыў з боку да Волькі, і рэзка рвануў з яе рук пакунак: па зямлі растрэсліся хустачкі, блузка, пара кашуль, вышыты ручнік, панчохі, Лагода дзіка затаптаўся бруднымі нагамі па чыстым адзенні.

— Вот т-та-абе э!.. Ввот!.. Гэ-э-гэ!..

Волька жахліва падалася к брату. З плеч сарваўся клумак, вось-вось гатовы таксама трапіць пад Лагодавы ногі.

Але ў гэты момант Павал ёмка падскочыў да швагра і адпіхнуў яго да платоў.

У нейкім п‘яным балючым ачуменні ён прастаяў так мо‘ з паўгадзіны. Галаву вадзіў дурман. Ён не бачыў, што рабілі жонка з братам з параскіданымі і патаптанымі ім рэчамі; не чуў, калі яны пакінулі двор і якім ходам вышлі з хутара.

Калі-ж крыху адлягло—азірнуўся на дзверы: яны былі зачынены і ўзяты на замок.

У двары не было нікога жывога. Ні адкуль ні гуку!

Грузна, шорпатна апускаліся на зямлю цяжкія ногі; з натугай падняліся на невысокія выступы ганкавых каменняў.

Лагода нервовым тузком вырваў прабой з зашчапкай—жалезная лёстачка дзвэнкнула аб клямку—рэха прарэзала двор, панеслася на прыгуменне, у палеткі.

У сенцах, куды ён пераступіў,—нічога асаблівага не прыкмеціў. Адсутнасць падушак на ложку абмінула яго ўвагу, ён увайшоў у хату. І там: кубельчык стаяў на сваім месцы, лахманы, пасудзіна—таксама. Пахла з каша пачынаўшымі гнісці рэшткамі недаедзенай Спеваком

свежыны. Васіль успомніў пра сабаку—здрыгануўся ад гневу: цяжка было даравадь за непаслушэнства, за зман, за здраду. „Н-ну, каб ён здох! Я-ж яму пакажу!“—мільганула помстная думка. Следам паўстала вострая ненавісць. Таўханула яго к вакну пераканацца—ці няма на двар Спевака. „Пабег за ёю, каб...“

Цікавасць праверыць кубел адціснула на задні план думкі пра сабаку. Лагода адкрыў века—усё, як пакінуў.

„Га-а—нябось, не паспелі яшчэ... я перашкодзіў!“—падумаў Васіль і раптам пачуў, што яму захацелася есці. З кубла смачна пахла свежыной. Ён падышоў да стала, знайшоў акраец чэрствага хлеба і пачаў есці.

З кожным глытком да Лагоды варочалася большая рухлівасць, задзёр і сіла. У галаву палезлі думкі, заварушылася праглівая скнарнасць. Як праз лясны шолам прагучэла дзесці глыбока ўнутры грознае слова, сказанае, здавалася, вось-вось, хвіліну таму назад, дзядзькам Адамам:

— Дарога!

Здарэнні няўмольна вялі к гэтаму. Выпадак з шваграм, смела і нахабна зайшоўшым без яго дазволу ў замкнутую хату і гаспадарыўшым у ёй, як дома,—шмат што кажа. Тут няйначай, як падрыхтоўка...

## XLI.

Пятрусь з бацькам ужо канчалі жаць цэлыя гоні, калі Домна прышла ім на падмогу. Старая не хацела пакідаць хаты, чакаючы перш Волькі на абед з калгаса, потым Паўла, які паабяцаў, выходзячы з дому, неўзабаве вярнуцца. Але час ішоў, а ніводнае не прыходзіла. Каб не марнаваць дня, яна рашыла пакінуць ім есці ў мыцельніку пад ручніком, а сама, захапіўшы пару гаршчэчкаў, панесла жняўцам абедаць.

Праз усю дарогу Домна рупліва пазірала ў бакі, кудэю, па яе меркаванню, маглі прайсці Павал і Волька, ды да самай палоскі нікога не прыкмеціла. Старую занепакоіла. Яе першым словам было да мужчын:

— Часамі сюды не падыходзілі ні Павал, ні Волька?

— Нне-э, чаму?—зацікаўлена перапытаў Лявон.

— Паўдня... а мо' і больш, а іх ніводнага не прычакалася дома...

Старыя ўселіся на прасту, на падасланым Домнаю лахмане. Пятрусь адагнуўся, выпрастаўся, падняўся на пальчыках. Паглядзеў, прышчурыўшы вочы ад сонца, у бок, дзе павінна было ісці калгаснае жніво, праказаў:

— У калгасе, напэўна, абед... Вось можа Волька цяпер пайшла дамоў.

Домна рупліва заварушылася на месцы.

— То што мне рабіць?

— Сядзі... Хутка будзем жаць.

Перагудзіха неспакойна пасядзела, пакуль мужчыны скончылі з ядою, потым паскардзілася мужчынам:

— Мяне непакоіць Волька; той лахудра гатоў дзе насцігнуць...

— Не пасмее,—суцешыў упэўнена Пятрусь: ён сёння сноўдаецца на нашых палетках.

Домна насцярожана паглядзела на сына...

— Гаспадар, называецца! Людзі працадні выпрабляюць, а гэты гультаіць... На жонку спадзяецца... Штучка! Бог даў цацу на Вольчыну шыю...

— Годзе тужыць... Волькі больш нічога з ім не звязвае. Годзе!—удакорыў Лявон.

— Ай, Лявонка, а як ад людзей...

Стары сурова зірнуў на жонку: над вачмі капяжамі навіслі густыя бровы; запалалі сярдзітыя агенчыкі.

— Што-а гэта з табою, Домна?.. Адкуль у цябе гэты непатрэбны жаль?

— Так, маці, кіньце свае развагі,—падмацаваў бацьку Пятрусь.

Домна адчула, як нешта абарвалася пад сэрцам; у галаве прабегла вострая думка, яркая, бы маланка: „А можа і так“.

Яны ўжо стаялі ўсе трое на нагах і ўсе трое ўмільна глядзелі на жыта.

Пятрусь пачаў першым жніво, але ўбачыў, што траім вузка палоска. Ён паглядзеў на старых.

Зразумеўшы яго думкі, Лявон праказаў:

— Жніце ўпадрад—не раздасі ўшыркі.

Ён пачакаў, пакуль Домна заняла месца побач з Петрусём, і адвярнуўся. Толькі зрэдку на вочы пападаліся паасобныя жыціны—яны жалі чыста, акуратна. Стары дбайна, склаўшы пальцы граблямі, выцягваў памятыя каласы. Ён старанна прайшоў да сценкі па адным баку палоскі, а на звароце—па другім. Назбіраў чуць не поўную жменю. Працягнуў да сваіх, нездаволена прамовіў:

— Бачыце, няма ў нас пашаны. Цэлая жменя жыта! Каб яго было многа, а то!..

— Колькі будзе—што-ж парадзіш,—падаў, не адгінаючыся Пятрусь:— Зямля не гумалястрык—не расцягваецца... Які шнур быў—гэткім і застаўся.

Лявон прыняў сынаву гутарку за намёк.

— Колькі мог, сынку, толькі і прыдбаў... Не так лёгка было некалі і гэту дставаць...

— Або я што кажу... Можа зараз і гэтай не трэба будзе...

Старая Перагудзіха затрымала серп, зірнуўшы на сына.

— Чаму ты так кажаш, Пятрусь? Або хто ў нас яе адбярэ?

Лявон зарагатаў ад душы: у Петрусёвых словах ён вычытаў намёк на калгас, які лагодна, можа і без намеру, выпаў з сынавых вуснаў, а маці не разгадала. Вось, дзіўная.

— Яно мо' і лепш было-б, каб ужо хутчэй!—праказаў ён невыразны ні для Домны, ні для Петруся сказ.

— Што-а хутчэй?—паглядзеў Пятрусь на бацьку, насцярогшыся...

— Ты гэта аб чым?—падзяліла сынаў настрой Домна.

Лявон задаволена ўхмыляўся.

— Аб калгасе, вядома.

— А хто цябе ў яго заганяе?

— Гм, дзівачка! Ты хочаш, каб заганялі .. Мы самі павінны пайсці... Чым мы горшыя ад другіх?

— Думаў-думаў і надумаўся...

Пятрусь маўчаў, ён сам навёў гутарку на гэту трапятлівую тэму, перад якою яшчэ губляўся. Свой шнурок моцна трымаў яго ногі прырослымі да зямлі. Шалясцела сваё жыта... Хлеб і кулі. Новая хата... Няхай мо' яшчэ троха так ідзе...

— Пацы нядаўна запісаліся... На пні здалі збожжа і зараз, напэўна, там жнуць...

Лявон паказаў пучком назбіранага жыта ў бок калгаса.

Там тарахцела жняярка. Чуліся невыразныя галасы.

— Пацы-і, што ты кажаш?! Табе нехта нахлусіў?

Домна недаверліва, з дакорам нізала вострымі ўзрокамі мужа.
— Не можа быць, тата,—усумніўся Пятрусь.
— А што, я вам байкі баю, або...
— Вось памагай жаць,—суха і гняўліва запрапанавала Домна.
Лявон пакорліва выканаў жончын загад.

Каля дзвюх гадзін яны жалі моўчкі, кожны перадумоўваючы недагаворaную гутарку.

Сонца, тым часам, знізілася настолькі, што жыта заценяла ад яго ўскосных, астыўшых праменняў. Лягчэй варушыліся рукі. Палоска хутка пусцела. Ужо яны дагналі да палавіны.

Раптам Домна ізноў успомніла пра Вольку, пра якую на нейкі час была забылася.
— Мо' ты-б, Лявон, пайшоў зверыўся ў калгас...
— Напэўна—жне,—заспакоіў Пятрусь.
— Але і Павал не прыходзіць... Хаця-б там дома чаго не здарылася... Ці можа...

Домна сама сябе разладжвала. Жала з перабоямі, амаль не за кожным зажынам азіралася назад; намервалася падганяць Лявона, каб ён паслухаў яго і перайшоў у калгас.

Яе прапазіцыя паказалася Лявону разумнай. І калі Домна, нарэшце, не сцярпела праказаўшы:
— То, як, асмелішся прайсці?
Стары Перагруд звярнуўся да сына:
— Як, Пятрусь? Шкада часу...
Сын падумаў:
— Спешка невялікая...
Лявон палажыў серп, адкасаў рукавы.
— У выпадку забаўлюся—не чакайце; запрагай каня і едзьце дахаты...
— Ды ўжо не клапаціся, як-кольвечы справімся дабрацца дамоў.

Лявон пакінуў сваіх і накіраваўся да сценкі. На граніцы калгасных палеткаў спыніўся. Жыта суцэльнаю сцяною перагароджвала дарогу: ні мяжынкі ні разоркі. Лявон завярнуў у бок. Ужо недалёка, перад узвышшам, чуліся галасы жняцоў, праца жняярак.

Ён хутка апынуўся каля выстаўленых бабак. На шырокім абшары ішла дружная праца. Дзесяткі жанок і мужчын старанна ўвіхаліся каля збожжа. Калгаснікамі валодала працоўнае натхненне, якое міжвольна ўплывала на настрой і думкі старога.

Перад Лявонам раскрывалася нябачная карціна супольнае працы. Людзі вольна, беспрымусна, гаспадарылі на сваім полі, паддаючы адно другому ахвоты і стараннасці. Ён прыпыніўся каля бліжэйшае ад сценкі бабкі і доўга ўзіраўся ў трапятлівыя, разгайданыя постаці калгаснікаў. Шукаў узрокамі Волькі. Але ні адна з жанчын не паказвала на яго дачку. „Запытаць-бы!“—падумаў і следам заключыў: „ужо адвячорак і Волька, калі яна тут, зараз пойдзе да хаты“.

Думкі аб Вольцы ўпіраліся ў жаданне прайсціся да калгаснага цэнтра, абгледзець усё, што там у іх робіцца. Купка будынкаў, сярод якіх выдзяляліся новыя пабудовы, вабіла Лявона да сябе. Ён дапускаў, што магчыма там стрэне Паўла, які, бадай, зараз знаходзіцца ў калгасе. А мо' часамі і Волька таксама там. У кожным разе старому ніколі не выпадала так ёмка апынуцца ў гэткім збегу абставін, як зараз. Быццам якаясці разумная сіла накіравала яго сюды, папярэдне стварыўшы адпаведны настрой...

Ён не заўважыў, як мінуў жытнія палеткі, зацягненыя перадвячэрняй

залацістаю дымкай, прайшоў круты залом на канцы яравых і ўперся ў шчыльна зачыненыя вешніцы. Спыніўся, не ведаючы, варта ці не— адчыняць, і з малаю прычынаю ўрывацца на калгасны дзядзінец. „Могуць падумаць“... Але Лявон хутка ўроўнаважыўся: „А можа прычына і не малая“... Упэўнена аглядзеўся, пасля рашуча адшчапіў вешніцы— ступіў у двор.

Ён калісці, пры Туране, бываў тут не раз. Памятае—адбілася ў памяці, як у люстэрцы,—прыходзіў выпрошваць занятага на атаве каня. Дрыжаў—няўпэўнены, чым стрэне яго памешчык... Тады вышаў кіраўнічы, гадзюка-гадзюкай—і колькі даў жаху!

„На цёмны лес!“—адмахнуўся Лявон рукою: у нутры так было лёгка прыемна!

Ён ідзе ў канцылярыю, як у госці, смела, бязбоязна. Там свае людзі... „Але што ім сказаць?“ Ногі не чакалі адказу, а вусны самі вымавілі:

— Дзень добры ў хату, таварыш старшыня!

Цеснаватае памяшканне калгаснай канцылярыі глушыла рэзвую гутарку траіх мужчын, сярод якіх быў і старшыня калгаса.

— Навіны несяце, дзядзька Лявон?

Старшыня ўсміхаўся таею-ж мяккаю, адкрытаю ўсмешкаю, якую адлюстраваў у сваім ваччу Перагуд пры памятнай сутычцы ў час рязмяжоўкі.

— Мне падумалася, што мой сын сюды пайшоў... не быў часамі?

Старшыня адышоўся к сталу; паказаў на ўслон:

— Сядайце, дзядзька!

Мужчыны, з якімі дагэтуль меў справу старшыня, пакінулі памяшканне.

— Павал?

Стары паспеў асвойтацца: застукаў вынятай люлькаю аб край стала, пачаў набіваць тутунём.

— Вядома, Пятрусь не пойдзе...

— Чаму так? Баіцца калгаса?

— Га-га-га! . Бадай угадаў, сыне.

— Дзіва...

— Табе-то што... Не ў мяне з Паўлам удаўся...

— Каніца памог...

— Няхай таго немач... Здэцца ўжо развяжацца... бог дасць...

Запаліў і зацмокаў. Шапяляючы, працягнуў:

— А між намі кажучы, яшчэ і сёння тузанку завёў з-за Люцi... Ай, апрыкрыла, таварыш... З аднаго боку Каніца, з другога—Лаг...

Не дасказаў, быццам, усумніўшыся ў пільнай насцярожанасці старшыні. „Да чаго яго хітрая ўсмешка?“ Памаўчаў...

— Абое-рабое, дзядзька... Ён у нас натварыў усякае пакасці, таксама... Але ўжо мы з ім разлічыліся: годзе няньчыцца. Няхай міліцыя працягвае справу.

Лявон ажно падняўся з месца. Кальнула няяснае спачуванне да зяця.

— Можа выпісалі з калгаса?

— Выпісалі... Сёння раніцою... Жніво, а яго няма... Навошта тады?

Старшыня хвіліну памаўчаў.

— Пэўна ведаеце, што ён намерваўся зрабіць з Юстынам Сніпічам? Усе доказы на яго... А з цялятамі?.. Чацвёра прышлося дарэзаць—злачынна абпасвіў на канюшыне... Быку—у нас ёсць галяндэрскі—парашка падсыпаў—каторы дзень не бярэ ў рот нічога...

— Дрэнь... дрэнь... Ці ты бачыў!-тое!.. А ўстаноўлена як-раз?.. Тады...

Стары закалыхаўся ўсёй постаццю.

— Доказы, кажу, супроць яго. .

— Пагана... А я думаў, што ён толькі з жонкаю ўмее ваяваць, ажно-ж яшчэ і вунь як... Учора збіў дачку да поўсмерці і выгнаў з хаты. Ноччу прыбегла, трасецца, плача... Чуеш?

— Нават?

З старшынёвага твару збегла ўсмешка. Ён сярдзіта стукнуў кулаком па стале.

— І вы маўчыце?

— Павал узяўся...

— Ну-у... Лагодава месца-а...

Ён штосьці запісаў на блакноце і прыкрыў напісанае замурзаным без галоўкі, прэсам. І ўжо зусім інакшым тонам запытаў:

— Жняце?

— Пачалі.

— Добрае жыта?

— Як табе сказаць... Не вашаму роўня...

Старшыня засмяяўся:

— А аднаасобнікі-ж не вераць... Думаюць, што без іх ніхто нічога не сумее...

— Розныя ёсць... Я ўжо не скажу, калі сваімі вачамі ўгледзеў... Ды, сапраўды, ці-ж у калгасе не тыя самыя людзі?

— Вось нядаўна Пацы запісаліся, пэўна ведаеце, дзядзька?

— Чаму-ж не... Казаў сваім, дык не вераць.

— Праўда, праўда... Учора афармілі... Збожжа на пні здалі...

— А як-жа далей?

— Залічым усе іхнія працадні... Не прайграюць...

— Дзе-ж!.. Гэткі, дзякуй богу, у вас ураджай! Аж міла...

— Тут, дзядзька, менш усяго ад бога...

— Ведаю, таварыш дарагі, але прыказка ўжо гэткая...

Лявон адчуў некаторую няёмкасць. Часцей зацмокаў люльку... Спяшаючы згладзіць невыгаднае ўражанне, вярнуўся да Пацаў.

— Даніла добра зрабіў, што перайшоў да вас... Малайчына... Хвалю яго... Што-ж, сям'я дружная..

Старшыня закінуў, выпрабоўваючы старога.

— Калі-ж прыдзе ваша чарга?

Лявон абапёрся аберуч аб заслон; адвёў на хвіліну вочы ўбок, нібы шукаючы побач сябе больш трапнага адказу, пасля раздумна вымавіў:

— Прыдзе, нябож .. І скора прыдзе... Вяду сярод сваіх агітацыю... Яно-б, мо', і ўжо трэ' было-б думаць, але... Ведаеш, трэба нарыхтавацца, як мае быць... Адказны крок...

— Цяпер, калі Павал дома, па-мойму, вельмі зручна... Ён-жа чалавек у вас разумны... Пэўна намякаў ужо вам?

— Чаму-ж, была гутарка..

Ён весялей зірнуў на старшыню.

— Ды мяне ўгаварваць няма чаго... Я, браток, ужо рашыў... А за мною пойдзе і Пятрусь...

— Дык у чым затрымка?

Перагуд азірнуўся ў адчыненае вакно. І раптам успомніў аб кулях:

— Выбачай, сыне, мне... Пераб'ю цябе... Я ўспомніў якраз... Мы хату канчаем... Пачалі ўжо накрываць—ды кулёў не хапіла... Мо', была-б ласка, у калгасе пазычыць якую-з капу... Га-а?

Старшыня зразумеў Лявонаў манеўр.

— Кулёў?—перапытаў у старога:—Мне, пакольki я прыпамінаю, Сніпіч нешта казаў ужо пра гэта... Старых няма, дзядзька, а новых...

— Можа новых.. Капу, паўтары... Увойдзем у калгас—разлічымся.

Абодва засмяяліся.

— Зробім!

Старшыня вышаў з-за стала. Устаў і Лявон.

На двары абвісаў змрок. Дзядзінец напоўніўся гавядай, авечкамі. Загуў гутаркаю, рыкам, стукам і сумятнёю. Працоўны дзень канчаўся.

— Вы бачылі, якое мы будуем гумно?—пераступаючы парог, пахваліўся старшыня:—Мо' хочаце паглядзець?

— Новае гумно?—перапытаў Лявон.

— На сем пар сох...

— Цікава... Пройдзем...

Яны павярнуліся к гумну, і нечакана ўгледзелі перад носам Лагоду. Старшыня мігам спыніўся, прытрымаўшы за руку Лявона.

— За вошта вы мяне выключылі з калгаса?—Лагода ліхаманкава змерыў суровым, драпежным узрокам старшыню і цесця.

— Ты заслужыў гэтага...

— Чым?

Лагода падаўся да старшыні.

— Хто табе казаў, што я быку падсыпаў парашка? Кажы... нягод..—роў, захліпаючыся ад злосці.

Перагуд стаяў моўчкі, збянтэжаны, не ведаючы адкуль усё гэта ўзялося.

— Я-а-а т... табе паккажу быка...

Лагодаў кулак апынуўся перад старшынёвым тварам. Але Лагода не паспеў зрабіць далейшага руху, як стары Перагуд ёмкім ударам люлькі па костачках пальцаў прымусіў яго апусціцца. Лагода не чакаў гэтага ад Лявона і, загарэўшыся, бязлітасна стукнуў старому ў грудзі. Лявон як стаяў, бахнуў аб зямлю, якая на шчасце, у гэтым месцы была пяшчанай, не цвёрдай. Ціхі стогн вырваўся з вуснаў Перагуда. Старшыня дарэмна замахнуўся, каб затрымаць Лагоду. Ён не паспеў рушыць з месца і падаць сігнал да пагоні,—так порстка Лагода марсьkануў да платоў, за якімі, відаць, яшчэ ззавідна стаяў.

Васіль ужо быў за межамі калгасных гародаў, накіроўваючы ў бок недалёкага гайку, калі старшыня паклікаў конюха і выбег з ім за вешніцы дзядзінца. Пагоня не мела сэнсу, Лагоды не было відаць.

Яны паглядзелі ў атуманеныя змрокам прасторы і вярнуліся назад. Перагуд тым часам падняўся, трымаючыся рукамі за паясніцу. Люлька ляжала на прымятым пяску.

— Ну, што? Уцёк, паганец?—расчаравана запытаў ён старшыню.

— Толькі яго і бачыў!—адказаў конюх, пакідаючы іх двух.

Перагуд цяжка пераступіў з месца на месца. Потым успомніў пра люльку і спалохана павадзіў вачыма па зямлі. Старшыня першы ўгледзеў і падаў старому.

— Можа вам памагчы зайсці дамоў?..

— Нічога! Дзякуй... Даклыпаю... Каб не пераняў толькі дзе-колечы ў полі... Тады, сцерва, абязвечыць...

— Не думаю, каб ён там круціўся... Напэўна ўцёк у гай... Цяпер яму нездабраваць...

З натугаю зрабіў першых некалькі крокаў; але хутка пайшоў шпарчэй, а за вешніцамі ўжо ішоў сваёю звычайнай рухавай хадою. Старшыня правёў яго да завароту сценкі...

## XLII

Павал з Волькаю вярнуліся з Кудравага ясеня ў момант, калі Домна заварочвала з сценкі на сваю палоску.

У двары, перад вешніцамі яны на момант спыніліся: адразу не ўгадалі, што дома няма нікога, што маці не магла іх дачакацца.

Волька спяшалася вярнуцца ў калгас. З-за наведаў „Кудравага ясеня" абедзенны яе перапынак зацягнуўся больш, як належала.

— Ты ўжо, Павалка, сам уладуеш пасуду, мне трэба бегчы. І так спазнілася,—падаючы яму есці, праказала Волька.

— Ідзі, дам як-небудзь рады... Перакусіла-б хаця...

Калі яна стукнула дзвярыма, Павал пусціў ёй уздагон:

— А ў „Кудравы ясень" няхай заўтра з раніцы пойдзе Пятрусь. Ключ-жа ў нас.

Волька, як аб другарадным нечым, абыякава кінула:

— Добра!

Павал усміхнуўся.

Самі сабою фармаваліся розныя дапушчэнні і меркаванні аб расплаце за Вольку. Пастанова выключыць з калгаса здавалася Паўлу недастатковай карай гэткаму шкоднаму, небяспечнаму элементу, якім з'яўляўся „былы" яго швагер. Лагода гатовы пайсці на розныя гадасці—гэтага ў яго не пазычаць; і трэба дзівіцца, як такі прыпынілася справа аб яго замаху на Сніпіча? Няўжо так цяжка распутаць гэтую справу пры наяўнасці відавочных западозранняў? Трэба перамовіцца з Янінай ды сакратаром ячэйкі, самому ўзварухнуць гэту справу. Шкада, што часу засталося мала.

Там, у Менску, яго чакаюць...

Ён непрыкметна для сябе пераключыўся на непасрэдныя свае абавязкі. У думках паўсталі цэхі, машыны, станкі, сыравіна і гатовая прадукцыя. Усё да таго выразна і адчувальна, што Павал на нейкі час захапіўся іх знаёмай карцінаю. У гэты момант яго сарваў з месца раптоўны стук у вакно.

— Тэлеграма!—прагучэў голас у вакне.

Павал пераняў з рук запыленага разносчыка прымятую паперку, разгарнуў.

„Захварэў дырэктар. Завод без кіраўніцтва. Паспяшыце выездам".

Ён прачытаў яшчэ некалькі разоў і клапатліва затупаў па хаце. Удакорыў сябе, чаму не выехаў некалькімі днямі раней.

Узрушаны, заклапочаны, ён доўга мерыў хату з кута ў кут, не выпускаючы з рук тэлеграмы.

Потым вышаў у двор. Але за вешніцамі спыніўся захоплены сузіраннем гасцінца. Быццам толькі цяпер ён угледзеў гэту шырокую дарогу. Той самы ўкрадлівы тон рэвітання, заўсёды гэткі чуллівы і мілы, уразлівы і сумлівы, прыкаваў яго да мяккага пяску.

Нечакана вырасла перад ім знаёмая постаць Яніны. Так дарэчы яе з'яўленне! Дзяўчына ішла проста на яго, сваёю лёгкаю хадою. Ціхі ветрык трапаў кучаравыя валасы.

Павал напружана глядзеў ёй насустрач. На твары іграла салодкая ўсмешка. Яніна адказвала цёплаю ўсмешкаю.

— Ты куды сабраўся ісці?—запытала яна, падышоўшы да Паўла. І ўслед паведаміла:—Цэка комсамола заклікае мяне ў Менск.

— Якое супаданне!—узрадавана вымавіў Павал.

Запытаў:—Для даклада выклікаюць?

Яніна дакорлівым узрокам змерыла яго постаць.

— А ты сумняваешся?.. Напэўна, для даклада.

У адказ Павал моцна паціснуў дзяўчыніну дробную руку, пераклаўшы к сабе на калені. За рукою падатліва Яніна схіліла яму на плячо голаў: заказытала валасамі па твары. Жвава аглянуўшыся навакола, Павал надарыў яе пацалункам у вісок. Яніна паківала перад ім указным пальцам і некрыўдліва засмяялася.

— І ў мяне былі сёння заняткі; своеасаблівыя пры тым.

— Цікава пачуць...

— Гісторыя з Лагодаю.

— Ізноў?

— Як бачыш...

— Ну-ну, кажы.

Павал пераказаў Яніне ўсё, ад слова да слова і заключыў:

— Трэба з гэтым прахвостам канчаць... Для Волькі гэта пытанне вырашана... Але ты выедзеш, а тут...

Пачакаўшы запытаў:

— А следства аб замаху на Сніпіча спынена?

Павал пачуў над вухам:

— Я мяркую адправіць Лагоду ў раён: няхай там працягваюць справу.

— Адпраўляйце, толькі не спазніцеся...

І даведаўся:

— А як справа з Каніцам?

— Днямі здае кантрольнае, а там... Мне думаецца, што і яму дарога „туды"...

Абое порстка павярнуліся к двару: рэзкі скрып вешніц перарваў іх гутарку. Перагнуўшыся на верхнюю перакладзіну, паглядаў у іх бок стары Перагуд.

— Чым хутчэй, тым лепш—кінуў Павал Яніне і запытаўся ў старога:

— Бацька?! З палеткаў? Чаму так позна?

Лявон вышаў за вешніцы, прывітаўся з Янінай.

— А нашых яшчэ няма?

Павал дапытліва паглядзеў на бацьку; запытаў:

— А хіба вы не былі на полі?

— Быў... але падвячоркам зайшоў у калгас.

— У калгас?!

Яніна зацікаўлена чакала далейшых Лявонавых паведамленняў.

— Так. . Пагутарылі, ведаеш, з мацераю і я пайшоў .. Думалі, хаця-б гэты „наш" злодзей не напаткаў дзе-колечы Волькі ды... Жарты з гэткай шэльмаю малыя... А ты, часам, не быў там?

— Не-э... А Волькі не бачылі?

— Прышла... Вунь у гародзе збірае зелле...

Стары закалупаўся з люлькаю, выглядаючы, дзе-б яму прысесці.

— Калі ласка!—запрапанавала Яніна.

Лявон расказаў гісторыю стычкі з Лагодаю. Павал здрыгануўся.

— Бачыш!—толькі і мог праказаць, рэзка павярнуўшыся ў бок „Кудравага ясеня".—Чаму, бо, вы марудзіце з арыштам гэтага падлюгі?—дакорліва, з падвышаным тонам праказаў ён да Яніны.

— Шша-а... яшчэ не было калі... Цяпер ужо кончана... Сёння—званю ў раён...

Пастаяўшы, яны павярнулі ў двор. На гасцінцы ў згушчаным змроку паказалася падвода—то ехаў Пятрусь з маткай.

— Чаго было так пазніцца?—пераняў яго ў вешніцах Лявон.

Пятрусь і Домна ветліва прывіталіся з Янінай.

Каля парогу Лявон далікатна загарнуў руку за дзяўчыніны плечы і жартоўна праказаў:

— Заходзь, заходзь, таварышка, у хату.

Калі ўсе, за выключэнннм Петруся, апынуліся ў сенях, Домна раптам здзіўлена запытала, паглядзеўшы на ложак.

— Што гэта тут, Лявон?

Стары Перагуд падбег да ложка і пачаў мацаць раскладзеныя клумкі.

Волька зарагатала:

— Гэта мой пасаг... Мы даставілі яго сёння з Паўлам.

Домна здзіўлена глядзела на дачку. У Вольчыным паведамленні прагучэла для старое прыкрая, непрыемная навіна. Яе матчына сэрца адчула глухі, невыразны боль. Дагэтуль яшчэ пад злосцю на Лагоду варушылася нейкая невыразная надзея, думка, што ўсе гэтыя сямейныя нелады—бытавое, знаёмае ёй з'явішча,—пройдуць. Цяпер уся Домніна істота напоўнілася адным няясным пачуццём нейкае вялікае страты.

— Чаго задумалася? Шкадуеш таго прахвоста?—паклікаў жонку Лявон, калі разам з Паўлам, Волькай ды Янінай вайшлі ў хату:—Кідай думаць непатрэбнае. Хадзі ў хату.

Ён адвярнуўся ад дзвярэй і весела паглядзеў на прысутных.

— Вы, пэўна, таварышка, не цікавіліся, які ў калгасе сёлета ўраджай... На дзіва, ведаеце! .. не выходзіць з думак... Ішоў гэта я туды і дзівіўся: гэтулькі нажата хлеба! Бабак, як дрэў у густым лесе! А зерне! Фасоля—ды годзі! Расцёр каласок—а чуць не жменя... Вось гэта я разумею... Пацікаўцеся...

Павал многазначна пераглянуўся з Янінаю.

— А многія з вашых ружанаўцаў думаюць іншае пра калгас.

— Не думаюць, таварышка Крэмень, а проста вярзуць лухту,—спакойна праказаў Пятрусь.

На яго паглядзелі ўсе разам.

— Гэта праўда,—адазвалася Яніна.

— Паглядзелі-б, якое аднаасобніцкае жыта, асабліва ў прыкурганішчы, тады-б... Але нашы прывыклі ўжо малоць языкамі. Па ўсяму відаць, што аднаасобніцкі шлях заходзіць у кут.

Пятрусь спагадліва кіўнуў галавою, паглядзеў у вакно:

— Ды ці варта тужыць аб гэтым...—умяшалася Волька.

— Я думаю, што не,—задаволена сцвердзіў Павал.

А па вашаму, дзядзька?—звярнулася Яніна да Лявона.

— Па мойму...—стары развёў рукамі...—Па мойму, як і па Паўлаваму... Або-ж мы нягодны разам з іншымі мець пяць пудоў з капы, а не тры? Ці нам не ўгадаць нараўне з іншымі прызвычаіцца да агульнае працы?... Я заўсюды тае думкі, што совецкая ўлада селяніну крыўды не намерана рабіць... Калгасы, калгасы... Колькі было дарэмнае гутаркі, сполаху, а цяпер, вось, памацайце жытнія каласкі, паглядзіце на ярыну, пацікаўцеся будынкамі, што выводзяцца новыя... На сорак штук цялятак! На вачах расце, багацее... Вось што я скажу... Можа Петрусю і не зусім спадабаецца гэта, ну, я ўпэўнены, пасля сам скажа, што я быў праў...

Волька гасцінна ўсміхалася. Цямней і туманней была Лявонава развага для Домны, але і яна адчувала ў мужавых словах штосьці гэткае блізкае і няўмольнае, навошта сэрца адгуквалася прыемнай трапятлівасцю. Хоць тужэй за другіх, усё-ж здаваўся на бацькаву логіку і Пятрусь.

— Мне здаецца, што Пятрусь ужо не трымаецца ранейшых поглядаў,—звярнуўся да брата Павал.

І гэтыя Паўлавы словы да таго трапна цэлілі ў Петрусёў настрой, што той не стрымаўся, каб не ўсміхнуцца...

— Ну добра, мы ж ідзем наперад, а не назад... Будучае пакажа... Давайце, маці, вячэраць!..—адвёў Пятрусь агульную ўвагу ад свайго настрою.

Яніна паднялася з месца.

— Цяпер я вясельшай пайду ад вас, чым прышла..

Пятрусь адказаў на гэта выразнай усмешкай.

— Толькі пасля вячэры,—перагарадзіў ёй дарогу.

Волька адсунула стол і паказала Яніне месца.

— Не крыўдзі нас, таварышка. Ты-ж наша лепшая знаёмая,—адкрыўся Лявон, садзячыся першым.

Домна весела несла к сталу вагромністую лаханку пахушчага салодкага бацвіння.

## XLIII

За вячэраю Пятрусь яшчэ выразней сказаў аб сваіх змененых адносінах да калгаса.

Не схавала свайго здавалення ад агульнай пагоджанасці ў поглядах сям'і і старая Домна.

Стары Лявон урачыставаў перамогу сваіх думак: нарэшце справа накіроўвалася да агульнае згоды! Перыяд непаразуменняў і падазроных позіркаў адыходзіў у мінулае.

Ён не ўцярпеў, каб, вылезшы з-за стала, не пранізаць праз вакно шэры адгон да калгаса. Над зялёнымі купамі дрэў, здавалася, лавіла яго думкі ўзнесеная будыніна новага гумна. Лявону захацелася выказаць сваё захапленне, але маўклівы выхад з хаты Петруся пераняў яго жаданне. Стары нашарохана кінуў удагонку сыну:

—Ты можа ізноў?..

Слова „перадумаў" Лявон спыніў на вуснах.

— Не-э, нічога... я падкіну каню травы...—адказаў Пятрусь з сянец.

Ніхто не прыдаў іх гутарцы асаблівага значэння і гэта супакоіла Лявона.

Ён дакорліва кругнуў галавой, калі сельсоветчыца рыўком узнялася з месца, накіраваўшыся да дзвярэй.

— Дарма зусім, таварышка, дарма—ідучы за Янінай, казаў ён,—пагуляла-б яшчэ... Не забывай-жа!.. Хутка-ж едзеш!

— Дзякую!.. Што, можа вярнуся...

Лявон не сцярпеў, каб не выйсці ў сені і не пастаяць у парозе, з прасунутай у двор галавой, пакуль Павал з Янінай не схаваліся за рогам хаты.

Калі іх крокі разам з вясёлаю гутаркаю сціхлі, стары ўспомніў пра Петруся і гукнуў:

— Пе-ат-ру-усь!

Адказу не было. З хлява данеслася гучнае фырканне каня. Лявон зазірнуў у хлеў. Пятрусь, відаць, спраўдзіў словы, бо конь умінаў падложаную груду травы. Але старога Перагуда гэта не здаволіла: яго больш зацікавіў Петрусёў манеўр, прыкрыты дбайнасцю да каня.

— Відаць, не ў гэтым прычына выйсця яго з хаты,—усумніўся.

Зарупела.

Ён вышаў за вешніцы і недаверліва гукнуў у цёмную ноч.

— Петр-усь!

Вокліч прымусіў павярнуцца Паўла з Янінай, якія абміналі першую вясковую хату. Іх гутарка раптам абарвалася, і Павал спалохана запытаў:

— Што там магло здарыцца?

Ваганне—вярнуцца, ці не звяртаць увагі, хутка змянілася ўроўнаважанасцю, і яны тым-жа размераным крокам пашлі далей.

— Я рада, Павал, за тваю сям'ю; можаш спакойна варочацца да сваіх непасрэдных абавязкаў.. Маладзец—сумеў многае зрабіць... Прыемна слухаць бацькаву разумную развагу... Стары твой не дурны чалавек...

Яніны словы прабеглі ў нутры асалодай. Паўлу лісціла.

— Так, мой стары разбіраецца... Ведаеш, жыццё вывучыла мудрэй ад універсітэтаў... за яго я быў заусёды спакойны... Волька клапаціла мяне, але ўжо і тут вузёл рассечаны... А бачыш, што сталася з Петрусём? Зусім іншы чалавек... Як дзіўна наша сапраўднасць перарабляе людзей!

— Значыць, ты рыхтуешся ў дарогу?—ні то канстатуючы факт, ні то перапытваючы, праказаў Павал.

— Мушу... Як чалавек дысцыплінаваны,—заверыла яна.

— Пазаўтра?

— Хоць і заўтра...

— Каго-ж ты мерышся пакінуць за сябе?

— Думаю—Сніпіча...

Рэзкі трэск, знянацку пачуўшыся зусім нездалёку ад іх, насцеражыў абоіх. Яны спыніліся і паглядзелі ўправа ад сябе. Каля загарадзі палісаднічка мігнуўся людскі сілуэт.

— Хтосьці падслухоўвае,—шэптам на вуха папярэдзіў Яніну Павал.

— Ці ліха! Мо' хто вышаў з хаты па справах, або...—усумнілася Яніна, тузнуўшы Паўла за руку.

— Ч-чу-е-эш!.. В-во-а!

Прыглушаны стук, дапамінаючы бразг засаўкі аб прабой, прарэзаў вясковую цішу. Следам зноў усё маўчала, выдаючы іх прыцішаную хаду.

— Жніво... Людзям не спіцца...—дапусціў Павал, няўпэўнены ў логіцы падобнага дапускання.

— Мне здавалсая-б, што, наадварот: напрацаваўшыся—людзі павінны-б адпачываць,—не згадзілася Яніна.

І Павал моўчкі быў згодзен з спадарожніцаю.

Яны падышлі к хаце, над якой цямнела густая карона клёна, і прыселі на лаўцы. Павал абняў роўныя Яніны плечы і падставіў нахіленай яе галаве шырокія, злёгку выпуклыя грудзі. Дробная постаць Яніны здавалася, урасла ў моцную, пруткую Паўлаву фігуру. На адзін момант іх вусны зліліся ў працяжным пацалунку.

— А хто нас адвязе?—вярнула ў сапраўднасць абаіх Яніна.

— Знойдзем чалавека,—адказаў Павал.

— Ды хоць-бы той самы Пятрусь...

Рэзкі вісклівы брэх сабакі ў суседнім двары падняў іх з лаўкі; насцерагліся. Праз пару хат хтосьці ўкрадліва барабаніў у дошку.

— Ці не ў Каніцы!—штосьці падказала Паўлу!—Я прасачу...

— Чаго? Не варт!

— Пасядзі!—я зараз...

Ён правёў рукою каля пояса і рушыў з месца.

— Пры сабе?—спыталася Яніна.

— Ёсць...

Хутка яго постаць расплылася ў цемры. Сабака брахаў дзесьці па загуменню.

Яніна непарушна стаяла на адным месцы, прытуліўшыся да вугла. Яе напружаныя ўзрокі бязмоцна свідравалі густую цемру парнае ночы.

Навокал паўставалі рознастайныя гукі, шорпат, трэск, мітусня.

Гэта вычварная музыка ночы не гарманавала з яе нерухомасцю.

Яніна не сцярпела і адышла ад хаты. На трэцім кроку яна пачула перасцярожнае:

— Ты куды?..

Быццам у адказ прагучэла:

— Хто там?

І следам спакойнае:

— Я, пусці...

— Адыйдзі, Яніна, к плоту,—запрапанаваў Павал, крануўшыся далей ад яе.

Паўторны стук, больш нервовы і настойлівы, гучнай дроб'ю пракаціўся па вёсцы. З яго вырвалася рэзкае:

— Люця-а, адчыні!

— Ты з кім?—дайшло з-за брамы.

— Адзін. . Адчыні!

Ціхі бразг жалеза прыглушыў тупат Паўлавых ног. Ён непрыкметна падаспеў к месцу, дзе момант назад стаяў яго брат. Тая-ж няроўная шчылінка між дзверцамі і шулам выдала перш цмянае святло, выплываўшае з адчыненых сяней, потым і пару мігнуўшых людскіх сілуэтаў; яшчэ праз момант выдаліся абрысы запрэжанай падводы. Нагружаны воз косаю лініяй цені адразаў цмяна асветлены простакутнік дзвярэй.

— Вы куды сабраліся ехаць?—нервова прашаптаў Пятрусь.

— Далучайся, калі маеш ахвоту,—гарэзліва адказала Люця.

— Нікуды, Люця, не паедзеш! Хадзем дамоў, Люця!—ужо ўголас запрапанаваў Пятрусь.

— Дамоў?! Ккуды гэта?—Ххі-хі-хі!—зарагатала Люця.

— Кінь гуляць з агнём!

— Вво-ан!

— А-ах! Вы ізноў пшаніцу тапіць!.. Го-одзе-э! Даволі.

Узняўшыся на вышэйшую ноту, Петрусёў голас раптам абарваўся... І за гэтым ні то стогне, ні то крэкце, змешаным з грузным тупатам ног, пачуліся глухія ўдары кулакоў.

— Вво-ась т-таббе пшаніца, зладзюга... Вось... Люця-а, зацягай вяроўку-у...

Мігам клубок жывых цел закачаўся каля воза; воз заскрыпеў, штосьці непрыемна зарыпела і, нарэшце, вырвалася рэзкае:

-- Р-ратуйце-э!

Павал з маланкавай шпаркасцю выраўняўся ў струнку, адвёў калена і з усёй сілай стукнуў у дзверцы. Гучны гул скалануў вёску. У ім расплыўся падвойны стрэл убегшага ў Каніцаў двор Паўла.

— Рукі ў гару!—крыкнуў ён у твары хутка не здгінаўшымся ад ляжачага Петруся Каніцы і Люці.

Пятрусь усхапіўся на ногі, але пахіснуўся, працягнуўшы рукі да Паўла і адгарадзіўшы яго ад Каніцы.

Апошні, выкарыстаўшы гэту замінку, стрымгалоў сарваўся з месца,

залапатаў нагамі і схаваўся ў напрамку прыгумення. Выпушчаны ў дагонкі наганаўскі набой зашалясцеў па лісці садовых дзярэў.

— Сто-ай!—закрычаў немым голасам Пятрусь. Але памкнуўшыся бегчы ён з гарачкі наскочыў на адступіўшую з боку Люцю і, ашчаперыўшы яе абедзвюма рукамі за грудкі, сіберна і злосна страсянуў, як грушу.

— Ай, завошта ты мяне!—запрасілася Люця.

— Будзе вам цяпер і патопленая пшаніца і...

На вуліцы, за брамаю чулася трывожная гаворка. Адначасна ў варотцы застукала некалькі кулакоў.

— Упусціце!

Гукнула Яніна, сваім голасам здрыгануўшая Люціну постаць.

Павал адчыніў незасунутыя дзверцы.

У двор увайшло следам за Янінай некалькі чалавек. Некалькі асталося пры дзверцах брамы.

— У чым справа, Павал?—узбуджана хапіла яго за штрыфель жакеткі.

— Яшчэ-б пару хвілін і Пятрусь стаў бы ахвярай кулацкага замаху...

Ён порстка падняў абмацаную нагамі вяроўку.

— А-а-а!—Вунь яно што а! ...Сво-алач!.. Банды-ты!—сурова праказала Яніна, хапіўшыся аберуч за голаў.

І адвярнуўшыся да Петруся, які ўсё яшчэ крэпка трымаў у руках Люцю, паднесла да вачэй вяроўку.

Пятрусь вытрашчыў ад жаху вочы. Ён аж хістануўся на нагах, з неасцярогі стукнуўшыся бокам аб канец біла, і злосна таўхануў ад сябе Люцю. Тая знячэўку чуць не распласталася на зямлі, ужо каля дзвярэй у сенцы астояўшыся на нагах.

— Суніміся, Пятрусь!—пераняў Павал.

Яны абышлі з Янінай навакол нагружанага воза.

— І вы гэта думалі з гэткай паклажай уцячы?—абярнулася Яніна к Люці.

Каля брамкі пачуўся рогат, рэплікі.

Люця змаўчала. Потым, праз момант, дзіка крыкнула ў бок вуліцы:

— А вам чаго? Тут не вяселле!..

І схавалася ў сенцах.

— У двары трэба пакінуць варту,—парадзіла Яніна, азірнуўшыся на стаяўшых мужчын.

Тыя замяліся і хтосці адзін паведаміў:

— Вось прышоў вартаўнік Сымон!

Высокага росту мужчына, змяніўшы ў двары павыходзіўшых ружанаўцаў, рухава апынуўся перад Янінай.

— Што скажаце, таварышка Крэмень?—паслушліва запытаў ён.

— Вы сёння, дзядзька, вартуеце?—даведалася яна.

— Так, вартую...

— Вось вам заданне: распражыце каня, пастаўце ў хлеў ды пільнуйце воза і хаты... Сачыце, каб ніхто не вышаў і не ўвайшоў... датуль, пакуль вас не зменяць...

Вартавы ўважліва разглядзеў цёмныя сілуэты людзей, воза, абстаноўку двара; ён згодліва адказаў:

— Што-аж, калі трэба таварышка-а...

Але наблізіўшыся да Петруся і, пазнаўшы ў ім Перагуда—поўшэптам вымавіў:

— Лявонавіч, у чым справа?

— Пасля даведаешся.. Пільнуй, каб гэтыя паскуды не сцягнулі нічога... Люця ў хаце—адна...

На вуліцы гутарка сціхла; у розных месцах пачуліся знаёмыя скрыпы вешніц, стукі засавак у дзвярах. Здаўлены скігат сабакі абарваўся і замёр...

Сымон Губка, астаўшыся адзін, перасцерагальна з пачуццем ускладзенай адказнасці зачыніў сенешнія дзверы, зашчапіў і пыткнуў абмацаным пры сцяне калочкам. Пасля прайшоў у канец двара, абглядзеў хлявы ды іх запоры і вярнуўся, каб выпрагаць каня.

## XLIV

На гэты раз Павал спаў у сенях. Яго абудзіў грукат уехаўшага ў двор цяжкага воза. Расплюшчыўшы вочы, ён зларіў яркі пучок святла, якое ўрывалася праз вакенца ў сені. Разам з святлом даносілася руплівая, клопатная нервовая гутарка сямейных. Паўла заінтрыгавала: ён адразу ўспомніў, што Пятрусь досвіткам меўся паехаць адзін ці з бацькам у „Кудравы Ясень“ па Вольчын куфар. „Зараз, напэўна“... Было не да сну... З накінутай на плечы жакеткай, ён падышоў да дзвярэй. Знадворку хтосьці іх таўхаў на Паўла. Адняўшы руку, Павал сышоў у бок.

— Таго і трэ' было чакаць. Сволач...—уварвалася ў адчыненыя дзверы сярдзітая гутарка Лявона.

Згледзеўшы сына, стары ўзмахнуў рукамі, як напужаная птушка:

— Бывай здароў, Лагода... чуў ты, Павал?

Пятрусь штосьці расказваў тупаўшым каля воза жанчынам, раскрываючы прывезены куфар.

— Уцёк... Мы прыязджаем з Петрусём, а вешніцы насцеж; у сенцах адчынены дзверы; ад двара пабітыя вокны... Чуў, Павал? Усё паламаў, паварочаў, параскідаў. Парасторваў і павысыпаў падушкі. А ў куфар забіў сякеру... Чуў, Павал? Злачынная, крыважэрная кулацкая душа... Прахвост. Абармот.

Перад Паўлам сударажна маталіся сціснутыя, налітыя крывёю Лявонавы кулакі. Ногі старога дрыжэлі. Барада хадуном хадзіла па збляднелым ад глыбокага зрушэння твары. Узрокі гарэлі яркімі агеньчыкамі. Ён шпарка падбег да воза і паказаў на куфар:

— Глядзі-ы, Павал, што ён нарабіў.

Пятрусь сцягнуў посцілку і шырокая дзірка на пярэстым веку куфра зірнула на яго колкай пустэчай.

— А ў сярэдзіну наліў, злодзей, размешанай вадою сажы... Усё зглуміў...—дадаў Лявон.

Выціраючы заплаканыя вочы, Волька распачна тупала навакола воза; яе рукі млява датыкаліся да туга перацягнутых вяровак і бязмэтна ападалі ў падасланую пад куфар салому. Домніна разгубленая, поўная ненавісці і дакору гутарка праносілася неразборлівым гудзеннем у Вольчыным вушшу. Старая здзіўлена ківала галавою, паціскала плячыма, заламлівала traскучыя ў суставах рукі і момант ад моманту пазірала на дачку. Гнюсны Лагодаў выбрык ашаламаніў старую Перагудзіху; Домна доўга не заўважала вышаўшага з сянец Паўла. І ажно схамянулася, калі ён узвышаным тонам праказаў да жанчын:

— Годзе тужыць, ад гэтай сваалатні нельга было іншага чакаць... Кулацкая помста... Здабудзеш новае..

Яны з Петрусём паднялі куфар на аглабіно і з дапамогаю бацькі ды Волькі перанеслі ў сенцы.

Першае гнятлівае, абуральнае ўражанне паступова ападала. Непраўнасць факту астуджавала ўзрушанае пачуццё крыўды і злосці.

Але разам з тым выразлівей і адметней выступала адзнанне канчатковага разліку з Лагодаю.

Сумеўшы развеяць агульную напруджанасць сям'і, Павал моўчкі панёс папераджальную даведку аб Лагодавым збегу ў сельсовет. Ці ўспомніла яна пазваніць у раён? Было-б даволі крыўдна, каб гэты прахвост сумеў бескарна вылузацца з рук совецкага правасудззя.

Ён набліжаўся к Каніцавай хаце, як нечакана пачуў ажыўленую гутарку, быццам-бы выбухнуўшую з зямлі: гутарка ішла ў Каніцавым двары і вылівалася на вуліцу праз адчыненыя варотцы ў браме. Учарашняе здарэнне давала к ёй ключ.

Павал без жадных ваганняў завярнуў направа і накіраваўся ў бок Каніцавага двара. У гэты момант брама расчынілася. Сымон Губка выводзіў за аброць запрэжанага ў нагружаны воз каня; следам двое мужчын вялі ўзятую на вяроўку карову; яшчэ адзін, размахваючы рукамі, падганяў двое свіней. Скрозь анямелы скігат непрытомнай Люці, стаяўшай тут-жа ў расхістанай блузцы з растрапанымі валасамі і пагражальна размахваўшай рукамі, чулася распараджэнне Яніны:

— Направа, дзядзька Сымон, к сельсовету...

Яніна нейкі час не прыкмячала чакаўшага яе Паўла. І толькі тады, калі двое чалавек вывелі карову з двара, яна ўгледзела яго знячэўку, весела і здзіўлена праказаўшы.

— Канчаем... Каля гэтай істэрычкі пакідаю чалавека... Вось зловяць бацьку і тады разам у дарогу...

— Ці-ж хто яго шукае?—пацікавіўся Павал, не верачы ў дадатныя вынікі запозненага мерапрыемства.

— Знойдуць—ні дзе дзенецца...

Яна самаўпэўнена паглядзела на кучку цікаўных ружанцаў, якія з сярпамі, баклажкамі, ды з коньмі затрымаліся каля супроцьлежнай хаты.

Усе яны з несхаваным здавальненнем сачылі за даўно жаданым відовішчам. Іх рэзвая гутарка аздаблялася трапнымі, зніштажальнымі рэплікамі па адрасу Каніцы, які мала каму ў вёсцы не даўся ў знак...

— Даўно пара было...—гукаў рэзвы тэнарок.

— А дзе-ж, цікава, ён сам?—пытаў малады, чорнавусы мужчына.— Кажуць збег... Куды ён збяжыць. Ха-ха-ха!—гладзіў рэдзенькую бародку дробны старык.

— І Лагода збег... паведаміў Павал.

— Што-а ты кажаш!—схамянулася Яніна.

— Так, я прышоў сказаць табе гэта... Ці званіла ў раён?

— Усё зроблена...

Павал правёў Яніну да будынка сельсовета і вярнуўся дамоў.

Волька паспела ўжо ў калгас пайсці, старыя з Петрусём збіраліся ехаць на поле. Выпражаны конь стаяў прывязаны к плоту, а Лявон наліваў пры парозе ваду ў баклажку.

— Куды хадзіў?—пацікавіўся ён, зірнуўшы на Паўла:—маці чакае даць табе снедаць... Трэба-ж пайсці скончыць жніво—пагода спрыяе...

Лявон глянуў прышчуранымі вачыма на сіняе, як лазурак, неба і заткнуў камяком травы баклажку.

Петрусь задумліва прайшоўся на прыгумень і, пэўна, забыўшы, што яго прымусіла на гэта, спыніўся перад новаю хатаю ды некалькі хвілін упарта глядзеў на недакрытае месца. Пасля вярнуўся ў двор, пераняўшы воклічам Паўла.

„Ну, можа што чуў новае?“

— Каніцаву маёмасць перасялілі ў сельсовет,—гіранічна паведаміў ён.

Пятрусъ вытрашчыў вочы, насцярогся:

— А „той“ не вярнуўся?

І, захваляваўшыся, дадаў:

— Мо‘ і Люця ўцякла?

— Дудкі, ужо не ўцячэ...

— Чаму-у?

— Пільнуюць.

Пятрусь задумаўся, пасля рэзка адмахнуўся рукою—няхай.

У суровым поглядзе Петруся таілася поўнае здавальненне.

Павал прыкмеціў, як бацька дапытлівым узрокам акінуў малодшага сына, спакойна кіўнуўшы галавою.

— Ідзіце снедаць, вунь маці пачынае злаваць,—запрапанаваў ён сынам, гледзячы на вышаўшую з хаты Домну.

Лявон паглядзеў на неба і раптам пачуў ад вуліцы:

— Восьмая гадзіна, дзядзька. Дзень добры.

Стары схамянуўся ад нечаканасці. Знячэўку, мацней як трэба, выгукнуў:

— Ах, каб цябе... Заходзь, Юстын...

Пасля адвярнуўся ў дзверы і паклікаў:

— Павал, да цябе прышлі.

Абодва сыны, Павал і Пятрусь, высунулі галовы з дзвярэй.

— Я не толькі да аднаго Паўла,—увайшоўшы ў двор, паведаміў Сніпіч.

— А што? Можа ізноў...

Юстын супакоіў старога разважлівым махам рукі... Потым зірнуў у канец двара, дзе ўзнімалася недакрытая страха новае хаты.

— Амаль цэлы бок без саломы,—адвёў ён Перагудаву ўвагу на будынак.

У тоне Сніпічавага голасу Пятрусь злавіў нотку спачування.

— Кулёў з сорак, але калі няма... Загадзя палажылі столь.

— Думалі хопіць свае саломы—і прагадалі: гатовы падпрэць сталяніцы...

— Нічога... праветрыцца... Ды... я прышоў сказаць, што кулі гатовы: можаце прыязджаць хоць сёння.

На тварах Перагудаў заблішчэла яркае ўміленне. Пятрусь пераступіў парог і працягнуў Юстыну руку. Лявон молада заварушыўся на месцы. Мігам побач з Паўлам апынулася ўзрадаваная Домна.

— А і можа. Юстынка мой, вялікае табе дзякуй...—не сказаў, а выспеваў стары Перагуд...—Новыя?—пацікавіўся ён тут-жа ўдакорыўшы сябе за лішнюю цікаўнасць.

Усе гамузам увайшлі ў хату. На стале паравала ўжо скрэбеная маладая бульба. Міска, велічынёю з рэшата, стаяла поўна густога, грудкаватага кіслага малака...

— Я перш Вольцы хацеў перадаць, а потым сабе думаю, мо‘ яна не застане вас у абедзе, а, сказаўшы, вечарам—вы не ўправіцеся прыехаць... А чым раней, тым лепш. Кожны момант можа выплыць іншая патрэба—вядома гэткая гаспадарка ў калгасе...

Лявон панукаў Сніпыча садзіцца; падсоўваў бліжэй да яго бульбу, выбраў яму спраўнейшую лыжку.

— Не чакай, каб прасілі, Юстын. Сёрбай малако... у цёплую пагоду яно добра... Ну, які, хоць, умалот?

— Пудоў каля шасці... Жыта добрае—нечага сказаць...

— Во, я і казаў...

Лявон паглядзеў на Паўла.

— А наша... мо' пудоў тры дасць?...—запытаў ён Петруся.

— А калі на гарнец і больш—усё-ж далёка не тое.

— Дык аб чым гэта сведчыць?—запытаў Павал,—перш зірнуўшы па чарзе на бацьку і на брата, а потым узрок на Сніпіча.

Той уважліва сачыў за Перагудамі.

— Што-ж і казаць—дарога адна... у калгас...—весела паглядзеў у шчыры твар старога.

— Правільна,—сказаў спакойна і цвёрда:—нечага далей адцягаць... Старшыня, прызнацца, чакае вашай візіты з заяваю...

— Вось Паўлу ўсё няма часу напісаць,—пажартаваў Лявон.

— Ён абдумоўвае, пэўна; хоча, каб ужо грунтоўна ўсё ўладзіць,— не астаўся ў даўгу Юстын.

Пятрусь чуць прыкметна пасміхоўваўся ў белы пушок вусоў.

— Скончыце нечага адразу, і хай Павал спакойна едзе... разважыў Сніпыч.

Домна заварушылася на месцы: дапамінак аб Паўлавым ад'ездзе балюча крануў яе сэрца.

— Што-ж парадзіш, Юстынка; гэтак ужо склалася наша сямейнае жыццё... Паказаўся на час ды зноў, бог ведае, калі яго ўгледзіш...

— Нічога... Праз год прыедзе і стрэне вас найлепшымі калгаснікамі...

— Чаму-ж не—працаваць мы можам і ўмеем,—пераняў жонку Лявон:

— Але Павал...

Усе адначасна павярнуліся да вакон: вуліцаю праехала двое конных міліцыянераў.

— Куды гэта?—пацікавіўся Сніпіч.

— Можа, часамі ў „Кудравы ясень"?—дагадліва перапытаў Лявон.

— А чаго?— насцярогся Юстын.

— „Наш-жа", той разбойнік збег.. Разграміў хату і ўцёк... Трэба, каб калгас узяў пад нагляд сядзібу...

— Што-а вы кажаце-э?—выгукнуў Сніпіч і прасунуў галаў ў адчыненае акно, каб прасачыць за коннікамі:—гэта сёння-ж трэба зрабіць. А то...

Момант памаўчаўшы.

— Бадай туды,—завярнулі ўлева... Уцёк. Дакаціўся-а, бачыце... Круціў-круціў... пускаўся на розныя авантуры... і... Ну, ведаеце, хоць ён і ваш зяць, а скажу вам у вочы: натуральны канец... Волька выграла.

Павал усміхаўся.

— А ўчора ноччу Петрусёў цесць пусціўся па слядах Лагоды.

Смех разліўся ў рогат.

— Па-мойму—к лепшаму ўсё, не праўда, скажаш?

— І я тае думкі—сцвердзіў Юстын.

Апрастаўшы стол, ён падзякаваў за снеданне і надзеў шапку.

— Трэба-ж ісці ў сельсовет, там мо' Яніна чакае...

Сніпіч звярнуўся да Паўла, але зацікавіў усіх.

— Чаго так?—даведаўся Пятрусь, пераступаючы ў сені.

— Выклікаюць у Менск. Едзе разам з Паўлам, а мяне пакідае на сваё месца. Старшыня сёння прыязджае, і я калгас перадаю яму.

— Ці мае лад. Маладзец...

Сніпіч пацісνуў плячыма.

— Трэба. Грамадская справа... Значыць, адвозіць Пятрусь?—запытаў ён у Паўла.

Сніпіч з Паўлам вышлі з хаты.

— Дык вечарам прыязджаеце па кулі?—дапомніў ён з-за вешніц і схаваўся за вуглом хаты.

## XIV

А ў поўдня Павал зрабіў прагулку да бацькаўскай палоскі.

Старыя з Петрусём дажыналі жыта; яшчэ аставалася мо‘ з гоні ад пастаўніка, але і на ціхую працу яго хапіла-б для траіх гадзін на дзве, не болей.

Гэты канец палоскі праходзіў па нізіне і ад поплава заплыў глеістым наносам. Рэдкія цырбункі тонкае саломы калыхалі пуставатымі, выветранымі каласкамі. Буяла лапушэнне і сочны шчавельнік. Ішла на перагонкі з жытам важкая гірса. Чорныя спарыны паражалі буйнейшыя каласы.

Пятрусь за кожным адгінам зазіраў у бок поплава, незадаволена ківаючы галавою. Стан ураджаю не даваў яму спакою.

— Ці мо‘ таму, што... пераказваў ён да бацькоў не аформленыя, для самога няясныя дагадкі аб прычынах неўдалага жыта.

Той-жа беспрадметнай скаргай сустрэў Пятрусь і падышоўшага брата. На запытанне:

— Ну, як-жа ўраджай?

Ён разуверана адказаў.

— Падкачаў. Ад сцежкі яшчэ сёе-тое, а ўжо з-пад грудка да поплава— зусім не цікава... Вось пройдзем толькі па мяжы, паглядзімо.

Павал прышоў ад поплава і яму не трэба было доказаў.

— Бачыў. Што-ж парадзіш. Аднаасобніцтва. Не разгорнешся. Вось табе лепшы довад за калгас...

—Так, трэба з гэтым канчаць... даволі... Гэтыя шнуркі... сапраўды сядзяць во тут,—стукнуў у грудзі.

— Ну, коп з пяць нажняцё?

— Сілаю—гвалтам... што гэта значыць—падказаў Лявон.

Павал падахвоціўся выпрабаваць сваё ўменне жаць. Палова жыта выцягвалася з карэннем. Серп чапляўся за пругкія, непадатлівыя цырбукі.

— Пацягай хутчэй,—паінструктавала з іроніяй у голасе Домна.

Але інструктаж не ўспрымаўся Паўлам: серп не слухаўся.

— Забыў.

— Ды ці спрабаваў хоць калі?—нездаверылася Домна.

— Або не памятаеш хіба?—папікнуў Лявон.

— Здаецца некалі...

Затое ў вязцы снапоў Паўлу не патрэбны былі ўказанні, ён ахвотна паставіў іх каля капы, стройных і туга ўціснутых, задаволена выцершы на твары цуркі поту.

— Кідай, навошта мардавацца,—пашкадаваў сына Лявон.

Павал уцёрся: падбавіў яшчэ снапоў дзесяць, паправіў разсунуты канём прост, пацікавіўся крыху дбайным, уважлівым жнітвом старых бацькоў і ўжо тады паведаміў, што ідзе па справе ў калгас. На прапанову перакусіць разам з усімі, ён адмовіўся і накіраваўся ўзмежкам усцяж палоскі.

Павярнуўшыся на павароце, спыніўся цікаўным узрокам на Кудравым Ясені.

На фоне лазуркавага неба хутар выдзяляўся цёмназялёнай купкай дрэў. У ёй хаваліся пустыя, пакінутыя будынкі, дзе, магчыма, зараз шныпарыла чыя-небудзь дападкая, зломысная ўвага. Чаго добрага і „той“ сам мог наведаць сядзібу, каб яшчэ больш нарабіць шкоды... „Але,— Павал успомніў—там нядаўна павінны былі быць міліцыянеры“.

Ён зацішыў хаду, пільней узіраючыся ў шэрыя прасветы шчыльнай агароджы. А мо' яшчэ і цяпер яны там?..

Ён вярнуўся на пакінутую мяжу, ды накіраваў узрокі на гасцінец.

Пад'ехала да пяці параконных падвод. Павал не заўважыў, як ад адных кар адлучыўся нізкага росту мужчына і, штосьць гаворачы на хаду, накіраваўся да жняцоў. „Жанкі-ы",—разлеглося над Паўлавым вухам і следам зліўся з выбухнуўшым рэзкім сігналам.

Шэраг жняцоў, як па камандзе, выпрастаўся ўровень жыта, празвінеў пераліўчатым гоманам. Павал азірнуўся і стрэўся тварам к твару з старшынёю калгаса.

— Таварыш Перагуд. Га-а, здароў-ва! Можа да мяне?.. Вунь сястра ідзе...—старшыня падаў Паўлу руку.

На старшынёвым твары іграла трапятлівая ўхмылка; вочы бліршчэлі натхненнем.

Вялікая сталінская ідэя, закладзеная ў высокую форму абагуленай працы над зямлёю, квітнела, умацоўвалася, урачыставала па ўсяму прастору калгасных палеткаў. Яе перамога гучэла ў лэпаце жняярак, у прыўзнятай гутарцы жняцоў, у абудлівым звоне.

Павал добра разумеў бадзёры настрой старшыні калгаса, бачыў яго прычыну і радасна захапляўся вобразам новага тыпу совецкага гаспадарніка, энтузіяста, узрошчанага магутным соцыялістычным будаўніцтвам, пераможна запанаваўшым у вёсцы. Вось чаму так міла было Паўлу адказаць на знянацкую стрэчу непасрэднай ласкавай усмешкай. Але пад уражаннем з'яднаўшага іх пачуцця ўздыму, мужчыны пару хвілін прастаялі моўчкі. За гэты час да іх падышла Волька.

— Да вас абадвых. Вы яшчэ не сустракаліся?—запытаў Павал.

— Не.

Старшыня калгаса чакальна паглядзеў на Паўла.

— І з Юстынам таксама?

— Таксама. Зранку бачыўся, але нічога гэткага... Пашоў да таварыша Крэмень... Яна едзе ў Менск. Выклікае ЦК. Ёсць навіны?

— Ёсць... ужо, як быццам, крыху і застарэлыя...

Зрэнкі старшыні калгаса яшчэ больш пашырыліся. Волька сачыла за абодвыма.

— Вунь, бачыш, тую купку дрэў і будынкаў „Кудравы Ясень"? Яго трэба хутчэй узяць пад апеку калгаса.

— Гэта чаму так? У чым рэч?—пераступіў з месца на месца старшыня, і не стрымаўся, каб не паглядзець у бок, куды паказваў Павал.

— Лагода даў драла. Чуе, сцерва, чым запахла...

Павал не хаваў злосці, якая кожны раз пры ўспаміне аб Лагодзе колка варушылася пад сэрцам.

— А-а-а. Уцёк кажаш?.... Ну, тады зразумела... Адзінае выйсце... Даўно ён гэта сцяміў?—узрушана запытаў старшыня калгаса.

— Мінулай ноччу. А перад гэтым учыніў расправу над ёю.

Волька ўздрыганулася; на яе шчаках аганькамі выбліснулі ружовыя плямкі.

— Бач, падлюга... Кулацкі вырадак...

Старшыня спагадліва паківаў галавою, гледзячы на Вольку.

— Вораг чуе свой скон.

— Але ці бачыў ты гэткую драпежнасць?!.

— Класавая помста канаючага ворага—ніякага дзіва.

Старшыня калгаса яшчэ некалькі разоў кіўнуў галавою і следам праказаў:

— Сёння ўсё будзе зроблена... А таго нягодніка трэба злавіць...

Яго гукаў брыгадзір. Каля бліжэйшых кар стаўпілася мітуслівая кучка калгаснікаў.

— Іду-у!—адазваўся старшыня калгаса і тут-жа пакінуў Паўла з Волькаю адных.

Яны правялі яго замілаванымі ўзрокамі да самых падвод і накіраваліся пожнямі нацянькі да сцежкі, што злучала гасцінец з калгасам.

## XLV

Перагудзіха заклапочана тупала то з хаты ў сені, то з сяней у хату. Штосьці пераносіла, перакладала, ладавала. Раз-по-раз падбягала ў трапятлівым рэзруху да печы, на гэты дзень знарок пазней падпаленай; варушыла вілкамі жухацеўшыя дровы; застаўляла іх густым шэрагам гаршчэчкаў, чыгункоў, каб стрымаць доўгія языкі полымя, шугаўшыя ў цёмную дзірку коміна. Не выпускаючы з рук вілак, часта паднімала да твара фартух і выцірала заплаканыя вочы і тут-жа азіралася на Паўла, к сталу. Яна быццам-бы старалася, як мага лепш разглядзець сына, які ўжо лічаныя хвіліны мог суцяшаць яе матчына сэрца сваёй прысутнасцю ў бацькаўскім асяроддзі.

За кароткі, маланкаю прамігнуўшы час яго прабывання так яна звыклася з ім!.. Быццам ён ніколі нідзе не адлучаўся. Ды не яна адна, а бацька, а Пятрусь ды Волька. Куды-б усё магло накіравацца, каб яго не было? Домна не магла сабе ўявіць, губілася ў дагадках.

Павал сядзеў за сталом, перш уважліва складаючы, потым перапісваючы заяву ад бацькоў і брата ў калгас. Ён ведаў, што пазаўтра, выходным днём, калі ўдасца справіцца з увозам жыта, адбудзецца агульны сход калгаснікаў, на якім будзе стаяць пытанне аб прыёме ў калгас Перагудаў. Аб гэтым было ўмоўлена з старшынёй калгаса і з Юстынам:—бацька з Петрусём ужо ведалі. Павал доўга сядзеў над заявай, каб як найпаўней выказаць тыя бацькаўскія думкі, якія прывялі іх к гэтаму правільнаму рашэнню. І калі прачытаў чарнавік, не стрымаўся ад задавальнення. Паглядзеў на сумятлівасць старое маткі, слабай, але порсткай у сваёй рухлівасці жанчыны. Бач усю сваю шчырую, непадкупную дбайлівасць, усё сваё зданае старанне яна перанясе і ў калгас. Павал у гэтым ні каплі не сумняваўся, верачы ў сваіх бацькоў. Волька паспела ўжо сябе апраўдаць не толькі ў яго братнім ваччу. Снітыч і старшыня калгаса Яніна і сакратар ячэйкі аднагалосна падпісвалі ёй атэстат свядомай, гаспадарлівай калгасніцы. Раней, здаралася, на Вольцы адбіваліся злачынныя, сабатажныя адносіны да калгаса з боку мужа, развязка з апошнім вызваліла яе ад дакораў, дазволіла ёй цалкам, шчыльна аддацца глыбока ды поўна ўсвядомленай справе.

Павал назіраў, з якою паслядоўнасцю гартавалася пачуццё старога бацькі к калгасу, як лагічна і пераканальна фармаваліся яго думкі. Бацька паказваў прыклад яскравага перараджэння чалавека пад уплывам магутных праяў соцыялістычнага будаўніцтва. І ў яго нутры, дзесьці глыбока-глыбока, варухнуўся сум разлукі. Але ён рашуча заглушыў гэта пачуццё самаўпэўненасцю: „Будзе, няпраўда, выпадак, які дазволіць яму ўгледзецца з старымі ды з братам у якасці перадавых калгаснікаў“.

Сягнуўшы думкаю ў недалёкае наступнае, ён раптам вярнуўся ў яркую прыгожую сучаснасць. З гэтай бліскучай сучаснасці, як з сонца, вылучаліся праменні яскравых, забаўных перспектыў светлае, шчаслівае будучыні. Павал выразна адчуваў яе гаманлівае, творчае нараджэнне.

„Так. На гэтым можна спыніцца.“—вярнуўся ён да заявы і паставіў завяршальную кропку.

Следам прачытаў яшчэ:

„У калгас „На варце“.

Перагудаў Лявона з Петрусём.

## ЗАЯВА.

„Мы, Перагуды, Лявон з сынам Петрусём і сям‘ёю, рашылі скончыць з нудлівым, абрыдлым і гнятлівым аднаасобніцтвам і перайсці ў калгас „На варце“. Шесцьдзесят гадоў, як мы, я—Лявон ды мой бацька, біліся на вузкіх шнурах, марнелі ў адвечным клопаце, цярпелі беднасць і галечу...“

Гоман пад адчыненым вакном абарваў чытанне: Павал адхіліўся ад паперы і паглядзеў на двор. Каля вешніц тупалі бацька з Петрусём, вярнуўшыся з поля. Лявон трымаў за плячыма тонкі сноп жыта—Пятрусь вёў каня, на спіне якога ляжала невялічкая вязачка канюшыны. Мужчыны аглядаліся ў бок вёскі.

— Ідзіце, я зараз,—праказаў Пятрусь, прапусціўшы бацьку ў вешніцы, а сам затрымаўся пры ўваходзе ў двор.

— Ты хоць каня ўпусці,—сказаў Лявон і паведаміў Паўлу:—Таварышка ўжо ідзе да цябе. Мусіць, гатовай у дарогу.

Павал падаўся ў акно. Яніна мігнулася чырвонай касынкай.

Пятрусь пачакаў, пакуль яна падыйдзе і ветліва схінуўся, працягнуўшы дзяўчыне загарэлую руку.

— Ужо сабраліся ў дарогу?—пацікавіўся ён:—А мы толькі што з поля.

Ён паглядзеў на сонца, заспакойліва махнуў рукой.

— Уга-а! яшчэ два разы можна заехаць. Конь выгуляўся, нічога.

Лявон клікаў Петруся, каб той хутчэй напаіў Буланага.

— Так што, мае вы...

Многазначная ўсмешка, якую не толькі Яніна, а і Павал упершыню ўбачыў на братавым твары, заключыла недаказаную таксама, інакшую ад звычайных, думку.

— Пятрусь сёння ў гуморы,—адзначыла Яніна, правёўшы зацікаўленым узрокам яго вяртлявасць:—нарэшце, мабыць, паспеў ужо вызваліцца ад Каніцавага ўплыву.

Павал, як-бы правяраючы Яніціны словы, паглядаў у глыб двара, дзе Пятрусь надзяваў каню набадры.

— Пара ўжо...

— А гэта што-а?..—перапыніла яго Яніна, падняўшыся на прызбу і выцягнуўшы з Паўлавых рук заяву ў калгас:—Го-а! Маладзеэц. Напісаў. Цікава.

І моўчкі пачала чытаць.

— Заходзь у хату—тут прачытаем удваіх,—парадзіў Павал.

Яніна не шавяльнулася, пакуль не прачытала спачатку да канца.

— Добра напісаў,—пахваліла, зноў вярнуўшыся да загалоўка.

Лявон, тупаючы ў пошуках чагосьці каля прыпека, дапытліва пазіраў на Яніну.

— Заходзь, таварышка, у хату!—паклікаў.

Паклікаў і Пятрусь, спыніўшыся ў парозе. Але ўражанне ад прачытання заявы трымала Яніну на месцы. Яна не выпускала з рук паперкі, над нечым раздумоўваючы. І раптам праказала:

— Прачытай бацьком,—і накіравалася ў хату.

Нечакана ўбегла ў хату і Волька. Яна моцна засаплася, спяшаючы не спазніцца к Паўлаваму ад'езду. У парозе спынілася і абцерла кончыкам хусткі спацеўшы твар.

— Што-ж гэта, яшчэ і не сабраліся нават? а я так бегла, бегла...— заспакоена выказала.

— Вось і добра, што прышла раней; нечага ўсе разам папалуднуем апошні раз. Ужо не скора ўдасца з Паўлам абедаць... ды з таварышкай...—мінорным тонам праказала Домна. І тут-жа запрапанавала да ўсіх:

— Сядайце за стол... І ты, Янінка, разам... Бог-бы даў ужо мець цябе сваім сем'янінам.

Домніна пажаданне выклікала агульную зацікаўленасць. У бок стала накіраваліся ўзрокі хатніх. Павал паглядзеў на Яніну, якая раўней і стрыманей ад усіх сустрэла непасрэдную Домніну рэпліку.

— Прачытай заяву,—падагнала Паўла, калі ўжо Лявон наводзіў за сталом лад, а Волька падносіла першую страву.

Павал чотка і выразна перадаў змест заявы. Спыніўшыся, запытаў:

— Ну, як? Можа яшчэ чаго не прыпісаў?

Лявон пытальна азірнуўся на Петруся, той на матку, пасля ўсе разам на Вольку, а з ёю—перанеслі бліскучыя радасцю вочы на Паўла.

Ніводнае не знайшло ў заяве хоць якіх недахопаў: заява поўна і трапна перадавала іх думкі і настроі. Павал здалеў падабраць словы і сказы, якія здавальнялі ўсю сям'ю.

— Усё, як мае быць, сынку... Вельмі добра і складна... Лепш не трэба .. ўпэўніў Лявон.

Ён яшчэ раз абвёў узрокам сям'ю, выняраючы яе пагоджанасць з сабою і дадаў:

— Заява, як споведзь... Мы ўсе глыбока ў душы думалі гэта,—але не чакалі, каб нашы думкі маглі набыць гэткую сілу і моц... Усё ў заяве правільна і нічога лішняга...

Прысутнасць Яніны, адчуваўшай сябе вольна і непасрэдна, улівала ў агульны настрой струмень цеплаты і здаволення. Жывая, рэзвая камсамолка, яна выгадна рознастайніла і багаціла сабою сціслае кола сям'і. Яе звонкая, срабрыстая гутарка была так дарэчы.

— Праз год мы ўжо будзем спраўляць гадавіну вашага калгасніцкага жыцця—ці-ж не праўда, дзядзька? Вы мо' з'явіцеся перад намі ў якасці лепшага ўдарніка?—міла і ветліва зазірнула яна старому ў вочы.

— У шчаслівую часіну будзь сказана. Чаму-ж не. Яшчэ пакуль магу ў руках трымаць і касу, і серп. А мяне падганяць пры рабоце не трэба...

— Мне здаецца... ды не то, што здаецца, а я думаю, перажываю вось зараз—шчаслівейшыя хвіліны ў нашым жыцці... Гэта наша ашчэдная—чым хата багата—бяседа надала мне многа сіл і маладосці, і я веру, дзеткі, спадзяюся, што яшчэ прыжду тых дзён, калі...

Ад хвалявання Лявон не дасказаў, а махам рукі бязмоўна адмеціў напрамак сваёй думкі.

— Правільна?—запытаў у Яніны, калі рука апала на яе тонкі плячук.

— Правільна, дзядзька.

Лявон па-бацькаўску абняў суседку абедзьвюма рукамі і пацалаваў. Яго паводзіны сустрэлі агульнае маўклівае адабрэнне.

— А Павал—няхай шчасліва вяртаецца да сваіх непасрэдных аба-

вязкаў. Я ведаю, што там, у Менску, яго чакаюць... Ён з-за нас мо' і пратэрмінаваў крыху, але ўжо няхай яму даруюць... Ён тут дарма часу не страціў...

Наступная гадзіна прайшла ў зборах.

Павал пацалаваўся па чарзе з бацькамі, з сястрою. З непадробнай сардэчнасцю развіталася з Перагудамі Яніна.

Калі ўсе вышлі ў двор, Лявон гаспадарліва адчыніў вешніцы і тайком, каб ніхто не прыкмеціў, выцер рукавом злёгку завільгочаныя вочы. На момант сум авалодаў і Домнай.

— Ну, дружа, паехалі,—праказаў Павал да Яніны, абняўшы яе плечы, і яны наперадзе воза вышлі з двара.

На вуліцы, як з-пад зямлі, перад імі з'явіўся засопшыся, успацелы ад бегу Сніпіч.

— На хвіліну,—таварышы,—пераняў ён рукамі дарогу;—ужо, значыць, айда?

— Шчаслівае дарогі, значыць,—працягнуў Сніпіч, не знаходзячы ў сабе патрэбных слоў.

— Бывайце,—замахала Яніна рукою ў бок старых Перагудаў. Узняты конскімі капытамі пыл разгарадзіў лёгкай заслонай Перагудаў з сынам.

Глухі стук калёс і нязмоўклая гутарка Паўла з Янінай рабіліся цішэйшымі і цішэйшымі, пасля чорная кропка падводы раптам схавалася на завароце, за жытамі.

Развітаўшыся з Юстынам старыя Перагуды яшчэ доўга стаялі пры двары, сягаючы ўзрокамі і думкамі ўслеж гасцінца.

## XLVI

На месцы, дзе пукатай градою невысокае ўзвышша перапінала гасцінец, і Буланы зацішыў хаду, Павал прыўзняўся на сядзенні, каб яшчэ раз глянуць на бацькаўскую хату. Тут была добрая пазіцыя: адвячорак выразна адчэрчываў кантрасты паміж святлом і ценямі. На фоне жаўцеючай ярыны ў размалёўцы зялёных паплавоў выгодна вырысоўвалася бацькаўская сядзіба: шэрая пірамідальная страха гумна, стромныя кароны бяроз і кудравыя шапкі клянін; адлівала чырвоным золатам новая хата. На яе крутым хібу збіралася сонца, больш як на ўсёй прылеглай да сядзібы мясцовасці, і здавалася, што сама хата вылучае яго на суседнія прадметы. Больш здавалася, чымсць адпавядала праўдзе,—а магчыма, што Павал і не памыляўся ў сваіх дапушчэннях,—яго ўзрокі адмячалі чуць выразныя сілуэты двух людскіх постацяў—бацькоўскіх.

— Паглядзі, Яніна, на ігру прадвячэрніх фарбаў... Хараство, ці-ж не праўда?—гледзячы ў бок вёскі, захапляўся Павал.

Але Яніна абвяла вачыма чуць не круг і затрымалася на калгасе. Зводдалі забаўным было сузіраць разгонную ўвішлівасць калгаснікаў над звозам жыта. На вачах выраслі шэрагі высокіх вазоў новае збажыны і завілаю стужкай накіроўвалі ў бок калгаснага цэнтра. Велізарнае новае гумно, пануючы над кучкай будынкаў, ветліва глядзела ім услед чатырма насцеж адчыненымі варотамі. Будыніна пераймала плошчай свае гонтавай страхі і прамені падвячэрняга сонца, і жаўцізну яшчэ не прымятых пожняў, і звонячы па полі, у дарозе і на дзядзінцы калгаса гоман і смех вясёлых няўтомных калгаснікаў.

— Праз год будзем ехаць у госці, а бацькі, вось, адсюль ужо выдуць з сярпамі насустрэчу сыну,—паглядзела на Паўла Яніна.

— Што-ж можа быць цікавей і прыямней для іхняга сына?—адказаў Павал.

— Разумею... Але я гэтым хачу падкрэсліць, як весела і цікава жыць і працаваць у наш час. Сузіраць, як на нашых вачах вырашаюцца гэткія, агромністыя справы. І прымаць у іх вырашэнні жывы і гарачы ўдзел.

Конь пусціўся ўбежкі. Камяністы вучастак гасцінца закалаціў лёгкія драбінкі; калёсы высока падлятаді на каменях, трасучы сядакоў. Нязручнасць язды, да якой Яніна паспела прывыкнуць, давала аб сабе знаць адвыкшаму ад сялянскай падводы і прасёлачных дарог Паўлу. Ён моршчыўся, сціскаў зубы, час ад часу выпускаючы з вуснаў уразлівыя гукі. Яніна прыкмячала яго скорую ўтомленасць яздою і шчыльна прыціскала да сябе яго руку.

Хутка на гасцінцы камяністае месца ўступіла пяскам, калёсы роўна і плаўна пайшлі, як па траве. Павал ураўнаважыўся. Ён зноў пачаў сузіраць навакольны ландшафт. Вычварнымі малюнкамі паласавалі расчырвоненыя праменні жоўта-зялёныя прасторы палеткаў. Цені распаўзаліся доўгімі шчупальцамі, кладучыся вострымі пікамі на жоўты пясок гасцінца. Але на полі не канчалася праца: жытнія вучасткі трымалі пры сабе дбайлівых жняцоў, дажынаўшых канцы ды лункі недажаткаў. Як па маху цудоўнае палачкі, выросталі бабкі снапоў. Па сценках, па межах шнуравалі падводы, белыя постаці сялян. Гэта былі рэшткі аднаасобніцкіх палёў, сарамліва збегшых у глыб ад гасцінца. Насупроць, размашыстымі прасторамі слаліся велізарныя палеткі калгаса „Пролетарская перамога", належачага суседняму з Ружанаўскім сельсовету. Густы ячмень хіліў вусатыя каласы ветлівым уклонам. На яго высокі рост, на роўную, усюды аднака ядраную буйнасць было міла глядзець. Калгасныя пасевы „Пролетарскай перамогі" не адставалі па свайму хараству ды ўраджайнасці ад пасеваў ружанаўскага „На варце". Было ад чаго збочыць рэдкім свірэпістым аўсам аднаасобнікаў.

З-пад набліжанага лесу пасувалася ім насустрач густая шэрань. Недалёка злева выявіла сябе некалькімі сталёвымі вакенцамі праводзіўшая іх Война. Рэчка, як пад канвоем, цякла праз увесь час, ажно да самага лесу ў цёмных прысадах высокага алешніка і непрыкметна, потайкам, хавалася ў лесе.

Высокі, выносны бор роўнай сцяною перацінаў поле.

Буланы з разбегу ўварваўся ў яго маўчлівы, пасцярожаны вобдым. Шарохкая ціша рэзка выдзяляла вячэрнія гукі, трэск, стукат калёс. Цёмная навісь пераймала ападаўшыя вузкай палоскай змрочныя прасветы неба. Лес пільна захоўваў у калдобінах разгружанай дарогі глыбокія лужыны вады, глеістую гразь, пад якою мулкімі гарбінамі залягаў пацёрты фашынік. Буланы патужваўся, размашыста ківаючы галавою, фыркаў. Над яго задам дбайліва свістала абарваная дратаванка, гудзеў аднастайны, пярэрвісты Петрусёў голас. „Нно-а, Буланы, нно-а". Конь час-ад-часу пасцерагаўся, натапырваў вушы. Раптам крута рвануўся ў бок, і стаў. Павал хапіўся за аглоблю, а Пятрусь папераджальна саскочыў на зямлю, туга напяўшы лейцы. Буланы нервова затрос галавою. Левая аглобля стукнула аб дрэўка хамута і павісла на тонкім раменчыку паска. Пятрусь злосна тузануў ляйчынай, потым падскочыў да каня і моцна шлёпнуў рукою яму па храпе.

— Каб ты здо-ах, каб ты. Чаго цябе ліха палохае, чаго... Гэткі здаровы гуж, а трэба парваць. Э-ы-х!—завадзіў ён у бакі конскую галаву і паведаміў седакоў:

— Вось і прыгода... на яго бяда... на яго,—затрос ён кулаком у каня

пад вачыма.—Гуж парваў... Можаце, таварышы, прагуляцца па лесе... Мо' даўно не наведвалі... я зараз наладжу...

Ён сумятліва замацаў рукамі па кішэнях, знашоў складанчык і ўвішліва прыняўся майстраваць абарваны гуж.

— Толькі не пакінь нас адных,—кінула яму Яніна рэзвую, жартаўлівую рэпліку, порстка выскачыўшы з воза і весела пабегшы на вузкую сцяжынку, якая хавалася ў гушчары.

— Павал, паспрабуй знайсці,—праз момант данёсся з кустоў яе вокліч.

З двух бакоў аддалося:

— А-аць!

Павал ураз падняўся з месца, папярэдзіў:

— Не адыходзь далёка, Яніна. Я зараз.

І не паспеў адгучэць яго голас, як да Перагудаў данеслася трывожнае, прарэзлівае:

— А-ай, р-ра—ат-ту-уйце-э. П-паўл... Пятрусь...

Павал спрытным скокам апынуўся на зямлі і стрымгалоў кінуўся ў гушчу.

— Ян-ні-нна-а! з кустоў вырваўся настрэчу Паўлу здаўлены хрып, траскатня галля і зламысная шыпячая:

— В-во-ась табе кантрольнае... в-вось... в-вось... большэвіцкі... вырадак... в-вось...

— Яніна-а!—паўтарыў вокліч Павал, і ў гэты момант адчуў на грудзях каля шыі чыюсьці моцную цвёрдую руку. Следам—парыўны тузок, моцна хістануўшы яго наперад, і стукнуўшы з разгону галавою аб штосьці мяккае і хрупкае.

— А-ай. С-с-с... паласнуў у яго над вухам рэзкі, прарэзлівы енк, тут-жа вызваліўшы грудзі з палону.

Ёмкім рухам рукі Павал уміг выхапіў рэвальвер.

У наступны момант бліснўў феерверкам іскрысты прамень і з грукатам стрэлу злілося грузнае паданне.

— Павал, сцеражыся!

Порсткая постаць з-пад рук мерськанула направа.

— Сто-ай!—кінуў Павал у плечы бягушчаму, і новы націск курка заглушыў гучны тупат. Скрозь асвойтаны змрок ён улавіў як к камлю тоўстае хваіны адбіўся бязвольны паклон.

— Яніна? дзе-э ты-і?—заспакоеным голасам запытаў у наступіўшую старожкую цішу. І тут-жа сарваўся з месца, пачуўшы бадзёрае:

— Сюд-ды-ы.

То гукаў Пятрусь.

Праз хвіліну яны ўсе трое стаялі разам.

— Уцяклі-ы,—няўпэўнена даведалася Яніна, бязмоцна павіснуўшы рукамі на Паўлавай шыі.

— Ду-удкі-ы... Не хапіла спрыту. Ад свайго лёсу цяжка ўцячы.

— Абодва вось, тут,—горда праказаў Павал, і следам пугліва дадаў:

— Ты ў крыві, Яня.

Ён пільна ўгледзеўся ў цёмныя пісагі на твары Яніны.

— Голаў прабілі, напэўна, во-тут,—паказала яна на вісок. Але нічога—загоіцца. Яшчэ добра, што на гэтым абышлося... Я думала... каб не ты... ну, дарма...

Недалёка ад іх чуліся хрыплыя стогны і бястлумная ўмольная гутарка.

Яны падступіліся пару крокаў наперад.

Пятрусь запаліў запалку і ўбачылі азвярэлы, уткнуты носам у мох, пабудзвеўшы твар Каніцы. Роўныя, шырокія плечы кулака чуць-чуць уздымаліся пад апошнімі ўдарамі сэрца.

— А вунь яго сябар, Лагода, цалуецца з хвояй,—ткнуў Павал на ўскос неастыўшаю руляй нагана.

— Салодкага сну,—пасмяяўся Пятрусь.

— Калі вораг не здаецца—ён знішчаецца—дапомніла Яніна і пазвала:

— Едзем, нечага час марнаваць.

Шамкія крокі шасці ног паплылі к непарушна стаяўшай падводзе. Буланы глядзеў ім насустрач буйнымі вачмі.

Хутка лес агаласіўся знаёмым, яшчэ так нядаўна абарваным, стукам калёс.

Неба танула ў мільённым рассеве радасных зор.

9. VII-35 г.
Менск.

Праф. А. Браништэйн

# ПЯТНАЦЦАЦІГАДОВЫ ТВОРЧЫ ШЛЯХ ІЗІ ХАРЫКА

Пятнаццаць год таму назад, у адным з нумароў яўрэйскага комуністычнага часопіса „Комуністышэ Вельт“ (выданне яўрэйскага камісарыята ў Маскве) у нумары 14—15 за 1920 год з'явілася паэтычная мініятура зусім невядомага пачынаючага паэта за подпісам А. З. Зембін.

Гэты подпіс больш не з'яўляўся на старонках яўрэйскага друку.

Уласнік подпіса безадкладна, услед за сваёю нясмелаю паэтычнаю выдазкаю відочна „набраўся духу“ і ў наступных вершах раскрыў свой псеўдонім.

Носьбітам псеўдоніма аказаўся малады 22-х гадовы пачынаючы паэт Ізі (Ісаак Давідавіч) Харык.

Просты, без усякіх хітрыкаў псеўдонім „Зембін“ мог толькі выявіць мейсца нараджэння маладога паэта—мястэчка Зембін, Барысаўскага раёна, але ён не мог ніякім чынам выявіць чытачу таго велізарнага набою мяцежнага непакойства і цягі да „зор“, які распіраў неакрэпшую грудную клетку мястэчковага юнака-паэта.

„З якою прагавітасцю мы марылі ўначы пра крыллі, што з святлом планет заводзяць спрэчкі“—потым пісаў аб гэтых самых марах Ізі Харык.

Сам па сабе паэтычны тэкст вышэйпамянёнай мініятуры таксама наўрад ці мог прыцягнуць да сябе ўвагу літаратурнай грамадскасці. Звычайная для рэволюцыйнай паэзіі перыяду грамадзянскай вайны абстрактная тэма—„Мы і яны“ (гэта значыць „мы“—пролетарыят і „яны“—буржуі) была распрацавана пачынаючым паэтам у агульна-прынятым, пралеткультаўскі-рытарычным тоне. Паэтычны слоўнік і вобразная сістэма (усе гэтыя традыцыйныя „жалезныя, гордыя тытаны“) таксама зусім не вызначалі ў пачынаючым паэце будучага буйнейшага майстра яўрэйскай пролетарскай паэзіі—Ізі Харыка.

Аднак, ужо гэтыя і наступныя раннія радкі контурна азначылі ідэйна-палітычную пазіцыю Харыка. Выхаваны на старонках комуністычнага друку, Ізі Харык зразу далучыўся да тых традыцый рэволюцыйна-дэмакратычнай і рабочай яўрэйскай паэзіі, якія сваімі каранямі ўваходзілі ў яўрэйскі дэмакратычны і рэволюцыйны фальклор, у амерыканска-яўрэйскую рабочую паэзію 80-х гадоў і ў дэмакратычную яўрэйскую паэзію перыяда рэволюцыі 1905 года (Розенфельд, Рэйзін).

Гэтыя ідэйныя і творчыя традыцыі, зразумела, падлягалі карэннай крытыцы, грунтоўнаму адбору з пункту гледжання пераможнай пролетарскай рэволюцыі. Бо ў іх поруч з дэмакратычнымі і соцыялістычнымі элементамі, шмат было ад мяшчанскага анархізма, ад нацыянальнай

абмежаванасці і народніцкага сантыменталізма. Аднак, у ідэйна-творчым плане яны бязумоўна прадстаўлялі і с т о т н ы к р о к у п е р а д у параўнанні з нацыяналістычнай і эстэцкай лірыкай, якая к таму часу (у першыя гады Кастрычніка) задавала тон у так званай „высокай“ літаратуры.

Гэта, нарэшце, былі трыдыцыі „грамадзянскай паэзіі“, традыцыі соцыяльнай патэтыкі, традыцыі „б а я в о г а р э а л і з м а, спалучаемага з р э в о л ю ц ы й н а й р а м а н т ы к а й.“

Паэт, які наследуе гэтыя традыцыі, не мог мірыцца з нацыяналістычнай арыентацыяй так званай „кіеўскай паэзіяй“ (я маю на ўвазе групу паэтаў, якая групавалася ў той час вакол часопіса „Эйгнс“, а потым „Штром“).

Паэт, які наследуе гэтыя традыцыі, не мог мірыцца з фармалістычным эстэцтвам гэтых пісьменнікаў, з іх імпрэсіяніcцкім крыхаборчаствам, з нежыццёвасцю іх паэтычнай лексікі, з кніжнасцю іх вобразаў, са статычнасцю іх пейзажаў, з бессюжэтнасцю іх лірыкі. Бо класы мірыць нельга, а прыход Харыка ў літаратуру азначаў узыход н о в ы х с о ц ы я л ь н ы х п л а с т о ў на паэтычную трыбуну.

У раннім аўтабіяграфічным вершы „Маё юнацтва“ (1924 г.) паэт з гонарам спасылаецца на сваю працоўную паэтычную радаслоўную:

„Ад ранніх гадоў цану знаў бядзе,
да ясных вачэй туман не заслаў—
Я самага ранку на бацьку глядзеў,
што плечы панура над працай схіляў.

Як вены займаліся целам шырокім,
як біў малаток ўсё часцей і часцей—
і голас каханы адменна-высокі
як птушка насіўся між скрыўленых сцен.

Расту і дужэю на славу цяпер,
І плечы ягоны закал я забраў—
І бацькаў знаёмы з дзяцінства напеў
я з гонарам ў сёняшніх песнях спазнаў“.

Гэта прагучэла як выклік па адрасу яўрэйскай нацыяналістычнай і эстэцкай літаратуры, якая пышна расцвіла ў першыя гады НЭП‘а.

Вузка-біяграфічны факт вырас, загучэў шматазначальна, важка.

Ізі Харык—сын яўрэйскага бедняка-шаўца—увайшоў у літаратуру для таго, каб узбагаціць, падняць на небачана-новую ідэйную вышыню „бацькаўскі знаёмы з маленства напеў“—спрадвечную песню яўрэйскіх працоўных нізоў.

На працягу стагоддзяў гэты напеў —то сумна прыгнечаны, то грозна-бунтарны дарэмна рваўся вонкі, у літаратуру. Яго трымалі ў кагальна-сінагагальнай вуздзе яўрэйскія рабіны і багацеі. Я о паскудзілі нацыяналістычнай і народніцкай стылізацыяй розныя паэтычныя „друзья народа“. Яго нявечылі клыкі царскай цэнзуры.

Кастрычніцкая рэволюцыя вызваліла ад прыгону яўрэйскія працоўныя масы, шырока расчыніла дзверы яўрэйскай песні працы.

Належала ачысціць гэты „бацькаўскі знаёмы з маленства напеў“ ад шалупіння мястэчкова-саматужнай вузасці, наіўнай сантыментальнасці і дробна-буржуазнай палавіннасці. Маладому паэту, абцяжаранаму мястэчковай закаранеласцю, ідэйна-палітычна ледзь аформленаму, патрэбна было прайсці гады вучнёўства.

Што гэта азначала для яўрэйскага юнака з сістыматычнай адукацыяй аднаго класа Барысаўскага гарадскога вучылішча, з мястэчковай бездапаможнасцю? Гэта звычайна азначала гады цяжкіх мук сумненняў і правалаў.

Гісторыя яўрэйскай літаратуры ведае шмат такіх „звычайных" біяграфій. Рэдка калі за такімі гадамі „звычайных" мук прыходзілі гады, увенчаныя поспехамі і славай.

Звычайна—так!

Але не ў краіне соцыялізма! Але не ў перыяд пролетарскай дыктатуры,—перыяду росквіту нацыянальных культур соцыялістычных па зместу. У краіне пролетарскай дыктатуры няма мейсца для праклятага „яўрэйскага пытання", няма „черты оседлости". Кастрычніцкая рэволюцыя нанесла сакрушальны ўдар па яўрэйскаму нацыяналізму ўсіх адценняў, па мястэчковай замкнутасці і саматужнай абмяжаванасці. Геніяльная ленінска-сталінская нацыянальная палітыка выклікала ў гушчах раней прыгнечаных яўрэйскіх працоўных мас такі творчы ўздым, які не мае сабе роўнага ў гісторыі яўрэяў.

І вось у 1922 годзе Наркамасветы БССР камандыруе пачынаючага паэта на вучобу ў Маскву ў Брусаўскі Літаратурны Інстытут.

Пролетарская дзяржава бярэ пад сваю апеку пачынаючага яўрэйскага паэта—якая велізарная гістарычная дыстанцыя ляжыць між гэтым фактам і сумнай гісторыяй жыцця рада выдатнейшых класікаў яўрэйскай літаратуры, скажам, Пераца, які ўсё жыццё свае вымушан быў зарабляць на хлеб тым, што служыў у яўрэйскай абшчыне (у пахавальным бюро), Мендэле Мойхер Сфорым, які вымушаны быў кленчыць перад багацеямі з-за хлеба.

У Маскве, у сталіцы сусветнай рэволюцыі малады яўрэйскі паэт прагна далучыўся да багацейшых крыніц магутнай рускай паэзіі. Тут, бясспрэчна, пад уплывам лепшых узораў рускай пролетарскай і рэволюцыйнай паэзіі, фарміраваўся талент Харыка.

Менш чым хто-небудзь з ранніх яўрэйскіх пролетарскіх паэтаў Ізі Харык мог мірыцца з пролеткультаўскім схематызмам і рыторыкай. Харыка цягнула да жыцця, да рэальных людзей, да іх плоці, да іх рэальных соцыяльных страсцей.

„І цягне так на вуліцу, так цягне да людзей
Няхай знясіленых, у тыфусе, ў бядзе.

пісаў паэт у адной з ранніх сваіх паэм, прысвечаных героіцы грамадзянскай вайны („Менскія балоты").

Гэтая паэма „Мінскер блотэс" і з'яўляецца першым буйнейшым паэтычным творам Харыка, напісаным з майстэрствам сапраўднага пісьменніка.

Яна была надрукавана ў 1925 годзе і адразу заняла цэнтральнае месца ў яўрэйскай совецкай паэзіі.

Нават у загалоўку гэтай паэмы было нешта інтрыгуючае, незвычайнае для так званай „высокай" літаратуры. Гэтая літаратура, не хаваючы сваёй эстэцкай фанабэрыі і мяшчанскага індывідуалізма забяспечвала свае паэтычныя зборнікі „нейтральнымі" адмыслова (штучна) эстэцкімі загалаўкамі накшталт „Аксаміт" „Кукарды", „сонечныя банцікі" „бледныя світанні" і г. д.

Харык-жа загаварыў пра Менскія закуткі, пра рэальных „гарачых хлапцоў",якія кідаюць камені ў вокны багацеяў, цяжкімі ботамі ўтопт-

ваюць аксамітныя парт'еры экспрапрыіруемых буржуяў, сотнямі і тысячамі ідуць на фронт супроць белапольскіх паноў.

Гераічны пафас паэмы з яе незабыўнай рэволюцыйнай рамантыкай грамадзянскай вайны, выгадна выдзяляўся на фоне халодна-граненых, няхай і дасканалых строф розных „нейтральных" лірыкаў, якія пяюць пра „зоры" пры „бледныя світанні". Рэволюцыйная рамантыка гэтай паэмы, поруч з рэволюцыйнай рамантыкай другога буйнага яўрэйскага пролетарскага паэта—І. Фефера, апавясціла яўрэйскай совецкай паэзіі, што ёсць рамантыка і „рамантыка".

„Рамантыцы" нацыяналістычных перажыткаў, рамантыцы спустошанага індывідуалізма яўрэйская пролетарская паэзія супроцьставіла рэволюцыйную рамантыку пролетарыята. Тут ужо справа не ідзе аб тым хадульна-напышлівым, часам сімвалічным, рамантызме, які ўжываўся паэтамі „кузніцы" і ў ранняга Харыка. Рэволюцыйная рамантыка паэмы „Мінскер блотэс" аніяк не хадульная, не схематычная. Яна суправаджае буйны рэалістычны талент паэта, яна арганічна звязана з ім. Паэма „Мінскер блотэс" багата яркімі рэалістычнымі жанравымі замалёўкамі. Яе тыпаж выключна рэалістычны, жывы ў яго соцыяльнай і нацыянальнай арыгінальнасці. Мова паэмы сакавітая, багатая беларускім каларытам, зусім супроцьлеглая той кніжнай з бясконцасцю метафар мове, якая асабліва ўжывалася ў яўрэйскай мяшчанскай паэзіі.

Напеўна-ўбаюкваючую страфу есенінствуючай яўрэйскай дробнабуржуазнай паэзіі замяняе суровая інтанацыя прамоўцы-паэта, рэалістычная гутаркавая інтанацыя. Ужо ў гэтай паэме Харык выявіў свае выключныя веды яўрэйскага демакратычнага фальклора і ўменне трансфарміраваць яго ў своеасаблівы совецкі фальклор. Нездарма некаторыя песні з паэмы „Мінскер блотэс", перакладзеныя на музыку, набылі значную папулярнасць у масах („Над ракой Бярозай вісіць высокі мост"—музыка Палонскага). Паэма „Мінскер блотэс"—адна з першых буйных паэтычных палотнішчаў у яўрэйскай совецкай паэзіі. Гэтая цяга Харыка да вялікіх паэтычных палоцен на тым этапе азначала, што літаратура канчае з дробным імпрэсіяністцкім калупаннем, што лепшыя майстры, якія звязалі свой лёс з рабочым класам і з Кастрычніцкай рэволюцыяй, пачынаюць пераходзіць да буйных мастацкіх а б а г у л ь н е н н я ў.

Аднак, было-б зусім наіўным думаць, што паэт, які прышоў у літаратуру са значным грузам мястэчковай абмежаванасці, палітычна ледзь аформлены, па манавенню чароўнай палачкі, стаў майстрам пролетарскай паэзіі. Тое, што складае сілу Харыку ў яго паэме „Мінскер блотэс"—яго кроўная арганічная сувязь з бытам адначасова пагражае яму бяссіллем. Адгэтуль налёт нацыяналістычнай ідэалізацыі яўрэйскага саматужніка ў раздзелах, прысвечаных дзяцінству героя паэмы—Піні. Адсюль няўменне спалучаць паказ вобраза Піні з неяўрэйскімі вобразамі грамадзянскай вайны, што вельмі істотна з в у ж в а е галерэю вобразаў рэволюцыі. Адсюль некаторая абстракцыя раздзелаў, прысвечаных эпізодам грамадзянскай вайны.

Вядомы сказ аб тым, што „скора сказка сказывается, да не скоро дело делается" належала-б удакладніць у тым сэнсе, што і казка не скора гаворыцца. Ідэйна-стылявое фарміраванне паэта ідзе часта зігзагамі. На ранніх вершах Харыка, прысвечаных лёсу яўрэйскага мястэчка, гэтае палажэнне цалкам апраўдваецца.

„Смутак мястэчка" неадступна ідзе за ім, пранікае да яго праз-

„каменныя нішы“ вялікага горада, ідзе за ім з дна гарадскога двара сумным напевам гармоніка.

Маё мястэчка да апошняй стрэшкі
У сіняй цішы, ў бляску зор-агней.
Скажы, чаго скрозь агнявыя сцежкі
Твая туга прыходзіць да мяне.
Калі я ўпершыню цябе пакінуў
Я думаў, буду помніць век з тугой
Твае крывыя, нізкія хацінкі
Твае завулкі з пыльнаю травой.

Так мітусіўся паэт у 1924 годзе. Яму не забыць мястэчка. Пазбаўлены разумення працэсаў соцыялістычнай пераробкі мястэчка і ўцягнення яго працоўных элементаў у соцыялістычнае будаўніцтва ранні Харык па-левацку абураецца на мястэчка. Ён шле праклён „хмурым дзядам, з трывогаю ў аснежаных бародах“, ён становіцца ў позу „чужога госця“, ён асуджае мястэчка на гібель.

Гэтая нерэалістычная пазіцыя вызначыла істэрычны тон цыкла вершаў „Мястэчка“, напісаных у 1924 годзе. Рэалістычны фон замяняюць розныя здані.

Няма спакою ў ноч такую
І цягне ў даль і гэтак цягне ў сінь.
Мама, мама, твой сын сумуе
У шаленстве бур калоціцца твой сын.

Менавіта ў гэтым левацкім крыку адмаўлення мястэчка, без разумення рэальных шляхоў вырашэння праблемы мястэчка ўжо хаваліся ноткі будучага інтэлігенцкага „пакаяння“. Не пазней як праз год, у вершы „Жнівень“ (1925 г.) паэт пачынае каяцца.

У спакоі і ў шчодрым расцвітанні,
Маё мястэчка, сёння ты ляжыш.
Нядаўна я цябе суровым словам ганіў
Цяпер хаджу, адчуўшы бляск і ціш.

„Свет і ціша“ мястэчка, „Пахі руж і яблык пахі“ перамагаюць паэта. У цыкле вершаў „У тваіх хацінках“ (1926 г.) Харык пераходзіць да рэмантычнай ідэалізацыі старога мястэчка, якое „ціха дагарае, як святочная свечка“. Вобраз мацеры і мілы сэрцу мястэчковы пейзаж— вось той мост, па якому блудны сын, які нядаўна праклінаў мястэчка, завярнуўся назад да яго.

Няма сумнення, што на гэтым шляху паэта падсцерагала гібель ідэйная і творчая. Ідэалізацыя „старэнькай мамы“ і мястэчковага суму немінуча прывяла-б паэта ў лагер буржуазнага нацыяналізма. У творчым плане гэта абяцала Харыку ўбогія перапевы з яўрэйскай нацыяналістычнай лірыкі.

Харык не мог пайсці па гэтым шляху. Вялікія заваёвы ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі ў справе ўцягнення яўрэйскіх працоўных мас у соцыялістычнае будаўніцтва не маглі не ўзбударажыць таленавітага паэта-рэаліста. Ён не мог не бачыць гіганцкай работы савецкай улады па земляўпарадкаванню працоўных яўрэяў, па ўцягненню іх у соцыялістычную прамысловасць, па будаўніцтву соцыялістычнай культуры нацыянальнай па форме.

Ужо паэма Харыка „Хлеб“ (1925 год), прысвечаная землеўпарадкаванню працоўных яўрэяў Беларусі сведчыць аб тым, што гэтыя працэсы пранікалі ў поле зроку паэта. Праўда, Харык вельмі наіўна зводзіць

класавую барацьбу ў яўрэйскім земляробчым пасёлку да барацьбы пакаленняў. Праўда, Харык тут не свабодзен ад палітычна-шкоднай канцэпцыі „перавыхавання“ мястэчковых крамнікаў у земляробчай працы“ (гл. яго „Песню крамніка“), аднак ужо ў гэтай паэме талент рэаліста—совецкага пісьменніка дыктаваў паэту рад яркіх сцэн працы, антырэлігійных сцэн і матываў інтэрнацыянальнай сувязі між яўрэйскімі і беларускімі працоўнымі.

Неабходна было рушыцца далей па шляху рэалістычнага паказу совецкага мястэчка, каб назаўсёды скончыць з блуканнямі ў гэтым пытанні. Так зарадзілася вялікае паэтычнае палатно „душою і целам“, прысвечанае паказу совецкага мястэчка, класавай барацьбы ў ім, яго новых людзей—будаўнікоў соцыялістычнай культуры. Гэта паэма выйшла першым асобным выданнем у 1928 годзе.

У ёй паэт разгортвае вобраз яўрэйскай настаўніцы, камандыраванай Наркомасветай для работы ў глухое адсталае яўрэйскае мястэчка. Вобраз настаўніцы разгортваецца трагічна: яе добрыя пачынанні натыкаюцца на сцяну недавер'я і злабы з боку адсталых і рэакцыйных местачковых пластоў. Здавалася-б, што ў даным выпадку паэт павінен быў стаць ахвярай звычайнай народніцкай літаратурнай традыцыі— „трагедыі настаўніцы“, якая хацела „сеяць разумнае добрае вечнае“, па якой „народ“ заяўляе „не суйся“.

Харык, аднак, трактуе гэтую тэму „хождения в народ“ зусім па-новаму, разумеючы, што справа настаўніцы, ва ўмовах совецкай улады, не асуджана на трагічны правал. Не хаваючы раду трагічных канфліктаў, якія прыводзяць маладую настаўніцу да смерці, паэт аднак ствараае своеасаблівую „аптымістычную трагедыю“. Перамога забяспечана. Пагібла на пасту настаўніца—яе замяняе другая, якая працуе на глебе распаханай яе папярэдніцай.

Гэты аптымізм падкрэслен вельмі яркім колцавай пабудовай паэмы („памерла настаўніца—няхай жыве настаўніца“), аптымістычным паказам нараджэння новых творчых сіл мястэчка. Мястэчка не асуджана на пагібель—вось што стала цяпер зразумелым Харыку. Паэма „душою і целам“ першы буйны твор Харыка, пабудаваны на моцным сюжэце, з удалай спробай упершыню даць разгорнуты персанажны вобраз у яўрэйскай паэзіі. Тут таксама дадзена першая ўдалая спроба рэалізаваць па-новаму тую цягу да трагічнага, якая ўласціва Харыку. Падкрэсліваю ўдачу гэтай работы, бо гэтая-ж установка на паказ трагічнага стала наіўна-бесплённай у ранняй паэме „Катэрынке“ (1925 г.). У паэме „Катэрынке“ Харык не вольны ад ідэалізацыі яўрэйскай мовы і ад камернай дробязнасці „трагічных“ канфліктаў.

У паэме „Душой і целам“ рэалістычны талент Харыка прадаўжае свой буйны росквіт. Багатыя пластыкай бытавыя замалёўкі, таленавітае аперыраванне „лакальным каларытам“ выключнае веданне мовы мас, іх фальклора—вось яркія якасці гэтай паэмы.

Доўга выношваў паэт сваю наступную буйную паэтычную работу— паэму „Кайлахдыке вохи“ („Круглыя тыдні“), якая вышла ў 1932 г. Ужо ў паэме „Душою і целам“ паэт пачынае ламаць рамкі мястэчковай абмежаванасці тэмы. Аднак гэта покуль не ідзе далей перапіскі між мястэчковымі жыхарамі і іх землякамі ў Маскве.

Паэмаю „Круглыя тыдні“ Харык паставіў перад сабою задачу стварыць шырокую панараму соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР—з упорам на электрыфікацыі БССР.

Заключная страфа паэмы—словы Леніна аб тым, што совецкая ўлада

плюс электрыфікацыя ёсць комунізм—і складае ідэйны касцяк паэмы. Гэтая ідэя цамянтуе разрозненыя сюжэтныя планы гэтай паэмы, амаль пазбаўленай адзінага сюжэта. Быццам у бессюжэтным фільме тут наплываюць адзін на аднаго, сутыкаюцца розныя эпохі, пачынаючы з далёкага сярэднявечча і канчаючы соцыялістычным будаўніцтвам у БССР. Паэт быццам праводзіць агляд гэтых эпох з вышкі соцыялізма. Памфлетам і пародыяй Харык мастацкі дыскрэдытуе нацыянал-рамантычную ідэалізацыю мястэчковай закаранеласці і сярэднявечча. Запамінаюцца яго яркія антырэлігійныя главы.

Парадыйная інтанацыя раду гэтых глаў зразумела ледзь захоўваецца ў перакладзе, але нават у перакладах можна адчуваць вострыя строфы паэта:

„О—вва! Любая якая!
У—вва! Аж за косці ўзяло...
Святая хвіліна знікае
Дыханне суботы прышло.
Ужо ля нябеснага ганку
Малітвы як ластаўкі рэюць
І дзяўчынаю-нечапанкай
Субота ідзе да яўрэя.
Алеем і патакай разам
Сцякае неба...зважай—
Ключы ад нябесных лабазаў
Ужо захаваў Аранай“

Кантрастна абыгрываючы спрадвечныя глухія топі гаці старой Беларусі і соцыялістычныя торфараспрацоўкі як базу электрыфікацыі Совецкай Беларусі, Харык дае рад удалых пейзажаў былое беларускае глушы:

„Прасторы грузнуць у дзічы злачыннай
Цынгою чорнай выкручаны рот
Зямля захлёбнута смярдзючай цінай
Гангрэна ахапіла небазвод.
. . . . . . . . . . . . .
О волкасць і таемнасць! Хваравіта
Трасецца торф, макроты—цераз край.
Раматузам напоўненая світа—
Калоціцца мужык каля кастра.

Але вось „воўка і трактара перакрыжоўваюцца погляды“—сутычка 2-х эпох:

Зялёны воўк як біты злодзей,
З галодным бляскам у вачах,
На поле выглянуць выходзе,
Выходзе выглянуць на шлях“.

Дрыжыць сырой абдзертай скурай
У зубах, што косць, трымае злосць...
Стаіць на ўзлессі гнеўны, хмуры,
А ў лесе—гоман, весялосць!

З няменшаю сілай Харык разгортвае ў радзе месц соцыялістычныя пейзажы працы. Выключны знаток старога яўрэйскага быта і дарэволюцыйнага яўрэйскага фальклору, Харык з вялікаю сілай ускрывае таксама крыніцы новага совецкага фальклору, які нараджаецца ў цэхах, у тарфяных кар'ерах, у рабочых пасёлках. Вока Харыка прыкмячае новае ў быту сваіх герояў, новае ў іх мове, у іх жэстах. Гэта выратоўвае Харыка ад схематычных штампаў пры паказе працэсаў працы і новых людзей працы. Людзі Харыка—не рупары духу эпохі, а людзі з жывымі страсцямі.

Аднак нельга прайсці міма таго, што Харык нават у гэтай паэме не ідзе далей паказу адсталых сезоннікаў, што вобразы комуністаў ледзь вызначаны ў гэтай паэме, што ў індустрыяльных пейзажах паэт поруч з яркімі арыгінальнымі вобразамі дапускае рад тыпова-мястэчковых метафар.

У паэме „Круглыя тыдні“ майстэрства Харыка дасягае значнай сілы. Гукавое багацце гэтай паэмы здзіўляючае. Выяўленчыя сродкі Харыка становяцца больш скупымі, выразнымі. Паэтычны слоўнік—багатым, сакавітым. Паэт смела дабывае „слоўную руду“ з нетраў мовы яўрэйскіх працоўных Беларусі, чым значна ўзбагачае яўрэйскую літаратурную мову, якая вырасла на яўрэйскіх дыялектах Валыні і Польшчы.

Зніжаная лексіка, рэчавая інтанацыя верша, рэалістычная метафара, рэалістычная цяга да матэрыялізацыі і скульптурнасці верша—усё гэта падкрэслівае рэалізм Харыка. Адначасова Харык дае ў гэтай паэме рад раздзелаў, авеяных рамантычнай патэтыкай—такі напрыклад уступ да паэмы („Аўрал“), раздзел „Наш дзень цудоўней тысяч Томасаў Мотаў“ і г. д.

Арганічнае зліццё рэалізма з рэволюцыйнай рамантыкай ярка выступае ў дзіцячай паэме Харыка „Ад полюса да полюса“ (выйшла ў 1934 г.). У форме рамантычнай гутаркі ля піонерскага кастра Харык расказвае вельмі цёпла, рамантычна ўзнята аб тым, як „у познюю ноч наш правадыр таварыш Сталін прызадумаўся“ над праблемаю Беламорскага канала: як лепшыя чэкісты-большэвікі аддана прыняліся за ажыццяўленне плана Сталіна—за будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала; як у працэсе соцыялістычнай працы перавыхаваўся беспрытульны Айзік.

Аднак, ярчэй за ўсё гэта арганічнае зліццё рэалізма з рамантызмам можна праглядзець на лірыцы Харыка.

Харык адыграў у яўрэйскай паэзіі гістарычную ролю ў справе стварэння буйных паэтычных палоцен. Таму, натуральна часцей за ўсё гавораць аб паэмах Харыка. Але Харык не менш выдатны лірык, з рамантычнай цягай „да зор“, да „прыгожых даляў“, нават да фантастыкі.

У цыкле ранніх вершаў „Песня аб песнях“ (1924 г.), напісаных у духу аскетычнага адмаўлення ад ружовых кустоў і іншых мелехмондыт“ (Маякоўскі) у імя „песен-кулакоў“, Харык сарамяжа прызнаецца: „Я зор не разлюбіў“.

Вядома, паэт зор не разлюбіў. Ён—паэт рэаліст, які назваў сваю першую кнігу вершаў—„На зямлі“ (1926 г.) цягнецца ў рамантычную блакітную высь. „Я гатоў лятаць“, усё роўна! Мне хочацца лятаць“, „я галоднае дзіця—лячу“—вось радкі з розных лірычных вершаў Харыка.

Харык любіць „белы напеў снягоў“, „пахі смалы і дажджавой вады“, „залацісты пыл золака“.

Але „мечтательная“ лірыка Харыка, яго „цяга да зор“, яго лірычны пейзаж—асобнага роду. Харык перш за ўсё рэаліст, улюбёны ва ўсё жывое, бадзёрае, зямное. Яго мара аб крылах—не кніжна-рамантычная метафара, а рэальная сугуба-земная мара.

Верш, прысвечаны свайму першаму паветранаму палёту, Харык называе „зямным пілотам“. Там, у нябеснай сіні, дзе „лазур і свет пранізлівы да слёз“, паэт улюблёна рамантычна пяе аб .. зямлі, аб тым, што:

„А на ботах пыл дыміцца шызы,
Што з радзімых я прынёс далін“.

Харык выключна ўлюбён у гэты зямны пыл, у соцыялістычную зямлю, на якой ён усхвалёвана крочыць як п'яны:

„Дамоў-жа ідзеш ўзяўшы вочы на золак прывєтны,
Цудоўную зайздрасць нясеш да самога сябе ты,
Ідзеш і спяваеш і думаюць людзі, што п'яны.
А зоркі памерлі ў зіянні блакітнага рання.

Гэтай зусім зямною бадзёрасцю дыхае таксама ад большасці пейзажаў Харыка. Яны далёка ад тых імпрэсіяніс цка-размагнічаных ландшафтаў, якія доўгі час былі ў хаду ў яўрэйскай мяшчанскай лірыцы. Яны дынамічныя, „жытныя", я-б сказаў „фламандскія" пейзажы.

„У наш светлы сад зачынены ўваход
Таму, хто прагне ленага спакою
Хто хоча плён узрасціць маўклівасці глухое...
Бушуюць дрэвы і багаты плод
З галін звісае выгнутых дугою.

Такая прырода ў Харыка.

Лірычны голас Харыка зараз у поўным росквіце. Харык умее цёпла, лірычна, інтымна гаварыць аб самых рознастайных з'явах. Тэма чэлюскінцаў узята Харыкам у лірыка-рамантычным плане як аповесць аб Карыне Васільеўнай народжанай сярод айсбергаў.

Тэма Бірабіджан узята паэтам у лірыка-рамантычнай пераклічцы з „дальнім братам Міхаілам":

Эх, таварыш дальні, брат мой Міхаіл
Я ў цішы пачуў кайданаў звон тваіх
Сярод тысяч сопак бачу я твой след—
На усходзе дальнім трыумфальны цвет.

Харык не саромяецца наплыву лірычнага суму ў некаторых сваіх вершах, бо ён ведае, што гэты сум нічога агульнага не мае з „модаю на лірычны сум" у мяшчанскага паэта. Гэты сум—ад збытку пачуццяў, ад цягі „да зор". У Харыка можна знайсці рад такіх прыгожых лірычных вершаў, асабліва сярод тых, дзе Харык гаворыць аб „муках слова".

* * *

Харык адзін з буйнейшых яўрэйскіх савецкіх паэтаў. Ён вядомы далёка за межамі СССР. Яго чытаюць рэволюцыйныя яўрэйскія рабочыя Польшчы, Францыі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Аргентыны і г. д.

Зараз паэт скончыў манументальную паэтычную работу па паказу трагізма яўрэйскага народнага песняра („бадхан") ва ўмовах мястэчковага сярэднявечча. Гэтая паэма цудоўна па трагічнай страснасці сваёй інтанацыі, па выключнай пластыцы вобразаў і жанравых замалёвак, па багаццю мовы і фальклору. Тут паэт атрымлівае буйную перамогу ў барацьбе за стварэнне персанажнага вобраза ў паэзіі.

Трэба пажадаць паэту, каб ён смялей выйшаў на слупавую дарогу соцыялістычнай тэматыкі сучаснасці.

Зараз справа ідзе аб тым, каб з такім-жа майстэрствам Харык сумеў пераключыцца на паказ соцыялістычнай індывідуальнасці, лепшых людзей нашай эпохі, іх узрослых культурных патрэб, іх новых складаных эмоцый і ідэй. Харык мае ўсе даныя буйнага майстра, каб рэалізаваць гэтую задачу.

Краіна соцыялізма ўзрасціўшая яго, партыя большэвікоў, якая штодзённа кіруе мастацкай літаратурай і любоўна ўзрошчвае кадры, дапамогуць яму на гэтым шляху, навучаць яго змагацца, тварыць і перамагаць.

## ДАРАГІ ІСАК ДАВІДАВІЧ!

15 год таму назад ты, будучы местачковым юнаком-паэтам, увайшоў у яўрэйскую совецкую літаратуру.

Наша вялікая маці—соцыялістычная радзіма—любоўна ўзяла цябе за руку, павяла па таму слаўнаму шляху, які ўпрыгожаны цяпер тваім пятнаццацігадовым юбілеем.

Яўрэйскія працоўныя масы, лепшыя рэволюцыйныя элементы яўрэйскіх працоўных за мяжой чытаюць цябе і цэняць тым больш і глыбей, чым больш цябе ненавідзіць яўрэйская буржуазія, чыю культуру шавінізма ты па-майстэрску выкрываў і выкрываеш у сваіх творах.

Барацьба за асноўныя прынцыпы большэвіцкага інтэрнацыяналізма пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі—вось што натхняла лепшыя твае паэтычныя творы, пашырала твой ідэйны кругагляд. Гэтай барацьбе ты, бясспрэчна прысвеціш усё далейшае творчае жыццё, бо без барацьбы за пролетарскі інтэрнацыяналізм няма сапраўднага мастацтва.

Шмат якія тэмы нашай рэчаіснасці чакаюць твайго майстэрскага пяра. Ты ў росквіце сваіх творчых сіл і няма межаў росту мастака краіны соцыялізма. Ты шмат зрабіў, але мы ўпэўнены, што ты яшчэ больш зробіш на карысць бацькаўшчыны соцыялізма.

Слава партыі, якая любоўна вырошчвае свае кадры!

Слава ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыцы!

Прывітанне пролетарскаму паэту Ізі Харыку!

*А. Александровіч, Я. Браніштэйн, П. Броўка, І. Гурскі, П. Галавач, Я. Купала, Я. Колас, М. Лынькоў, М. Клімковіч, К. Чорны, М. Чарот.*

## ДАРАГІ ІЗІ ДАВІДАВІЧ!

Ты як верны сын нашай соцыялістычнай радзімы сваім талентам, сваімі палкімі натхняючымі вершамі завеш на змаганне супроць класавага ворага, на перамаганне спадчыны мінулага, на барацьбу за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

У дзень твайго 15-ці гадовага юбілея паэтычнай творчацці рэдакцыя часопісу „Полымя рэволюцыі“ і яго чытачы горача вітаюць цябе—вялікага майстра вобразаў, майстра высокай культуры слова і жадаюць доўгай і плённай работы на карысць нашай слаўнай соцыялістычнай радзімы.

Няхай-жа мужнее твой голас! Няхай слова тваё будзе поўнагучнаю песняй нашай радзіме, нашаму будаўніцтву, нашай слаўнай комуністычнай партыі!

*Рэдакцыя „Полымя Рэволюцыі“*



ІЗІ ХАРЫК

Ізі Харык

# НОЧ У БІРАБІДЖАНЕ

I

Мой Далёкі усход у зялёны захутаны дым...
Я не знаю чаму, але я так сумую па ім.
Мне так светла цяпер. Я нічога не бачыў ярчэй—
Снег, як горы, плыве ля шырока адкрытых вачэй.
Закрываю я іх. І праз шчыліны, глянуўшы ледзь—
вырастае Далёкі усход, быццам белы мядзведзь,
Важка мацае глебу, моцным гулам узняў берагі...
Але гэта не белы мядзведзь, гэта толькі шугаюць снягі.
Раскрываю я вочы. Мядзвядзёвы прапалі сляды—
Над Далёкім усходам—калматы, вялізарны дым,
Над Далёкім усходам маладыя снягі, па нагах
Б'юць святлом у прастор, аж да болю ў вачах.

II

Ў гэтай белай краіне цябе радасць узносіць ключом.
З сонцам побач ідзеш. І ты цёплае чуеш плячо.
Там зямлёю, блакітны, клубамі разносіцца пыл—
Пахне неяк адменна сіняватым агнём небасхіл...
І з'яўляецца смутак тады. Куды вокам пытлівым не кінь—
Сто кілометраў круг, а хаціны кавалак адзін,
Сто кілометраў круг, зрэдку толькі дзе ступіць нага
І адзін чалавек праплыве па бясконцых, іскрыстых снягах.
Куды хочаш ідзі, ўсюды моўкне тугі небасхіл,
Толькі крыкні і з неба аснежаны сыплецца пыл...
Сціснí вусны свае! Іх на ветры такім не разняць—
Неба моцна скавана і пад небам стаіць цішыня.

III

Па дарогах гудзіць і напеў узлятае, як птах—
Ноч. А зоры праходзяць свой сіні шлях...
Глянь, зарніца ўстае, паглядзі, асвятляе раку—
А мы пасяджэнне ўсё цягнем і цягнем, дакуль?
Час заснуць. Хутка будзе усход, як маліна, пылаць,
а маю галаву нахіляе усё ўніз да стала...
А ты ў марах ідзі. Па далінах аснежаных кроч,
Ты куды мае думкі вядзеш, Бірабіджанская ноч?

Кругом цемра, сціхае і мятлюга радзей і радзей—
Хутка прыдзе сюды і шумлівы і радасны дзень...
А ты ў марах ідзі. Па далінах аснежаных кроч,
Ты куды мае думкі вядзеш, Бірабіджанская ноч?

IV

Тады думкі у голас ідуць, хоць і вусны закрыты. Адно—
Цішыня адусюль мне клубкамі кладзецца ля ног...
Неба сыпле снягамі густымі бялей і бялей...
І краіна кладзецца такая ў мяне на стале:
—Паглядзі, выкрай тут. І мяне ўздымі ад тых сноў!
(Ёсць мястэчка такое, невялічкае ёсць—Рагачоў,
Бацька рэзаў нажнічкамі там і пад старасць зусім спапялеў...)
І краіна ўся, мне здаецца, ляжыць на стале:
—Прыглядайся, выкройвай тут, каб усё навакол загуло,
Каб жыццё маладое, як сонца, высока ўзышло!
Ах, мястэчкі, ах козы вы белыя, што на вуліцы вышлі ціхом—
На Далёкім усходзе узняўся велізарны дом.

V

Па дарогах гудзіць і напеў узлятае як птах—
Ноч. А зоры праходзіць свой сіні шлях...
Да зямлі я прыпаў і дыханне ледзь трапіў суняць,
Як з глыбінь да мяне прылятае ізноў цішыня.
Чорнай сілы нутро у зямлі. І гайсаюць вятры па вадах:
І як мары—багатай і рознай, ляжыць там руда.
Там багацце кругом, як тайгою разрослая дзіч—
І багацце раве і багацце землёю гудзіць...
Усюды гоман такі, дзе ты толькі нагою не стань,
І нібы кантрабасаў мільён, і кожнага голас бы сталь,
Там золата, медзь і вугалле. Там многа стаіць маразоў,
Краіна чакае людзей. Яе абудзілі ад сноў.

VI

Такое суцішша вакол. Карункамі сон над суцішшам,
Спадае мая галава, кудлатая, ніжай і ніжай:—
— Эх, браце, таварыш Міхал! Паміж маіх сёняшніх сноў—
Здаецца у гэтую ціш пачуў я той звон ланцугоў,
Што трактам сібірскім стаяў, у ваш невясёлы паход,
Як ціснуў пякучы мароз і снег уядаўся, як шрот...
Як вецер тады падганяў, хто сіламі вельмі саслаб,
Як вы пагражалі тады, праз катаржны, цяжкі этап:
— Кармі нас крывёю, турмой! Яда нам была не была!
Мы яшчэ стрэнем цябе, пракляты, ты цар Нікалай!
— Эх, браце, таварыш Міхал! паміж маіх сёняшніх сноў—
Здаецца ў гэтую ціш я чую той звон ланцугоў...
Між сопак шукаю тваіх застыўшых, апошніх слядоў,
А тут на Далёкім усходзе узняўся велізарны дом.

VII

Гэта зусім не мястэчкі песні спяваюць свае—
Ноччу краіна гудзіць, сіняю зноў устае.
Досвіткам чырвань плыве, густа кладзецца на дол,
З самага досвітку чуць-грымяць і будуюць вакол—
Тайгою пайшоў дынаміт. Тайгу перамог ў барацьбе,
І адыходзіць тайга, тугу захаваўшы ў сабе.
А гулка сякеры звіняць, а гоняць няшчадна тугу...
І вось узняліся масты і горда дарогі бягуць...
На працы бадзёрыя там, дзе дзеўся замучаны люд,
Здаровыя мускулы скрозь перарабляюць зямлю.
На гэтай зямлі устае прыгожы і радасны дом—
Да самых вялікіх вышынь будоўлі разносіцца гром...

VIII

Зарніца чырвонай плыве над белымі сем'ямі хат,
Што раз багацей і ясней з тайгі устае далягляд—
Вось-карпусы, як адзін. Раней не было ні душы
І раніца буйнай такой на ўсю уздымаецца шыр...
На столік праменні ляглі і свежы, узбуджаны шум—
І вочы свяглеюць мае. І смела я ўперад гляджу...
Канец пасяджэнню ў начы. Бяссоння ніякіх адзнак—
Па ўсіх пуцявінах, шляхах імклівая песня адна—
Яна абуджае дамы, яна пераможна вядзе,
Багацце магутнай хадой на тэту краіну ідзе,
І дзень як асілак пайшоў напоўніўшы сілай прасцяг,
І вось ён ідзе па зямлі, з праменняў праносячы сцяг.

З яўрэйскай мовы пераклаў
П. Броўка.

Ізі Харык

## РАНІЦА

Раніцай—трактар, як медзь зараніц,
Як золата, трактар—у поўдзень гарыць.
Увечары—трактар сталёвы, як змрок,
Трактар—у ночы і голас і зрок...

Ледзь выгляне золак над роснай зямлёй—
На полі ўжо трактар вёў наступ свой,
Не спаў і раз'юшаны воўк... Заўжды
Крыжуюцца трактара й воўка сляды.

Зялёны воўк, як біты злодзей,
З галодным бляскам у вачах,
На поле выглянуць выходзіць,
Выходзіць выглянуць на шлях.

Дрыжыць сырой абдзёртай скурай
У зубах, што косць, трымае злосць..
Стаіць на ўзлессі гнеўны, хмуры,
А ў лесе—гоман, весялосць!

Стаіць адзін... Разбіта зграя...
Куды падацца? Шмат шляхоў...
І вые, вые, завывае,
Выццём распальваючы кроў.

І вые, вые ў адзіноце,
Куды пайсці? Куды? Куды?
А лес, ад сонца, ў пазалоце!
А лес пяе—на ўсе лады!

І гулка трактары ракочуць
На расцвітаючых палях.
А воўк—кульгаючы скрыгоча,
У вачах ваўка—смяротны жах!..

Пераклаў з яўрэйскай мовы
Андрэй Александровіч.

**Ізі Харык**

* * *

У светлы сад наш забаронен уваход,
Для ўсіх, хто марыць аб пяшчотах і спакоі,
Хто хоча гадаваць маўчанне тут глухое...
Бушуюць дрэвы ў ім, і цяжкі плод
Да долу гне галіны там дугою.

Дзе гул вятроў, іх урачысты крок,
І пад карою дрэў гудзе гарачы сок.
Шуміць лістота пазалотай пышнай,—
І галаву ўзняць павінен вышай,
У наш сад пераступаючы парог.

Тут буйны рост у дрэваў маладых,
Тут пахі смол і дажджавой вады.
І, набухаючы, трашчыць кара сырая,
І косткамі галіны нагінаюць
Да долу зараз спелыя плады.

Пераклаў з яўрэйскай мовы
Мікола Хведаровіч.

Ізі Харык

## СНЕГ

Белым шэлестам кратае іней
Мой гарачы і стомлены лоб.
Зачараваны змрочнасцю сіняй
Век бы слухаў як кратае іней
Белым шэлестам смуглы мой лоб.

Я не ведаў цяжкое стомы,
Але сёння прышла яна...
У гэту ноч, гэты час невядомы,
Пад пушыстаю цяплынёю
Атуляе мяне бялізна.

Іней усюды карункі развесіў,
А навокал сняжыць зіма ..
Скіну шапку, кажушок мой цесны,
Так, каб снег мяне белаю песняй
Абдымаў, абдымаў, абдымаў.

Пераклаў з яўрэйскай мовы
Мікола Хведаровіч.

Мікола Хведаровіч

# ГРУЗІНСКІЯ НАДВЯЧОРКІ

## У ПОЦІ

Надвячорак.
Вецер хвалі коціць,
Балацянік
Падпірае мора.
Ї хістаецца
На п'янай выспе
Поці,
Малады,
Румянашчокі горад.

Блудзіць сонца
У нязмернай шыры,
Мерыцца нырнуць
У пену хваляў,
Туманы паўзуць
З-пад Очэмчыраў,*)
Ї ў даліну
Коцяць вал,
За валам.

Парнасць
Падымаецца з балотаў,
Крыкі чаяк
Над Рыон-ракою.
Эвкаліптаў стройных
Пазалота
Зіхаціць
Кефальнаю луской.

На сады лімонаў
Ї чарэшань,
Маладых,
Ружовых,
Поўнакроўных,

*) Горад.

Захад ізумрудаў
Панавешваў,
Іх усюды
Дзе не глянеш—
Поўна.

Вечарэе,
Вецер хвалі коціць
Па вірох крутых
Палеастома. *)
Дыхаюць сады
У адзіноце
Краскамі,
Лімоннаю аскомай.

Ноч, як чоха **) чорная,
Як змога,
Змрокамі кладзецца
Па дарогах.

## У ЦЫНАНДАЛІ

У кіпарысах
Загубіўся поўдзень,
Дзе шукаць?
Яго нідзе
Не знойдзеш.
Ходзіць садам,
Лесам ходзіць,
Полем...
Ах, як пахнуць
Белыя магноліі.

Ястрабы
Вісяць над галавою,
Дышуць цяжка
У цынандалях хвоі.
Як навар
Смалістае паветра;
Сонца апускаецца
У нетры,
У прадонне гор
Зямное кулі...

Бродзяць віна
У Напэраулі, ***)

*) Вялікае возера.
**) Адзенне грузіна.
***) Вінаградны соўгас.

У даліне сіняй
Алазані,
Бочкі разрываюць
Ў Мукузані. *)

Морак засцілае
Горы ў далях,
Дрэмлюць кіпарысы
Ў цынандалях.

Ноч ідзе
З маланкамі,
З дажджамі,
Вокны праціскае
Мравол—
жаміер. **)

27. VI—35 г.
Тіфліс.

*) Вінаградны соўгас.
**) Нацыянальны народны спеў.

Н. Астроўскі

# ЯК ГАРТАВАЛАСЯ СТАЛЬ

(Урывак з рамана)

У маленькі гарадок віхурай уварвалася ашаламляючая вестка: „Цара скінулі“.

У гарадку не хацелі верыць.

З прыпоўзшага ў завіруху поезда на перон выкаціліся два студэнты з вінтоўкамі паверх шынелі і атрад рэвалюцыйных салдат з чырвонымі павязкамі на рукавах. Яны арыштавалі станцыйных жандармаў, старога палкоўніка і начальніка гарнізона. І ў горадзе паверылі. Па снежных вуліцах да плаца пацягнуліся тысячы людзей.

Прагавіта слухалі новыя словы: свабода, роўнасць і братэрства.

Мінулі дні, шумлівыя, напоеныя ўзбуджаннем і радасцю. Наступіла зацішша і толькі чырвоны сцяг над будынкам гарадское ўправы, дзе гаспадарамі замацаваліся меншавікі і бундаўцы, нагадваў аб мінуўшай перамене. Усё астатняе засталося без змен.

К канцу зімы ў гарадку размясціўся гвардзейскі кавалергардскі полк. Раніцамі ездзілі эскадронамі на станцыю лавіць дэзертыраў, якія ўцякалі з паўднёва-заходняга фронта.

У кавалергардаў твары сытыя, народ рослы, здаравенны. Афіцэры ўсё вялікія графы ды князі, пагоны залатыя, на рэйтузах канты срэбраныя, усё як пры цары—быццам і не было рэволюцыі.

Пракрочыў міма семнаццаты год. Для Паўкі, Клімкі і Сярожкі Бruзжака нічога не змянілася. Гаспадары засталіся старыя. Толькі ў дажджлівы лістапад стала тварыцца нешта нядобрае. Заварушыліся на вакзале новыя людзі, усё больш з акопных салдат, з дзіўным прозвішчам „большэвікі“.

Адкуль такая назва, цвёрдая, важкая, нікому і неўцям.

Цяжкавата гвардзейцам дэзертыраў з фронта стрымліваць. Усё часцей лопаліся вакзальныя вокны ад ружэйнай страляніны. З фронта зрываліся цэлымі групамі і пры затрыманні адбіваліся штыкамі. У пачатку снежня хлынулі цэлымі эшалонамі.

Гвардзейцы вакзал запрудзілі, утрымаць думалі, але іх куляметнымі трашчоткамі ашарашвалі. Да смерці прывыкшыя з вагонаў высыпалі.

У горад гвардзейцаў загналі шэрыя франтавікі. Загналі і на вакзал вярнуліся і далей рушыліся эшалон за эшалонам.

Вясною тысяча дзевяцьсот васемнаццатага года тры сябра ішлі ад Сярожы Бruзжака, дзе рэзаліся ў „шэсцьдзесят шэсць“. Па дарозе завярнулі ў садок Карчагіна. Прыляглі на траву. Было сумна. Заўсёдныя заняткі надаелі. Пачалі думаць, як бы лепш дзянёк правесці. За спінаю зацокалі капыты коней, і на дарогу вынесся коннік. Конь лёгка

пераскочыў канаву, якая аддзяляла шашу ад нізенькага плоту садзіка. Коннік махнуў нагайкаю лежаўшым Паўку і Клімку:

— Гэй, хлопцы мае, сюды!

Паўка і Клімка ўскочылі на ногі і падбеглі к плоту. Коннік быў увесь у пыле; тоўстым слоем шэрага дарожнага пылу былі пакрыты збітая на патыліцу шапка, гімнасцерка і порткі. На моцным салдацкім рамяні віселі наганы і дзве нямецкія бомбы.

— Нясеце вады напіцца, рабяткі!—папрасіў коннік і, калі Паўка пабег у хату па ваду, звярнуўся да глядзеўшага на яго Сярожкі:—Скажы, хлапчук, якая ўлада ў горадзе?

Сярожка таропка стаў расказваць прыезжаму ўсе гарадскія навіны:

— Ніякай улады у нас ужо два тыдні няма. Самаахова ў нас улада. Усе жыхары па чарзе ходзяць ноччу горад ахоўваць. А вы хто такія будзеце?—у сваю чаргу задаў ён пытанне.

— Ну, многа будзеш ведаць, — скора састарышся, — з ухмылкаю адказаў коннік.

З хаты бег Паўка, трымаючы ў руках кубак з вадою.

Коннік прагна, не адрываючыся выпіў яе да дна, перадаў кубак Паўку, тузануў повад і, узяўшы з месца ў кар'ер, паімчаўся да краю сасновага лесу.

— Хто гэта быў?—неўразуменна запытаў Паўка Клімку.

— Адкуль я ведаю?—адказаў той, паціснуўшы плячыма.

— Напэўна змена ўлады зноў будзе. Таму і Ляшчынскія ўчора выехалі. А раз багатыя ўцякаюць — значыць прыдуць партызаны, — канчаткова і цвёрда вырашыў гэта палітычнае пытанне Сярожка.

Доказы яго былі настолькі ўпэўніваючымі, што з ім зразу згадзіліся і Паўка і Клімка.

Не паспелі рэбята як належыць пагаварыць аб гэтым, як па шашы зацокалі капыты. Усе трое кінуліся да плоту.

З лесу, з-за хаты ляснічага, якая насілу відаць рэбятам, рухаліся людзі, павозкі, а зусім недалёка па шашы—чалавек пятнаццаць конных з вінтоўкамі ўпоперак сядла. Уперадзе конных двое: адзін—паджылы, у зашчытным фрэнчы, перапаясаным афіцэрскімі рамянямі, з біноклем на грудзях, а поруч з ім —толькі што бачаны рэбятамі коннік. На фрэнчы ў паджылага—чырвоны бант.

— А я што сказаў?—тауканув Паўку локцем у бок Сярожка.— Бачыш чырвоны бант. Партызаны. Аслепні я—партызаны...—і галекнуўшы ад радасці, птушкай пераляцеў праз плот на вуліцу.

Абое сябры накіраваліся за ім. Усе трое стаялі цяпер на краю шашы і глядзелі на пад'язджаючых.

Коннікі пад'ехалі зусім блізка. Знаёмы рэбятам кіўнуў ім і, паказаўшы нагайкаю на дом Ляшчынскіх, запытаў:

— Хто ў гэтым доме жыве?

Паўка, стараючыся не адставаць ад конніка, расказваў:

— Тут адвакат Ляшчынскі жыве. Учора збег. Вось, бадай, спужаўся...

— Ты адкуль ведаеш, хто мы такія?—запытаў усміхаючыся паджылы.

Паўка ўказваючы на бант адказаў:

— А гэта што? Зразу відаць...

На вуліцу высыпалі жыхары, з цікаўнасцю разглядаючы ўваходзіўшы ў горад атрад. Сябры стаялі каля шашы і глядзелі на праходзіўшых запыленых, стомленых чырвонагвардзейцаў.

Калі прагрукала па каменнях адзіная ў атрадзе гармата і праехалі павозкі з кулямётамі, рэбята пашлі за партызанамі і разышліся дадому

толькі пасля таго, як атрад спыніўся ў цэнтры горада і стаў размяшчацца па кватэрах.

Вечарам у вялікай гасцінным доме Ляшчынскага, дзе спыніўся штаб атрада, за вялікім, з разнымі ножкамі сталом сядзела чацвёра: трое з комскладу і камандзір атрада таварыш Булгакоў—паджылы, з сівізнаю ў валасах.

Булгакоў, разгарнуўшы на стале карту губерні, вадзіў па ёй ногцем, адціскаючы лініі, і гаварыў, звяртаючыся да сядзеўшага насупроць скуластага, з моцнымі зубамі.

— Ты кажаш, таварыш Ермачэнка, што тут трэба будзе весці барацьбу, а я думаю—трэба раніцою адыходзіць. Добра-б нават уначы, але людзі стаміліся. Наша задача—паспець адыйсці ад Казаціна, пакуль немцы не дабраліся туды раней нас. Супраціўляцца з нашымі сіламі—гэта-ж смешна... Адна гармата і трыццаць знарадаў, дзвесце штыкоў і шэсцьдзесят сабель—грозная сіла... Немцы ідуць жалезнай лавінай. Біцца мы зможам толькі злучыўшыся з другімі адыходзячымі чырвонымі часткамі. Мы ж павінны мець на ўвазе, таварыш, што акрамя немцаў мы маем на шляху многа розных контррэвалюцыйных банд. Мая думка—заўтра-ж раніцою адыходзіць, узарваўшы мосцік за станцыяй. Пакуль немцы будуць яго наладжваць, пройдзе два-тры дні. Па чыгунцы іх прасоўванне будзе затрымана. Вы як думаеце, таварышы? Давайце вырашым—звярнуўся ён да таварышоў, што сядзелі за сталом.

Сядзеўшы наўскос ад Булгакова Стружкоў пажаваў губамі, паглядзеў на карту, потым на Булгакова і нарэшце з цяжкасцю выдавіў застраўшыя ў горле словы:

— Я... пад...дтрымліваю Булгакова.

Самы малады ў рабочай рубашцы згадзіўся: — Булгакоў гаворыць справу.

І толькі Ермачэнка, той, што днём гутарыў з рэбятамі, адмоўна кіўнуў галавою.

— На якое-ж ліха мы тады атрад збіралі? Каб адыходзіць перад немцамі без бойкі? Па-мойму, нам трэба тут з імі стукнуцца. Надаела лататы даваць... Калі-б на мяне, то я біўся-б тут абавязкова. —Ён рэзка адсунуў стул, падняўся і стаў хадзіць па пакоі.

Булгакоў неадабральна паглядзеў на яго:

— Біцца трэба з толкам, Ермачэнка. А кідаць людзей на верны разгром і знішчэнне—гэтага мы не можам рабіць. Ды гэта і смешна. За намі ідзе цэлая дывізія з цяжкай артылерыяй, бронемашынамі... Не трэба займацца блазенствам, таварыш Ермачэнка... — І ўжо звяртаючыся да астатніх скончыў: — Значыць, вырашана — заўтра раніцою адыходзім.

— Наступнае пытанне—аб сувязі,—працягваў нараду Булгакоў.— Раз мы адыходзім апошнімі, на нас лажыцца задача па арганізацыі работы ў тылу ў немцаў. Тут—буйны чыгуначны вузел, гарадзішка мае два вакзалы. Мы павінны паклапаціцца аб тым, каб на станцыі працаваў надзейны таварыш. Зараз мы вырашым, каго з сваіх пакінуць тут для наладжвання работы. Намячайце кандыдатуры.

— Я мяркую, што тут павінен застацца матрос Жухрай,—сказаў Ермачэнка, падыходзячы да стала.—Па-першае, Жухрай з тутэйшых мейсц. Па-другое, ён слесар і манцёр—зможа ўстроіцца працаваць на станцыі. З нашым атрадам Федара ніхто не бачыў—ён прыедзе толькі ўначы. Хлапец ён з галавою і тут справу наладзіць. Па-мойму, гэта самая ўдачная кандыдатура.

Булгакоў кіўнуў галавою.

— Правільна, я з табою згодзен, Ермачэнка. Вы, таварышы, не супярэчыце?—звярнуўся ён да астатніх. — Не. Значыць, пытанне вычарпана. Мы пакідаем Жухраю грошай і мандат на работу.

— Зараз трэцяе, апошняе пытанне, таварышы,—сказаў Булгакоў.— Гэта пытанне аб зброі, якая знаходзіцца ў горадзе. Тут маецца цэлы склад вінтовак—дваццаць тысяч штук, вастаўшыхся яшчэ ад царскай вайны. Зложаны яны ў сялянскім хлеве і ляжаць там, забытыя ўсімі. Мне паведаміў аб гэтым селянін-гаспадар хлява. Хоча пазбавіцца ад іх... Пакідаць немцам гэты склад вядома нельга. Я лічу патрэбным яго спаліць. І зараз-жа каб да раніцы ўсё было гатова. Толькі падпальваць бяспечна: хлеў стаіць на краі горада, сярод бядняцкіх двароў: могуць загарэцца сялянскія будынкі.

Моцна складзены з шчацінаю даўно небрытай барады, Стружкоў заварухнуўся:

— На... на... на што падпальваць? Я д...умаю, раз...раздаць зброю на...насельніцтву.

Булгакоў хутка павярнуўся да яго:

— Раздаць, кажаш?

Ермачэнка спыніўся і коратка махнуў рукой.

— Правільна. Вось гэта правільна—у захапленні ўсклікнуў ён.— Раздаць яго рабочым і астатняму насельніцтву, хто захоча. Будзе, па крайняй меры, чым пачасаць бакі немцам, калі прыціснуць да апошняга. А калі стане не ўсцерп, возьмуцца рэбята за зброю. Стружкоў правільна сказаў. Раздаць. Добра-б нават у вёсачку падкінуць. Мужычкі схаваюць паглыбей, а як немцы стануць рэквізаваць пад чыстую, гэтыя вінтовачкі—ого як патрэбны будуць.

Булгакоў засмяяўся.

— Так, але-ж немцы загадаюць здаць зброю, і ўсе яе аднясуць.

Ермачэнка засупярэчыў.

— Ну, не ўсе аднясуць. Хто аднясе, а хто і пакіне.

Булгакоў запытальна абвёў вачыма ўсіх, хто сядзеў.

— Раздамо, раздамо вінтоўкі,—падтрымаў Ермачэнку і Стружкова малады рабочы.

— Ну што-ж, значыць раздамо,—згадзіўся Булгакоў.—Вось і ўсе пытанні,—сказаў ён устаючы з-за стала.—Зараз мы зможам да раніцы аддыхнуць. Калі прыедзе Жухрай, хай зойдзе да мяне. Я пагутару з ім. А ты, Ермачэнка, пайдзі правер пасты.

Застаўшыся адзін, Булгакоў прайшоў у суседнюю з гасцінная спальню гаспадара і, разаслаўшы на матрацы шынель, лёг.

---

Раніцою Паўка варочаўся з электрастанцыі. Ужо цэлы год працаваў ён падручным качагарам.

У горадзе панавала незвычайнае ажыўленне. Гэтае ажыўленне зразу кінулася яму ў вочы. Па дарозе ўсё часцей і часцей сустракаліся жыхары, якія неслі па адной, па дзве і па тры вінтоўкі. Паўка паспяшыў дамоў, не разумеючы, у чым справа. Каля дому Ляшчынскага садзіліся на коней учарашнія яго знаёмыя.

Убегшы ў хату, наспех памыўшыся і даведаўшыся ад мацеры, што Арцёма яшчэ няма, Паўка выскачыў і паімчаўся да Сярожкі Брузжака, які жыў на другім канцы горада.

Сярожка быў сынам памочніка машыніста. Яго бацька меў уласны маленькі домік і такую-ж маленькую гаспадарку.

Сярожкі дома не было. Матка яго поўная белатварая жанчына незадаволена паглядзела на Паўку.

— А ліха яго ведае, дзе ён! Сарваўся раніцою, носіць яго нялёгкая. Зброю, кажа, недзе раздаюць, дык ён напэўна там і ёсць. Усыпаць вам розак трэба, саплівым ваякам. Распусціліся праз меру. Ўйму вам няма. Два вяршкі ад гаршка, а туды-ж, па зброю. Ты яму, падлюзе, скажы: калі хоць адзін патрон у дом прынясе, голаў адарву. Нацягне ўсякай гадасці, а потым адказвай за яго. А ты што, таксама туды сабраўся?

Але Паўка не слухаў сварлівае Сярожкінай мацеры і выкаціўся на вуліцу.

Па шашы шоў мужчына і нёс на кожным плячы па вінтоўцы.

— Дзядзя, скажы дзе дастаў?—падляцеў да яго Паўка.

— А там, на Верхавіне, раздаюць.

Паўка паімчаўся наколькі хапала духу па ўказанаму адрасу. Прабегшы дзве вуліцы ён наткнуўся на хлапчука, які цягнуў цяжкую пяхотную вінтоўку са штыком.

— Дзе ўзяў стрэльбу?—запыніў яго Паўка.

— Насупраць школы раздаюць атраднікі, але ўжо нічога няма. Усё разабралі. Цэлую ноч давалі, адны скрынкі пустыя ляжаць. А я другую нясу,—з гордасцю скончыў хлапчук.

Паведамленая навіна страшэнна занепакоіла Паўку.

„Эх, чорт, трэба было зразу бегчы туды, а не ісці дахаты!—з адчаем думаў ён.—І як гэта я прамаргаў?“

І раптам абрадаваны думкаю, крута павярнуўся і, дагнаўшы трыма прыжкамі ўхадзіўшага хлапчука, з сілай рвануў вінтоўку ў яго з рук.

— У цябе ўжо адна ёсць—хопіць. А гэта мне—тонам, які не дапускае супярэчання, заявіў Паўка.

Хлапчук, ашалелы грабяжом сярод белага дня, кінуўся на Паўку, але той адскочыў крок назад і, выставіўшы ўперад штык, крыкнуў:

— Адскоч, а то наколешся.

Хлопчык заплакаў ад шкады і пабег назад, лаючыся ад бязсільнай злосці, а Паўка, задаволены, паімчаўся дамоў. Перамахнуў праз плот, убег у хляўчук, прымасціў на бэльках пад страхою здабытую вінтоўку і, радасна пасвістваючы, увайшоў у хату.

---

Харошыя вечары на Украіне летам у такіх маленькіх гарадках-мястэчках як Шапятоўка, дзе сярэдзіна гарадок, а ўскраіна—сялянскія.

У такія ціхія вечары ўся моладзь на вуліцах. Дзяўчаты, парубкі—усе ля сваіх ганкаў, у садах, палісадніках, проста на вуліцы, на зваленых для пабудовы бярвеннях, групамі, паркамі. Смех, песні.

Паветра дрыгаціць ад гушчыні і паху кветак. Глыбока ў небе ледзьледзь паблісквающь святлячкамі зоркі, і голас чуцен далёка-далёка...

Любіць сваю гармонь Паўка. Улюбёна ставіць на калена пявучую двухрадку венскую. Пальцы лоўкія клавішы крыху крануць, прабягуць зверху ўніз хутка, з пераборам. Густа ўздыхнуць басы і засыпле гармонік ліхую, залівістую, а пальцы лётаюць—не заўважыш, не даглядзіш...

Выгінаецца гармонік, і як тут у прысядку не пойдзеш? Не ўцерпіш—так ногі і ходзяць. Горача дыхае гармонік, хораша жыць на свеце.

Сёння вечарам было асабліва весела. Сабралася на бярвеннях каля хаты, дзе жыў Паўка, моладзь смяшлівая, а званчэй усіх—Галачка, суседка Паўкіна. Любіць дачка каменачоса паскакаць, паспяваць з рэбятамі. Голас у яе—альт, грудны, аксамітны.

Пабойваецца яе Паўка. Язычок у яе гостры. Садзіцца яна поруч з Паўкай на бярвеннях—абыймае яго моцна і смяецца:

— Эх ты, гарманіст удалы. Шкода, недарос маленька, а то-б добры мужанёк для мяне быў. Люблю гарманістаў, растае мае сэрца перад імі.

Чырванее Паўка—добра вечарам не відно. Адсоўваецца ад балаўніцы, а тая яго моцна дзержыць—не пускае.

— Ну куды-ж ты, міленькі, уцякаеш? Ну, і жанішок,—жартуе яна.

Адчувае Паўка плячом пругкія грудзі і ад гэтага становіцца неяк трывожна, хвалююча, а кругом смех непакоіць звычайна ціхую вуліцу.

Паўка ўпіраецца рукою ў плячо Галачкі і кажа:

— Ты мне перашкаджаеш граць, адсунься.—І зноў выбух смеху, падразніванні, жарты.

Умешваецца Маруся:

— Паўка, сыграй што-небудзь сумнае, каб за душу брала.

Павольна расцягваюцца мяхі, пальцы ціха перабіраюць. Знаёмая ўсім родная мелодыя. Галіна першая падхоплівае яе. За ёй—Маруся і астатнія.

Збіралися всі бурлаки
Да рідної хати.
Тут нам мило,
Тут нам любо.
С журби заспівати...

І ўносяць далёка к лесу звонкія маладыя галасы, што пяюць песню.

— Паўка!—Гэта голас Арцёма.

Паўка сціскае мяхі гармоніка, зашпільвае рамяні.

— Завуць, я пашоў.

Маруся гаворыць упрошваюча:

— Ну пасядзі яшчэ, паіграй крыху. Паспееш дахаты.

Але Паўка спяшае.

— Не, заўтра яшчэ пайграем, а зараз ісці трэба. Арцём кліча—і бяжыць цераз вуліцу дахаты.

Адчыніўшы дзверы ў пакоік, бачыць—за сталом сядзіць Раман, таварыш Арцёма і яшчэ трэці незнаёмы.

— Ты мяне зваў?—спытаў Паўка.

Арцём кіўнуў на Паўку галавою і звярнуўся да незнаёмца.

— Вось ён самы і ёсць, брацепік мой.

Той працягнуў Паўку вузлаватую руку.

— Вось што, Паўка,—звярнуўся Арцём да брата.—Ты кажаш, што ў вас на электрастанцыі манцёр захварэў. Заўтра даведайся, ці не прымуць яны на яго месца чалавека, які ведае справу. Калі трэба, ты прыдзеш і скажаш.

Незнаёмец умяшаўся.

— Не, я пайду з ім разам. Сам з гаспадаром і пагутару.

— Вядома трэба. Сёння-ж станцыя і не пашла таму, што Станкевіч захварэў. Гаспадар разы тры прыбягаў—усё шукаў каго-небудзь замяніць, ды не чашоў. А пушчаць станцыю з адным качагарам не рашыўся. А манцёр тыфусам захварэў.

— Ну, вось, справа і зроблена,—сказаў незнаёмец. Заўтра я за табою зайду і пойдзем разам—звярнуўся ён да Паўла.

— Добра.

Паўка сустрэўся з шэрымі спакойнымі вачыма незнаёмца, уважліва вывучаўшымі яго. Цвёрды немігаючы погляд некалькі збянтэжыў Паўку. Шэры піджак, зашпілены зверху данізу, на шырокай крэпкай спіне быў моцна нацягнут—відно, гаспадару ён быў цесны. Плечы з галавою злучала моцная, як у вала, шыя, і ўвесь ён быў наліты сілаю, як стары карчасты зуб.

Развітваючыся, Арцём прагаварыў:

— Покуль усяго добрага, Жухрай. Заўтра пойдзеш з браценікам ўладуеш усю справу.

Немцы ўвайшлі ў горад праз тры дні пасля адыходу атрада. Аб іх прыбыцці паведаміў гудок паравоза на станцыі, асірацеўшай за апошнія дні. Па горадзе разнеслася вестка:

— Немцы ідуць.

І горад закапашыўся, як раздражнены муравейнік, хоць даўно ўсе ведалі, што немцы павінны прыйсці. Але ў гэта неяк слаба верылі. І вось гэтыя страшныя немцы не недзе ідуць, а ўжо тут, у горадзе.

Усе жыхары прыліплі да платоў, брам. На вуліцу выходзіць баяліся.

А немцы ішлі ланцужком па абодвых баках, пакідаючы шашу свабоднай, у цёмна-зялёных мундзірах, з вінтоўкамі на перавес. На вінтоўках—шырокія, як нажы, штыкі. На галовах—цяжкія стальныя шлёмы. За спінамі—вялізныя ранцы. Ішлі яны ад станцыі к гораду беспрарыўнаю істужкай, ішлі насярожана, гатовыя кожную хвіліну да адпору, хоць адпору даваць ім ніхто і не збіраўся.

Спераду крочылі два афіцэры з маўзерамі ў руках. Пасярэдзіне шашы—гетманскі старшыня, перакладчык, у сінім украінскім жупане і папасе.

Сабраліся немцы ў карэ на пляцы, у цэнтры горада. Забілі ў барабан. Сабраўся невялікі натоўп пасмялеўшых абывацеляў. Гетманец у жупане вылез на ганак аптэкі і голасна прачытаў загад каменданта, маёра Корфа:

У загадзе гаварылася:

§ 1.

Загадваю:

Усім грамадзянам горада знесці на працягу дваццаці чатырох гадзін маючыяся ў іх агнястрэльную і халодную зброю. За невыкананне гэтага загада—расстрэл.

§ 2.

У горадзе абвяшчаецца ваеннае палажэнне і хаджэнне пасля васьмі гадзін вечара забараняецца.

Камендант горада маёр Корф.

У доме, дзе раней знаходзілася гарадская ўправа, а пасля рэвалюцыі змяшчаўся совет рабочых дэпутатаў, размясцілася нямецкая камендатура. Ля ганка дома стаяў вартавы, ужо не ў стальным шлёме, а ў парадной касцы, з вялізным імператарскім арлом. Тут-жа, у двары, было складачнае мейсца для зброі, якую зносілі.

Цэлы дзень напуджаны пагрозай расстрэла абывацель зносіў зброю. Дарослыя не паказваліся. Зброю несла моладзь і хлапчукі. Немцы нікога не затрымлівалі.

Тыя, хто не хацеў несці, ноччу выкідваў зброю проста на шашу, і раніцою нямецкі патруль сабіраў яе, складваў на вайсковую павозку і адвозіў у камендатуру.

А першай гадзіне дню, калі сышоў тэрмін здачы зброі, нямецкія салдаты падлічвалі свае трафеі. Усяго здана было вінтовак чатырнаццаць тысяч штук. Значыць шэсць тысяч вінтовак немцы назад не атрымалі, і павальныя вобыскі, зробленыя імі, далі вельмі нязначныя вынікі.

На світанні наступнага дня за горадам, ля старых яўрэйскіх могілак, былі расстрэлены двое рабочых-чыгуначнікаў, у якіх пры вобыску былі знойдзены схаваныя вінтоўкі.

---

Арцём выслухаў загад, заспяшыў дахаты. У дварэ ён сустрэў Паўку, узяў яго за плячо і ціха, але пагрозліва запытаў:

— Ты што-небудзь прынёс дахаты са складу?

Паўка збіраўся змаўчаць пра вінтоўку, але хлусіць брату не хацелася і ўсё расказаў.

Пашлі да хлява разам. Арцём дастаў заложаную за бэлькі вінтоўку, выняў з яе затвор, зняў штык і, узяўшы вінтоўку за рулю, размахнуўся і з усяе сілы стукнуў аб слуп плота. Прыклад разляцеўся. Рэшткі вінтоўкі былі выкінуты далёка ў пустыр за садком. Штык і затвор Арцём кінуў у прыбіральню.

Прарабіўшы ўсё гэта, Арцём павярнуўся да брата:

— Ты ўжо не маленькі, Паўка, разумееш, што са зброяй жартаваць няма чаго! Я табе ўсур'ёз гавару—нічога дахаты не нясі. Ты ведаеш, за гэта жыццём можна цяпер паплаціцца. Глядзі не абманвай мяне, а то прынясеш, найдуць, мяне ж першага і расстраляюць. Цябе, смаркача, чапаць не будуць. Часы зараз сабачыя, разумееш?

Паўка абяцаў нічога не насіць.

Калі шлі абодва дваром у хату, ля варот Ляшчынскіх спынілася каляска. З яе выходзілі адвакат з жонкай і іх дзеці—Нелі і Віктар.

— Прыляцелі птушкі,—злосна прагаварыў Арцём.—Эх, і гармідар пачнецца, трасца яму ў бок!—І ўвайшоў у хату.

Увесь дзень Паўка сумаваў па вінтоўцы. У гэты час яго сябар Сярожка працаваў з усёй сілы ў старым закінутым хляве, азграбаючы рыдлёўкаю зямлю ля сцяны. Нарэшце яма была гатова. Сярожка ў яе паклаў закручаныя ў анучы тры новенькія вінтоўкі, здабытыя ім пры раздачы. Аддаваць іх немцам ён не збіраўся—не для таго мучыўся цэлую ноч, каб расстацца з сваёй здабычай.

Засыпаўшы яму зямлёю, ён шчыльна ўтрамбаваў яе, нацягаў на выраўнаванае мейсца кучу смецця, старога рыззя; крытычна аглядзеўшы вынікі сваё працы і знайшоўшы іх здавальняючымі, зняў шапку і выцер з лба пот.

„Ну цяпер няхай шукаюць! А калі знойдуць, то чый хлеў невядома“.

---

Паўка неўзаметку зблізіўся з суровым манцёрам, які ўжо месяц як працаваў на электрастанцыі.

Жухрай паказваў падручнаму качагару ўстройства дынамы і прывучаў яго да работы.

Кемкі хлапчук спадабаўся матросу. Жухрай часта прыходзіў да Арцёма ў свабодныя дні. Асабліва спадабаўся Жухрай Паўкінай мацеры. Разважлівы і сур'ёзны матрос цярпліва выслухоўваў усе расказы аб жыцці-быцці, асабліва калі матка скардзілася на розныя штукі Паўкі. Ён

умеў так заспакойліва падзейнічаць на хвалюючую Марыю Якаўлеўну, што тая забывала свае ліхія гадзіны і станавілася бадрэйшай.

Неяк раз Жухрай спыніў Паўку ў двары электрастанцыі, сярод складзеных штабеляў дроў і, усміхнуўшыся, запытаў:

— Матка расказвае, ты біцца любіш. „Ён у мяне, кажа, драчлівы, як певень“—Жухрай рассмяяўся адабральна.—Біцца наогул не шкодна, толькі трэба ведаць, каго біць і завошта біць.

Паўка, не ведаючы, смяецца над ім Жухрай ці гаворыць усур‘ёз, адказаў:

— Я напрасна не б‘юся, заўсёды па справядлівасці.

Жухрай нечакана прапанаваў:

— Хочаш, навучу цябе біцца па сапраўднаму?

Паўка здзіўлена на яго паглядзеў.

— Як-жа па сапраўднаму?

— А вось паглядзіш.

І Паўка праслухаў першую кароткую лекцыю па англійскаму боксу.

Не лёгка дасталася Паўку гэтая навука, але авалодаў ён ёю бліскуча. Не раз лятаў ён кулём, збіты з ног ударам кулака Жухрая, але вучнем быў старанным і цярплівым.

У адзін з гарачых дзён Паўка, прышоўшы ад Клімкі, пасланяўшыся па пакоі і не знайшоўшы сабе работы, парашыў забрацца на ўлюбёнае месцечка—на страху вартоўні, што стаяла ў вуглу сада, за хатай. Ён прайшоў праз двор, увайшоў у садок і, дайшоўшы да зробленага з дошчак хлява, па выступам забраўся на страху. Прадраўшыся праз густыя галінкі вішань, якія схіліліся над хлявом, ён выбраўся на сярэдзіну страхі і прылёг на сонейку.

Адным бокам вартоўня выходзіла ў сад Ляшчынскіх і, калі дабрацца да края, відзен увесь сад і адзін бок дома. Паўка высунуў галаў над выступам і ўбачыў частку двара, у якой стаяла каляска. Відно было як дзяншчык нямецкага лейтэнанта, што змясціўся ў Ляшчынскіх на кватэры, чысціў шчоткаю рэчы свайго начальніка. Паўка не раз бачыў лейтэнанта ля варот сядзібы.

Лейтэнант быў прыземісты, чырвонатвары, з маленькімі падстрыжанымі вусікамі, у пэнснэ і шапцы з лакіраваным казырком. Ведаў Паўка, што лейтэнант займае бакавы пакой, акно якога выходзіла ў сад і было відна з страхі.

Зараз лейтэнант сядзеў за сталом і нешта пісаў, потым узяў напісанае і вышаў. Перадаўшы пісьмо дзяншчыку, ён пайшоў па дарожцы сада да выхада на вуліцу. Ля квяцістай альтанкі лейтэнант спыніўся—відаць, з некім гаварыў. З альтанкі вышла Нелі Ляшчынская. Узяўшы яе пад руку, лейтэнант пашоў з ёю да выхада і абое вышлі на вуліцу.

Гэта ўсё наглядаў Паўка. Ён ужо збіраўся заснуць, як убачыу, што ў пакой лейтэнанта ўвайшоў дзяншчык, павесіў на вешалку мундзір, адкрыў акно ў сад і прыбраўшы пакой, вышаў, прыкрыўшы за сабою дзверы. У той-ж момант Паўка ўбачыў яго ля стайні, дзе стаялі коні.

У адчыненае акно Паўку было добра відаць увесь пакой. На стале ляжалі нейкія рамяні і яшчэ нешта бліскучае.

Падштурхоўваемы несцерпнай цікаўнасцю, Паўка ціха пералез з страхі на ствол чарэшні і спусціўся ў сад Ляшчынскіх. Сагнуўшыся, у некалькі скокаў, ён дабег да адчыненага акна, схапіўся рукамі за падваконнік і зірнуў у пакой. На стале ляжалі пояс з партупеяй і кабура з прыгожым дванаццацізарадным „менліхерам“.

У Паўкі захапіла дух. Некалькі секунд у ім адбывалася барацьба,

але захліснуты адчайнай дзерзкасцю, ён перагнуўся, схапіў кабуру і, выцягнуўшы з яе новы пачэрнены рэвольвер, саскокнуў у сад. Аглянуўшыся на бакі і бачачы, што нікога няма, сунуў рэвольвер у кішэню і кінуўся цераз сад да чарэшні. Узабраўшыся хутка, як малпа, на страху, ён азірнуўся назад. Дзяншчык спакойна вёў размову з канюхом. У саду было ціха, а ў вісках у Паўкі стукала... Ён споўз з хлява і паімчаўся дахаты.

Маці вазілася на кухні, рыхтуючы абед, і не звярнула на Паўку ўвагі.

Схапіўшы анучу, што ляжала за скрыняй, Паўка сунуў яе ў кішэню непрыкметна выскачыў за дзверы, прабег цераз сад, пералез праз плот і выбраўся на дарогу, што вяла к лесу. Прытрымліваючы рукою рэвольвер, які цяжка біў па назе, што было сілы памчаўся да старога заваліўшагася цагельнага завода.

Ногі ледзь краналіся зямлі, вецер свістаў у вушах.

Ля старога цагельнага завода было ціха. Дзе-колечы драўляная страха, якая правалілася, горы разбітай цэглы і разбураючыяся печы для выпальвання цэглы наводзілі сум. Усё тут парасло быльнікам. І толькі трое сяброў часам збіраліся сюды для свайго гуляння. Паўка ведаў шмат патайных мясцінак, дзе можна схаваць украдзены скарб.

Забраўшыся ў пралом печы, ён асцярожна аглянуўся, але дарога была пустая. Ціха шумелі сосны, лёгкі ветрык круціў прыдарожны пыл. Моцна пахла смалою.

На самым дне печы, у кутку, палажыў Паўка заверчаны ў анучу рэвольвер, закрыў яго пірамідкай старых цаглін. Выбраўшыся адтуль заваліў цэглай уваход у старую печ, прыкмеціў размяшчэнне цаглін і, вышаўшы на дарогу, павольна пашоў назад.

Ногі ў каленях крыху дрыжэлі.

„Чым гэта ўсё скончыцца?“—думаў ён і сэрца сціскалася неяк цягуча-трывожна.

На электрастанцыю пашоў раней часу, каб толькі не быць дома. Узяў у вартаўніка ключ і адчыніў шырокія дзверы, што вялі ў памяшканне, дзе стаялі рухавікі. І покуль чысціў паддувала, накачваў у кацёл ваду і распальваў топку, думаў:

„Што цяпер робіцца на дачы Ляшчынскіх?“

Ужо позна, гадзін у адзіннаццаць, да Паўкі зайшоў Жухрай, адазваў яго ў двор і ціха запытаў:

— Чаму ў вас вобыск быў сёння?

Паўка спужана ўздрыгануў:

— Як вобыск?

Жухрай, памаўчаўшы, дадаў:

— Так, справа неладная. Ты не ведаеш, што яны шукалі?

Паўка добра ведаў, што яны шукалі, але расказаць Жухраю аб пакражы рэвольвера не рашыўся. Увесь уздрыгваючы ад трывогі ён запытаў:

— Арцёма арыштавалі?

— Нікога не арыштавалі, але ўсё ў хаце перарылі ўверх дном.

Ад гэтых слоў стала крыху лягчэй, але трывога не праходзіла. Некалькі хвілін кожны думаў аб сваім. Адзін з іх, ведаючы прычыну вобыска, трывожыўся аб выніках, другі не ведаў і ад гэтага насцярожваўся.

„Чорт іх ведае, можа пранюхалі пра мяне што-небудзь? Арцёму пра мяне нічога не вядома, а чаму ў яго вобыск? Трэба быць асцярожней“,—думаў Жухрай.

Разышліся моўчкі да свае работы.

А ў сядзібе быў вялікі перапалох.

Лейтэнант, заўважыўшы адсутнасць рэвольвера, вызваў дзяншчыка; даведаўшыся, што рэвольвер прапаў, ён, звычайна, карэктны, стрыманы, стукнуў дзяншчыка з усяго размаху ў вуха; той, пахіснуўшыся ад удара, стаяў, выцягнуўшыся ў струнку і вінавата моргаючы вачыма пакорліва чакаў далейшага.

Выкліканы для тлумачэння адвакат таксама абураўся і прасіў прабачэння лейтэнанта за тое, што ў яго доме здарылася такая непрыемнасць.

Прысутнічаўшы пры гэтым Віктар Ляшчынскі выказаў бацьку дапушчэнне, што рэвольвер маглі ўкрасці суседзі, у асаблівасці хуліган Павел Карчагін. Бацька палахліва стаў тлумачыць лейтэнанту думку сына, і той безадкладна даў распараджэнне выклікаць нарад для вобыска.

Вобыск не даў ніякіх вынікаў. Выпадак з прапажаю рэвольвера ўпэўніў Паўку ў тым, што нават і такія рызыкоўныя прадпрыемствы часамі канчаюцца шчасліва.

## ГЛАВА ДРУГАЯ

Тоня стаяла ля расчыненага акна. Яна сумуючы глядзела на знаёмы родны ёй сад, на акаляючыя яго высокія стройныя тапалі, крыху ўздрыгваючыя ад лёгкага ветрыка. І не верылася, што цэлы год яна не бачыла роднай сядзібы. Здавалася, што толькі ўчора яна пакінула ўсе гэтыя з дзяцінства знаёмыя мейсцы і вярнулася сёння з ранішнім поездам.

Нічога тут не змянілася: такія-ж акуратна падстрыжаныя рады малінавых кустоў, усё такія-ж геаметрычна-расчэрчаныя дарожкі, засаджаныя любымі кветкамі мамы — „анюцінымі глазкамі“. Усё ў саду чысценька і прыбрана. Усюды відаць педантычная рука вучонага лесавода. У Тоні сумна ад гэтых расчышчаных расчэрчаных дарожак.

Тоня ўзяла недачытаны раман, адчыніла дзверы на веранду, спусцілася па лесвіцы ў сад, штурханула маленькую памаляваную дзверку і павольна пашла да станцыйнай сажалкі ля вадакачкі.

Мінуўшы мосцік, яна вышла на дарогу. Дарога была, як прысады. З правага боку сажалка аблямована вярбою і густым ракітнікам. З левага пачынаўся лес.

Яна накіравалася перш да сажалак, на старую каменабітню, але спынілася, заўважыўшы ўнізе ля сажалкі мільгнуўшую вудачку.

Нахіліўшыся над крывою вярбою, рассунула рукою галінкі ракітніку і ўбачыла загарэлага хлапчука, босага з закасанымі вышэй калена порткамі. З боку стаяла ржавая бляшаная банка з чарвякамі. Хлопец быў захоплены сваім заняткам і не заўважаў пільнага позірку Тоні.

— Ці-ж тут рыба ловіцца?

Паўка злосна азірнуўся.

Трымаючыся за вярбу, нізка нахіліўшыся да вады, стаяла незнаёмая дзяўчынка. На ёй была белая матроска з сінім у палоску каўняром і светлашэрая кароткая спадніца. Насочкі з каёмачкай шчыльна абцягвалі стройныя загарэлыя ногі ў карычневых туфельках. Каштанавыя валасы былі сабраны ў важкі жгут.

Рука з вудачкай крыху ўздрыганула, гусіны паплавок кіўнуў галоўкай, і ад яго разбеглася кругамі ўскалыхнуўшаяся роўная гладзь вады.

А галасок ззаду ўсхвалявана:

— Клюе, бачыце, клюе...

Павел зусім збянтэжыўся, тузануў вудачку. Разам з брызгамі вады вынырнуў круцячыся на кручку чарвяк.

„Ну цяпер ніякога ліха не зловіш. Прынёс чорт вось гэту“, — раздражнена думаў Паўка і, каб схаваць сваю няёмкасць, закінуў вудачку далей у ваду—між двух лапухоў, якраз туды, куды закідваць не трэба, кручок мог зачапіцца за карчагу.

Зразумеў і, не абарочваючыся, прашыпеў у бок сядзеўшай угары дзяўчынкі:

— Чаго вы галёкаеце? Так уся рыба разбяжыцца.

І ўчуў згары насмешлівае са здзекам:

— Яна даўно ўжо разбеглася ад аднаго вашага віду. Ці-ж днём ловяць? Эх вы, гора-рыбак!

Гэта было ўжо занадта для стараўшагася захаваць прыстойнасць Паўкі. Ён падняўся і, насунуўшы на лоб кепку, што заўсёды ў яго з'яўлялася адзнакай злосці, прагаварыў, падбіраючы найбольш далікатныя словы:

— Вы-б, барышня, папляліся-б куды-небудзь, ці што.

Вочы Тоні крышачку звузіліся, заіскрыліся прамільгнуўшай ухмылкай.

— Ці-ж я вам мяшаю?

У голасе яе не было ўжо насмешкі, было ў ім нешта сяброўскае, прымiраючае, і Паўка, які сабраўся нагаварыць непрыемнасцяй гэтай, невядома адкуль з'явіўшайся „барышні“, быў абяззброены.

— Што-ж глядзіце, калі ахвота. Мне мейсца не шкада,—згадзіўся ён і, прысеўшы, зноў глянуў на паплавок. Той прыбіўся да лопуху і было вядома, што кручок зачапіўся за корань. Пацягнуць яго Паўка не рашаўся.

„Калі зачэпіцца, тады не адарвеш. А гэтая вядома смяяцца будзе. Хоць бы пашла“,—думаў ён.

Але Тоня, усеўшыся пазручней на сагнутую вярбу, якая крыху пакачвалася, палажыла на калені кнігу і стала наглядаць за загарэлым чорнамазым грубіянам, які так нелюба сустрэў яе і цяпер нарочна не звяртае на яе ўвагі.

Паўку добра відаць у вадзе адлюстраванне седзячай дзяўчынкі. Яна чытае, а ён паціханьку цягне зачэпленую вуду. Паплавок нырае, і лёска, упіраючыся, нацягваецца.

„Зачапілася праклятая“!—мільгае думка, а косым позіркам бачыць у вадзе, як смяюцца вочы.

Праз мосцік ля вадакачкі прайшлі двое маладых людзей—гімназістаў-семікласнікаў. Адзін—сын начальніка дэпо, інжынера Сухарка, белабрысы ў рабаціннi семнаццацігадовы лагіза і шыбельнік рабы Шурка, як празвалі яго ў вучылішчы, з харошай вудачкай, з франтоўна трыманай у роце папяроскай. Поруч—Віктар Ляшчынскі, стройны выпешчаны юнак.

Сухарка, падмігваючы, нагнуўшыся да Віктара, гаварыў:

— Дзяўчынка гэта асаблівая, другой такой тут няма. Запэўняю ра-ман-ты-ч-ная асоба. У Кіеве вучыцца ў шостым класе, да бацькі на лета прыехала. Ён тут галоўны ляснічы. Яна знаёма з маёй сястрой Лізай. Я неяк ліст ёй падкаціў у такім, ведаеш, узвышаным духу. Улюблён, моў, і з хваляваннем чакаю вашага адказу. І нават з Надсана выскраб вершык адпаведны.

— Ну, і што-ж?—з цікаўнасцю запытаў Віктар.

Сухарка, крыху збянтэжана, прагаварыў:

— Ды крыўляецца, ведаеш задаецца на макароны. Не псуй паперы, кажа. Але гэта заўсёды так спачатку бывае. Я ў гэтых справах стрэля-

ная птушка. Ведаеш, неахвота валэндацца—доўга хадзіць ды прышэптваць. Куды лепш, пойдзем увечары ў рамонтныя баракі і за траячку такую красуню выбярэш, што язычком абліжашся. І без усякага крыўляння. Мы з Валькам Ціхавым хадзілі—ты дарожнага майстра ведаеш?

Віктар пагардліва зморшчыўся.

— Ты займаешся такімі агіднасцямі, Шура?

Шура, пажаваўшы папяросу, сплюнуў і кінуў насмешліва:

— Падумаеш, чыстаплюй які. Ведаем, чым займаецеся.

Віктар, перабіваючы яго, запытаў:

— Як ты мяне з гэтай пазнаёміш?

— Вядома, пойдзем хутчэй, пакуль яна не пашла. Учора яна сама раніцою лавіла.

Прыяцелі ўжо набліжаліся да Тоні. Выняўшы папяросу з рота Сухарка, франтоўна сагнуўшыся, пакланіўся.

— Добры дзень, мадэмуазель Туманава. Што, рыбу ловіце?

— Не, гляджу, як ловяць,—адказала Тоня.

— А вы не знаёмы?—заспяшаў Сухарка, бяручы Віктара за руку.— Мой сябар, Віктар Ляшчынскі.

Віктар сарамліва падаў Тоні руку.

— А чаму вы сёння не ловіце?—стараўся завязаць гутарку Сухарка.

— Я не ўзяла вудачкі,—адказала Тоня.

— Я зараз прынясу яшчэ адну,—заспяшаўся Сухарка.—Вы пакуль палавіце маёю, а я зараз прынясу.

Ён выканаў данае Віктару слова пазнаёміць яго з Тоняй і стараўся пакінуць іх дваіх.

— Не, мы будзем мяшаць. Тут ужо ловяць,—адказала Тоня.

— Каму мяшаць?—запытаў Сухарка.

— Ах, вось гэтаму?—Ён толькі зараз заўважыў ля куста Паўку.— Ну, гэтага я выстаўлю адгэтуль умомант.

Тоня не паспела яму памяшаць. Ён спусціўся ўніз да вудзіўшага Паўкі.

— Зматвай вудачкі зараз-жа,—звярнуўся Сухарка да Паўкі.—Ну, хутчэй, хутчэй,—казаў ён, бачучы, што Паўка спакойна прадаўжае вудзіць.

Паўка падняў галаў, паглядзеў на Сухарку поглядам, які не абяцаў нічога харошага.

— А ты цішэй! Чаго губы распусціў?

— Што-о-о?—ускіпеў Сухарка.—Ты яшчэ размаўляеш, галота няшчасная! Паш-шоў вон адсюль!—і з сілаю ўдарыў наском чаравіка па банцы з чарвякамі. Тая перавярнулася ў паветры і плюхнулася ў ваду. Пырскі ад разляцеўшайся вады папалі ў твар Тоні.

— Сухарка, як вам не сорамна!—усклікнула яна.

Паўка ўскочыў. Ён ведаў, што Сухарка—сын начальніка дэпо, у якім працаваў Арцём, і калі ён зараз стукне ў гэты мяккі рыжы твар, то гімназіст паскардзіцца бацьку і справа абавязкова дойдзе да Арцёма. Гэта было адзінай прычынай, якая стрымлівала яго ад неадкладнай расправы.

Сухарка, адчуваючы, што Павал зараз яго ўдарыць, кінуўся ўперад і штурхануў абедзвюма рукамі ў грудзі стаяўшага ля вады Паўку. Той, узмахнуўшы рукамі, хістануўся, але ўтрымаўся і не ўпаў у ваду.

Сухарка быў старэйшы за Паўку на два гады і меў рэпутацыю першага драчуна і буяна.

Паўка, атрымаўшы ўдар у грудзі, зусім раззлаваўся.

— Ах, так! Ну, атрымай!—і кароткім узмахам рукі ўляпіў Сухарку моцны ўдар у твар. Затым не даючы яму апамятацца, чэпка схапіў за форменную гімназічаскую куртку, рвануў да сябе і пацягнуў у ваду.

Стоячы па калена ў вадзе, замачыўшы свае бліскучыя чаравікі і порткі, Сухарка з усіх сіл стараўся вырвацца з чэпкіх рук Паўкі. Штурхнуўшы гімназіста ў ваду, Паўка выскачыў на бераг.

Ашалелы Сухарха рынуўся за Паўкай, гатовы разарваць яго на кускі.

Выскачыўшы на бераг і хутка павярнуўшыся да налятаўшага Сухаркі, Паўка ўспомніў:

„Упор на левую нагу, правая напруджана і крыху сагнута. Удар не толькі рукою, але ўсім целам, знізу ўверх пад падбародак".

Ррррaз!

Завізжэў ад страшнага болю ў падбародку і ад прыкушанага языка Сухарка, неўдала ўзмахнуў рукамі і цяжка, усім целам, плюхнуўся ў ваду.

А на беразе без удзержу смяялася Тоня.

— Брава, брава!—крычала яна, пляскаючы ў далоні.—Гэта цудоўна!

Схапіўшы вудачку, Паўка дзернуў яе і абарваўшы зачэпленую лёску, выскачыў на дарогу.

Адыходзячы чуў, як Віктар гаварыў Тоні:

— Гэта самы ад'яўлены хуліган Паўка Карчагін.

---

На станцыі станавілася неспакойна. З лініі прыходзілі чуткі, што чыгуначнікі пачынаюць баставаць. На суседняй вялікай станцыі рабочыя дэпо заварылі кашу. Немцы арыштавалі дваіх машыністаў па западозранню ў правозе адозваў. Сярод рабочых, звязаных з вёскай, пачаліся вялікія абурэнні, вызваныя рэквізіцыяй і зваротам памешчыкаў у свае фальваркі.

Плеткі гетманскіх стражнікаў паласавалі мужыцкія спіны. У губерніі развіваўся партызанскі рух. Ужо налічвалася да дзесятка партызанскіх атрадаў, часткова арганізаваных большэвікамі, часткова украінскімі эсэрамі.

Жухрай у гэтыя дні не ведаў спакою. Ён за час свайго прабывання ў гарадку прарабіў вялікую работу. Пазнаеміўшыся з многімі рабочымі-чыгуначнікамі, бываў на вечарынках, дзе збіралася моладзь і стварыў моцную групу слесароў дэпо і лесапільшчыкаў. Прабаваў праверыць і Арцёма. На яго запытанне, як Арцём глядзіць наконт большэвіцкай справы і партыі, здаравенны слесар адказаў яму:

— Ведаеш, Федар, я наконт гэтых партый слаба разбіраюся. Але дапамагчы, калі трэба будзе, заўсёды гатоў. Можаш на мяне разлічваць.

Федар і на гэтым застаўся задаволеным,—ведаў, што Арцём свой хлапец. І калі што сказаў, тое і зробіць. „А да партыі, відаць, яшчэ не дайшоў чалавек. Нічога, час цяпер такі, што скора грамату пройдзе",—думаў матрос.

Перайшоў Федар на работу з электрастанцыі ў дэпо. Зручней было працаваць, на электрастанцыі ён быў адарваны ад чыгункі.

Рух на чыгунцы велізарны. Немцы вывозілі ў Германію тысячамі вагонаў усё, што награбілі на Украіне: жыта, пшаніцу, жывёлу.

---

Нечакана ўзяла на станцыі гетманская варта тэлеграфіста Панамарэнку. Білі яго ў камендантскай люта і, відаць, расказаў ён пра агітацыю Рамана Сідарэнкі, таварыша Арцёма ў дэпо.

За Раманам прышлі ў час работы два немцы і гетманец—памочнік станцыйнага каменданта. Падышоўшы да верстака, дзе працаваў Раман, гетманец, не гаворачы ні слова, лупянуў яго нагайкаю па твары:

— Ідзем, брыда, за намі! Там пагутарым аб чым-колечы,—сказаў ён. І жудасна ашчэраны рвануў слесара за рукаў.—Там у нас паагітуеш!

Арцём, які працаваў на суседніх ціскох, кінуў напільнік і пасунуўшыся ўсёй веліччу на гетманца, стрымліваючы надыходзячую злосць, прахрыпеў:

— Як смееш біць, гад!

Гетманец падаўся назад, адшпільваючы кабур рэвольвера. Нізенькі каротканогі немец скінуў з пляча цяжкую вінтоўку з шырокім штыком і лязгануў затворам.

— Хальт!—прабрахаў ён, гатовы выстраліць пры першым руху.

Вярзіла-слесар бездапаможна стаяў перад гэтым плюгавенькім салдатам, бязсільны што-небудзь зрабіць.

Забралі абодвых. Арцёма праз гадзіну выпусцілі, а Рамана заперлі ў багажным склепе.

Праз дзесяць хвілін у дэпо ніхто не працаваў. Рабочыя дэпо сабраліся к станцыйнаму саду. Да іх далучыліся другія рабочыя, стрэлачнікі і працуючыя на матэрыяльным складзе. Усе былі страшна ўзбуджаны. Нехта напісаў адозву з патрабаваннем выпусціць Рамана і Панамарэнку.

Абурэнне яшчэ больш павялічылася, калі гетманец, які прымчаўся к саду з кучай стражнікаў, размахваючы рэвольверам, закрычаў:

— Калі не пойдзеце, зараз-жа на месцы ўсіх пераарыштуем! А каго-небудзь і да сценкі паставім.

Але крыкі раззлаваных рабочых прымусілі яго рэтыравацца на станцыю. З горада ўжо ляцелі па шашы грузавікі, поўныя нямецкіх салдат, вызваных камендантам станцыі.

Рабочыя пачалі разбягацца па хатах. З работы пашлі ўсе, нават дзяжурны па станцыі. Адчувалася Жухраева работа. Гэта было першае масавае выступленне на станцыі.

Немцы ўстанавілі на пероне цяжкі кулямёт. Ён стаяў як лягавы сабака на стойцы. Палажыўшы руку на рукавязь, на кокішках каля яго сядзеў нямецкі капрал.

Вакзал абязлюдзеў.

Уначы пачаліся арышты. Забралі і Арцёма. Жухрай дома не начаваў, яго не знайшлі.

Сабралі ўсіх у велізарны таварны пакгаўз і выставілі ультыматум: звярнуцца на работу альбо ваенна-палявы суд.

Па лініі баставалі амаль усе рабочыя чыгуначнікі. За суткі не прайшоў ніводзін поезд, а ў ста дваццаці кілометрах ішла бойка з партызанскім атрадам, перарэзаўшым лінію і ўзарваўшым масты.

Уначы на станцыю прышоў эшалон нямецкіх войск, але машыніст, яго памочнік і качагар збеглі з паравоза. Акрамя вайсковага эшалона на станцыі чакалі для адпраўкі яшчэ два саставы.

Адчыніўшы цяжкія дзверы пакгаўза, увайшоў камендант станцыі нямецкі лейтэнант, яго памочнік і група немцаў.

Памочнік каменданта вызваў:

— Карчагін, Палітоўскі, Бруздзжак. Вы зараз едзеце паездной брыгадай. За адмаўленне—расстрэл на месцы. Едзеце?

Трое рабочых панура кіўнулі галовамі. Іх павялі пад канвоем к паравозу, а памочнік каменданта ўжо выкрыкваў прозвішчы машыніста, памочніка і качагара на другі састаў.

---

Паравоз сярдзіта адфыркваўся пырскамі свецячыхся іскр, глыбока дыхаў і, праціскаючы цемень, імчаў па рэйкам углыб ночы.

Арцём, накідаўшы ў топку вугалля, зачыніў нагою жалезную дзверцу, пацягнуў з курносага чайніка, што стаяў на скрыні, глыток вады і звярнуўся да старога, машыніста Палітоўскага:

— Вязем, гаворыш, папаша?

Той сярдзіта мігнуў з-пад навісшых брывей:

— Так, павязеш, калі штыком у задніцу заязжаюць.

— Кінуць усё і цякаць з паравоза,—прапанаваў Бruзжак, скоса паглядваючы на сядзеўшага на тэндары нямецкага салдата.

— Я таксама так думаю,—буркнуў Арцём,—ды вось гэты тып за спіною тырчыць.

— Так—неўпэўнена працягнуў Бруззжак, высоўваючыся ў вакно.

Падсунуўшыся бліжэй да Арцёма, Палітоўскі ціха прашаптаў:

— Нельга нам везці, разумееш? Там бойка ідзе, паўстанцы пуці паўзрывалі. А мы гэтых сабак прывязем, дык яны іх парашаць ураз. Ты ведаеш, сынок, я пры цары не вазіў пры забастоўках. І цяпер не павязу. Да смерці ганьба будзе, калі для сваіх расправу прывязем. Брыгада-ж паравозная разбеглася. Жыццём рызыкавалі, а ўсё-ж разбегліся хлопцы. Нам поезд дастаўляць ніяк не магчыма. Як ты думаеш?

— Я згодзен, папаша, але што ты зробіш вось з гэтым?—і ён зіркам паказаў на салдата.

Машыніст зморшчыўся, выцер пакляй успацелы лоб і паглядзеў успаленымі вачыма на манометр, як бы спадзеючыся знайсці там адказ на пакутнае пытанне. Потым злосна з накіпам адчаю вылаяўся.

Арцём пацягнуў з чайніка вады. Абодва думалі аб адным і тым-жа, але ніхто не рашаўся першым выказацца. Арцёму ўспомніліся словы Жухраева:

— Як ты, браток, наконт большэвіцкай партыі і комуністычнай ідэі разглядаеш?

І яго, Арцёма, адказ:

— Дапамагчы заўсёды гатоў, можаш на мяне разлічваць...

„Добрая дапамога, вязем караценяў..."

Палітоўскі, нагнуўшыся над скрыняю з інструмантам, поруч з Арцёмам з цяжкасцю выгаварыў:

— А гэтага трэба парашыць. Разумееш?

Арцём уздрыгануўся. Палітоўскі, скрыпнуўшы зубамі, дадаў:

— Інакш выхада няма. Стукнем, і рэгулятар у печку, рычагі ў печку, паравоз на зніжальны ход і з паравоза далоў.

І быццам скідваючы цяжкі мяшок з плеч, Арцём сказаў:

— Ладна.

Арцём, нагнуўшыся да Бруззжака, расказаў памочніку аб прынятым рашэнні.

Бруззжак не скора адказаў. Кожны з іх ішоў на вельмі вялікую рызыку. Ва ўсіх заставаліся дома сем'і. Асабліва многасямейным быў Палітоўскі: у яго дома засталося дзевяць душ. Але кожны ўсведамляў, што везці нельга.

— Што-ж, я згодзен,—сказаў Бруззжак,—але хто-ж яго...

Ён не дагаварыў зразумелы для Арцёма сказ.

Арцём павярнуўся да старога, які вазіўся ля рэгулятара, і кіўнуў галавой, як бы гаворачы, што Бруздак таксама згодзен з іх думкаю, але тут-жа пакутуючы ад невырашанага пытання, падсунуўся да Палітоўскага бліжэй.

— Але як-жа мы гэта зробім?

Той паглядзеў на Арцёма:

— Ты пачынай. Ты самы моцны. Ломам стукнем яго разок—і скончана.—Стары моцна хваляваўся.

Арцём нахмурыўся.

— У мяне гэта не выйдзе. Рука ніяк не паднімаецца.

Салдат-жа, калі разабрацца, не вінаваты. Яго таксама з-пад штыка пагналі.

Палітоўскі бліснуў вачыма.

— Не вінават, кажаш? Але-ж мы таксама не вінаваты, што нас сюды загналі. Карны-ж вязем. Гэтыя не вінаваты, а расстрэльваць партызанаў будуць, а тыя, што вінаваты... Эх ты, сірамаха... Здаровы, як мядзведзь, а толку з цябе мала...

— Ладна,—прахрыпеў Арцём, бяручы лом, але Палітоўскі зашаптаў:

— Я вазьму, у мяне вярней. Ты бяры лапату, лезь скідаць вугаль з тэндара. Калі будзе патрэбна, то грохнеш немца лапатай. А я быццам вугаль разбіваць пайду.

Бруздак, паслухаўшы Палітоўскага—кіўнуў галавой.

— Правільна, стары.—І стаў ля рэгулятара.

Немец у суконнай бесказырцы, з чырвоным аколышкам сядзеў з краю на тэндары, паставіўшы між ног вінтоўку, і курыў цыгарку, зрэдку пагладаючы на рабочых, якія вазіліся на паравозе.

Калі Арцём палез наверх грабсці вугаль, вартавы не звярнуў на гэта асаблівай увагі. А потым, калі Палітоўскі, як бы жадаючы адграбсці вялікія кускі вугалю з краю тэндара, папрасіў яго знакам падсунуцца, немец паслухмяна перасунуўся ўніз да дзвярэй, што вялі ў будку паравоза.

Глухі кароткі ўдар лома, праламаўшага чэрап немцу, здзівіў Арцёма і Бруздака. Цела салдата мяшком звалілася ў праход.

Шэрая суконная бесказырка хутка аблілася крывёю. Лязгнула ўпаўшая на жалезны борт вінтоўка.

— Вядома,—прашаптаў Палітоўскі, кідаючы лом і сударгава пакрывіўшыся дадаў:—Цяпер для нас задняга ходу няма.

Голас сарваўся, але ў той-жа момант, перамагаючы давіўшае ўсіх маўчанне, перайшоў у крык:

— Вывінчвай рэгулятар, жывей!—крыкнуў ён.

Праз дзесятак хвілін усё было зроблена. Паравоз, пазбаўлены кіравання, паступова затрымліваў ход.

Цяжкім узмахам уступалі ў агнявы круг паравоза цёмныя сілуэты прыдарожных дрэў і ў той-жа час зноў беглі ў бязвочную цень. Вочы паравоза, імкнучыся пранізаць цемень, натыкаліся на яе густую кісяю і адваёўвалі ў ночы толькі дзесятак метраў. Паравоз, як-бы страціўшы апошнюю сілу, дыхаў усё радзей і радзей.

— Скакай, сынок!—пачуў Арцём за сабою голас Палітоўскага і разняў руку, трымаўшую поручань. Магутнае цела па інерцыі праляцела ўперад, і ногі цвёрда таўхануліся аб зямлю, што вырывалася з-пад іх. Прабегшы два крокі, Арцём упаў, цяжка перакуліўшыся праз галаў.

З абоіх падножак паравоза саскочылі зразу яшчэ дзве цені.

У хаце Бруззакоў было нявесела. Антаніна Васільеўна, маці Сярожкі, за апошнія чатыры дні змучылася зусім. Ад мужа вестак не было. Яна ведала, што яго разам з Карчагіным і Палітоўскім узялі немцы ў паяздную брыгаду. Учора прыходзілі трое з гетманскай варты і груба з лаянкаю дапрашвалі яе наконт мужа.

З іх слоў яна цмяна здагадвалася, што здарылася нешта няладнае, і, калі пашла варта, жанчына, пакутуючы цяжкай невядомасцю, завязала хустку, сабіраючыся ісці да Марыі Якаўлеўны, і спадзеючыся ў яе даведацца пра мужа.

Старэйшая дачка Валя, якая прыбірала на кухні, угледзеўшы адыходзячую матку, запытала:

— Ты далёка, мама?

Антаніна Васільеўна, глянуўшы на дачку, з поўнымі слёз вачыма адказала:

— Пайду да Карчагіных. Можа даведаюся ў іх што пра бацьку. Калі Сярожка прыдзе, то скажы яму: няхай на станцыю сходзіць да Палітоўскіх.

Дачка, цёпла абняўшы за плечы матку, заспакайвала яе, праводзячы да дзвярэй.

— Ты не трывожся, мама.

Марыя Якаўлеўна сустрэла Бруззак, як і заўсёды, радасна. Абедзве жанчыны чакалі пачуць адна ад другое што-небудзь новае, але пасля першых-жа слоў надзея гэта знікла.

У Карчагіных ноччу таксама быў вобыск. Шукалі Арцёма. Адыходзячы прыказалі Мар'і Якаўлеўне, як толькі вярнецца сын, зараз-жа паведаміць у камендатуру.

Карчагіна была страшэнна перапуджана начным прыходам патруля. Яна была адна, Павал як і заўсёды, ноччу працаваў на электрастанцыі.

Паўка прышоў раніцою. Выслухаўшы расказ мацеры аб начным вобыску і пошуках Арцёма, ён адчуў, як уся яго істота напаўняецца гнятучай трывогай за брата. Не гледзячы на розніцу характараў, і вонкавую суровасць Арцёма, браты моцна любілі адзін аднаго. Гэта была суровая любоў, хоць у гэтым яны не прызнаваліся, і Павал ясна ўсведамляў, што няма такое ахвяры, якую ён не прынёс-бы без хістання, калі-б яна была патрэбна брату.

Ён не адпачываючы пабег на станцыю ў дэпо шукаць Жухрая, але не знайшоў яго, а ад знаёмых рабочых нічога не змог даведацца ні аб кім з выехаўшых. Не ведала нічога і сям'я машыніста Палітоўскага. Паўка сустрэў у двары Барыса, самага малодшага сына Палітоўскага. Ад яго ён даведаўся, што ноччу быў вобыск і ў Палітоўскіх. Шукалі бацьку.

Так без нічога і вярнуўся Паўка да мацеры, стомлена заваліўся на ложак і зразу патануў у непакойнай соннай зыбі.

Валя аглянулася на стук у дзверы.

— Хто там?—запытала яна і адкінула засаўку.

У адчыненых дзвярах з'явілася рыжая ўскалмачаная галава Марчанкі. Клімка, відаць, хутка бег. Ён запыхаўся і пачырванеў ад бегу.

— Мама дома?—запытаў ён Валю.

— Не, пашла.

— А куды пашла?

— Здаецца, да Карчагіных,—Валя затрымала за рукаў сабраўшагася было бегчы Клімку.

Той нерашуча паглядзеў на дзяўчынку.

— Ды так, ведаеш, справа ў мяне да яе ёсць.

— Якая справа? — затармашыла хлапца Валя. — Ну, кажы-ж хутчэй, мядзведзь ты рыжы, кажы-ж, а то цягне за душу,—валадарным тонам камандвала дзяўчынка.

Клімка забыў усе перасцярогі, катэгарычны загад Жухрая перадаць запіску толькі Антаніне Васільеўне, асабіста, выцягнуў з кішэні замусолены кусочак паперкі і падаў яго дзяўчынцы. Не мог адмовіць ён гэтай белакурай сястрычцы Сярожкі, таму што рыжанькі Клімка не зусім зводзіў канцы з канцамі ў сваіх адносінах да гэтага слаўнага дзяўчаці. Праўда, ціхі хлапчук нізашто не прызнаўся-б нават самому сабе, што яму падабаецца сястрычка Сярожкі. Ён аддаў ёй паперку, якую тая хутка прачытала:

„Дарагая Тоня! Не клапаціся. Усё добра. Жывы і не пашкоджаны. Скора даведаешся больш. Перадай астатнім, што ўсё добра, каб не трывожыліся. Запіску знішчы. Захар".

Прачытаўшы запіску, Валя кінулася да Клімкі.

— Рыжы мядзведзь, міленькі мой, дзе ты дастаў гэта? Скажы, дзе ты дастаў, касалапае медзвежанё?—І яна з усіх сіл тармашыла збянтэжанага Клімку, і ён не апамятаўся, як зрабіў другую нязручнасць.

— Гэта мне Жухрай на станцыі перадаў.—І, успомніўшы, што гэтага не трэба было казаць, дадаў:—Толькі ён сказаў: нікому не даваць.

— Ну, добра, добра!—засмяялася Валя.—Я нікому не скажу. Ну бяжы, рыжанькі, да Паўкі, там і Машку застанеш. Яна лёганька падштурхнула маленькага повара ў спіну.

Праз секунду рыжая галава Клімкі мільганула за каліткаю.

Ніхто з траіх дадому не варочаўся. Вечарам Жухрай прышоў да Карчагіных і расказаў Мар'і Якаўлеўне аб усім, што адбылося на паравозе. Заспакоіў, як мог, спужаную жанчыну, паведаміўшы, што усе трое ўстроіліся далёка ў глухім сяле, у дзядзькі Бруззжака, што яны там у бяспецы, але варочацца ім зараз вядома нельга, але што немцам туга, можна чакаць у хуткім часе змен.

Усё што адбылося яшчэ больш зблізіла сем'і тых, што паехалі. З вялікаю радасцю чыталіся рэдкія запіскі, якія прысылаліся сем'ям, але ў хатах стала пусцей і цішэй.

Зайшоўшы неяк раз, як-бы неўзаметку да старое Паліто ўскай Жухрай перадаў ёй дзве керанкі.

— Вось, мамуся, вам падтрымка ад мужа. Толькі глядзіце, мамуся, ні слоўца нікому.

Старая з падзякаю паціснула яму руку.

— Вось дзякуй, а то зусім бяда, есці рэбятам няма чаго.

Грошы гэтыя былі з тых, што пакінуў Булгакоў.

„Ну, ну пабачым, што далей будзе. Забастоўка хоць і сарвалася, пад страхам расстрэлу, рабочыя хоць і працуюць, але агонь загарэўся, яго ўжо не патушыш, а тыя трое малайцы, гэта пролетарыі",—з захапленнем думаў матрос, крочачы ад Паліто ўскіх да дэпо.

---

У старэнькай абшарпанай кузні, што павярнулася сваёю задымлёнаю сцяною к дарозе на водшыбе сяла Вараб'ёва Балка, ля агнявой глоткі печы, злёгку жмурачыся ад яркага свету, Паліто ўскі даўгімі абцугамі варочаў ужо накалены да чырвана кусок жалеза.

Арцём націскаў на падвешаны на папярочцы рычаг, які раздуваў скураныя мяхі.

Машыніст, дабрадушна ўсміхаючыся сабе ў бараду, казаў:

— Масцеравому на вёсцы зараз не прапасці, праца знойдзецца, хоць заваліся. Вось папрацую тыдзень-другі, і бадай сальца і мучыцы сваім пасláць сумею. У мужычка, сынку, кавэль заўсёды ў пашане. Адкарміліся тут, як буржуі. Хе-хе, а Захар-жа асоб-стацця, ён больш па сялянству прытрымліваецца, закапаўся ў зямлю з дзядзькам сваім. Што-ж, яно, бадай, зразумела. У нас з табой, Арцём, ні кала, ні двара, горб ды рука, як гаворыцца, векавая пролетарыя, хе, хе. А Захар папалам раздзяліўся, адна нага на паравозе, другая ў вёсцы.—Ён пакратаў абцугамі раскалены кусок жалеза і дадаў ужо сур'езна, задумліва:—А наша справа дрэнь, сынок. Калі немцаў не папруць неўзабаве, прыдзецца нам у Екацерынаслаў або ў Растоў накручваць, а то возьмуць за жабры і падвесяць між неба і зямлі, як піць даць.

— Так,—прабурчэў Арцём.

— Як нашы там трымаюцца, ці не прыстаюць да іх гайдамакі?

— Так, папаша, кашу заварылі, цяпер ад дому адракайся.

Машыніст выхапіў з горна блакітнаваты гарачы кусок і хутка палажыў яго на кавадла.

— А ну, сыночак, стукні!

Арцём схапіў цяжкі молат, што стаяў ля кавадла, з сілаю ўзмахнуў ім над галавою і ўдарыў. Сноп яркіх іскр з лёгкім шуршаннем і трэскам распырскаўся па кузні, асвятліўшы на мгненне яе цёмныя куты.

Палітоўскі павярачваў распалёны кусок пад магутныя ўдары, і жалеза паслухмяна плюшчылася, як размякшы воск.

У расчыненыя вароты кузні дыхала цёплым ветрам цёмная ноч.

---

Возера ўнізе—цёмнае, велізарнае: сосны, ахапіўшыя яго з усіх бакоў ківаюць магутнымі галовамі.

„Як жывыя" думае Тоня, яна ляжыць на пакрытай травою выямцы на гранітным беразе. Высока ў гары, за выямкаю, бор, а ўнізе, тут-жа ля падножжа строма, возера. Цень ад адступіўшых скал робіць берагі возера яшчэ больш цёмнымі.

Гэта ўлюбёны куток Тоні. Тут вярсту ад станцыі, у старых каменаломнях, у глыбокіх закінутых ямах, забурлілі крыніцы і зараз утварыліся тры праточных возеры.

Унізе, ля спуска да возера чуцен плёскат. Тоня падымае галаў і, рассунуўшы рукою галінкі, глядзіць уніз: ад берага на сярэдзіну возера сільнымі кідкамі плыве загарэлае цела. Тоня бачыць смуглую спіну і чорную галаву купаючагася. Ён фыркае, як морж, разрэзваючы ваду кароткімі сажонкамі, пераварачваецца, перакульваецца, ныраеі нарэшце стаміўшыся лажыцца на спіну, зажмурыўшы вочы ад яркага сонца, замірае распластаўшы рукі і крыху выгнуўшыся.

Тоня пусціла галінку: „гэта-ж непрыстойна",—насмешліва падумала яна і прынялася за чытанне.

Захопленая чытаннем кнігі, Тоня не заўважыла, як нехта пералез цераз гранітны выступ, які аддзяляў пляцоўку ад бору, і толькі, калі на кнігу з-пад нагі пералязаўшага ўпаў каменчык, уздрыгануўшыся ад нечаканасці, падняла голаў і ўбачыла на пляцоўцы Паула Карчагіна. Ён стаяў здзіўлены нечаканай сустрэчай і таксама збянтэжаны збіраўся ісці.

„Гэта ён зараз купаўся“,—здагадалася Тоня, глянуўшы на Паўкіны мокрыя валасы.

— Што спужаў вас? Не ведаў, што вы тут. Так што неўзаметку.— І праказаўшы гэта, Паўка ўзяўся рукою за выступ. Ён таксама пазнаў Тоню.

— Вы мне не перашкаджаеце. Калі хочаце, можам нават пагаварыць аб чым-небудзь. Паўка са здзіўленнем паглядзеў на Тоню.

— Аб чым-жа мы з вамі гаварыць будзем?

Тоня ўхмыльнулася.

— Ну чаго-ж вы стаіце. Можаце сесці вось тут,—і яна паказала на камень.—Скажыце, як вас завуць?

— Я Паўка Карчагін.

— А мяне завуць Тоня. Вось мы і пазнаёміліся.

Паўка сарамліва камячыў кепку.

— Так вас завуць Паўкам?—перарвала маўчанне Тоня.—А чаму Паўка? Гэта непрыгожа гучыць, лепш Павел. Я вас так і буду зваць. А вы часта туды ходзіце...—яна хацела сказаць купацца, але, не жадаючы выдаць, што бачыла яго, як ён купаўся, дадала:—гуляць.

— Не, не часта. Як здараецца вольны час,—адказаў Павел.

— А вы дзе-небудзь працуеце?—дапытвалася Тоня.

— Качагарам на электрастанцыі.

— Скажыце, дзе вы навучыліся так майстэрскі біцца?—задала раптам нечаканае пытанне Тоня.

— А вам што да мае бойкі?—нездаволена буркнуў Павел.

— Вы не сярдуйце, Карчагін,—прагаварыла яна, адчуваючы, што Паўка нездаволены яе запытаннем.—Мяне гэта дужа цікавіць. Вось гэты быў удар! Не можна так біць неміласэрна. І яна рассмяялася.

— А вам што, шкада?—запытаў Павел.

— Ну, не, зусім не шкада, наадварот, Сухарка атрымаў па заслузе. А мне гэта сцэнка зрабіла вялікае задаваленне. Кажуць, што вы часта б‘ецеся.

— Хто кажа?—настаражыўся Павел.

— Ну, вось Віктар Ляшчынскі кажа, што вы прафесіянальны забіяка.

Павел пацямнеў.

— Віктар сволач, беларучка. Няхай падзякуе, што яму тады не папала. Я чуў, як ён пра мяне гаварыў, толькі рук не хацелася пэцкаць.

— Навошта вы так лаецеся, Павел? Гэта нядобра,—перабіла яго Тоня.

Павел начапурыўся.

„На якое ліха я з гэтай дзівачкай разгаварыўся? Бач, камандуе: то ёй „Паўка“ не падабаецца, то „не лайся“,—думаў ён.

— Чаму вы злы на Ляшчынскага?—запытала Тоня.

— Паненка ў портках, панскі сыночак, душа з яго вон! У мяне на такіх рукі свярбяць: наровіць на пальцы наступіць, таму, што ён багаты і яму ўсё можна, а мне на яго багацце напляваць: калі кране калі-небудзь, дык зразу і атрымае ўсё спаўна. Гэткіх кулаком і вучыць,—казаў ён узбуджана.

Тоня пашкадавала, што закранула ў гутарцы Ляшчынскага. Гэты хлопец меў, відаць, старыя разрахункі з распешчаным гімназістам, і яна перавяла размову на больш спакойную тэму: пачала распытваць Паўла аб яго сям‘і і працы.

Непрыкметна для сябе Павел пачаў падрабязна адказваць на распытванні дзяўчынкі, забыўшыся аб сваім жаданні пайсці.

— Скажыце, чаму вы не вучыліся далей?—запытала Тоня.
— Мяне са школы выперлі.
— За што?
Паўка пачырванеў.
— Я папу ў цеста махры насыпаў,—ну, мяне і вытурылі,—злы быў поп, жыцця ад яго не было.—І Павел аб усім расказаў ёй.
Тоня з цікавасцю слухала. Ён забыўся на сваю ніякаватасць, расказваў ёй, як стары знаёмы, аб тым, што не вярнуўся брат; ніхто з іх і не заўважыў, як у сяброўскай ажыўленай гутарцы яны прасядзелі на пляцоўцы некалькі гадзін. Нарэшце, Павал апамятаўся і ўскочыў:
— Мне-ж на работу ўжо пара. Вось загаварыўся, а мне катлы распальваць трэба. Цяпер Даніла валынку падыме.—І ён неспакойна загаварыў:—Ну, бывайце, барышня, цяпер мне трэба на ўсю прыць джгаць у горад.
Тоня хутка паднялася, надзяючы жакет.
— Мне таксама пара, пойдзем разам.
— Ну, не, я бягом. Вам са мной нязручна.
— Чаму? Мы пабяжым разам, навыперадкі: пабачым, хто хутчэй.
Паўка пагардліва паглядзеў на яе.
— Навыперадкі? куды вам са мной!
— Ну, убачым, дайце спачатку выбярэмся адгэтуль.
Павел пераскочыў камень, падаў Тоні руку і яны выбеглі ў лес на шырокую роўную прасеку, якая вяла да станцыі.
Тоня спынілася на сярэдзіне дарогі.
— Ну, цяпер пабяжым: раз, два, тры. Лавеце!—І сарвалася віхурай уперад. Быстра, быстра замільгацелі падэшвы яе чаравік, сіні жакет матляўся ад ветру.
Павал паімчаўся за ёю.
„Умомант даганю“—думаў ён мчучыся за мільгаючым жакетам, але дагнаў яе толькі ў канцы прасекі, недалёка ад станцыі. З размаху наляцеў і моцна схапіў за плечы.
— Есць, папалася птушка!—закрычаў весела, задыхаючыся.
— Пусціце, балюча,—абаранялася Тоня.

---

Калі Павел адкрыў дзверы ў качагарку, Даніла-качагар, які корпаўся ля топкі, сярдзіта абярнуўся.
— Ты-б яшчэ пазней прышоў. Што я за цябе распальваць буду, ці што?
Але Паўка весела ляснуў качагара па плячы і прыміральна сказаў:
— У адзін момант, стары, топка будзе гатова.—І заняўся ля складзеных у штабелі дроў.
Апоўначы, калі Даніла, лежачы на дровах, стаў храпці, як конь, Павел аблазіўшы з маслёнкай увесь рухавік выцер пакляю рукі і, выцягнуўшы з скрынкі шэсцьдзесят другі выпуск „Джузеппе Гарибальди“ паглыбіўся ў чытанне захапляючага рамана пра бясконцыя прыгоды легендарнага правадыра Неапалітанскіх „чырвонарубашачнікаў“ Гарыбальдзі.
„Паглядзела яна на герцага сваімі прыгожымі сінімі вачыма...“
„А ў гэтай таксама сінія вочы,—успомніў Павел,—яна асаблівая нейкая, на тых багаценькіх не падобна,—думаў ён,—і бегае, як чорт“.
Паглыбіўшыся ва ўспаміны аб дзённай сустрэчы, Павел не слухаў нарастаючага шуму рухавіка; той дрыжэў ад напружання, велізарнае

махавое кола шалёна круцілася, і бетонная платформа, на якой стаяла яно, нэрвова ўздрыгвала.

Паўка глянуў на манометр, стрэлка якога на некалькі дзяленняў перамахнула ўверх за сігнальную чырвоную лінію.

Ах ты чорт!—сарваўся Павел са скрыні і кінуўся да рычага, які адводзіць пару, павярнуў яго два разы і за сцяною качагаркі моцна зашыпела выпускаемая з адводнай трубы ў рэчку пара. Апусціўшы ўніз рычаг, Паўка перавёў рамень на кола, якое рухае насос.

Павел аглянуўся на Данілу: той ціхамірна спаў, шырока разявіўшы рот і выводзіў носам жудасныя гукі.

Праз паўхвіліны стрэлка манометра вярнулася на старое месца.

---

Першае, яшчэ неўсвядомленае, але непрыкметна ўвайшоўшае ў жыццё маладога качагара пачуццё, было так нова, так незразумела хвалююча. Яно ўзрушыла свавольнага, бурлівага хлапца.

Была Тоня дачкою галоўнага ляснічага, а галоўны ляснічы быў для яго ўсёроўна што адвакат Ляшчынскі.

Вырасшы ў жабрацтве і голадзе, Павел варожа адносіўся да тых, хто быў у яго разуменні багатым. Да свайго пачуцця падыходзіў Павел з асцярогаю і апаскай, ён не лічыў Тоню як дачку каменацёса Галіну сваёю, простай зразумелай і недаверліва адносіўся да Тоні, якая гатова даць рэзкі адпор усякай насмешцы і пагардлівасці да яго, замухрышкі-качагара, з боку гэтай прыгожай і адукаванай дзяўчынкі.

Цэлы тыдзень не бачыўся Павел з дачкою ляснічага і сёння рашыў пайсці на возера. Пашоў нарачна міма яе дому, спадзяваўся сустрэць. Павольна ідучы ўздоўж плоту ў самым канцы сада заўважыў знаёмую матроску. Падняў ля плота сасновую шышку, кінуў яе, цэлячыся ў белую рубашку.

Тоня хутка павярнулася. Заўважыўшы Паўла, падбегла да плоту, весела ўсміхнулася, падаючы яму руку.

— Нарэшце вы прышлі,—узрадавана сказала яна.—Дзе прападалі ўвесь час. Я была ля возера, кнігу там забыла. Думала, вы прыдзеце. Ідзіце сюды да нас у сад.

Паўка адмоўна махнуў галавой.

— Не пайду.

— Чаму?—Бровы яе здзіўлена падняліся.

— Ды бацька ваш бадай лаяцца стане. Вам-жа і ўляціць за мяне. Нашто, скажа, такога абармота прывяла?

— Вы лухту гаворыце, Павел,—узлавалася Тоня.—Ідзіце зараз-жа сюды. Мой бацька ніколі нічога не скажа, вось вы самі ўбачыце. Ідзем.

Яна пабегла, адчыніла дзверцы, і Павел не зусім упэўнена пашоў за ёю.

— Вы любіце чытаць кнігі?—запытала яна, калі яны селі за круглы, укопаны ў зямлю, стол.

— Вельмі люблю,—ажывіўся Павел.

— Якая з прачытаных кніг вам больш усяго падабаецца?

Павел, падумаўшы, адказаў:

— Джузепа Гарыбальдзі.

— Джузепе Гарыбальдзі,—паправіла Тоня.—Вам вельмі падабаецца гэта кніга?

— Так, я яго шэсцьдзесят восем выпускаў прачытаў. Кожную палучку купляю па пяць штук. Вось чалавек быў Гарыбальдзі!—З захап-

леннем сказаў Павел.—Вось герой! Гэта я разумею! Колькі яму прыходзілася біцца з ворагамі, а заўсёды яго верх быў. Па ўсіх краінах плаваў! Эх—калі-б ён цяпер быў, я да яго далучыўся-б. Ён сабе масцеравых набіраў у кампанню і ўсё за бедных біўся.

— Хочаце, я вам пакажу нашу бібліятэку?—Сказала Тоня і ўзяла яго за руку.

— Ну, не, у дом не пайду,—наадрэз адмовіўся Павел.

— Чаго вы праців'цеся? Ці баіцеся?

Павел паглядзеў на свае босыя ногі, якія не вельмі былі чыстыя, і паскроб патыліцу.

— А мяне мама твая ці бацька не папруць адтуль?

— Кіньце, нарэшце, гэтыя размовы, альбо я канчаткова зазлуюся,—успыліла Тоня.

— Што-ж, Ляшчынскі да сябе ў дом не пушчае, у кухні вядзе гутарку з нашым братам. Я да іх хадзіў па аднэй справе, дык Нэлі нават у пакой не пусціла—напэўна, каб я ім дываны не папсаваў, чорт яе ведае,—усміхнуўся Паўка.

— Ідзем, ідзем.—Яна ўзяла яго за плечы і па-сяброўску штурхнула на балкон.

Правёўшы яго праз сталовую ў пакой з вялізарнай дубовай шафай, Тоня адчыніла дзверцы, Павел убачыў некалькі соцен кніг, якія стаялі роўнымі радамі і здзівіўся нябачанаму багаццю.

— Мы зараз знойдзем для вас цікавую кнігу і вы абяцаеце прыходзіць і браць іх у нас пастаянна. Добра?

Паўка з радасцю кіўнуў галавою.

— Я кніжкі люблю.

Правялі яны некалькі гадзін вельмі добра і весела. Яна пазнаёміла яго з сваёю маткаю. Гэта было не так ужо страшна, і матка Тоні Паўлу спадабалася.

Тоня прывяла Паўла ў свой пакой, паказвала яму свае кнігі і падручнікі.

Ля туалетнага століка стаяла невялікая люстра. Падвеўшы да яго Паўла, Тоня, смяючыся, сказала:

— Чаму ў вас такія дзікія валасы? Вы іх ніколі не стрыжаце і не прычэсваеце?

— Я іх начыстую знімаю, як адростваюць, што больш з імі рабіць?—няёмка апраўдваўся Паўка.

Тоня, смяючыся, узяла з туалета грабянец і хуткімі рухамі прычасала яго ўзлахмачаныя валасы.

— Вось цяпер зусім іншае,—казала яна аглядваючы Паўла.—А валасы трэба прыгожа пастрыгчы, а то вы, як воўк, ходзіце.

Тоня паглядзела крытычным поглядам на яго вылінялую рыжую рубашку і паношаныя порткі, але нічога не сказала.

Павел гэты погляд заўважыў і яму стала крыўдна за сваё ўбранства

Расстаючыся з ім, Тоня запрашала яго заходзіць у дом. І ўзяла з яго слова прыйсці праз два дні разам вудзіць рыбу.

У сад Павел выбраўся адным махам праз акно: праходзіць зноў праз пакоі і сустракацца з маткаю яму не хацелася.

---

З адсутнасцю Арцёма ў сям'і Карчагіных стала туга, Паўлавага заробку не хапала.

Мар'я Якаўлеўна рашыла пагаварыць з сынам: ці не варта ёй зноў

узяцца за працу, дарэчы Ляшчынскім патрэбна была кухарка, але Павел засупярэчыў.

— Не, мама, я найду сабе яшчэ дадатковую работу. На пільні патрэбны раскладчыкі дошак, паўдня буду там працаваць і гэтага нам хопіць з табою, а ты ўжо не хадзі на працу, а то Арцём злавацца будзе на мяне, скажа: не мог абыйсціся без таго, каб матку на работу не пасылаць.

Матка даказвала неабходнасць яе работы, але Павел запратэставаў і яна згадзілася.

На другі дзень Павел ужо працаваў на пільні, раскладваў для прасушкі свежанапілаваныя дошкі. Сустрэў там знаёмых хлопцаў: Мішку Ляўчука, з якім вучыўся ў школе, і Куляшова Ваню. Узяліся яны з Мішкам удваіх здзельна працаваць. Заробак атрымаўся даволі добры. Дзень праводзіў Павел на пільні, а вечарам бег на электрастанцыю.

К канцу дзесятага дня прынёс Павел матцы запрацаваныя грошы. Аддаючы іх, ён сарамяжа патаптаўся і, нарэшце, папрасіў:

— Ведаеш, мама, купі мне шатынавую рубашку, сінюю—памятаеш, як у мяне ў мінулым годзе была. На гэта палова грошай пойдзе, а я яшчэ зараблю, не бойся, а то ў мяне вось гэтая ўжо старая— апраўдваўся ён, як бы просячы выбачэння за сваю просьбу.

— Вядома, вядома куплю, Паўлушка, сёння-ж. А заўтра сшыю. У цябе, праўда, рубашкі новай няма.—Яна ласкава паглядзела на сына.

Пераклаў з рускай мовы К. Зарэмбоўскі.

Міхаіл Галодны

## НАВАЛЬНІЦА

Спякота дыхала агнём,
А дождджык бескарысны
Яшчэ маўчаў.
І—раптам гром
Бліснуў стралой агністай.

Пыл і на дрэвах і лістах
Гарачым слаўся шквалам,
А змрокавая духата
Стаяла і стаяла.

І раптам лынуў
Рукавом
Струмень вады іскрыстай.
Дах заспяваў,
І кожны дом
У вокнах шчасцем пырснуў.

Пад зрокам маладой вады
Вялікім і чуллівым
Лісты блішчэлі,
І плады
Галовы ніц хілілі.

Гром не жадаў ісці:
Унёс
З сабой свой рык-гурчанне.
І над зямлёю легла скрозь
Зялёнае маўчанне.

Пераклад Вал. Маракова.

Міхаіл Галодны

## Я ПРА ЦЯБЕ...

Я пра цябе,
Мой друг дзівосны,
Падумаў так,
Што між людзьмі
Ты мне здаешся
Самай простай,
Або не простай, чорт вазьмі!

Ты абнімаеш або губіш
Халоднай строгай пекнатой—
І ўсё-ж я знаю:
Любіш, любіш,
І, пэўна, любіш, як ніхто.

Адходзіш ты,
І я змарнелы
Ўпадаю ў сон,
Але не сплю.
Прыходзіш—
Зноў, як ачмурэлы,
Ўсё, як раней
Цябе люблю.

Як і раней,
Любві ўдзячны,
Агнём вачэй тваіх гару,
І мне здаецца, што няма чым
Запоўніць ціхіх слоў ігру.

Тады мой лёс,
Як віхар стрэчны
Праменных мар,
Іх пекнаты,
Што на зямлі і ў небе вечна
Ўсё ты здаешся мне, усё ты.

Трох год не стала.
Дзе-ж здагадка,

Што ўзяўшы зоры на зямлю,
Усё так-жа кожны дзень спачатку
То разлюблю,
То зноў люблю.

І ў час,
Калі, мой друг дзівосны,
Ты зноўку шэпчаш:
„Абыймі!“
Хто скажа мне:
Была ты простай,
Або не простай, чорт вазьмі!

Пераклад Валерыя Маракова.

А. Оршын

# НА ПАТРОННЫМ ЗАВОДЗЕ

(З кнігі „Паўвека")

На ліцейным праспекце, супроць Захар'еўскай вуліцы, каля жоўтага, Екацерынінскай эпохі, будынка, на чыгунных лафетах, стаяць гарматы розных калібраў і формы. А вышэй, на сцяне будынка, пад порцікам, прылеплен чорны чыгунны арол і, здавалася, трымае лапамі сплеценае з заглаўных літар слова:
АРСЕНАЛ. Ніжэй, на карнізе, над галоўным пад'ездам, вісіць сучасная шыльда з пазалочанымі літарамі на чорным фоне „Главное артиллерийское управление".

Будынак быў казённы і ўнушальны.

Пазней прыраслі да яго два крылы: адно ламалася на Сяргееўскай, другое—на Шпалернай вуліцы. Таксама жоўтыя, двухпавярховыя, з такімі дзіўнымі фурамугамі замест акон. На Сяргееўскай, у шырокіх арках акон, з нейкай упартай нязменнасцю стаялі рулоны чарцёжнай паперы і мноства нейкіх мудрагельных апаратаў. Было ціха і чынна. І нішто не парушала чопарнасці барскай вуліцы. Зусім іншым быў выгляд правага крыла на Шпалернай. Шырокія аконныя аркі абодвух паверхаў былі чорныя, як бяззубыя раты старых, а праз закопчанае шкло былі відаць рухавыя трансмісіі і вырываўся на вуліцу хаос металічных гукаў.

Мільгала-чыя-небудзь калматая галава, узнімалася забруджаная рука, у чорным рукаве... і адчувалася, што праз адкрытыя форткі струменіць пах чалавечага поту.

Шэсць гадзін раніцы. У мяне ў руках, разлінаваны на квадраты, лісток з запісной кніжкай, на якім напісана: „Падаўцу гэтага прапусціце ў чацвертую майстэрню. Мін Міхайлаў".

Каля варот завода з конскай пакорнасцю стаіць чалавек сорак беспрацоўных, але вароты яшчэ зачынены. Вартаўнік, у ватнім пінжаку, раўнадушна сядзіць на табурэтцы і лянівa лузае сланечнік. Я праз рашотку жалезных варот падаю яму запіску. Ён не адмаўляецца паглядзець яе, але яму лянота ўстаць і ён, упёршыся наском бота ў цагліну, пнецца за паперкай і на пацеху натоўпа падае.

— Тва-аю сударушку!..—сам першы смяецца ад сваёй нязграбнасці.—Ну, давай...—бярэ ён з маіх рук пропуск. Ладна,—кажа ён, вяртаючы запіску.—Пагуляй паўгадзінку: варота адчыню—пушчу, а цяпер—толькі шэсць...

„Пагуляй паўгадзінку... а варота адчыню—пушчу"... пасля гэтых слоў вартаўніка кавалачак паперкі ў маіх руках адразу набывае рэальную каштоўнасць. Нецярплівасць і сумненне, што гналі мяне з дому сюды, зні-

каюць. Мяне ахапляе радасны спакой. Я іду на Ліцейны мост—там столькі прастору і святла!.. Ад ракі б'е свежасцю. Пяшчотна-матавае блакітнае неба тут, на прасторы, быццам абсыпае ўсё перламутравым пылам і ён, падаючы, там унізе, чашуіцца і паблісквае.

Хараша! Як хараша раніцою на рэчцы! На крыштальных хвалях калышуцца абернутыя берагі... Белая шматаконная клініка Віліе, быццам тоўстая чыноўніца, палошча свой падол. Залацістай зеленню толькі што лопнуўшых пупышак асветлен увесь рог Пецербургскай набераҗнай, ад доміка Петра першага да Самсонаўскага маста. А лявей, міглівы бляск вады, падрэзан лінейкай троіцкіх плашкуотаў.

Як хараша! Як цудоўна сёння наўкола! Сёння я пачну працаваць. Канец маім бадзяннем. Інстынктыўна сціскаю ў кішэні паперку і іду зноў к заводу.

Без чверткі сем. Народ спяшаецца. Каля варот таўхатня. Вароты прыадчынены, каля праходу стаіць вартаўнік і адбірае „бляхі"—металічныя нумары. Уваходжу і я. Двор загурашчан вугаллем, масенжнымі абрэзкамі і машыновым ломам. Няспынны струмень людзей расцякаецца па двару і дзесьці знікае.

— Табе першы пад'езд направа!—крычыць вартаўнік, убачыўшы, што я разгублена спыніўся.

Не пад'езд, а чорная зяпа задымленай цаглянай пачвары. Усюды прыдушаная прызмернасць метала: падлога жалезная, лесвіцы жалезныя, стойкі жалезныя. З левага боку, пад скляпеннямі столі, разлёгся на каменных плітах паравы рухавік. Ён пырскае іскрамі і ўздыхае, і стальнымі мускуламі сваёй рукі піхае вялізнае кола. На коле мякка палошчацца шырокі рамень, абабягаючы кругом, ён гоніць-гоніць пад столлю халастое кола трансмісіі.

Чацвёртая і трэцяя майстэрні на версе. Мяне палохае цесната: я ніколі не бачыў гэтулькі варштатаў, колаў, раменняў. І ўсё гэта шыпіць, чаўкае і рушыць. А людзі быццам не заўважаюць гэтага—прызвычаена ныраюць між падпілоўваючага жывога метала.

І ў праходах, на тачках гоняць бляшаныя скрынкі з гільзамі.—Гэй! Стараніся!

Адскакваю ў бок. У кутку, на скрынцы, сядзіць стары-вартаўнік, з георгіеўскім крыжыкам на адвароце парусінавага пінжака. З-пад нахмураных брывей свідруе мяне позіркам.

— Ты чаго тут?—пытае ён.

Я падаю запіску. Ён адпіхвае яе сваёй кастлявай рукою.

— Непісьменны я, так кажы, што трэба.

— Міна Міхайлавіча чакаю.

— А-а-а!—яснеюць бровы старога.—Яшчэ не прыходзіў. Зараз будзе. Пачакай тут. Хіба працаваць у нас надумаўся?.. Ды вунь і ён на спаміне-та...

Поўны, з румяным ветлівым тварам, у апраўе з мяккай кручонай русай бародкі, валюгаючыся шоў Мін Міхайлаў. Я яго яшчэ не бачыў, хоць кожны дзень пра яго чуў.

— Здравія жалаем Мін Міхайлавіч!—устаў стары.

— Маё шанаванне, Максімыч!—проста і сур'ёзна адказаў Мін Міхайлаў.

— Да вас вось гэты маладзец...—паказаў на мяне стары.

Я падышоў і падаў паперку.

— Ці не ты Лёнька тапелец?—засмяяўся Мін Міхайлавіч.—Гэта ты пад баркі ныраць надумаўся? а? Біць цябе няма каму. Я напішу тваёй маці ліст,—жартаваў ён.—Ну, хадзем са мною.

Ад яго смеху, ад яго жартаў зрабілася неяк святлей і прастарней, я ішоў следам за ім. Паўз нас каціліся тачкі, але я ўжо не баяўся, што яны зачэпяць мяне.

З правага боку „трахалі“ варштаты, злева—бясконцнай шарэнгай стаялі сталы. За сталамі сядзелі людзі, бралі са сталоў журлівую абалонку і штосьці рабілі з ёю, а на каленях у кожнага стаяла дзеравяная скрыначка.

Ад кантрольнага століка, які стаяў у шырокім праходзе, насустрач нам падняліся два кантралёры. Адзін высокі, рабы, з доўгаю раздвоенай скобелеўскай барадой і вялікай матавай пляшынаю: на ім быў сурдут гарохавага колеру і такія-ж штаны. Здавалася, ён вырас са свайго гарнітура: вузкія штаны выдавалі халяву камашаў, а вялікія шырокія далоні бязмеры вылазілі з рукавоў і талія сурдута была вышэй, як гэта належала. Другі—малады і густавалосы, прылізаны: маленькія вусікі і стральчатыя бровы, здавалася, былі прыклеены з чорнага плюша. Апранут ён быў у кароткі чорны пінжачок і карычневыя шаравары, запхнутыя ў мяккія халявы ботаў. Барадач таропка ступіў наперад, а малады падаўся ў бок, быццам стараючыся схавацца за шырокую спіну барадача. Павіталіся за руку. Мін Міхайлавіч узяў мяне за плячо і выставіў наперад.

— Вось, Савелі Дзем‘янавіч, гэтага маладога чалавека трэба прыстроіць дзе-небудзь у вас...

— У Валодзіна на „трыста восьмым“ двох за брак знялі...

Валодзін ступіў уперад, дакрануўся пальцамі правай рукі да вусікаў, і скасіўся на мяне.

— Ёсць два вольных месцы. Хадзем,—кінуў ён мне.

## II

Чацвертая майстэрня на заводзе была майстэрняй ручных цэхаў. Тут адбываўся якасны агляд выцягнутых патронных гільз і абалонак для куль, і іх дакладнае вымярэнне.

Мін Міхайлавіч Міхайлаў быў памочнікам майстра і гэтага было дастаткова, каб мяне, яго пратэжэ, прынялі вонкава добра. Валодзін падаў мне новенькую скрыначку, а Шармачоў стальную круглую плітку з дзірачкай па сярэдзіне.

— Гэта штучка каштуе рубель семдзесят пяць капеек, калі яе згубіш,—казаў торгаючы бараду.—Цябе як завуць?

— Ефімаў, Алексей Іванавіч.

— Ну, дык вось, Ефімаў, трымай гэта кольца левай рукою, вось так... а правай бяры са стала абалонку і прапускай праз гэтую дзірку... катора пралезе—годная, а каторая ўпіраецца „пападдзя“—вон: брак. Зразумела?

— Зразумела.

— Цяпер: у скрынцы дзве тысячы штук. Напоўніш, падыходзь да кантроля—да мяне альбо да Валодзіна—атрымаеш марку. Зразумела?

— Зразумела.

— За скрынку, па заводскай расцэнцы атрымліваеш шэсць капеек... А толькі...—Шармачоў звузіў вочкі і выцягнуў пад вусамі губы: ад гэтага яго валасаты твар натапырыўся і зрабіўся драпежным.—А толькі глядзі: не падсыпай для хуткасці, правяраць будзем. Зразумела? І калі знойдзецца брак—маркі не атрымаеш. Цяпер памятай: калі за тыдзень дасі пяць скрынак з бракам—вон з завода. Зразумела?

— Зразумела.—Ты ў мяне і за пяць год нават адной скрынкі з бракам не знойдзеш, думаў я, слухаючы папярэджанні.

— Ну, валяй. Ты курыш, ці не? Калі курыш, выходзь у прыбіральню, там курацъ, а тут не можна.

Шармачоў адыйшоў і я ўзяўся за работу. Мудрага нічога не было, патрэбен быў толькі спрыт. Да абеду я зрабіў тры скрынкі; для пачатку гэта было не дрэнна.

Калі ўсталі на абед, да мяне падышоў Шармачоў.

— Ты, Ефімаў, дзе абедаеш?—запытаў ён.

... дзе я абедаю?.. У маёй кішэні ляжалі дадзеныя Серніковым дваццаць капеек... збегаю, куплю чаго небудзь і з'ем... дзіўна.

— Тут, у сталоўцы завода ёсць абеды... У цябе можа няма грошай? Я магу да палучкі пазычыць,—усё яшчэ клапаціўся пра мяне Шармачоў.

Такая ўвага з боку такога саліднага чалавека, з боку непасрэднага начальства ка мне, сапліваму хлапчуку, мяне скаланула. Госпадзі, якія добрыя людзі тут!

— На абед у мяне ёсць,—сказаў я Шармачову.

— Ёсць? Ну, ладна.—Шармачоў зірнуў на мяне скоса разы са два, падумаў і запытаў:

— Табе Мін Міхайлавіч сваяк?

— Не, не сваяк.

— А чаму-ж ён цябе ведае?

— Сернікаў і Шатаў прасілі яго за мяне.

— Хто-ж яны такія?

— Гэта Сернікаў?.. Яны абодвы токары і Сернікаў і Шатаў.

— А-а-а!—расчаравана працягнуў Шармачоў і адвярнуўся.

Сталовая была на заднім двары. Абедала ў ёй не больш двесце чалавек, пераважна моладзь без прытулку, як я; рабочыя, якія зараблялі больш рубля, пераважна абедалі ў тракцірах і сталоўках паблізу завода.

На заднім двары ляжалі штабялі старадаўніх бронзавых гармат і чыгунных ядраў. Яны ляжалі тут, відаць, з часоў Екацерыны. Час параскачваў па двару і гарматы і ядра, налажыўшы на іх сваю пячатку, у выглядзе зелені і іржы.

У час абедзеных перапынкаў, урослыя ў зямлю пушкі служылі сядзеннем для чынных сямейных рабочых, якія елі свой дамашні абед, на іх-жа гулялі „на скорую руку“ ў „трынку“...

Да абеда я пазнаёміўся толькі з адным сваім суседам з правага боку—з Юркам Мамкіным, з ім я і прышоў абедаць у сталовую. Юрка—высокі, са слаба-развітымі мускуламі, хлапец год шаснаццаці, з пяшчотным дзявочым тварам. Ён чырванеў кожны раз, калі звярталіся да яго. Несумненна, што гадаваўся ён сярод жанчын. Яго маці—фельчарыца ў адной пецербургскай больніцы—маленькая, чысценькая жанчына, амаль кожны вечар прыходзіла да варот завода сустракаць яго пасля работы. І хлопцы, на жарт, празвалі яго „мамкіным сынком“.

— Што-ж ты з імі зробіш—азарнікі, не дай божа!—чырванеючы, скардзіўся Юрка на таварышоў.—Гэта што-о—насміханкі гэтыя—няхай... А ты сам-жа глядзі: абмацай лаўку, калі будзеш садзіцца за работу. Яны што-о? Возьмуць востры абрэзак ды ўваткнуць, дзе садзяцца, у лаўку. Маленькі—не відаць... сядзеш, а ён у мяса... Ну, а яны рагочуць. Гэта ў іх называецца: „жыўца пусціць“.

Для мяне гэта здавалася нікчэмнай пусцяковінай. Ці да такіх жыўцоў я прызвычаіўся!.. Мяне цікавіла іншае. Я хацеў ведаць: колькі на „трыста восьмым кальцы“ можна было зарабіць.

— Колькі скрынак за дзень ты выганяеш?—запытаўся я.

Юрка міргае вачыма, маўчыць і чырванее.

— Я няспрытны,—кажа, нарэшце, ён.—Я мала выганяю... Я больш васьмі скрынак не рабіў. А вось Кароль, Каталік, што каля акна сядзіць, як вожык падстрыжаны... дык той па дванаццаць шпарыць... На сем грывень з лішкам... Ён і на „шостым" гэтулькі-ж выганяў.

Мы елі жыдзенькі крупнік са шчэкавінай, потым пшонную кашу з салам і лічылі: калі кожны дзень рабіць па дзесяць скрынак, дык за месяц атрымаецца пятнаццаць рублёў.

— Ты зробіш,—упэўнена рэзюміраваў Юрка.

Яго ўпэўненасць перадалася і мне. „Націсну"—думаў я... І як толькі атрымаю грошы, пашлю дахаты, бацьку, хоць тры рублі... Няхай ведае, што я на пасадзе.

Пасля абеду, калі ўселіся за роботу, я пачаў наглядаць за Каралём. Я бачыў, як ён, не спяшаючыся, пускаў праз кальцо няспынны струмень абалонак. Паспрабаваў і я зрабіць гэтак, але рукі не слухаліся.

Напоўніўшы сваю скрынку, я панёс яе да кантралёра. Валодзін пакінуў яе на праверку. Мяне гэтае нікольки не хвалявала. Я быў упэўнены, што браку ён не знойдзе. Я спакойна „гнаў" пятую скрынку, стараючыся, як толькі можна пераняць спрыт Караля.

— Хоць-бы азірнуцца далі,—злосна бурчыць Юрка.

— Я не баюся: у мяне не знойдуць,—храбрыўся я.

— Ну, не-э, брат... ужо калі пакінулі на праверку, значыць знойдуць!—падкалупнуў, усміхаючыся, сусед з левага боку—Оська Гусак, празваны так за доўгую шыю, маленькую клінападобную галаву і вялікі, заўсёды замазаны металічным пылам нос. Ён нахіляецца да мяне і быццам па сакрэту паведамляе:—ім калі хто не па нутры трапіць—доймуць!

— Нічога-а!—пацяшае Юрка, убачыўшы, што я паў духам.

— У іх, у чарцей, мусіць у кішэні брак,—робіць здагадкі Оська.— Колькі ўжо разоў сцерагуся... Хопяць—брак. Ах ты растуды яе ў корань! Хоць пара штук ды ёсць!—Оська скрабе пальцам нос і хітра падміргвае.—Ці не паспрабаваць падмазаць... сунуць якога рубля.

Настрой мой зусім сапсаваўся. Да вынікаў праверкі няма магчымасці працаваць. Устаю з-за стала, каб ісці ў прыбіральню.

— Дай яшчэ папяроску, расквітаемся, калі атрымаю пенсію!—прашу Юрку.

— Чаму-ж ты не возьмеш у Шармачова, ён дасць да палучкі! Вось дзівак!—гаворыць Оська.—Мы, вунь нас колькі, усе ў яго бярэм. Каб не ён—не курыўшы-б сядзелі. Хочаш, я скажу.

— А калі не дасць?—сумняваўся я.

— Дасць!—пацвярджае Юрка.

Оська нясе здаваць сваю скрынку. Атрымаўшы ад Шармачова марку, ёнківае ў мой бок.

— Каля мяне, Савел Дзем'яныч, сядзіць новенькі—Ефімаў... Дык увесь дзень „страляе" пакурыць... а ў вас запытаць баіцца.

— Баіцца?—усміхаецца Шармачоў,—вось які дурань... Няхай ідзе возьме. Скажы.

У маёй скрынцы аказалася чатыры пападдзі, гэта значыць чатыры абалонкі, якія ў „восьмае кальцо" не пралазілі, Шармачоў на сваёй шырокай далоні паднёс іх да самых маіх вачэй.

— Вось глядзі!.. Першы раз табе гэта даруецца. Зразумела? А цяпер літасці больш не чакай!—дэманстрацыйна моцна праказаў ён.

III

У першыя дні, з сотні рабочых, якія працавалі на кольцах і лекале, у мяне было толькі два сябры—Юрка Мамкін і Оська Гусак Толькі яны і знаёмілі мяне, па магчымасці, з жыццём-быццём завода. Абодвы яны працавалі тут больш як год: ведалі многіх рабочых, не мала гісторый і ўсё начальства.

Юрка—мяккі, сарамяжы і саступчывы—цярпеў ад азорства равеснікаў, ад жорсткасці і грубасці дарослых, пра начальства-ж гаварыў пачціва, лічыў, што начальства—людзі адукаваныя, шляхетныя, і ні пра што крыўдзіць не здольны.

— Яны прызначаны парадкі наводзіць... Калі начальства не будзе строгім, дык ніхто і працаваць не будзе,—ціха, але ўпарта рэзюміраваў ён свой погляд.

— Ну, а калі твае начальнікі—жулікі?—ехіднічаў Оська.—Ну, вось, скажам, у Ефімава не было браку—гэта як свят бог... а тваё начальства ўзяло ды зжульнічала...

Оська Гусак, не гледзячы на свае юнацкія гады, ужо не верыць у дабро на свеце. Ён непахістна ўпэўнен, што ўсе людзі жулікі, што ўсе ўзаемаадносіны паміж людзьмі азначаюцца выгодай, і што за грошы можна ўсё зрабіць.

— Вось дай ты мне зараз тысячу рублёў!.. Ты-б пабачыў, як-бы я прайшоўся каля самога Аграновіча... і ён, брат ты мой, не то што не скосіцца на мяне, а яшчэ пад казырок возьме. Ей богу! Грошыкі, браце, не бог, а паўбога ёсць,—падміргваў ён.

— Ёсць добрыя людзі!—пярэчыў я. Я расказаў яму, як два рабочых—токары выцягнулі мяне з Новай канавы, узялі да сябе, апранулі, абулі, лячылі, кармілі-паілі, да справы прыстасавалі і па сёнешні дзень на харчаванне даюць.

Оська недаверліва ківае галавою.

— Можа ў іх не ўсё дома?—стукае ён пальцамі па лбу.—Бывае: з-за вугла пыльным мяшком аглушаны.

Каля адзінаццаці гадзін дня—абыход майстэрань. Вартаўнік Максімыч, кантралёры абмераў і выцяжкі—на чаку. Уперадзе маршавым шагам ідзе начальнік завода, палкоўнік Аграновіч, у артылерыйскім сінім мундзіры з аксельбантамі. Ён ідзе, трымаючы левую руку на эфесе шашкі, а правай няспынна мусоліць сваю лапатападобную рыжую бараду, фасона „Александр трэці“. На яго твары застыгла пагардлівасць, на паўкрока за ім таропка рушыць вытворча-тэхнічны штаб. Валюгаючыся, перастаўляе простыя ногі высозны вусаты інжынер—Готтэрт, у чорнай, падобнай да манахавай мантыллі, крылатцы; дробненька ступае, апрануты ў шэры гарнітур, выбрыты і з лысай галавою, сівы Апарын—масцер чацвертай майстэрні: сапе і цяжка дыхае, выціраючы лысіну хустачкай. Дарагушын—масцер трэцяй майстэрні. Ён ледзь нясе сваё вялізнае пуза. Воддаль ідуць: Мін Міхайлавіч і Буднікаў—памочнік Дарагушына.

Час-ад-часу ўвага начальніка затрымліваецца на чым-небудзь. Уся група спыняецца. Яму даюць тлумачэнні, а ён нахмурыўшы бровы, як пакрыўджаны, слухае. На заводзе цішком гаварылі, што Аграновіч у справе нічога не разумее, і што ён пусты і недалёкі чалавек, але ўголас усе звалі яго „строгім“ і гэтае, відаць, яму падабалася.

Калі начальства ідзе паўз нашы сталы, Юрка бляднее, схіляецца нізка да скрынкі і перастае дыхаць. Наадварот: Оська Гусак нечага

заўсёды падымаецца, выцягваецца ва фронт. Ён за сталом крайні, ён відзён начальству.

— Чаго ты ўстаеш?—пытаюся я.

Оська хітра ўхмыляецца і выцірае нос.

— Няхай глядзяць як я начальства паважаю... Ты думаеш, яны не заўважаюць? Заўважаюць, брат.

У суботу мы раніцою гаварылі пра Эрмітаж. Юрка з маткаю часта ходзяць туды. Яго маці ведае ўвесь Эрмітаж напамяць.

— Прыходзь, калі хочаш, да нас заўтра і пойдзем,—прапануе Юрка.

— Заўтра кватэру буду шукаць,—кажу я.

— Ды ўжо ж, пара-а!—усміхаецца Оська.—Мусіць во-о як апрыкрыў ты сваім токарам!—Ён зрабіў сур'ёзны выраз на твары і тонам настаўніка праказаў:—Вядома, не скажуць-жа ў вочы, калі самі прытулілі... а нябось чакаюць не дачакаюцца, пакуль ты выбярэшся. Гэта разумець трэба.

— Выбяруся заўтра.

— А ёсць куды? Хочаш, пераязджай да нас. У маёй цёткі ёсць вольны куток. Разам будзем.

— А дзе ты жывеш?

— На вялікай Охце, на Дарохаўскай шашы. Ад Смольнага на парадзіку цераз Няву, а то на лодках...

Забірацца далёка ад сваіх добрых апякунаў, асабліва ад Сернікава— вельмі не хацелася. Цягнула чамусьці да сваяка Дмітрыя Андрэевіча, туды, дзе пражыў больш трох год.

У нядзелю я знайшоў куток у Фядоссі Крываротавай, у доме Феакцістава, на Варанежскай вуліцы.

## IV

Супроць нашага стала, на варштаце „другой выцяжкі“ больш двух тыдняў працаваў „часовы“. Сёння прышоў Сяргееў, які працаваў тут больш двух год. Ён яшчэ больш пахудзеў, пачарнеў, аброс барадою. Горам дыхала ад чалавека.

І сёння за варштатам сядзіць часовы. Абыякава ўкладае ў рухавыя матрыцы нейкія бляшкі з белага метала, станок мерна „трахае“, доўгі стальны палец б'е ў бляшку, выцягвае яе аб сценкі і прапіхвае ўніз, у скрынку... Сяргееў трывожна топчацца вакол станка, пазірае на хлопца, які працуе, і не адважваецца пачаць гаворкі. Да яго падыходзіць кантрольны Зубаў, у сінім халаце, з гузікамі на спіне.

— Ты, Сяргееў, пачакай, не станавіся на работу: табе разлік вывешан,—кажа ён сухім афіцыяльным тонам.

— Як разлік? Чаму?—як апечаны ўздрыгвае Сяргееў.

— Вельмі проста. Ідзі сам паглядзі на дошцы.

— За што-ж разлік?—глытае смагу Сяргееў.

— А ты, што, дзіця, не ведаеш, што прапусціў больш як два тыдні? Адно-ж правіла, нябось, для усіх.

— Ды зразумейце, вы, Васіль Васільевіч: што хворая, што два малышы, адзін грудны... Не мог знайсці на каго пакінуць!.. Бо...

— Мая справа маленькая, сам ведаеш. Вось прыдзе масцер... Начальнік... З імі ты і гавары...

Сяргееў збянтэжана ходзіць каля нашых сталоў, тлумна зазірае то аднаму, то другому ў вочы, шукаючы спачування. Юрка чырванее і ўздыхае. Оська трэ нос і бурчыць.

— Сам вінават, не будзь дурнем!..

Сяргееў спыняецца каля Шармачова і Валодзіна і расказвае ім пра сваё няшчасце: „як снег на галаву, у жонкі запаленне лёгкіх, а яны адны, а тут малышы... малое дзень і ноч не дае спакою: пра ўсё на свеце забудзешся...

Шармачоў і Валодзін слухаюць, спачувальна ківаюць галовамі, і, нават надаюць надзеі.

— Не знімуць. Паспрыяюць твайму гору.

А калі Сяргееў адыходзіць, яны насмешліва падміргваюць.

У адзінаццаць, як звычайна, абыход майстэрань. Сяргееў падыходзіць з-заду да дыхавічнага Дарагушына і кліча:

— Аркадзі Георгіевіч..

Дарагушын спыняецца. Уцягнуўшы галаву ў набухлую тлушчам шыю, ён слухае Сяргеева, не захоўваючы сваёй нецярплівасці.

— Запаленне лёгкіх у жонкі—так! Двое дзяцей, адно грудное—так! Але-ж вось вы прышлі сёння? Чаму вы не прышлі тры дні таму назад?— умольна пучыць вочы Дарагушын.—Вы-ж ведаеце правіла: матываваная заяўка—тыдзень: крайні, надзвычайны тэрмін—два тыдні. А вы...— Зубаў—кліча ён кантралёра.

— Я тут, Аркадзі Георгіевіч.

— Колькі ён прагуляў?

(Кантралёр у сваім цэху з'яўляецца і табельшчыкам).

— Семнаццаць дзён!

Дарагушын з жахам пазірае на Сяргеева і развінае рукамі.

— Не магу!.. Нічога не магу, родны! Правіла!.. Закон!..

Дарагушын даганяе сваю групу.

— Аркадзі Георгіевіч—енчыць Сяргееў і бяжыць за Дарагушыным.

— Не магу, не магу!—не абарачваючыся паўтарае той.

— Што-ж мне цяпер рабіць?! Толькі застаецца з маста ў Няву!— ад роспачы рве на сабе валасы Сяргееў.

— Звярніцеся да начальніка,—косіцца Дарагушын.

Аграновіч прыцішае ходу і азіраецца як-бы кажучы: „Я вас слухаю“.

Сяргееў, надзвычай узрушаны, зноў пачынае гаварыць аб прычынах вымушанага прагулу.

Усе ўражаны. Усе чакаюць, што скажа палкоўнік, а палкоўнік, стойваючы рукою зяхатню, кажа:

— Ты парушыў правіла і. . хочаш, каб я яго таксама парушыў?

Гэтая фраза падабаецца яму: ён самаздаволена аглядвае ўсіх і паўтарае яе.

— Пане начальнік!—умольна ўзмахвае рукамі Сяргееў.

— Ты не ведаеш як звяртацца, балван!—гнеўна выпростваецца Аграновіч.—Я табе не пан начальнік, а ваша высокаблагародзіе! Тут ваенны завод!..

— Ды зразумейце вы, што я не прагуляў, а ў мяне няшчасце!—не памятаючы сябе, крычыць Сяргееў.—Не можа быць такога правіла, каб без віны каралі! Гэта не правіла, а беззаконне!

— Валерыян Адамавіч, можа...з прычыны асаблівых абставін можна яго пакінуць?—асцярожна звяртаецца да палкоўніка Дарагушын.

— Ні пад якім відам!—катэгарычна падкрэслівае рукою Аграновіч.— Вы бачыце, якія ў яго настроі? На маю думку яго трэба арыштаваць!.. З гэтай публікай цацкацца нельга. Вартаўнік, выправадзі яго!—кіўнуў ён галавою.

Да Сяргеева падышоў Максімыч і крануў яго за плячо.

— Што-ж... пойдзем у кантору... Не вы першы, не вы апошні.

Калі Аграновіч і майстры пайшлі, Оська сеў.

— Эх!—кракнуў ён, пазіраючы на Сяргеева.—Сунуў-бы якую дзесятку... падмазаў-бы...

— Каго!—Дурыла пакутнік!—не сцярпеў Юрка.

— Шляя пад хвост папала...—ківае галавою Максімыч.—Ты схадзі да яго на кватэру, папрасі,—радзіць ён Сяргееву.

V

У канторы ў Сяргеева пашла з горла кроў і яго адтуль накіравалі ў прыёмны пакой ліцейнай часткі.

Звальненні на заводзе не рэдкія, і звальняюцца не заўсёды па прычыне. Вядома, звальняюць за сапраўдныя прагулы і за сапраўды наўмысны брак; але часцей за ўсё „выжываюцца“ няўгодныя непасрэднаму начальству—кантралёрам людзі. Кантралёры на заводзе падбіраюцца вельмі ўважліва—гэта тайная паліцыя завода, і ў праўленні ім давяраюць больш, чым якому-небудзь майстру альбо інжынеру.

За тры тыдні, як я тут працую, з 80 чалавек, што працуюць на кольцах, зволілі шасцёх. Афіцыяльна за брак..—і ніхто не звярнуў на гэта ніякай увагі. Тое-ж самае і ў іншых цэхах. Але звальненне Сяргеева было трагедыяй і ўспрымалася ўсімі, як жорсткае самадурства начальніка. І пра звальненне Сяргеева загаварылі па ўсіх кутках завода. Галоўным чынам—шкадавалі яго. Найбольш актыўныя прапанавалі нават наладзіць збор у яго карысць. Да гэтага схілялася і большасць.

— Бядацкае становішча ў хлопца, трэба дапамагчы.

— Дапамагчы трэба,—ухвалялі і „пузачы“ з агляду латуні і праверкі гільз.

Але на другі дзень пачалася гаворка пра калектыўны пратэст супроць звальнення Сяргеева і пра патрабаванне аднаўлення яго на рабоце. Радавая маса адразу-ж астыла і адкацілася, а „пузачы“, якія зараблялі паўсотні і больш, настаражыліся і асабліва ўважліва прыслухоўваліся і прыглядаліся да „аратараў“.

Месцам сталага збору рабочых была прыбіральня, куды прыходзілі курыць, а ў час абеду—сталоўка і задні двор.

Групкі, групкі... адчуваецца ўзрушанасць.

— Калі ты начальнік, дык ты пашкадуй, а пакрыўдзіць дужаму слабога справа не хітрая,—кажа паважлівы, пажылы і сумленны ўпакоўшчык.

— А яшчэ казённы завод, а ўсёроўна, што ў якога Ціт Цітыча: „чаго мая нага хоча“...—пагардліва заўважае хлапец з першай выцяжкі, праглядаючы куплены ў часе абеду часопіс Лейкіна „Осколки“.

— Майстар іх—мех з дзярмом. Лопне хутка, чорт, а заступіцца за свайго рабочага не мог,—кашляючы гаворыць нехта ў натоўпе.

— Што казаць: без душы людзі—думаюць, што паміраць не будуць,—уздыхае ўпакоўшчык.—Ну, што ён цяпер будзе рабіць, хворы гэты... ды з такою сям'ёю на руках!

Рабочы з рамонтнай павольна выбівае аб ногаць сваю люльку і зласліва ўхмыляецца ў сваю вялікую чорную бараду.

— Няма нічога лягчэй, як шкадаваць—нічога не каштуе,—кажа ён ні да кога не звяртаючыся.

— Ды як-жа не шкадаваць, калі-ж так крыўдзяць!—не можа супакоіцца ўпакоўшчык.

— А якая карысць ад вашага шкадавання?—ужо зусім насміхаецца барадач.—Добра шкадаваць, калі дапамагчы справе думаеш.

— Вядома, каб сабраць што-небудзь...—згаджаюцца вакол.

— Сабраць...—кажа іранічна барадач.—Сёння збярэм аднаму, а заўтра другому пад зад каленам дадуць...

— А што-ж па тваему трэба рабіць?—пытаюцца адразу некалькі рабочых, абкружаючы барадача.

— Трэба не быць баранамі!—ужо сур'ёзна і рэзка кідае барадач.

Вакол маўчаць.

— Варта каб усе захацелі—і начальства не адважыцца круціць.

— Ёсць за што—выганяй, а калі дарма—не чапай! А то ўсе кінем работу—спынім завод...

— Ого-о—гучыць сярод агульнага маўчання малады вокліч захаплення.

— А хто за работу будзе плаціць?—заклапочана пытае ўпакоўшчык.

— А вось ён, гэты краснабай,—пагардліва ўхмыляецца размётчык у акулярах.

Перапынак на абед. На двары і ў сталоўцы асаблівае хваляванне. Гутарка толькі пра Сяргеева. На лесвіцы каля канторы чалавек дваццаць. Прышлі паглядзець на Сяргеева. У яго ўчора ішла з горла кроў. Ён начаваў у прыёмным пакоі, адужаў і сёння сам прышоў за разлікам. Авалодвае цікавасць: „ці не загадаў пасля ўсяго гэтага Аграновіч пакінуць Сяргеева на рабоце?“

З канторы выходзіць Шармачоў. Яго абступаюць.

— Ну, як?

Шармачоў шкадл'ва паціскае плячамі.

— Звольнілі...—кажа ён, аглядаючы рабочых.—Добры работнік быў. Я яго два гады як ведаю.

— Дрэнна. Трэба як-небудзь дапамагчы, панове...—кажа бракоўшчык Букін, выпеставаны бландзін.

— Не шкодзіць,—згаджаецца Шармачоў,—толькі каб не пакрыўдзіўся Аграновіч.

— Ска-а-жыце, калі ласка: Аграновіч можа пакрыўдзіцца за тое, што людзі хочуць яго перагіб змякчыць!—кажа абураны інструментальшчык.

— Ён гаспадар,—лісліва ўсміхаецца Шармачоў.

— Гаспадар... разышліся вельмі нашыя гэтыя гаспадары.

— А што-ж ты зробіш? Іх воля.

— Адабраць гэтую волю трэба. Вунь у Англіі прафесіянальныя саюзы ўздзечку для такой волі ў руках трымаюць,—кажа інструментальшчык.—Там інтарэсы рабочых—выбачайце—ахоўваюцца...

— Дазвольце...—пярэчыць недаўмёны Букін.—Як-жа гэта па вашаму, па англійску, гэта, гаспадар, значыць, не можа сваім рабочым распарадзіцца?

— Чаму не можа?—Можа, але ў межах дагавору з прафесіянальным саюзам: што належыць—патрабуй, а што не належыць —прабачай. І звальняць з-за свайго капрыза саюз не дазволіць.

— Ну, а калі мне рыла майго рабочага не спадабаецца?.. Так што не хачу яго трымаць, ды ўсё!..Хто-ж мне, гаспадару, забараніць можа?—раздражнена крычыць Букін.

— Ніхто табе не забароніць—звальняй, але плаці няўстойку.

— Так-так. Чуеш, Анціпыч!—звяртаецца Букін да свайго прыяцеля па рабоце.—Вось ты, Охценскі домаўласнік, маеш дворніка, дык ты

таго: падыходзь да яго з пашанай,—рагоча ён.—Вуліцу месці—няхай мяце, а боты пачысціць прымушаць не адважвайся. Альбо вось цяпер мая справа: у жонкі, у магазіне шэсць мадыстак... значыць, з кожнай трэба дагавор... Эх, вы балбатуны! У шэры дом вас усіх такіх балбатуноў засадзіць трэба, каб вы народ не падбівалі. Мы з табою, Анціпыч, і без саюза па 75 рублікаў атрымліваем і без дагавору намі вунь як даражаць.

На другі дзень у прыбіральнях, на дварэ і ў сталоўцы з'явіліся гарадавыя і не давалі збірацца. Былі арыштаваны шэсць чалавек, у тым ліку інструментальшчык і барадач з рамонтнай.

Юрка Лявонны

# КІЕЎ

Горад, вышчарблены вякамі,
Скрыжаваннямі розных сіл,
Дзе паданнямі
Кожны камень,
Кожны помнік сівых магіл.

Мусіць, бачыў не мала гвалту ты,
Пэўна плакалі кроўю грабцы,
Як чаўнамі,
Да самае Балтыкі,
Царгародскія йшлі купцы...

Цяжкім цяжарам селі на карку
Ўсе прыгоды твайго жыцця,
Як лунаў
Над праспектам захарканым
Жоўта-блакітны сцяг.

Бунчукі ды чубы... А вынікі?
Слова ганьбы
вам кінуў народ,—
Прадавалі яго „самастійнікі“
І агулам, і ў расцяроб.

...Мы хадзілі сярод вагранак
Новай творчасці і агня,
Мы глядзелі,
як раным-рана
Узнімаюць павекі дня,

Калі ветры з паўдня напояць
Пахам ружаў нямы сузмрок,
Калі йдуць туманы
З Трыполля
Міма гораду, неўзнарок!..

І на кожным адцінку працы,
Ў паварoце любога старна—

Безліч прагнасці
жыць і змагацца,
Будаваць—ад відна да відна!

У нечуваным такім экстазе
Назаўсёды ў нябыт адыйшоў
Цмяны горад
з вачыма Азіі,
Горад кляштараў і князёў...

Не пачуеш
Спрадвечных енкаў
На бядняцкай калісь паласе;
Вырастае краіна Шаўчэнкі
Дніпрэльстанамі, ХТЗ,

Пагалоўем калгасных стайняў
І гудкамі
У прасторны стэп,
З кожным трактарам і камбайнам,
Што збірае ўрадлівы хлеб!

... Перажыўшы агні і стыні,
Плёны жудаснае пары,
Сэрца сонечнай Украіны
Б'ецца ўзмахамі
дужых крыл!...

Раман Сабаленка

# БРАГІНЬ

(Фрагменты ўспамінаў)

I

Астрогамі, пакутамі
Зямля была багатая.
„Надысь на панскім хутары
Пяцёх братоў закатвалі;
Пяцёх братоў—лапцюжнікаў,
Што выраслі без догляду.
Астрог для іх, ланцуг для іх,
Ў балота сцежка доўгая.
Шырока гладзь балотная,
Як толькі вокам кінь.
На востраве, на водшыбе
Раскінуўся Бра...гінь.“

II

## СУБОТНІ ГОМАН

Шабас.
Запалілі свечы,
Ў сінагозе гоман.
Бакалейны гандаль
Па крамах спынілі.
Каровы з балота
Цягнуцца дадому,
Узнялі на вуліцы
Шэры полаг пылу.
Запалілі свечы
Лімары-гаротнікі,
Тумары вядомыя
Апранулі талэс.*)
Нафталінам пахнуць
Бурносы суботнія,
Над мястэчкам сонным
Кажаны лятаюць.

* Талэс—малельная вопратка ў яўрэяў.

У сінагозе гоман
На малітву сталі.
У Лейзара мізрах*)
Перад самым рэбэ;
Ад усіх адменны
У Лейзара талэс,
Запаліў ён свечак,
Нібы зор на небе.
Бакалейны гандаль
Бойкі ў нядзелю
Бураковым мёдам,
Белай пейсахоўкай.
На павер узычыць,
Чым трэба надзеліць,
Гасцінна сустрэне,
Акалпачыць лоўка.
Гандляры спынілі
На суботу гандаль;
Падлічыі грошы,
ў куфэркі пакладі.
Ля дзвярэй суботніх
Непатрэбным грузам,
Сталі, як на варце,
Шаўцы, балаголы.
Дакрануўся кожны
Да святой мязузы,
Нахіліў пакорна
Перад рэбэ галаў.

III

## ШАУЦОВА ДОЛЯ

Ад зары да цёмнай ночы
Ля газоўкі слепіць вочы.
Шые пісару камашы
З мяккай замшавай ліцоўкай.
Ноч мо'пятую не спаўшы,
Шавец дрэмле над газоўкай,
Дзеці бегаюць-заморкі,
Недаспелыя зярняты,
Задыхаюцца махоркай
Паўсляпыя вокны хаты.
Мухі кружаць карагодам
Над сталом, пад абразамі,
Навакол стаіць курэдым,
Як увосень на базары.
Мо' ў паўсотні курных хатак
Гэта горбяцца ля' ботаў,
На пяць столак сучуць дратву.
Скупа лічаць заработак.

*) Мізрах малельнае мейсца.

## IV

## ПРАЗ ЧАСЫ

Залатой каймою
　　　　віецца дарога,
Пад нагамі часу
　　　　гравіем шамрыць.
Знікла назаўсёды
　　　　прыкрая убогасць,
Расшугалі гора
　　　　гулкія вятры.
На ўрадлівым полі
　　　　Шэпчацца пшаніца,
Да зямлі схіляе
　　　　буйны, спелы колас.
На балотах сініх,
　　　　па выгарах ніцых
Загуляла песня
　　　　звонкая, вясёлая.
Ах, мае прасторы,
　　　　далі дарагія,
Творчы рой узлётаў
　　　　Бурна сакаліных.
У турме халоднай
　　　　брат цяпер не гіне,
Песціць маці ласкай
　　　　дарагога сына.
Азірнешся, глянеш,
　　　　Зробіцца балесне,
Манументам помнік
　　　　Ля дарогі стыне.
Захавана ў землю
　　　　Баявая песня
Недапетым гімнам
　　　　Маладой краіне.
Мы знімаем шапкі,
　　　　головы схіляем,
Ваша памяць вечна
　　　　ў сэрцах не пагасне;
Ваша песня з намі,
　　　　ў прасторы гуляе
Сімвалам адвагі,
　　　　сімвалам змагання.
Будзем заўжды помніць,
　　　　Скараход Філіп,*)
Цярністыя сцежкі,
　　　　крывавыя плямы.
На тваёй магіле
　　　　кветкі зацвілі,
Манумент гранітны
　　　　захавае памяць.

*) Скороход Філіп-кіраўнік і арганізатар партызанскіх атрадаў на Брагіншчыне.

Залатой каймою
віецца дарога,
Пад нагамі часу
гравіем шамрыць.
Знікла на заўсёды
прыкрая убогасць,
Расшугалі гора
гулкія вятры.

V

## ТРЫМАЙЦЕ ВАРТЫ БАЯВЫЯ

Стаю на беразе ракі,
Плюскочыцца вада аб камень.
Ляжыць забыты падарожны кій
Абшмыляны рукамі.
Схадзіў я ўсе твае дарогі,
Глухі куток зямлі,
Не раз ішоў і зморанныя ногі
Краналіся калючых гліц.
Садзіўся на зямлю і плакаў,
Мне зычыў лёс халодны вырак.
Нас шмат было галодных небаракаў,
Раззутых і раздзетых сірат.
Мы шмат маглі ўніжацца і цярпець
Галодны час, нязносны вызыск...
Я ўваскрашаю прошлае цяпер,
Каб навучыцца болей ненавідзець:
Гадзіны чорныя далёкай скрухі,
Абезгалоўленых, лісьлівых гадаў,
Яны часамі кружаць пацярухай,
Не хочучы ў прадонне падаць.
Красуй расквечаны мой родны кут.
Пшаніцай залатой, мурожнаю травою.
Свой лепшы верш табе сатку
Я твой поэт і воін.
Я слова падыму як меч,
Каб ворага праткнуць навылет.
Калі надыдзе грозны смерч
Трымайце варты баявыя.

М. Брагін.
Ліпень, 1935 г.

А. Звонак

# ДА ПРАБЛЕМЫ ЖАНРА Ў СОВЕЦКАЙ ДРАМАТУРГІІ

Совецкая драматургія за апошнія гады значна вырасла. Павысіўся яе ідэйна-палітычны і мастацкі ўзровень, баявая завостранасць тэм, matchразнастайнасць паказа тых ці іншых бакоў нашай рэчаіснасці.

Гэта зразумела, калі ўлічыць, што перад нашай драматургіяй, як і перад усім мастацтвам, стаяць неабмежаваныя магчымасці адлюстравання нашага імклівага, шматграннага жыцця. Само жыццё патрабуе свайго адлюстравання ў мастацтве, яно штурхае наперад развіццё ўсіх яго відаў.

У нашай краіне, дзе мастацтва перастала быць прафесіяй прывілеяваных адзінак, што служылі інтарэсам пануючых класаў, перастала быць здабыткам невялікіх груп соцыяльных вярхоў, мастацтва ва ўсіх яго родах і відах стала сапраўды масавым, сапраўды народным здабыткам усіх працоўных нашай соцыялістычнай радзімы. Яно стала справай дзяржаўнай важнасці, магутным сродкам выхавання ў комуністычным духу шырокіх мас, магутным сродкам фармавання новага соцыялістычнага чалавека.

Трагедыі індывідуалізма, трагедыі асобы, зацятай у ціскі соцыяльных супярэчнасцяй, характэрнай для ўсяе буржуазнае літаратуры ў працягу стагоддзяў і быўшай фактычна асноўнай тэмай вялікіх мастакоў мінулага, не ведае совецкая літаратура, як не ведае яе і наша драматургія. Яна насычана бадзёрасцю, жыццярадаснасцю, дынамікай і героікай, пафасам і ўпэўненасцю, поўнакроўным соцыяльным аптымізмам нашага соцыялістычнага часу.

Адгэтуль—велізарнейшы дыяпазон ахопа рэчаіснасці ў драматургіі, разнастайнасць тэм і спосабаў выяўлення іх.

Адсюль высокі ідэйны ўзровень нашай драматургіі, яе яскрава выяўленая соцыяльная тэндэнцыйнасць і палітычная завостранасць.

Адсюль—карэнная ломка старых форм у драматургіі і настойлівыя пошукі новых форм, новых выяўленчых сродкаў, адпавядаючых новаму зместу.

Адсюль-жа—і рашучае перамаганне стылевых сродкаў і асаблівасцей ранейшай драматургіі і рашучая барацьба за стварэнне соцыялістычнага стыля совецкай драматургіі, як і ва ўсім совецкім мастацтве наогул.

Лозунг соцыялістычнага рэалізма, дадзены нашай партыяй і яе геніяльным кіраўніком, такім чынам, заканамерна выцякае з неабходнасці стварэння высокага мастацтва вялікай эпохі, бо менавіта ў ім заключана сіла перш за ўсё сапраўднага мастацкага абагулення рэчаіснасці, велізарная сінтэзуючая сіла. Яна выцякае з заданняў мастака адлюстраваць

тыя працэсы ў рэчаіснасці і свядомасці чалавека, якія адбываюцца на яго вачах, тыя велізарныя змены, якія нясе з сабою соцыялізм, знайсці і паказаць тое тыповае, характэрнае, агульна-чалавечае, што штурхае наперад чалавека соцыялістычнай эпохі, прадстаўніка і носбіта раскованай энергіі, які ствapae і пазнае, змяняе свет і змяняе сябе; пазнаць і паказаць новыя адносіны паміж людзьмі, якія вынікаюць на гэтай аснове.

Ізаляваная асоба, чалавек наогул, якога раздзіраюць незразумелыя супярэчнасці, нігіліст, або рамантык—рысы перадрэволюцыйнай сімвалісцкай драматургіі і літаратуры, якія асабліва яскрава выявіліся ў драме Л. Андрэева «Жизнь человека»—тэма неіснуючая для совецкай драматургіі. Чалавек нашага часу—актыўны будаўнік новага жыцця немыслімы адарваным ад калектыва, ад соцыяльнага асяроддзя, якоя абкружае яго. Герой совецкай драмы—не ўзвышаная абстрактная душа, якая імкнецца з вышыні «потустороннего» як у сімвалісцкай драматургіі сузіраць «бушующий океан человеческих страстей» або імкнецца да невядомых ідэалаў недасяжнага—герой совецкай драмы ў большасці сваёй перш за ўсё прадстаўнік класа, прадстаўнік калектыва, у той ці іншай ступені «воплощение» ідэй эпохі, «воплощение» жыццёвай праўды.

Задача совецкай драматургіі, такім чынам, заключаецца ў тым, каб прасякнуць у гэтую праўду, раскрыць і паказаць яе ў тыповым і характэрным. Соцыялістычны рэалізм і з'яўляецца такім метадам пазнання і адлюстравання жыццёвай праўды соцыялізма. Ён не з'яўляецца толькі комплексам стылістычных асаблівасцей, фармальных прыёмаў, а светапоглядам драматурга, мастацкім метадам яго падыхода да з'яў рэчаіснасці, метадам яго дыялектычных адносін да аб'екта гэтай рэчаіснасці, творчым суб'ектам якой ён з'яўляецца сам.

Наша драматургія—адзін з перадавых атрадаў совецкага мастацтва,—перажывае цяпер стадыю фармавання стыля. У працэсе барацьбы за стыль рашуча адкідаюцца ўстарэлыя каноны буржуазнай драмы, устарэлыя паняцці і спосабы ўздзеяння на гледача. Разам з тым паступова, хаця часта і вельмі туга, асвойваюцца лепшыя ўзоры сусветнай драматургіі. Павышаная цікавасць да Шэкспіра, вывучэнне яго неперавышанага майстэрства яскрава сведчаць аб гэтым. Гісторыя совецкай драматургіі—гісторыя барацьбы супроць старых форм за стварэнне новай формы, адпавядаючай новым заданням, якія ставіць перад намі эпоха. Гэтыя пошукі новай формы, калі і незаўсёды прыводзяць да станоўчых вынікаў, то ва ўсякім разе з'яўляюцца яскравым сведчаннем таго, што яна будзе створана і ўжо ствараецца на нашых вачах.

Такім чынам фармаванне новага стыля, які з'яўляецца ў канчатковым выніку выяўленнем класавай ідэалогіі ў мастацтве, нямінуча цягне за сабою карэнную ломку старых форм, перапрацоўку і засваенне іх совецкай драматургіяй, адпаведна з ростам запатрабаванняў да мастацтва з боку мільённых мас працоўных, воляю Кастрычніка далучаных да культуры будуючагася соцыялізма.

Рознастайнасць працэсаў, якія адбываюцца ў нашай краіне ў эпоху пабудовы бяскласавага грамадства, імкненне ахапіць, асмысліць і мастацка адлюстраваць іх у яскравых эмацыянальных поўных дзейснасці і драматызма творах, натуральна, выклікалі да жыцця такое багацце тэм, пытанняў, праблем,—этычных, маральных, філасофскіх, бытавых і г. д.—якія знутры ўзрываюць старыя кананічныя або кананізаваныя формы драмы. Яскравым паказчыкам наяўнасці такіх працэсаў з'яўляецца ўссаюзны конкурс на лепшую п'есу, які адбыўся ў мінулым годзе. Журы

конкурса канстатуе, што «характэрнай асаблівасцю п'ес прысланых на конкурс, *з'яўляецца рознастайнасць жанраў і мастацкай манеры, у якіх яны напісаны*»... «рознастайней стала тэматыка, актуальныя праблемы сталі распрацоўвацца глыбей, *з'явіліся арыгінальныя і новыя па сваіх жанрах творы*». (Падкрэслена мною. А. З.)

Гаворачы пра ломку старых форм мы, вядома, маем на ўвазе зусім не нігілістычнае адмаўленне начыста лепшага, што дасягнута ў гэтай галіне векавой культурай старога тэатра і драмы. Зразумела, што толькі ў працэсе крытычнага засваення культурнае спадчыны мінулага, у перапрацоўцы яго, у засваенні лепшых дасягненняў буржуазнай культуры ў галіне тэатра і драмы, накопленых стагоддзямі, магчыма стварэнне новага стыля, новых форм соцыялістычнай драмы. Але бясспрэчным з'яўляецца і факт нараджэння новых форм, сродкаў выяўлення, жанраў, што і падкрэслена ў рашэнні журы конкурса на лепшую п'есу.

У гэтым сэнсе не зусім праў тав. Літоўскі, калі ён сцвярджае, што «ад адмаўлення старых жанраў *мы прышлі да іх рэстаўрацыі на новай аснове*. Праўдзівей было-б гаварыць нават не аб новай аснове, а аб новым гучанні, якое набываюць старыя жанры, дзякуючы іх новаму напаўненню. *)

Літоўскі тут праводзіць стары, яўна памылковы тэзіс аб форме і змесце. Ён спрабуе, падобна да Плеханава, уліваць «в старые литературные мехи... совершенно новое революционное содержание».

Паварот совецкай драматургіі ад агульнага (нібыта) адмаўлення культуры мінулага да крытычнага яе засваення і ў канчатковым выніку яе перамагання Літоўскі разглядае, як рэстаўрацыю старых жанраў. Наўрацці можа згадзіцца наша драматургія з такім палажэннем.

Па-першае, тут мы маем няправільны падыход да разумення катэгорыі жанра, якая разглядаецца як нешта дадзенае раз назаўсёды, як некая застыўшая форма, якую, моў, совецкая драматургія «рэстаўрыруе», напаўняючы яе «новым гучаннем». У якасці прыклада такога «напаўнення» Літоўскі прыводзіць «Улицу радости» Н. Зархі. «Гэта была— кажа Літоўскі,—чыстая меладрама з уласцівай гэтаму жанру актыўнасцю страсцей і тэмпераментаў». Такім чынам поспех «Улицы радости» Зархі тут тлумачыцца выключна знешняй прычынай—удалым выбарам жанра меладрамы.

Вядома, поспех п'есы Зархі заключаўся зусім не ў свежасці жанра меладрамы, як гэта сцвярджае Літоўскі некалькімі радкамі ніжэй, а ў тым змесце, якім захапіла гледача «Улица радости». Моманты меладрамы, вядома, не былі тут у іх «чыстым» выглядзе (якога дарэчы наогул і не існуе), яны былі перапрацаваны ў адпаведнасці з той ідэйнай мэтаімкнёнасцю, якая была ў драматурга,—у глыбокім унутраным псіхалагічна-матываваным, эмацыянальным раскрыцці тых зрухаў, у свядомасці рабочага класа і перадавой інтэлігенцыі Захада, якія з велізарнай сілай пераканальнасці паказвае Зархі ў сваёй «Улице радости».

Па-другое, няправільна будзе разглядаць жанр, як катэгорыю знешняга парадка ў адносінах да зместа, як суму тэхналагічных прыёмаў, якая дадзена раз назаўсёды, і ў якую можа быць укладзены любы змест.

Гісторыя развіцця драматургіі паказвае, што ў розныя эпохі адзін і той-жа жанр, або від драматычнага мастацтва, напрыклад, жанр камедыі, нёс зусім розныя функцыі. (Класічная камедыя, камедыя «плаща и шпаги» так званага залатога века іспанскага тэатра, італьянская «камедыя

*) Другі дыскусійны Зборнік „Драматургія".

Дэльартэ», буржуазная камедыя палажэнняў і г. д.). Калі мы ўважліва прасочым гэтыя віды камедыі, мы пры ўсім іх знешнім падабенстве, чыста фармальным, знойдзем рэзкія адрозненні, як у змесце, так і ў форме іх. Мы з відавочнасцю ўстановім, што гэтыя знешне-падобныя жанры з'яўляюцца ў кожным выпадку праяўленнем пануючага стыля той ці іншай эпохі, абумоўленага суадносінамі класавых сіл у пэўных краінах і ў пэўныя часы. Вызначэнне-ж жанра толькі па яго знешніх адзнаках, тэхналагічнай структуры (вядома-ж рознай у розных стадыях развіцця яго!) надзвычай памылковы.

Аналіз гісторыі развіцця ў даным выпадку камедыі дасць нам зусім процілеглыя вынікі. Сама рэчаіснасць адкідае такі погляд. На нашых вачах нараджаецца зусім новы від трагедыі. Гэта трагедыя не з'яўляецца трагедыяй краху асобы і нямінучай яе пагібелі, а трагедыяй, поўнай веры «жизнеутверждения», сапраўднага аптымізма. Ці-ж «Аптымістычная трагедыя» В. Вішнеўскага, паднятая Камерным тэатрам да нябачаных вышынь мастацкага майстэрства і пераканальнасці, не гучыць аптымістычна, не сцвярджае перамогі рэвалюцыі, хоць канфлікт трагедыі канчаецца пагібеллю героя, носьбіта рэвалюцыі? А «Гибель эскадры» Карнейчука, якая па ўсіх сваіх адзнаках і закладзенаму ў ёй драматычнаму канфлікту з'яўляецца трагедыяй, не сцвярджае тое самае? Але-ж трагедыя мінулага не ведае такіх з'яў і такога драматургічнага вырашэння тэмы. Зусім зразумела, што тут мы маем справу з нараджэннем новага жанра, хоцьбы сабе па сваіх знешніх, фармальных адзнаках ён і нагадваў стары, кананізаваны жанр, гераічнай трагедыі.

З вышэй сказанага відаць, што ў разуменні пытання аб праблеме жанра савецкай драматургіі існуе блытаніна, а часта і поўнае неразуменне гэтага пытання.

Вельмі неабходнай з'яўляецца зараз тэарэтычная распрацоўка цэлага рада метадалагічных праблем, звязаных з бурным ростам нашай савецкай драматургіі. Гэтая распрацоўка, зразумела, істотна дапаможа нашым творчым работнікам тэатра і драмы разабрацца ў цэлым радзе дагэтуль спрэчных пытанняў. А між тым наша крытыка вельмі мала займаецца гэтымі пытаннямі, даючы ў большасці выпадкаў эмпірычны агляд тых ці іншых падзей, з'яў у галіне тэатральнага жыцця, вельмі часта абмяжоўваючыся густавымі ацэнкамі.

Вось чаму хаця-б няпоўнае, прыблізнае вырашэнне гэтага пытання мае вельмі істотнае значанне.

У творчы працэс зараз уцягнуты літаральна масы. Усесаюзны конкурс на лепшую п'есу прыцягнуў да 1500 драматургаў. Характэрным для гэтых твораў з'яўляецца па водзывам журы конкурса не толькі рознастайнасць тэм, якія асвятляюць розныя ўчасткі соцыялістычнага будаўніцтва ва ўсіх кутках нашай неабсяжнай краіны, але і рознастайнасць жанраў, форм, у якіх яны напісаны. Нарэшце, пры больш пільнай увазе да нашай драматургіі, у тым ліку і да беларускай, мы ўбачым, што яе падзел на жанры вельмі прыблізны. Як правіла існуе наогул п'еса, наогул аб соцыялістычным будаўніцтве. На гэты бок справы звярнуў увагу О. Літоўскі, які падмеціў гэтую характэрную дэталь, пры тым вельмі важную для далейшага развіцця нашай драматургіі. Зусім правільна гаворыць Літоўскі што да 1929 года ў нашай драматургіі існавала «жанравая абязлічка», «бязлікая п'еса, п'еса наогул, часцей за ўсё у саракасемідзесяці пяці эпізодах». І бясспрэчна, праў тав. Літоўскі, заяўляючы далей, што такая абязлічка, якая суправаджаецца драбленнем на бязлі-

кую колькасць эпізодаў, вядзе ў канчатковым выніку да драблення ідэй, да разбурэння цэласнага касцяка драматургіі, разбурэння вобразнай сістэмы яе, і прыводзіла не толькі да драблення матэрыяла п'есы, але і да ідэалагічнай раздробленасці. Можна прывесці два прыклады ў пацверджанне гэтага палажэння.

Першы прыклад. Ленінградскі тэатр ЛОСПС інсцэніраваў «Паднятую цаліну» М. Шолахава. Спектакль вялікіх ідэй і падзей на сцэне аказаўся няўдалым, на што звярнула сур'ёзную ўвагу ленінградская крытыка. У чым-жа прычына неўдачы тэатра? Няўдача заключалася ў тым, што «Паднятая цаліна» ў тэатры аказалася не цэласным драматычным творам, а кавалкамі выдатнай аповесці Шолахава. Кавалкі аказаліся вельмі яскравымі, але яны разам з тым аказаліся і вельмі дрэнна сцэментаванымі. Адзіны мэтаімкненны змест аповесці Шолахава ў тэатры аказаўся раздробленым, разарваным на паасобныя эпізоды, слаба звязаныя паміж сабою. Тут яскрава паказала свае слабыя бакі жанравая аморфнасць, праўдзівей кажучы, адсутнасць жанра наогул. У выніку ідэйнае гучанне спектакля аказалася значна ніжэйшым глыбокага ідэйнага гучання аповесці Шолахава.

Другі прыклад. Першы беларускі Дзяржаўны Тэатр паставіў п'есу беларускага пісьменніка К. Чорнага «Бацькаўшчына», створаную аўтарам на матэрыяле аднаіменнай аповесці. Матэрыял рамана ціснуў на драматурга сваім багаццем зместу і падзей. П'еса стваралася як п'еса наогул, жанрава неакрэсленая, з самым шчырым жаданнем умясціць, як мага больш падзей, людзей, канфліктаў. Вынік атрымаўся амаль той-жа, што і з інсцэніроўкай рамана Шолахава. Тэатр вымушаны быў зрабіць спробу абмежаваць матэрыял п'есы, прывесці яго «к общему знаменателю», гэта значыць заключыць у рамкі аднаго жанра соцыяльна-гістарычнай драмы Гэтая спроба тэатру і драматургу ў значнай меры ўдалася.

Такім чынам, ужо з гэтых двух маленькіх ілюстрацыйных прыкладаў мы бачым, што жанравая абязлічка вядзе да сумных вынікаў і, апрача таго, часамі яна з'яўляецца аб'ектыўна шкоднай па прычынах адзначаных вышэй.

Процілеглы вынік мы можам прасачыць на п'есе Карнейчука «Гибель экскадры». Велізарнейшы матэрыял гісторыі грамадзянскай вайны на Украіне Карнейчук здолеў умясціць у рамкі аднаго эпізода—патаплення чорнаморскай эскадры. Драматург адкінуў усё тое лішняе і непатрэбнае, што мае вялікую значнасць само па сабе і неабходна ў другім выпадку (скажам, для рамана, эпапеі і г. д.), але што перашкаджала чоткай пабудове яго трагедыі, перашкаджала развіццю асноўных вобразаў і канфліктаў. Такая канцэнтрацыя матэрыяла, яго дакладная жанравая распрацоўка садзейнічала стварэнню да канца чоткай глыбока-эмацыянальнай, ідэйна асмысленай п'есы, дзе паасобныя персанажы яе вырастаюць да вышыні вялікіх характараў. Тут чотка-выкананае заданне стварыць не п'есу наогул, а іменна гісторыка-рэволюцыйную трагедыю, падначаліла сабе ўсе яе кампаненты адзінай імкненасці драматурга.

Гэтыя прыклады яскрава ілюструюць тое палажэнне, што, ствараючы перадавую па багаццю матэрыялаў і вышыні ідэёвага ўзроўня драматургію, мы абавязаны змагацца за высокую мастацкую якасць яе, за дасканаласць формы, за чоткую, адточаную мастацкую форму, якая ўвасабляла-б усе багацце і рознастайнасць ідэйнага зместа нашай драматургіі. Важнейшым момантам у гэтым пытанні з'яўляецца дакладная

распрацоўка жанраў, выразнае размежаванне іх, паглыбленне і рознастайнасць іх.

Мы штучна выдзяляем зараз пытанне іменна аб жанры ў савецкай драматургіі, хаця ёсць і шмат іншых не менш важных пытанняў яшчэ канчаткова невырашаных, таму, што, на наш погляд, гэта праблема мае істотнейшае значэнне на сёнешні дзень.

Кожнаму зразумела, што аснова рэпертуара савецкага тэатра—сучасная п'еса. Бязлікая колькасць тэм у мастацтве высоўваецца жыццём. Авалодванне гэтымі тэмамі збоку драматургаў фармуе пэўныя жанравыя адрозненні іх адно ад другой. Паглыбленая распрацоўка тэм, дыферэнцыяцыя іх, патрабуе пэўных выразных сродкаў і мастацкіх прыёмаў. Такім чынам, складаецца і вырастае пэўны жанр. І чым глыбей драматург прасякае ў сэнс і значанне знойдзенай ім тэмы, тым больш чотка выкрысталізоўваецца той ці іншы жанр. Так ужо сёння мы з'яўляемся вачавідцамі больш-менш выразна сфармаванага жанра сацыяльна-гістарычнай гераічнай трагедыі, намечанай яшчэ ў мінулыя гады ў п'есах: «На крови», Мсціслаўскага, праз «Мятеж» і «Город ветров» да бліскучага завяршэння, праўда ў сумежнай галіне, у галіне кінодраматургіі, да «Чапаева». Упарта дамагаецца стварэння жанра манументальнай трагедыі В. Вішнеўскі («Первая конная», «Последний решительный», «На Западе бой», «Оптимистическая трагедия»).

Не даючы фармальных азначэнняў жанра, формулу гэтага азначэння, якія не могуць цалкам вычарпаць усіх адзнак і характэрных рысаў дадзенай катэгорыі мастацтва, мы можам аднак устанавіць тое асноўнае, што дазваляе нам вылучаць пэўную групу твораў у адзін жанр. Гэтым асноўным з'яўляецца разуменне жанра, як з'явы канкрэтна-гістарычнай, абумоўленай ідэалагічнымі заданнямі эпохі, класа або тых ці іншых сацыяльных груп.

Жанр утвараецца і развіваецца з адносін класавага суб'екта—мастака к аб'екту—сацыяльнай рэчаіснасці, г. зн. з'яўляецца адным з бакоў гэтых адносін, аднэю з праяў класавага стыля, пануючага ў тую ці іншую гістарычную эпоху.

Жанр утвараецца, як мастацкая катэгорыя ў працэсе развіцця класавай ідэалогіі, якая высоўвае перад мастацтвам неабходнасць адлюстравання пэўных—сацыяльна-грамадскіх тэм. Знаходжанне мастаком тэмы абумоўлена знаходжаннем вобраза. Знаходжанне вобраза, тэмы вызначае сабою змест пэўнай катэгорыі мастацкіх твораў. Усякі-ж мастацкі твор развіваецца, як адзінства зместа і формы.

Такім чынам пэўная катэгорыя мастацкага мыслення, мыслення ў вобразах, набывае пэўную ідэйна-мастацкую сходнасць. Яна, з'яўляючыся адным з бакоў мастацкай ідэалогіі і паўтараючыся ў мастацтве, набывае характэрныя асаблівасці ў падыходзе мастака да рэчаіснасці і ў спосабе адлюстравання яе, г. зн. утварае жанр.

У жанры такім чынам мы ўстанаўляем, як неабходную яго адзнаку, адзінства метада, спосаба, прыёма адлюстравання ў мастацкім творы рэчаіснасці.

Такім чынам, драматычная творчасць наогул можа разглядацца як родавая катэгорыя мастацтва. Падзел драматычнага мастацтва на трагедыю, драму, камедыю—як відавыя катэгорыі. Канкрэтна-гістарычныя праявы відавых катэгорый абумоўленая савакупнасцю тэм выяўленчых сродкаў, адзінствам вобразнай сістэмы, характарам вобразнага мыслення—як катэгорыя жанра.

Чоткая распрацоўка жанра зусім не звужае размаха нашай драматургіі,

а наадварот, крысталізацыя жанра дапамагае стварэнню вялікіх характараў, тыпаў. Жанр дысцыплінуе, арганізуючы дзейнічае на драматурга, які ўладае вялікім матэрыялам, вопытам, жыццёвай практыкай, асабістымі назіраннямі, як мастак. Ён падначальвае драматурга адзінай мэце—паказу вялікіх падзей, высокіх ідэй, не пераступаючы праз эпохі, не паказваючы на сцэне бязлікія натоўпы абстрактнага калектыва, а соцыяльна-грамадскіх тыпаў праз унутраное раскрыццё іх характараў, якія законамерна складаюцца соцыяльным асяроддзем. Тут вобраз ставіцца ў пэўныя сітуацыі і палажэнні, падказаныя самой рэчаіснасцю. Праз раскрыццё характара вобраза менавіта ў *дадзеных* умовах, якія вызначаюцца выбарам тэмы, а зачыць і жанра, бо ў канчатковым выніку пытанне аб выбары жанра цесна звязана са знаходжаннем тэмы мастаком, якая і вызначае выбар жанра, праз вырашэнне канфлікта, менавіта, ў *дадзенай структуры* драматычнага твору, драматург зможа дасягнуць сапраўднага драматызма палажэнняў, глыбокага праяскнення ў думкі і пачуцці героя, якія кіруюць яго пастункамі, гэта значыць, даць тэатру сапраўдную аснову для сцэнічнага ўвасаблення вялікіх думак і пачуццяў, якіх мае права патрабаваць і патрабуе ад тэатра сучасны совецкі гледач.

Гістарычны генэзіс праблемы жанра ў Заходне-еўрапейскай драматургіі паказвае, што найбольшага росквіта дасягала драма ў эпохі ўзыходу класа на гістарычную арэну. Разам з тым гэты росквіт драмы суправаджаўся больш-выразным размежаваннем жанраў драматычнай творчасці. З другога боку гэты генезіс паказвае, што разам са зменай стыляў пануючых класаў у мастацтве і літаратуры мянялася і панаванне пэўных жанраў. Так званая трансфармацыя жанраў, гэта значыць пераход жанра з аднаго класавага стыля ў другі, заўсёды абумоўлена была суадносінамі класавых сіл у той ці іншай краіне ў пэўную эпоху. Наадварот, у эпохі рэзкай ломкі соцыяльна-эканамічнай структуры грамадства, рэзка змяняючыся стыль мастацтва пануючага класа прыводзіць і да карэннай ломкі жанра.

Напрыклад, тэатр Гальдоні, аднаго з яскравейшых камедыографаў эпохі ўзыхода італьянскай буржуазіі, вырас у барацьбе супроць панаваўшай у Італіі «камедыі дэльартэ», камедыі—буфанады, вядомай у нас пад назвай «камедыі масак». Гальдоні, адмаўляючы застылыя формы камедыі масак, будаваў камедыю бытавую, рэалістычную, камедыю характараў, ствараючы, такім чынам, зусім новы жанр, які адлюстроўваў рост самасвядомасці італьянскай буржуазіі XVIII века. Разам з тым адштурхоўваючыся ад старога жанра камедыі Дэльартэ, Гальдоні пераняў яе асноўныя структурныя асаблівасці, пераносячы ў сваю камедыю характараў тыпізаваныя маскі з яе. Тут мы маем яскравы прыклад рашучай ломкі аджыўшага жанра і разам з тым іх трансфармацыю. Аналагічныя працэсы мы маглі назіраць у пасляровалюцыйны час, калі стваралася агітацыйная рэволюцыйная драма, пераймаючы формы папярэдняй буржуазнай драмы.

Калі мы звернемся да гісторыі ўзнікнення жанра наогул, мы ўбачым, што першапачатковая дыферэнцыяцыя паэзіі на роды і віды, а апошніх на жанры, стаіць у цеснай сувязі з гісторыяй грамадскіх фармацый, з падзелам грамадства на класы. Класавая барацьба ў канчатковым выніку заўсёды вызначае рух тых ці іншых відаў мастацтва і літаратуры, яна-ж ляжыць і ў аснове ўзнікнення адмірання, трансфармацыі таго ці іншага жанра. Гэта вельмі важна ўразумець, бо зварот да гісторыі драмы якраз паказвае ўсю беспадстаўнасць тэорыі фармалістаў розных колераў аб існаванні вечных жанравых катэгорый.

Так званы сінкрэтызм паэтычнага мастацтва, які арганічна спалучаў усе элементы паэзіі, уключаючы і відовішчны бок—міміку, жэст, пляскі, музыку,—існаваўшы ў старажытнай Грэцыі, распадаецца на паасобныя роды і віды якраз тады, калі пачынаецца бурны рост грашовай і гандлёвай буржуазіі ў Грэцыі, актывізацыяй яе барацьбы супроць непадзельнага панавання грэцкай зямельнай арыстакратыі. З гэтага моманту адбываецца падзел сінкрэтычнай паэзіі на роды і віды, адбываецца дыферэнцыяцыя іх і адасабленне аднаго ад другога. Такім чынам, вылучаецца род драматычнага мастацтва, у далейшым адасабліваючыся ад астатніх відаў паэзіі, галоўным чынам, эпоса. Праўда, старажытна-грэцкая трагедыя яшчэ доўгі час насіць на сябе адбітак сінкрэтызма, звязанага з абрадавымі, культавымі дзействамі. Наяўнасць хора, тое, што тэатральныя відовішчы наладжваліся толькі ў пэўныя часы года, наяўнасць рэлігійных момантаў, міфалагічная сюжэтыка, усё гэта гаворыць аб тым, што тут яшчэ спалучаліся розныя формы сінкрэтычнага мастацтва.

Станаўленне і рост грашовай і гандлёвай буржуазіі, рост супярэчнасцей паміж грэцкай дэмакратыяй і арыстакратыяй садзейнічаў канчатковаму адасабленню драматычнага мастацтва, ператвараючы яго з рэлігійнага, па сутнасці, святкавання ў зброю класавай барацьбы.

Ужо Эсхіл увёў дыялаг у трагедыю і паклаў пачатак мастацкай драме свецка-палітычнага характара сваёй драмай «Персы». Гэту-ж лінію грэцкай трагедыі з розных класавых пазіцый праводзяць далей Сафокл і Эврыпід.

Некалькі пазней вынікае і грэцкая камедыя, знайшоўшая сваё бліскучае завяршэнне ў Арыстафана. А камедыях Арыстафана ўжо канчаткова выветрываецца культавы характар драматычнага мастацтва, яны носяць яскрава выяўлены палітычны характар. Узнікненне жанра камедыі было абумоўлена той вострай палітычнай барацьбой, якая адбывалася паміж прадстаўнікамі грэцкай зямельнай арыстакратыі і растучай грашова-гандлёвай буржуазіяй. Вастрыня камедыі Арыстафана была накіравана супроць дэмакратыі, гэта значыць гандлёвага класа, які імкнуўся да вайны са Спартай, да пашырэння сваёй экспансіі, вельмі невыгоднай для зямельнай грэцкай арыстакратыі. Лепшыя камедыі Арыстафана, як напрыклад «Лізістрата», падвяргалі жорсткаму асмейванню прадстаўнікоў дэмакратыі. Адсюль сама форма трагедыі не магла з'явіцца той вострай зброяй, якая спрыяла-б гэтай барацьбе. Гэтай формай якраз і з'явілася камедыя. Такім чынам, мы яшчэ раз бачым, што нават першапачатковае ўзнікненне жанраў было абумоўлена выключна класавымі прычынамі.

Калі мы пойдзем далей па гэтаму шляху, то мы ўбачым, што ўзнікненне другога жанра грэцкай камедыі, бытавой камедыі, якая прышла на змену палітычнай камедыі і выдатнейшым прадстаўніком якой з'явіўся Менандр, было абумоўлена ўжо іншымі класавымі прычынамі. Грэцкі камедыограф Менандр, які развіваў лінію бытавой камедыі, быў выразіцелем ідэалогіі грэцкай гандлёвай буржуазіі ўжо ў эпоху яе заняпада. Жанр камедыі ў Менандра пазбаўлены такой палітычнай завостранасці, як было раней, напрыклад у Арыстафана; ён адлюстроўваў ужо статыку палажэння класа гандлёвай буржуазіі, якая блізілася да свайго закату, паказваючы яе рэальнае жыццё, выводзячы звычайных людзей у іх быце, высмейваючы іх недахопы і заганы. Тут мы бачым яскравы прыклад змены жанраў адзін другім у залежнасці ад соцыяльна-грамадскіх змен. Цікава, што так званая нова-атычная камедыя ў Менандра, з прычыны паварота ад вайсковай і міфалагічнай героікі да быта, набыла яскрава-рэалістычны характар. Бы-

тавы рэалізм гэтага жанра, як нельга лепш, адлюстроўваў статыку соцыяльна-эканамічнага палажэння грэцкай, к гэтаму часу ўжо не актыўна заваеўчай, а паразітарнай, буржуазіі.

Такім чынам з нашага кароткага экскурса да вытокаў узнікнення жанраў драматычнага мастацтва выходзіць, па-першае, тое, што катэгорыя жанра ўзнікае выключна дзякуючы патрабаванням да мастацтва з боку класаў, якія шукаюць у мастацтве адпаведных форм для выяўлення сваей ідэалогіі; па-другое, што жанравыя ўтварэнні, як від драматычнага мастацтва, з'яўляюцца рознымі ў розныя эпохі па сваіх мастацкіх адзнаках, у адпаведнасці з іх класавым ідэалагічным напаўненнем і абумоўлена пануючым стылем эпохі.

Яшчэ больш яскравыя прыклады ў пацверджанне гэтых палажэнняў можна было-б прывесці з гісторыі рымскай драмы, якая ўзнікла пад уплывам грэцкай, але з прычыны markaza рознага соцыяльна-эканамічнага укладу, развівала самастойна кожны з памянёных жанраў.

Напрыклад, камедыі рымскага камедыографа Плаўта, блізкія па свайму зместу да камедый Менандра, тым не менш насілі зусім самастойны характар, адлюстроўваючы жыццё рымскай буржуазіі, яе нравы і быт, і жорстка асмейваючы прадстаўнікоў рымскай дэградуючай арыстакратыі. Гэтыя прычыны, у сваю чаргу, выклікалі ў Плаўта і адпаведныя формы камедыі, якіх не было ў грэцкай драме. Яскрава выяўленыя элементы буфанады ў Плаўта, якіх зусім не ведала грэцкая камедыя, як нельга лепш адпавядалі тым задачам рэзкай крытыкі рымскай арыстакратыі ў скрытай форме, якія ставіў перад сабою Плаўт. Жанравае падабенства камедыі Плаўта і Менандра заключаецца зусім не ў механічным перанясенні гэтага жанра на рымскую глебу, а ў падабенстве соцыяльных фактараў, дзейнічаючых на ўзнікненне адпаведных форм мастацтва. Пазней мы ўбачым, што буфонная камедыя, знайшоўшая сваё найбольш яскравае выяўленне ў італьянскай камедыі XVI-XVII стагоддзя, вынікае, як жанр, абумоўлены зусім іншымі соцыяльнымі прычынамі.

На падставе гэтых кароткіх меркаванняў мы можам сказаць з упэўненасцю, што чоткі падзел драматургіі на жанры, адасабленне іх, вынікае ў тую эпоху старажытнай гісторыі, калі, кажучы словамі Маркса: «купецкі капітал, грашова-гандлёвы капітал і ліхвярскі капітал дасягнуў вышэйшага пункта развіцця—у межах сваіх антычных форм».

Гэта вельмі важна з тае прычыны, што ўстанаўленне першакрыніц паходжання драматычных жанраў значна палягчае задачу азначэння і разумення самой катэгорыі жанра. З другога боку гэта дапамагае марксісцкай паэтыцы вызваліцца ад тых напластаванняў у тлумачэнні гэтага пытання, якія маюць з боку прадстаўнікоў розных буржуазна-ідэалістычных і фармалістычных школ.

Сапраўды, і эволюцыйная тэорыя літаратурных жанраў, у асобе яе заснавальніка Брунэтьера і фармальная школа ў асобе яе шматлікіх «отечественных» прадстаўнікоў каналізавалі паняцце жанра. Калі ў Брунэтьера катэгорыя літаратурнага жанра развіваецца падобна да эвалюцыі віда ў прыродазнаўстве, механічна пераносіцца тэорыя эволюцыянізма з галіны прыродазнаўства на мастацтва, то ў нашых фармалістаў катэгорыя жанра развіваецца іманентна, дзякуючы нейкай унутраной асаблівасці, уласцівай таму ці іншаму жанру. Такім чынам, у фармалістаў жанр з'яўляўся нічым іншым, як сукупнасцю вядомых прыёмаў, якія паўтараюцца ў тым ці іншым радзе твораў. Раз узнікшыя прыёмы ў літаратурных творах, паводле фармалістаў, паўтараючыся вядомую колькасць разоў, так сказаць, «стабілі-

зуюцца», утвараючы жанр. Катэгорыя жанра можа развівацца незалежна ад соцыялагічных прычын, грамадскіх зрухаў, соцыяльных фактараў. Такім чынам фармалісты, сцвярджаючы, што мастацтва, у тым ліку і літаратура, развіваючыся, дзякуючы асаблівым уласцівым яму іманентным законам, само з сябе выдзяляе тую ці іншую групу твораў падобных па сваіх фармальных адзнаках, і ўтвараючых адпаведны жанр.

Тут няма патрэбы прыводзіць выказванні ні Брунэтьера, ні нашых фармалістаў. Марксісцкае літаратуразнаўства разбіла ўшчэнт гэтыя тэорыі. І Плеханаў і Фрычэ абверглі—першы тэорыю Брунэтьера другі—тэорыю фармалістаў, паказваючыя тыя шляхі ў гэтым пытанні, па якіх павінна ісці наша марксісцкая паэтыка. Перш за ўсё марксісцкае літаратуразнаўства адмаўляе здольнасць за жанрам іманентнага развіцця. Яно вызначае прычыны, нарадзіўшыя той ці іншы жанр да жыцця. Яно раскрывае класавую функцыю таго ці іншага жанра і яго здольнасць уздзеяння, яго дынамічную сілу, яго структурныя асаблівасці і ўтварэнне іх. Яно накіроўваецца пры гэтым ад знаходжання і вызначэння адзінага стыля работы, як праяўлення ідэалогіі, светапогляду і светаадчування пэўных соцыяльных груп. Яно знаходзіць пасля спосабы праяўлення гэтага стыля, бо гэтыя спосабы могуць і павінны быць рознымі, паколькі існуюць відавыя і ідэалагічныя адрозненні ўнутры аднаго і таго-ж стылю. Гэтыя спосабы, формы праяўлення стыля пэўных класавых груп і ёсць нішто іншае, як жанры. Дыялектыка развіцця жанраў раскрываецца ў дыялектыцы грамадскага развіцця, выклікаўшага да жыцця гэты жанр. Гэта палажэнне бліскуча даводзіць Плеханаў пры аналізе французскай класічнай трагедыі.

У нас сярод часткі крытыкаў і большасці драматургаў існуе няправільнае ўяўленне аб жанры. Называюць жанрам камедыю наогул, драму наогул і г. д. Мы ўжо прыводзілі прыклад з памылковымі выказваннямі па гэтаму пытанню аднаго з лепшых тэатральных крытыкаў сучаснасці Літоўскага. Літоўскі лічыць, што «жанр, як і любая іншая мастацкая з'ява, соцыяльна абумоўлены класам, эпохай, бытам, але соцыяльная абумоўленасць менш за ўсё адбіваецца на самым тэхналагічным прыёме». Гэтае палажэнне дае магчымасць Літоўскаму сцвярджаць, што «бясспрэчна, што яны (жанры—*А. З.)* распалагаюцца па адных і тых-жа жанравых ступенях, як і ў старой драматургіі».

Ці правільна гэта?

Безумоўна няправільна. Калі разглядаюць камедыю, драму, трагедыю і г. д., як жанр наогул, раз на заўсёды дадзены, то, як правіла, не ўлічваюць тае простае акалічнасці, што наогул жанра, як абстракцыі, не існуе, ён існуе толькі і выключна, як канкрэтна-гістарычная, класава абумоўленая з'ява. Іменна гэтая соцыяльная абумоўленасць жанра вызначае і структура яго і «напаўненне» яго і ўсе кампаненты яго. Яна выклікае да жыцця і адпаведныя тэхналагічныя прыёмы, неабходныя для ажыццяўлення дадзенага жанра.

Калі-ж пайсці далей па лініі сцверджанняў тав. Літоўскага, адасабляючага тэхналагічныя прыёмы жанра ад яго сутнасці, мы можам лагічна прыйсці да сцверджання па-закласавасці жанра, мы можам сцвярджаць, што адзін і той-жа жанр можа існаваць у розныя эпохі, у розных класаў, па-за ці ўнутры розных стыляў. Калі наогул камедыя—жанр, то ці не правільней будзе сцвярджаць, што камедыя як адзіны жанр, існавала ў розныя эпохі і існуе да нашых дзён, што яна мае месца, як адзіны жанр у розным соцыяльным асяроддзі? Існавала-ж камедыя ў Арыстафана, Фі-

ломона, Менандра—у старажытнай Грэцыі, Плаўта і Тэрэнцыя ў Рыме, Бомона, Флетчэра, Бен-Джонсона, Шэкспіра—у Англіі, Лопе-дэ-Вега, Кальдэрона, Сервантэса—у Іспаніі, Мольера, Бомаршэ—у Францыі, Гальдоні ў Італіі, Грыбаедава, Гогаля, Астроўскага ў Расіі і г. д. і г. д.

У тым-то і справа, што такая пастаноўка пытання ў корані няправільная, бо яна вельмі адвольна і аб'ядная пад адну рубрыку зусім розныя і па сваіх стылевых і па сваіх соцыяльных адзнаках з'явы. Пры ўсёй відзімай агульнасці, падабенства гэтых з'яў на самай справе мы маем зусім розныя жанры. Паняцце камедыі наогул, як абстрактнае паняцце мы тут выдаем за вызначанне канкрэтнае з'явы. Жанр, катэгорыя канкрэтна гістарычная. І калі мы прааналізуем уважліва і параўнаўча прыведзеныя групы вялікіх драматургаў мінулага, адрозніваючыя фармальныя соцыялагічныя адзнакі іх твораў, уласна ім прысутныя адзнакі, іх структурныя асаблівасці, і, самае галоўнае, іх зусім розную класавую накіраванасць, мы ўбачым, што апрача адной агульнай рысы—наяўнасці смешнага, камічнага асмейваемага—у нас няма іншых падстаў для абагулення пад адну рубрыку зусім розных гістарычных з'яў. Бо на самай справе гэта зусім розныя жанры, з рознай і нясходнай тэматыкай, з рознымі мастацкімі сродкамі, з рознымі кампазіцыйнымі асаблівасцямі, з рознай сістэмай вобразаў, з зусім рознай класавай імкненасцю.

Вядома, могуць быць уплывы таго ці іншага жанра на другі. Вядома-ж, бытавая буржуазная камедыя характараў Гальдоні ўзніклі пад уплывам народнай італьянскай камедыі з аднаго боку і французскай камедыі характараў Мольера, з другога. Але разам з тым яна з'яўляецца і спецыфічна асаблівым жанрам, як ад той, так і ад другой. Ясна, што аднолькавыя соцыяльныя ўмовы могуць парадзіць сходныя з'явы ў галіне мастацтва і часам могуць быць аб'яднаны нават у адзін жанр. Тут нацыянальныя рамкі зусім не адыгрываюць рашаючай ролі.

Напрыклад, жанр бытавой натуралістычнай драмы, які ўзнік і пашырыўся ў канцы XIX стагоддзя і які з'яўляўся праявою ў мастацтве натуралістычнага стылю наогул, выразна выяўлены ў такіх драматургаў, пры тым зусім розных, як Ібсен, Гаўптман, Зудэрман, Шляф, Б'ернсон і іншыя на захадзе; у Расіі—Юшкевіча, Найдзенава, Чырыкава, ранняга Леаніда Андрэева, часткова Чэхава і інш. Тут іншая справа. Тут прычына ў тым, што прыблізна аднолькавыя соцыяльна эканамічныя і культурныя ўмовы, у якіх знаходзілася дробная буржуазія ў гэту эпоху, меўшая ілюзію ўяўнай самастойнасці, ва ўмовах бурна развіваючагася капіталізма, стварае жанр драмы, які закліканы ажыццяўляць гэтую ілюзію. Тут мы маем сходную соцыяльную базу, якая вызначае соцыяльную псіхалогію дробна-буржуазнай інтэлігенцыі Захаду і Расіі. Гэтая сходнасць светаадчування і парадзіла жанр бытавой натуралістычнай драмы, запоўніўшай у канцы XIX стагоддзя не толькі заходне-еўрапейскую сцэну, але і рускую. Даволі паказаць на практыку МХАТ у першыя гады яго існавання, дзе ўсе пастаноўкі гэтых гадоў ажыццяўляліся ў натуралістычным плане, што на доўгія гады замацавала за ім назву «натуралістычнага тэатра». Ібсен і Гаўптман становяцца ўладарамі еўрапейскай асабліва нямецкай і пазней рускай сцэны.

Аднак тут-жа мы можам устанавіць і нядоўгавечнасць жанра бытавой натуралістычнай драмы. Ужо к канцу дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя натуралістычная драма ідзе на спад. Прычыны, выклікаўшыя яго да жыцця, адпалі, і гэты жанр у пачатку XX стагоддзя ўжо змяняецца новым жанрам імпрэсіяніцкай і сімвалісцкай драмы.

Як нараджэнне, так і адміранне жанра бытавой натуралістычнай драмы,

яго нядоўгавечнасць тлумачацца зусім не «іманентнымі прычынамі», якія прывялі да натуральнай змены комплекса прыёмаў яе, а выключна класава-палітычнымі мэтамі. Справа ў тым, што адносная ўстойлівасць дробна-буржуазных груп пад бурным націскам капіталізма, пераходзячага ў сваёй апошняй стадыі да рашучага наступа на дробны капітал, рушылася. Канцэнтрацыя капітала, рост буйных прадпрыемстваў выбівае эканамічную базу з-пад ног класа дробных уласнікаў. Ілюзія самастойнасці рушыцца. Свядомасць дробна-буржуазных мастакоў-натуралістаў церпіць істотныя змены. У выніку мы бачым выразны зрух такіх буйнейшых прадстаўнікоў натуралістычнай драмы, як Ібсен і Гаўптман у бок сімвалісцкай драмы. Жанравыя адзнакі натуралістычнай драмы ў гэтых драматургаў саступаюць месца ўжо новым жанравым адзнакам сімвалісцкай драмы. І гэта зразумела, бо мастацкія кампаненты натуралістычнай драмы, якія адлюстроўвалі быццё дробнага буржуа, яго ўнутраны свет, яго ідэалы і імкненні, перасталі быць патрэбнымі з тае простае прычыны, што гэтыя ідэалы ўжо саступаюць месца разгубленасці, хістанням, няўстойлівасці. Канкрэтныя ідэалы жыццёвага, бытавога добрабыту змяняюцца містычнымі пошукамі РОКА, кіруючага лёсам «малых сих мира сего».

І тут адбываецца працэс процілеглы таму, аб якім гаворыць тав. Літоўскі, які сцвярджае наступнае: «Гэта соцыяльная абумоўленасць менш за ўсё адбіваецца на самым тэхналагічным прыёме». Якраз наадварот, яна перш за ўсё адбіваючыся на тэматыцы, на змесце натуралістычных драм, адбіваецца і на «тэхналагічным прыёме».

Якою-ж была тэхналогія натуралістычнай драмы?

Вазьміце некалькі драм Гаўптмана (напрыклад, «Перад усходам сонца», «Свята прымірэння», «Возхік Геншэль», «Адзінокія» і інш.). Характэрным для гэтых п'ес з'яўляецца тое, што тут Гаўптман дэталёва абмалёўвае мяшчанскую карціну быта дробнай нямецкай буржуазіі. Гэтае дакладнае ўзнаўленне жыцця дробна-буржуазных груп у п'есе бясспрэчна адбіваецца і на самой тэхналогіі яго драм. Персанажы Гаўптмана адрозніваюцца сваёю звычайнасцю, будзённасцю,—яны звычайныя людзі, са звычайнымі невялікімі імкненнямі і пачуццямі. Усе іх учынкі пазбаўлены пафаса і гераізма, характэрнага, скажам, для класічнае драмы. Яны абгрунтаваны выключна дробна-буржуазнаю мэтазгоднасцю. Адсюль і павольны рытм у развіцці дзеі. Канфлікт у натуралістычнай драме будуецца не на сутычцы герояў, носбітаў якіх-небудзь соцыяльна-палітычных ідэй, а на сутычцы герояў з якой-небудзь па-зачалавечай сілай. Замест носьбіта ідэй у якасці драматычнае супярэчнасці выступае якая-небудзь праблема, як напрыклад, алкагалізм, спадчыннасць, хваробы, маральная праблема і г. д. Адсюль-жа у драмах Гаўптмана і спецыфічная пабудова маналогаў, дыялагаў. Яны пазбаўлены рэзка выяўленых страсцей. Дзея разгортваецца павольна, героі больш разважаюць, чым робяць. Тое-ж самае ў рознай ступені адносіцца і да іншых прадстаўнікоў натуралістычнай драмы (Ібсен, Зудэрман і інш.).

Такім чынам, мы бачым тут, што і тэхналагічная пабудова натуралістычнай драмы якасна адрозніваецца ад іншых жанраў. Тут мы маем справу з адзінствам формы і зместа. Калі-ж прыняць пад увагу, што тэхналогія, структура, кампазіцыя, сюжэт—ёсць ні што іншае, як элементы мастацкай формы, то мы ўбачым усю недарэчнасць сцвярджэнняў аб тым, што тэхналогія не залежыць ад соцыяльнай абумоўленасці.

У гэтай сувязі для даследчыкаў беларускага тэатра паўстае цікавае за-

пытанне: чым растлумачыць, што ў першыя гады існавання беларускага тэатра на сцэне яго пануе натуралістычная бытавая драма?

Калі праглядзець рэпертуар гэтых гадоў (1921—1924 гг.) мы ўбачым, што тут вельмі ўдала спалучылася драматургія дарэволюцыйная, галоўным чынам, нашаніўская і драматургія сучасная гэтаму першаму этапу развіцця беларускага тэатра. Ядром рэпертуара тэатра гэтых гадоў з'яўляліся такія п'есы, як: «Птушка шчасця», «Цені», «Чорт і баба», «Бутрым Няміра», «Страхі жыцця», «Манька», «На Антокалі»—Алехновіча; «Пісаравы імяніны», і інш.—Галубка; «У кавалёвай хаце», «Збянтэжаны Саўка», «Конскі партрэт»—Радзевіча; «Як яны жаніліся»—Валодскага; «Паўлінка», «Прымакі»—Купалы; «Соцыялістка»—Жылуновіча; «Пашыліся ў дурні»—Крапіўніцкага; такія п'есы як «Дамы і гусары», «Гусар Саладуха», «Падласая красуля», «Вяселле», «Слуцкая варона» і г. д. Мы апускаем тут лінію меладрамы, яскрава выяўленую ў цэлым шэрагу пастановак тэатра гэтых гадоў. Трэба адзначыць, што не толькі змест пералічаных, далёка не ўсіх п'ес, але і характар пастановак гэтага рэпертуара на сцэне насіў яскрава выяўлены натуралістычны характар.

Нам думаецца, што прычыны гэтага засілля бытаўшчыны і натуралізма ў тэатры і драматургіі Беларусі тых гадоў абумоўлены выключна соцыяльна-палітычнымі прычынамі. Няма ніякага сумнення ў тым, што дробна-буржуазныя і буржуазна-нацыяналістычныя элементы карысталіся амаль поўнаю адсутнасцю совецкага беларускага рэпертуара, сцвярджаючы сябе гэтым шляхам праз мастацтва тэатра. Жанр бытавой натуралістычнай драмы, як нельга лепш, дапамагаў узнаўленню вузкага абмежаванага мяшчанскага «мирка» гэтых соцыяльных груп. Бытавыя дробязі, гэткі сугуба «сялянскі юмар», дабрадушнае асмейванне «слупоў грамадства» дарэволюцыйнае эпохі—пісара, валаснога старшыні, ураднікa, народніцкае спачуванне беднаму, пропаведзь дробна-буржуазнай маралі, адсутнасць соцыяльнага пратэста—усе гэтыя адзнакі пералічаных п'ес толькі сцвярджаюць вышэй сказанае палажэнне. Драматургія гэтых гадоў не паднімаецца вышэй канстатавання дробных фактаў гэтай рэчаіснасці ідэалізацыі патрыярхальнага вясковага быта. Разам з тым гэта драматургія вельмі добра падрыхтавала глебу для з'яўлення на сцэне беларускага тэатра яскравых нацыяналістычных п'ес.

Калі мы гаварылі аб змене форм у заходняй і рускай натуралістычнай драме, мы можам яшчэ больш выразна прасачыць гэту змену форм, змену жанраў на сімвалісцкай драме канца 90-х гадоў і пачатку XX стагоддзя. Тут цікава тое, што тыя-ж прадстаўнікі натуралістычнай драмы, аб якіх мы гаварылі вышэй, пераходзяць ужо на пазіцыі другога жанра і адпаведна гэтаму змяняецца мастацкая тэхналогія п'ес гэтых драматургаў.

Для прыклада возьмем наўдачу некалькі зусім розных прадстаўнікоў сімвалісцкай драмы і паспрабуем каротка ахарактарызаваць стылевыя прыёмы і асаблівасці іх драматургіі.

З гісторыі тэатра вядома, што тэорыя сімвалісцкага тэатра, якую асабліва старанна развівалі рускія сімвалісты ў асобе Вячэслава Іванава, Салагуба, Андрэя Белага, А. Блока, і іншых, мела спробу ажыццявіцца на практыцы і заснавацца на сцэнічных падмостках усур'ёз і надоўга. Ярым наватарам гэтае справы выступіў у 1906—1907 годзе Вс. Мейерхольд, які працаваў тады ў тэатры Веры Фёдараўны Камісаржэўскай ў Пецербургу.

Сімвалісцкая драма, дзякуючы свайму ідэйнаму падабенству ў рада розных драматургаў і дзякуючы сходным адзнакам мастацкага вырашэння

ідэй, закладзеных у іх п'есах, якія паўтараюцца у іх, вядома, можа быць вылучана ў асобны жанр.

Мейерхольд, выступаючы ў якасці тэарэтыка сімвалісцкага тэатра (гл. яго кнігу «О театре») адначасна спрабаваў і практычна ажыццявіць стварэнне сімвалісцкага тэатра. З гэтаю мэтаю на сцэне тэатра В. Ф. Камісаржэўскай у 1906—1907 г. г. ім былі пастаўлены наступныя п'есы: «Сестра Беатрыса», «Пелеас и Мелизанда» Метэрлінка, «Вечная казка»— Пшыбышэўскага. «Нора» і «Гедда Габлер» Ібсена, «Балаганчик» Блока, «Победа смерти» Ф. Салагуба, «Жизнь человека» Леаніда Андрэева, «Свадьба Зобеиды» Гофманстала, «Пробуждение весны» Ведэкінда.

Агульнымі ідэйна-мастацкімі адзнакамі гэтых драм, якія дазваляюць аб'яднаць іх у адзін жанр, з'яўляецца матыў непрыняцця і асуджэння рэальнага света, матыў фатальнай залежнасці чалавека ад Рока, ад нейкай містычнай «патустаронняй» сілы, матыў адмаўлення абкружаючага жыцця. Адсюль імкненне стварэння прыгожага ілюзорнага света «мечты и грезы», стварэнне такога казачнага света фантастычнага вымысла, суз'іранне якога прыводзіла-б да прымірэння з супярэчнасцямі рэальнага жыцця. Разам з тым сцвярджаючы несапраўднасць самога гэтага рэальнага супярэчлівага жыцця.

У большасці пералічаных вышэй п'ес, умоўнымі, абстрактнымі рысамі малюецца рэальны свет, у якім пануе мана, голад жабрацтва, злачынства і забойства побач з раз'юшанаю распустаю або пышным багаццем «Сильных мира сего». (Напрыклад «Вечная казка» Пшыбышэўскага.) Разам з тым паказваецца дарэмнасць імкнення чалавека да багацця і раскошы, любові і асалоды, бо ўсе гэтыя імкненні недарэчны і нікчэмны, яны асуджаны і прыводзяць да таго-ж канца—крушэння гэтых надзей, зманнасці, ілюзорнасці, вокамгненнасці, пасля якіх наступае пустата і пагібель («Жизнь человека» Леаніда Андрэева).

Гэтай рэчаіснасці процістаўляецца ідэальны духоўны свет, свет летуценняў, у якім пануе празрыстая гармонія, нязменная вечная воля, чыстата і ідэальнае хараство. У п'есах Метэрлінка, напрыклад, выразна праводзіцца думка, што жыццё ёсць няспынны ланцуг пакут, гора і роспачы. Розніца толькі ў тым, што ў Метэрлінка, замест абстрактнай і ўзвышанай мары, у якасці ідэальнага света выступае ачысціцельная вера ў неземнае, боскае, у цуды ўсепрашчэння, якое складае адзіны прытулак чалавечай пакутуючай душы, уцякаючай ад супярэчнасцей і пакут жыцця.

Найбольш яскрава гэтыя матывы выяўлены ў «Балаганчику» Блока, сцэнічна ажыццёўленым Мейерхольдам у 1906 годзе ў тым-жа тэатры В. Ф. Камісаржэўскай. Яго асноўная ідэя—падваенне света на свет трансцэндэнтны і свет іманентны, ідэя дуалізма, невыяшальная ніякімі сродкамі.

Такім чынам тут мы маем чаргаванне палярных вобразаў, пераход іх адзін у другі, адзінства працілегласці гэтых палярных вобразаў. Свет лірычных летуценняў і свет бруднай рэчаіснасці пераплятаюцца паміж сабою. Ператвараючы людзей у балаганных марыянетак, прывязваючы іх за ніточку да рукі нябачнага Рока, Блок сцвярджае нікчэмнасць штодзённага жыцця, ад бруднасці якога нельга нават адыйсці ў летуценні, бо самі летуценні азраз-жа ад дакнення ў думках да іх ператвараюцца ў бруднае і нікчэмнае.

Гэты ідэйны комплекс сімвалісцкай драматургіі, зразумела, выклікаў стылістычныя асаблівасці, фармальныя сродкі для выяшэння ідэй, закладзеных у тэй ці іншай драме.

Звяртаючы ўвагу на гэты бок справы, мы тут перш за ўсё заўважым, што ў сімвалісцкай драме надзвычайна аслаблена дзейнасць. Яна становіцца лірычнай, у ёй пераважаюць рысы статыкі, над дынамічнымі рысамі. У асяродку паказа становіцца не працэс, а стан, дзея пераносіцца з сферы знешніх падзей у сферу духа. Ліквідацыі знешняе дзеі спрыяе тое, што яго рухаюць не людзі, а ідэі, альбо «герой нябачны на сцэне, але адчуваемы кожны раз, калі заслона апускаецца» (Мейерхольд). У драме атрымліваюць перавагу элементы замкнутай статуарнай самадавлеючай карціннасці. Асноўным прынцыпам часовай арганізацыі драмы становіцца рытмічная пабудова мовы. Побач з гэтым драма перастае маляваць канкрэтную абстаноўку, час і месца дзеі. Апошнія пазбаўляюцца гістарычнай і бытавой пэўнасці: дзея адбываецца або «на зары гісторыі», або «ў глыбіні часоў», або ў бясконца далёкім будучым. Дзеючыя асобы завуцца абстрактнымі, гучнымі імёнамі. Часта ў аснову сюжэта кладуцца старажытныя легенды або міфы, што яшчэ больш садзейнічае абстрагіраванню драмы ад якіх-небудзь сувязей з гістарычнай рэальнасцю і ўзмацняе сімвалічнасць яе.

Сімвалісцкай драме, побач з пералічанымі вышэй рысамі, уласціва адсутнасць персаніфіцыраванага вобраза. Усе дзеючыя асобы гавораць адною і той-жа напеўнаю мовою, ужываючы адны і тыя-ж звароты і выразы, утанчаючыя свет, «прозревая» за ім іншую рэальнасць, сімвалісцкая драма ўжывае элементы прадметнага света толькі, як аптычныя пункты для пабудовы містычнай перспектывы. Персанаж драмы—гэта не чалавек, а адцягненая ідэя-сімвал. Гэтаму дапамагае двухпланавасць паказа, урыванне патустаронняга, містычнага ва ўмоўную рэальнасць драмы. Таму амаль што ва ўсіх пералічаных п'есах мы маем гэтае ўрыванне патустаронняга ці то ў выглядзе «некто в сером» як у Андрэева, ці ў зданях, ценях памёршых, як у Салагуба і Гофмансталя і г. д.

Зусім зразумела, што асновы гэтаму ідэйнаму і стылістычнаму комплексу сімвалісцкай драматургіі трэба шукаць толькі і толькі ў супярэчнасцях соцыяльнай рэчаіснасці ў яе гістарычным развіцці. Тады нам будзе зусім зразумела, што гэты жанр выкліканы ідэалогіяй тых груп дробна-буржуазнай і дэкласаванай дваранскай інтэлігенцыі Расіі і Захада, якія страцілі рэальную глебу пад нагамі ў перыяд наступлення буйнага фінансавага капітала, у перыяд разгорнутага наступлення імперыялізма, як апошняй стадыі капіталізма.

На гэтых двух прыкладах—натуралістычнай і сімвалісцкай драматургіі мы бачым выразна, што ўзнікненне і таго і другога жанра выклікана да жыцця выключна соцыяльнымі прычынамі, класавай барацьбой. У першым выпадку ідэйна-мастацкі комплекс жанра бытавой натуралістычнай драмы выкліканы да жыцця адноснай устойлівасцю дробнай буржуазіі ў перыяд бурнага развіцця капіталізма. У другім выпадку—ён выкліканы да жыцця стратай ілюзіі ўяўнай самастойнасці і ўстойлівасці дробнай буржуазіі і дэградацыяй, соцыяльнай і ідэалагічнай, дэкласаванага дваранства.

Гэта-ж палажэнне гаворыць нам аб тым, што змена жанраў, як і змена стыляў, таксама абумоўлена заўсёды класавымі прычынамі. Такім чынам палажэнне аб эвалюцыі жанраў (Брунетвер) або дагматызацыя іх і разгляд, як вечных катэгорый, што развіваюцца дзякуючы іманентным, унутрана ўласцівым ім законам (фармалісты) няправільна і абвяргаецца самім жыццём. Гэты бок справы падмеціў і абгрунтаваў В. М. Фрычэ.

Разам з тым прыведзеныя вышэй палажэнні раскрываюць нам шляхі да разумення і вызначэння самой катэгорыі жанра.

Зразумела, што толькі гістарычны падыход да гэтай праблемы можа дапамагчы і вызначыць правільнае марксісцкае разуменне пытання, чым і выкліканы нашы экскурсы ў гісторыю драмы.

Мы ўжо ўстанавілі прыблізна, што ўзнікненне, развіццё, адміранне таго ці іншага жанра стаіць у цеснай сувязі з класавай барацьбой, з тымі патрабаваннямі, якія прад'яўляе клас або тая ці іншая соцыяльная група да мастацтва ў канкрэтную гістарычную эпоху. Аб'ектываваная свядомасць класа, выяўленая ў мастацтве, натуральна патрабуе адпаведных форм для свайго выяўлення. Так узнікае новае мастацтва, новы стыль мастацтва.

Мы ўжо бачылі, як натуралістычная драма ўзнікае ў адказ на патрабаванні пэўнага класа, выклікаўшага да жыцця натуралізм ва ўсіх відах мастацтва, у тым ліку і ў драме. Гэта залежнасць жанра не заўсёды з'яўляецца простай і непасрэднай, яна праходзіць праз рад апасрэдванняў і сувязей, абумоўленых эканомікай, культурай, ідэалогіяй таго ці іншага класа, якія знаходзяць перш за ўсё выяўленне гэтай ідэалогіі ў стылі, пануючым у тую ці іншую эпоху. Гістарычная соцыяльная практыка класа, узаемадзейнасць і ўзаемасувязь рада надстроек, прававых, культурных і г. д., якія фарміруюць псіхіку і свядомасць класа, яго ідэалогію, вызначае светаадчуванне і светаразуменне мастака, які імкнецца адлюстраваць аб'ектыўнае быццё свайго класа, сваёй соцыяльнай групы, адзін з бакоў гэтай рэчаіснасці. Так узнікае, фармуецца пэўны стыль мастацтва, які выклікае да жыцця і вызначае адпаведную форму аж да кампазіцыйных, структурных слоўных асаблівасцей яе. Імкнучыся да найбольш поўнага ўзнаўлення сябе ў мастацтве, класавая ідэалогія выкарыстоўвае і стварае нанава ўсю рознастайнасць спосабаў гэтага праяўлення ў мастацтве. Той ці іншы тып, від мастацкіх твораў, які паўтараецца ў мастацтве, набываючы рад ідэйна-мастацкіх адзнак агульных дадзеных групе твораў, вылучаецца ў той ці іншы жанр і з'яўляецца адным з спосабаў, метадаў, пазнання і адлюстравання класам рэчаіснасці.

Жанр, такім чынам, існуе і развіваецца, толькі ўнутры якога-небудзь стыля, вызначаны і дэтэрмінаваны ім і які сам з'яўляецца адным з бакоў праяўлення стыля. Такім чынам, класічная трагедыя Карнеля і Расіна можа быць зразумелаю і разгледжанаю намі толькі ўнутры стыля класіцызма, як адзін з бакоў яго праяўлення ў мастацтве наогул (архітэктура, жывапісь, літаратура і г. д.).

Напрыклад, моцнасць, стабільнасць французскай абсалютысцкай манархіі патрабавала ад мастацтва свайго манументальнага адлюстравання, набліжэння мастацтва да пышнай і багатай сапраўднасці Версальскага двара. Трагедыі Карнеля таму строга вытрыманы ў класічным стылі, у іх захаваны арыстотэлева адзінствы і г. д.

З другога боку рост самасвядомасці буржуазіі і заняпад абсалютызма, які вёў да вялікай французскай рэволюцыі, накапленне ёю сіл нараджаюць новы стыль, які ідзе на змену класіцызму. Адпаведна гэтаму мяняюцца і жанры ў даным выпадку драматычнага мастацтва. У гэту эпоху пануюць ўжо жанры буржуазнай драмы: так званай слязлівай камедыі, выдатнейшым прадстаўнікам якой з'явіўся ў Францыі Невіль-дэ-Ляшоссе, мяшчанскай драмы—Дыдро, Седэн, Мерсье, псіхалагічнай камедыі—Марыво, мяшчанска-сатырычнай камедыі—Бомаршэ.

Узнікненне і развіццё жанра стаіць у цеснай сувязі са знаходжаннем вобраза. Зусім зразумела, напрыклад, што крызіс французскага абсалютызма і наступны распад яго, абвастрэнне класавай барацьбы і рост буржуазных вызваленчых тэндэнцый, асветніцкая філасофія XVIII стагоддзя, як адлю-

страванне растучай самасвядомасці буржуазіі, патрабавалі ў галіне мастацтва вывядзення не высокапарных герояў—каралёў, прынцаў, рыцараў—класічнай драмы, а носьбітаў ідэй трэцяга саслоўя, адлюстравання мяшчанскай дабрачыннасці сярэдняга французскага буржуа. Вобраз гэтага дабрачыннага буржуа ў драматургіі выклікаў да жыцця жанр мяшчанскай драмы, практыкам і тэарэтыкам якое выступіў аўтар славутага «Парадокса аб акторы», Дыдро. Знаходжанне тэмы і вобраза мастаком, падсказаныя рэчаіснасцю, выклікаюць і адпаведныя сродкі паказа яго, г. зн. пэўны жанр.

Нарэшце адносіны класавага мастака да рэчаіснасці, ідэалогія класа, носьбітам якое ён выступае, ставяць да мастацтва пэўныя патрабаванні ў галіне формы, адлюстравання іх. Дыялектычны працэс фармавання стыля, які адлюстроўвае рух класа, развіваецца як адзінства формы і зместа. Форма ў дадзеным выпадку з'яўляецца спосабам, праз які клас выяўляе сябе ў мастацтве. Такім чынам форма адыгрывае таксама рашаючае значэнне ва ўтварэнні жанра. Зусім зразумела, што форма класічнай трагедыі, яе стылевыя асаблівасці, каротка адзначаныя вышэй, не маглі служыць для паказа з боку Дыдро добрачыннасці сярэдняга французскага буржуа. Такой формай паслужыла форма драматургіі Дыдро, Седэна, Мерсье,—форма сантыментальнай буржуазнай драмы, якая замацавала жанр гэтай драмы на доўгі час.

Калі мы звернемся да нашай паслярэвалюцыйнай драматургіі, мы заўважым велізарную амплітуду жанравых ваганняў у гэтай галіне. І гэта зусім зразумела, бо рэвалюцыя прынесла вялікі новы змест, удыхнула ў чадную атмасферу дарэвалюцыйнай драматургіі свежы, бадзёры, баявы струмень гераічнай рамантыкі грамадзянскай вайны, пафаса рэвалюцыі, яе нечуванай разбураючай і ствараючай сілы. Гэты новы змест у першы час яшчэ не знайшоў сваёй адточанай закончанай формы. Так у першыя гады рэвалюцыі Владзімір Маякоўскі сваёй «Містэрыяй Буфф» (1918 год) кладзе пачатак рэвалюцыйнай драматургіі. З'яўляецца агітка, мастацкі яшчэ слабая, і мала пераканаўчая, але напоўненая крывёю і плоццю, бурным подыхам дзён вялікіх патрасенняў. Гэтая драматургія з дашчатых падмосткаў чырвонагвардзейскіх агіттэатраў натхняла байцоў на перамогу над ворагам. Пазней узнікае гераічная драма—хроніка, пачатак якой быў пакладзены «Мятежом» Фурманава, «Штормам» Билль-Белацаркоўскага, «Любоўю Яравой» Трэнева, якія выклікалі цэлую хвалю аналігічных альбо падобных п'ес, прысвечаных героіцы і рамантыцы гадоў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны.

Можна сказаць, што ўся совецкая драматургія дарэканструкцыйнага перыяда з'яўляецца перад-гісторыяй совецкай драматургіі, перыядам мастацкага накаплення сіл для адлюстравання тых велізарных зрухаў, у эканоміцы і свядомасці, якія прынёс з сабою разгорнуты наступ соцыялізма ў перыяд першай пяцігодкі. Ад гераічна-рамантычнай пафаснай драмы совецкія драматургі пераходзяць да больш рэальнага паказа поспехаў соцыялізма на ўсіх франтах. Ужо «Рост» Глебава, «Рельсы гудят» Кіршона, «Поэма о топоре» Пагодзіна кладуць сабою пачатак новага жанра вытворчай драмы ў совецкай драматургіі, выкліканага да жыцця поспехамі будаўніцтва першай пяцігодкі. Аднак, тут яшчэ цяжка знайсці спецыфічна жанравыя адрозненні паміж гэтымі п'есамі, тут яшчэ цесна пераплецены паміж сабою розныя скрыжыванні жанравых ліній—палітычна завостраная публіцыстычнасць, элементы псіхалагічнай драмы, моцны струмень рамантычнай драмы, элементы бытавізма і г. д. Цэлы рад п'ес выклікала да жыцця праблема старой інтэлігенцыі ў рэвалюцыі—ад «Человека

с портфелем» Файко, да «Страха» Афінагенава. Рамашоў пачынае лінію бытавой драматургіі сваім «Воздушным пирогом». Эрдман сваім «Мандатом» пачынае лінію бытавой сатырычнай камедыі; «Клоп» Маякоўскага лінію камедыі-памфлета, накіраванага супроць мяшчанства і абыватэльшчыны і г. д. і г. д.

Мы зусім не збіраемся пералічаць наяўнасць ці з'яўленне тых ці іншых жанраў у гісторыі рускай совецкай драматургіі, бо такая класіфікацыя жанраў была-б і вельмі недакладнай і вельмі ўмоўнай. Але адно неабходна падкрэсліць, што вельмі важна для нас у даным выпадку—гэта тое, што рост совецкай драматургіі суправаджаўся усё больш прыкметнай дыферэнцыяцыяй жанраў. Ад аморфных, пафасных п'ес наогул, совецкая драматургія пераходзіла паступова і няўхільна да выразнага жанравага і відавога падзелу. І калі-б гэта з'яўлялася нашай задачай, ужо на сёнешні дзень мы маглі-б намеціць асноўныя лініі ў гэтай дыферэнцыяцыі больш выразна і паслядоўна. І гэта зусім заканамерны працэс. Рост нашай совецкай драматургіі, якая змагаецца за стыль соцыялістычнага рэалізма, ідзе ўглыб, і ўшыркі, як па глыбіні распрацоўваемых праблем, так і па шырыні ахопа іх. Паглыбленае вывучэнне і адлюстраванне тых ці іншых працэсаў нашага жыцця патрабуе чотка адточаных закончаных форм, абмежавання матэрыяла мастацтва за кошт яго глыбока-рэалістычнага адлюстравання, гэта значыць у першую чаргу чоткага жанравага падзелу.

Гэта зусім бясспрэчна. Рост совецкай камедыі, напрыклад, ад сатырычнай камедыі Эрдмана «Мандат» праз «Заговор чувств» Ю. Олешы, праз бытавы вадэвіль («Луна слева» Білль-Белацаркоўскага і «Квадратура круга» Катаева) прыводзіць да лірычнай камедыі, камедыі станоўчых характараў (новы жанр у гісторыі драматургіі), цвёрды пачатак якой кладзе «Чудесный сплав» Кіршона.

Аналагічны працэс дыферэнцыяцыі жанраў мы можам назіраць на развіцці гістарычнай совецкай трагедыі, цвёрды фундамент пад якую падводзяць п'есы Вс. Вішнеўскага «Оптимистическая трагедия» і Карнейчука «Гибель эскадры». Нарэшце ўвесь творчы шлях Афінагенава ад «Чудака», праз «Страх» да «Портрета»—ёсць шлях барацьбы за сцвярджэнне псіхалагічна-рэалістычнай драмы. У гэтым сэнсе вельмі паказальна апошняя п'еса Афінагенава «Портрет», якая з'яўляецца як бы падвядзеннем вынікаў у галіне гэтых шуканняў драматурга.

Калі мы звернемся да гісторыі беларускай совецкай драматургіі, мы ўбачым тут сходны, хаця і некалькі не падобны, дзякуючы спецыфічным нацыянальным і гістарычным умовам, працэс.

Як мы ўжо адзначалі вышэй, у першыя гады станаўлення беларускага прафесіяльнага тэатра на сцэне панавала бытавая натуралістычная драма і камедыя. Тут моцнай была яшчэ нашаніўская драматургічная спадчына і традыцыі. Адначасова вельмі моцным быў струмень меладрамы з нацыяналістычнымі адценнямі. Такімі былі большасць п'ес Ф. Алехновіча, у якіх за схаванай апалітычнасцю, пошукамі чыстай меладрамы, хавалася контррэволюцыйная нацыяналістычная ідэалогія гэтага махровага нацыяналіста, цяпер фашыста.

Лінію рамантычнай меладрамы часамі з рэволюцыйнымі адценнямі развіваў Ул. Галубок, напрыклад у п'есах «Апошняе спатканне», «Ганка», «За мураванай сцяной» і г. д.

Рэканструкцыйны перыяд прынёс новую драматургію ў беларускі тэатр. Галоўным чынам за кошт перакладу з рускае мовы. Адначасна, абвастрэнне класавай барацьбы і супраціўленне нацыянал-дэмакратычных

элементаў з'яўленню пролетарскай драматургіі прынеслі струмень фальшыва-гістарычнай нацыяналістычнай драматургіі. Такімі п'есамі з'яўляюцца: «Скарына сын з Полацку», «Каля тэрасы» Грамыкі, «Кастусь Каліноўскі», «Машэка» Міровіча, «Тутэйшыя» Купалы, ды іншыя.

Тады намецілася лінія бытавой сатырычнай камедыі («Кар'ера таварыша Брызгаліна» Міровіча) і лінія вытворчай драмы («Мост» Рамановіча). У адрозненне ад рускай совецкай драматургіі ў беларускай драматургіі вельмі моцным быў струмень жанра псіхалагічна бытавой вясковай драмы («Лес цёмны», «На прадвесні» Ільінскага і рад другіх). Аднак гэтая лінія заглохла і на сёнешні дзень мы амаль што не маем у рэпертуары нашых тэатраў п'есы, прысвечанай калгаснаму будаўніцтву совецкай Беларусі.

Разгром контррэволюцыйнага нацыянал-дэмакратызма і рашучы наступ на яго праявы ў галіне ідэалогіі і мастацтва выклікаў да жыцця зусім новы жанр рэзка-завостранай социяльна-палітычнай драмы. Такава п'еса «Качагары» І. Гурскага, якая мае велізарнае палітычнае значэнне ў развіцці беларускага тэатра і драматургіі. Гэтым-жа драматургам зроблена спроба стварэння гістарычнай драмы-хронікі ў процівагу нацыяналістычнай псеўда-гістарычнай драматургіі мінулых гадоў, п'есаю «Маці». Драматургам Кобецам пад уплывам рускай совецкай драматургіі ствараецца вытворчая п'еса «Гута», якая адлюстроўвае рост социялістычнага будаўніцтва совецкай Беларусі. Гэту-ж лінію вытворчай драмы развівае далей і паглыбляе Андрэй Александровіч п'есаю «Напор», якая, дарэчы, з'яўляецца адзінаю п'есаю ў беларускай драматургіі, напісанай у вершаванай форме.

Сёнешні дзень беларускай совецкай драматургіі паказвае, што разам з яе ідэйна-мастацкім ростам расце і жанравая яе дыферэнцыяцыя. Так сёння мы ўжо з'яўляемся сведкамі з'яўлення і роста жанра бытавой лірычнай камедыі, пакуль што прадстаўленай камедыяй Гурскага «Сваты» і Сташэўскага «Самсон і Людміла» для самадзейнага тэатра. Лінія псіхалагічнай драмы намечана п'есай Крапівы «Канец дружбы» і Зарэцкага «Сымон Карызна». Жанр социяльна-гістарычнай драмы прадстаўлены п'есай Кузьмы Чорнага «Бацькаўшчына». Аднак гэта яшчэ пакуль што маленькія парасткі будучай драматургіі социялістычнага рэалізма. Перад беларускімі драматургамі ляжаць яшчэ пласты незакранутых тэм, якія яна павінна будзе падняць. Жанравая дыферэнцыяцыя яшчэ толькі намячаецца і дасць свой плён у будучым.

Вядома, наш кароткі пералік жанравых утварэнняў вельмі ўмоўны і прыблізны, бо наша драматургія яшчэ знаходзіцца ў стадыі роста, тым не менш гэты рост бясспрэчна будзе ісці па лініі ўзняцця незакранутых тэм, як у нашай рэчаіснасці, так і ў галіне гісторыі барацьбы за стварэнне совецкай Беларусі. Разам з тым ён будзе і суправаджацца ўсё больш глыбокай жанравай дэферэнцыяцыяй, ростам і стварэннем зусім новых жанраў. Пакуль што яшчэ цяжка прадбачыць, які з жанраў стане вядучым або больш пашыраным, але ўжо сёння можна сказаць, што ў змене жанраў, у перапрацоўцы і асваенні старых жанраў выкрашталізоўваюцца пакуль што чатыры жанры: *социяльна-гістарычная трагедыя*, якая адлюструе ў яскравых жывых поўнакроўных вобразах гісторыю барацьбы за стварэнне социялістычнай рэспублікі; *социяльна-псіхалагічная драма*, якая адлюструе велізарныя працэсы перабудовы света, пабудовы социялізма і пераробкі свядомасці мільённых мас будаўнікоў социялізма; *лірычна-бытавая камедыя становічых характараў*, якая зброяй смеха будзе выпраўляць недахопы нашага жыцця, і *палітычная, сатырычная камедыя*, якая будзе бічаваць востраю, знішчаючаю зброяю смеха нашых ворагаў.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

## МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ. „НА ВЯЛІКАЙ ХВАЛІ“

**Апавяданні, ДВБ—1934 г.. стар. 164, цана 6 руб.**

Характэрным для мінулай творчасці М. Лынькова з'яўляецца яго страсны падыход да рэчаіснасці, глыбокае вывучэнне працэсаў жыцця, класавая чоткасць у абрысоўцы вобразаў людзей і падзей, актуальнасць вырашаемых праблем. Іменна гэтым характарызуюцца яго ранейшыя зборнікі: „Апавяданні“, „Андрэй Лятун“, „Саўка агіцірнік“. Гэтым характарызуюцца аповесць „Апош ні зверыядавец“ і раман „На чырвоных лядах“. Гэта з'яўляецца характэрным і для рэцэнзуемага зборніка „На высокай хвалі“.

У зборніку „На высокай хвалі“ М. Лынькоў з сілай мастака слова, падымае і вырашае цэлы рад вельмі цікавых і актуальных, пытанняў, якія непасрэдна звязаны з нашай соцыялістычнай рэчаіснасцю, з нашымі магутнымі перамогамі. Кожная тэма зборніка—гэта жывыя падзеі пераможнага наступу пролетарскай рэволюцыі, гэта яркі паказ працэса росту соцыялістычнага будаўніцтва, росту і перавыхавання чалавека ў нашай краіне. Асабліва ў гэтым сэнсе вылучаюцца такія апавяданні зборніка, як „Баян“, „На высокай хвалі“ і „Талісман“. Гэтая апавяданні ўздымаюць М. Лынькова, як пісьменніка, на вышэйшую ступень. Яны сведчаць аб мастацкай сіле і здольнасці пісьменніка, які праз невялікую рэч (апавяданне) умее падняць і выпукла, ярка паказаць велізарныя падзеі нашых перамог на фронце соцыялізма, які ўмее прасачыць, і паказаць, як у працэсе гэтага будаўніцтва растуць і перавыхоўваюцца людзі.

У апавяданнях „Баян“ і „На высокай хвалі“ перад намі разгортваюцца такія падзеі, як будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала. Паказваючы гэта будаўніцтва, М. Лынькоў глыбока раскрывае яго сілу (будаўніцтва) у класавай перакоўцы чалавека. Пісьменнік глыбока правільна вырашае тут пытанне—значэнне асяроддзя, соцыялістычнага будаўніцтва, класавай практыкі ў перавыхаванні псіхікі, светапогляда людзей. М. Лынькоў тут выходзіць з марксісцкага палажэння, што чалавек, уздзейнічаючы на прыроду—змяняе сваю ўласную прыроду.

На канале розныя людзі, прышоўшыя сюды рознымі пуцявінамі, стварыўшыя розныя злачынствы перад дыктатурай пролетарыята. Тут і бандыты, і шкоднікі, і прастытуткі, і злодзеі, і купцы і розныя соцыяльна-скалечаныя мінулым капіталістычным жыццём. Гэтыя людзі складаюць своеасаблівы калектыў. У іх розныя погляды на жыццё. І вось М. Лынькоў паказвае, як паступова, на фоне велізарнага будаўніцтва пад мудрым кіраўніцтвам партыі, пры выключнай ўвазе да чалавека выхаваўцаў чэкістаў пачынаецца ломка поглядаў на жыццё ў людзей-праступнікаў. З гэтага соцыяльна стракатага калектыва пісьменнік глыбока адчувае і бачыць працэс гэтай ломкі. Ён гэта тыпізуе праз вобразы Андрэя Андрэявіча „(Баян)“ і Сенькі Пішчыка („На высокай хвалі“).

Вобраз Андрэя Андрэявіча з'яўляецца цэнтральным усяго апавядання „Баян“ і прадстаўляе сабой выключную цікавасць. Мы бачым Андрэя Андрэявіча, калі ён пападае на канал атаманам цэлага барака зладзеяў і разбойнікаў,—такіх жа, як і ён сам. Ён, і пад яго уплывам увесь барак, катэгарычна спачатку адмаўляюцца працаваць. Ніякія самыя таварыскія гутаркі начальніка Пірына не схіляюць на работу Андрэя Андрэявіча і яго прыяцеляў па бараку. „Усе, што маглі, рабілі... І ўгаворы, і найлепшыя выхавацелі. З месца ні на кропку. упартыя, як чортавы лбы...“ Паўстае пытанне, як і чым уздзейнічаць на Андрэя Андрэявіча, як на атамана, „завадатара“, ад якога залежыць барак, каб абудзіць цікавасць да працы ў сотняў філонаў (лодыраў). Розныя прапановы робяць выхавацелі. Некаторыя даходзяць да крайнасці: „Ізалява́ць хіба яго, адаслаць на прыемнік, нехай на Салаўкі зноў... Дзе ты яго паправіш...“ І вось тут М. Лынькоў падкрэслівае жалезную вытрымку, цярплівасць начальніка работ Пірына. Паказвае, як начальнік Пірын

уважліва падыходзіць да кожнага чалавека, як ён умее цаніць людзей. „Пра Салаўкі пакуль што пакінь думаць...“—гаворыць Пірын выхавацелю. Пірын перш за ўсё імкнецца цалкам вывучыць Андрэя Андрэявіча, як чалавека. Ен шукае ў ім тых псіхалагічных рыс, праз якія можна было-б устанавіць кантакт з жывым здаровым жыццём, з працай.

Пірын знаходзіць у Андрэя Андрэявіча, на першы погляд здавалася-б, пабочную рысу—гэта яго незвычайную любоў да гармоніка. Гармонік гэта адзінае, што абуджала і хвалявала анархічныя пачуцці Андрэя Андрэевіча. На гэтыя пачуцці звяртаецца ўвага.

Калі папсаваўся стары гармонік Андрэя Андрэявіча ў лагеры з'яўляецца баян, які прызначана выдаць лепшаму ўдарніку. Чутка аб тым, што ў лагер прывезлі гармонік—баян, і што ён прызначаецца лепшаму ўдарніку—захапляе Андрэя Андрэявіча. Пачуцці яго не спакойны. У яго з кожным днём узрастае жаданне мець баян. Андрэй Андрэявіч з кожным днём пачынае ўсё мацней адчуваць увагу з боку выхавацеляў-чэкістаў, з боку начальніка Пірына да такіх людзей, як ён. Пачуцці Андрэя Андрэявіча паварочваюцца ў другі бок. Ен перад сваім баракам заяўляе: „годзе, даволі... пафілонствавалі, пабязулілі... хопіць туфту заражаць (займацца абманам). А хто хоча быць дармаедам на нашым карку—айда налева“. Свае „атаманскія“ здольнасці Андрэй Андрэявіч накіроўвае для арганізацыі філонаў свайго барака на працу. Ён з гэтай прычыны гаворыць перад філонамі лірычную прамову. Ён з дакорам высмейвае тых, хто не хоча працаваць: „Ён не зда-а-сцца бальшэвікам... бальшэвікі яму ворагі, чужаеды...“ Андрэй Андрэявіч адчуў сілу і перавагу працы.

Праз любоў да баяна і праз выключную ўвагу выхавацеляў-чэкістаў і начальніка Пірына, Андрэй Андрэявіч устанаўляе кантакт з працай, становіцца ўдарнікам, брыгадзірам ударнікаў былых філонаў,—злодзеяў і разбойнікаў. За ўдарную працу ён атрымоўвае баян.

Увесь гэты працэс перавыхавання Андрэявіча, яго эволюцыя ад філона да брыгадзіра, разгортваецца на фоне вялікага будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала, пад уздзеяннем гэтага будаўніцтва.

Апавяданне „На высокай хвалі“ раскрывае перад намі той-жа працэс, што мы маем і ў апавяданні „Баян“. Тут мы маем, бадай, аналагічны вобразу Андрэя Андрэявіча—вобраз Сенькі Пішчыка. Сенька Пішчык таксама ў мінулым учыніў цэлы рад злачынстваў перад дыктатурай пролетарыята. У Сенькі „У мінулым усяго-на-ўсяго дзесяць судзімасцей і пяць мокрых спраў... Адным словам чалавек з ініцыятывай...“ Апынуўшыся ў лагеры Беламорска-Батлыйскага канала, Сенька таксама, як і Андрэй Андрэявіч, катэгарычна адмаўляецца працаваць: „жысці рашайце, а лапаты не вазьму“,—заяўляе Сенька на заклік да работы.

Сенька, як вобраз, як тып, яркі і маляўнічы. Яго ўспрымаеш цалкам. Пісьменнік раскрыў яго ўсебакова. Усебакова раскрыты тыя прычыны, што штурхнулі Сеньку на злачынны шлях жыцця і якія ўрэшце прывялі яго ў лагер Беламорска-Балтыйскага канала.

Пісьменнік, асуджаючы ўчынкі і злачынствы Сенькі, не асуджае яго самаго. Таму, што Сенька ахвяра рэштак капіталізма. Яго на злачынны шлях накіравалі рэшткі старога ўклада сям'і—сіроцтва, мачыха, беспрытульнае жыццё. Сенька скалечаны чалавечы матэрыял, якога вылечвае, як гэта падкрэслівае пісьменнік, сумленная праца наша велізарнае соцыялістычнае будаўніцтва кіраўнікі соцыялістычным будаўніцтвам.

М. Лынькоў паказвае, як Сенька, пад уплывам новага асяроддзя—будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала, пад уплывам працы і выхавацеляў-чэкістаў ператвараецца ў свядомага будаўніка новага жыцця. Праца і здаровае, новае асяроддзе выклікаюць у Сенькі новыя і здаровыя пачуцці. „Хочацца ўжо сапраўды неяк інача дыхнуць...—заяўляе Сенька.—Інача па зямлі хадзіць, каб гэта без аглядкі, без фальшы... Ну от проста хочацца людзям у вочы глядзець і каб тае пры гэтым не блудзілі, не бочылі...“

Сенька, пад уплывам новага асяроддзя, усвядоміў усю шкоднасць свайго мінулага бяспутнага жыцця. Ён усвядоміў і тое, што яму на новы, сапраўды чалавечы шлях жыцця дапамаглі стаць выхавацелі-чэкісты,—людзі праўды. „А ўсё-ж такі харошыя хлопцы гэтыя чэкісты,—кажа Сенька.—... чалавекам-жа яны мяне зрабілі, на дарогу паставілі. І хіба толькі мяне аднаго? Вунь дваццаць тысяч чалавек пусцілі на волю да тэрміну...“

Сенька, які ў першыя дні свайго прабывання на канале гаварыў, што „жысці рашайце, а лапаты не возьмем“—захапляецца вынікамі сваёй (і тысяч такіх, як ён) працы: „Эх.. Шырыня тут, можна сказаць... Вадзяная, бязмежная... А колькі багаццяў—і рыбы, і дрэва, і камень тут розны, а хочаш—жалеза капай, руду здабывай... Зусім край акрыяў, калі мы правялі гэтую вадзяную жылу, канал наш... І слова „мы“ і „наш“ гучэлі важна і ганарліва“.

Так раскрывае і паказвае М. Лынькоў вялікі працэс перакоўкі і перавыхавання людзей (былых злачынцаў) на Беламорска-Балтыйскім канале. У апавяданнях „Баян“ і „На вялікай хвалі“ іменна падхоплены тыповыя асаблівасці гэтага працэсу. Андрэй Андрэявіч і Сенька гэта не імёны з лагера Беламорска-Балтыйскага канала, а тыпы, характары, мастацкія вобразы, якія характарызуюць сабой падзеі, людзей будаўніцтва.

Разам з гэтым, М. Лынькоў да працэса перавыхавання, да людзей на канале падыходзіць не агульна. На працэс перавыхаван-

ня ён глядзіць, як на сур'ёзную, цяжкую і складаную справу. У працэсе перавыхавання ён бачыць супярэчнасці. Мы бачым, напрыклад, як Андрэй Андрэявіч, які ўсвядомў перавагу працы над сваім мінулым жыццём, які палюбіў працу, стаў ударнікам, брыгадзірам—яшчэ цалкам у сваім характары, псіхіцы не перамог ранейшых навыкаў, зладзейскіх парываў (ён ідзе красці клей, а разам з клеем крадзе і коўдры).

Таксама асобны погляд у М. Лынькова на людзей канала такой катэгорыі, як купцы. Іх мінулыя перакананні і погляды на „ніжэйшых" за сябе, як паказваецца ў „Баяне", застаюцца непахіснымі Іх не захапляе велізарны размах будаўніцтва канала,—яны мараць пра сваё прыгожае мінулае, яшчэ і на канале імкнуцца захаваць свой ранейшы купецкі гонар. „Гэта-ж трэба, каб кожны бандыт марынаваў тваю годнасць купецкую, вялічаў-бы пляшывінай.. ,Яны з клопатамі выхавацеляў-чэкістаў да чалавека нібы і згаджаюцца, але згаджаюцца толькі ў адносінах да сябе і яшчэ „ну, інжынеры, скажам, контрыкі, былыя шкоднікі...—аб іх правільны клопат"—разважаюць купцы. Не згаджаюцца—„навошта большэвікам пра басоту дбаць, пра зладзеяў клопаты мець, з жыганамі-бандытамі цацкацца..."—з гэтым яны не мірацца.

Такім чынам у М. Лынькова падыход да людзей канала, да працэса паравыхавання не агульны. Ён бачыць рознастайны социяльны склад людзей на канале. Паказвае розныя адносіны розных людзей канала да будаўніцтва, да клопатаў і ўвагі выхавацеляў-чэкістаў. І гэта глыбока адпавядае сапраўднасці.

Абодвы апавяданні—і „Баян" і „На высокай хвалі"—даюць чытачу глыбокае і яркае ўяўленне аб велізарнай перамозе большэвікоў на будаўніцтве Беламорска-Балтыцкага канала, аб велізарнай сіле працы ў перавыхаванні чалавека.

У апаваданні „Талісман" М. Лынькоў глыбока і праўдзіва раскрывае жыццё і пачуцці лётніка нашай краіны і лётніка краіны буржуазнай. Перад намі выступаюць супроцьлеглыя, па сваіх пераконаннях, па свайму жыццю і пачуццях, людзі,—людзі адной спецыяльнасці.

Малады лётнік нашай краіны комсамолец, рабочы Сяргей Мядзьведзька, які цалкам аддадзены авіяцыі, любіць гэту справу,— жыве жыццём нашай радзімы, жыве радасцю, пачуццямі вялікага калектыва. Ён зліты з масай, з будаўнікамі соцыялізма. Усе яго дзеянні напоўнены воляй гэтых будаўнікоў. Яго поспехі—ёсць поспехі ўсяго калектыва. Таму, што Мядзьведзька глыбока прасякнуты агульнай справай нашай радзімы. Перад ім шырокія перспектывы.

Зусім супроцьлеглымі пачуццямі напоўнены лётнік буржуазнай краіны—амерыканец Джо. М. Лынькоў тут паказвае, што лётнікам Джо кіруюць асабовыя пачуцці. Ім кіруе асабовая слава. У яго няма перспектывы, ён не бачыць будучыні свае краіны. Джо падпарадкован кампаніі, якой патрэбны рэкорды, высокая проба „жыгучка-сенсацыя", а самому Джо патрэбны „партрэт у газетах, цёплыя радкі пад імі". Кампаніі патрэбна падняць марку сваёй фірмы, каб выбіцца з крызіса, а лётніку Джо патрэба вядомасць— талісман. Толькі гэтымі асабовымі пачуццямі, гэтымі „перспектывамі" жыве лётнік Джо.

Апавяданне „Талісман" па сіле мастацкага паказу, па сіле абагульнення выступае далёка за межы паказу двух толькі вобразаў лётнікаў. Гэта апавяданне дае нам, праз паказ вобразаў-лётнікаў, яркія рысы, па якіх мы ўспрымаем супроцьлегласць соцыяльнага становішча двух дзяржаў. Яно раскрывае перад намі ўзаемаадносіны асобы і грамадства, масы ў нас і ў капіталістычнай дзяржаве.

Апавяданне „Выпадак на чыстцы" прысвечана чыстцы партыі. У ім раскрываецца твар класавага ворага, бандыта Грэбеньчука, які маскуючыся, прыкрываючыся гучнай фразеалогіяй пралез у рады нашай партыі. Пісьменнік з усёй нянавісцю да Грэбеньчука паказвае, як партыя, абапіраючыся на працоўныя масы, на рабочых, выкрывае бандыта Грэбеньчука, раскрывае яго варожую дзейнасць у партыі.

Паказваючы працэс чысткі партыі, М. Лынькоў ярка падкрэслівае, што чысткай партыі зацікаўлены ўсе працоўныя масы, як сваёй агульнай справай. Паказваецца актыўны удзел беспартыйных мас у чыстцы, а таксама глыбокая вера і любоў мас да партыі.

Два астатнія апавяданні гэтага зборніка— „Сінія галіфе" і „Квартырмейстар Бадай" прысвечаны тэме грамадзянскай вайны. Тут, як і ў ранейшых апавяданнях М. Лынькова на гэту тэму, паказваецца гераізм, адданасць рэволюцыі чырвонаармейцаў (апав. „Квартырмейстар Бадай") і з другога боку паказваецца варожая дзейнасць у радах Чырвонай арміі кулака Івана („Сінія галіфе"). Апавяданне „Сінія галіфе" па свайму зместу вельмі напамінае апавяданне М. Лынькова „Крот". І там і тут раскрываецца ўласніцкае нутро кулака, ворага рэволюцыі.

Каштоўнасць апавяданняў гэтага зборніка ў цэлым заключаецца ў тым, што яны ўзнімаюць праблемы ўсесаюзнага значэння, што яны глыбока адлюстроўваюць сілу і магутнасць нашай вялікай радзімы.

У заключэнне гэтага кароткага разгляду зборніка, скажам некалькі слоў пра мову і стылявыя асаблівасці М. Лынькова.

У апошні час неяк стала звычайным абвінавачваць за мову і стылявыя асаблівасці творчасці М. Лынькова. Гавораць некаторыя,—што яго мова сантыментальвая, напеўная, некаторыя надаюць ёй тэрмін: „стылёк", а некаторыя „крытыкі" проста называюць мову данага зборніка евангельскай (?) (рэцэнзія ў газеце „ЛіМ—ліпень м-ц). Усе

гэтыя эпітэты, „сантыментальная“, „напеўная“, „стылёк“—да гэтага часу як належыць нікім не канкрэтызаваны, існуюць наогул. А што тычыцца апошняга эпітэта „евангельская“—дык гэта проста пахабства, непавага да такога пісьменніка, як М. Лынькоў.

На наш погляд, мову і стылевыя асаблівасці творчасці М. Лынькова наогул называць сантыментальнай, наогул напеўнай і інш. няма падставы. І тым больш не дае гэтай падставы дадзены зборнік.

Што характэрна для мовы М. Лынькова?

Характэрным для мовы М. Лынькова—з'яўляецца лірызм. Лірызм, які ідзе ад незвычайнага, страснага падыходу пісьменніка да рэчаіснасці. М. Лынькоў, калі бярэ за аб'ект для свае творчасці якую-небудзь з'яву,—ён жыве ёй. Ён глыбока пранікае ва ўнутр гэтай з'явы. Ён гаворыць аб ёй страснай лірычнай мовай. Ён часамі робіць паўтор адных і тых-жа эпітэтаў у адным сказе для таго, каб ярчэй падкрэсліць, каб больш выпукліць з'яву. Чым, напрыклад, дрэннай з'яўляецца мова, якой гаворыць Андрэй Лятун, або якой гавораць Андрэй Андрэявіч („Баян“), і Сенька Пішчык („На высокай хвалі“). Мова гэтых герояў напоўнена здаровым лірызмам, страснасцю. Яна пераканаўчая, шчырая. Адчуваеш, што гэта гаворыць нібы жывы чалавек, які прасякнут радасцю жыцця нашай эпохі.

Іншая справа, што мова М. Лынькова не заўсёды індывідуалізавана ў дачыненні да розных яго герояў. Вельмі часта героі таго або іншага твору М. Лынькова гавораць аднастайнай мовай, пад адну стылізацыю. Недастаткова індывідуалізуюцца героі праз мову, праз стылевыя асаблівасці. Часта ў М. Лынькова герой лірычны, выглядае павольным там, дзе ён павінен быць суровым, дынамічным. Таксама М. Лынькоў любіць ужываць залішняе нагрувашчванне ў адным сказе сінонімных эпітэтаў і метафар: Вось гэта і стварае некалькі цягучы, мяккі тон твору. Але гэта ні ў якім разе не дае падставы агулам, адмаўляць тое дадатнае, каштоўнае, што мы маем у мове пісьменніка. А дадатнае ў мове М. Лынькова, паўтараем, ёсць здаровы лірызм, страснасць мовы. Яго мова напоўнена ўдалымі эпітэтамі і метафарамі, якія дапамагаюць ярчэй і глыбей раскрываць рэчаіснасць. Аб усім гэтым сведчыць мова данага зборніка.

**С. КУНІЦКІ**



Адрас рэдакцыі: Менск, Совецкая 68, Дом Пісьменніка.

## ЗМЕСТ



Рэдактар *М. Лынькоў.* Тэхрэдактар *І. Мілешка.*

Здана ў друкарню 22/X—35 г. Падпісана да друку 16/XI—35 г. Аб'ём $10^1/_4$ друкав. аркушаў. Папера $72 \times 105^1/_{16}$. Знакаў у друкаваным аркушы 62.016. Тыраж 2.000 экз. Зак. № 950. Уп. Галоўлітбела №Б 3578.

Друкарня імя Сталіна, Менск, Энгельса, 2.

